# Маладосць

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

4

**(725) КРАСАВІК, 2014**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна
ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

*Гэты нумар «М» — фантастычны. Мяркуючы па творах, іх героях і аўтарах, напоўненасці і гучанні — у літаральным сэнсе. Мы зрабілі яго як успамін пра «Фантаст» — часопіс у часопісе, што выходзіў на старонках выдання нейкі час таму пад «унутранай» вокладкай. Наш новы спецыяльны выпуск называецца трошкі інакш: «Беларусь у фантастычных апавяданнях».*

*Зычым фантастычна прыемна правесці час у кампаніі творцаў і іх аналітыкаў, а таксама тых, для каго фантастыка — старонкі жыцця.*





# Дзякуючы «Фантасту»

**Развагі Раісы Баравіковай напярэдадні выхаду гэтага нумара**

***— Я вельмі ўхваляю тое, што вы вярнуліся да «Фантаста». Шкадую, што мы яго ў свой час не працягнулі.*** *«Фантаст» праіснаваў гады два, а потым нас паглынулі іншыя праекты: мы пачалі супрацоўнічаць з Міністэрствам адукацыі, рабіць партрэты нашых ВНУ... А сёння, калі ўзяць прастору СНД, такога часопіса нідзе не знойдзеш.*

*— Нас, супрацоўнікаў рэдакцыі, здзіўляла тое, як хутка разнеслася інфармацыя пра «Фантаст» нават за межамі Беларусі. Некалькі пісем мы атрымалі з Рыгі ад аднаго латышскага пісьменніка. Прыходзілі лісты з іншых рэспублік. Нехта з нашых аўтараў звязаўся з вядомым амерыканскім фантастам, аўтарам папулярнага тады рамана. Ён пагадзіўся даць нам вялікі ўрывак для перакладу. Але раптам умяшаўся літаратурны агент гэтага фантаста — і справа заціхла. Хоць сам пісьменнік быў згодны, бо гэта была б добрая рэклама ў далёкай для яго Беларусі. У такога часопіса, як «Фантаст», які развівае фантазію душы і розуму, знойдзецца і шмат прыхільнікаў, і шмат новых аўтараў. Нават па сабе ведаю: на напісанне «Казак астранаўта: касмічныя падарожжы беларусаў» мяне падштурхнуў менавіта «Фантаст». Гэтая кніжка — прыклад таго, што моладзь і падлеткі цікавяцца прыгодніцкай фантастычнай літаратурай. І хоць гэта казкі, там ёсць два моманты, у якіх я, верагодна, зрабіла навуковае адкрыццё, будучы чалавекам выключна далёкім ад навукі…*

***Фантастыка — гэта не толькі займальна-прыгодніцкая літаратура: яна найлепшым чынам адлюстроўвае працу фантазіі пісьменніка.*** *Ёсць тэрмін «навуковая фантастыка», а гэта вельмі сур'ёзная рэч, таму што, як паказала жыццё, спачатку ідзе фантазія, чалавечая мара, палёт думкі, а потым здзяйсняецца адкрыццё. Калі гаворка ідзе пра сур'ёзную фантастыку, то гэта тое, што стварае будучыню. У наш час навуковай фантастыкі, на жаль, мала. Цяпер пішуць фэнтэзі, але гэта таксама палёт фантазіі. Па маім асабістым меркаванні, у наш час панецце, што спачатку фантастычны твор, а потым ужо навука, перавярнулася. У сусветнай навуцы сёння адбываюцца адкрыцці на ўзроўні фантастыкі — страшэнна вялікія прарывы. Нам адкрыцці апошніх гадоў падаюцца неверагоднымі: калайдар, дасягненні ў касмічнай, біялагічнай сферы, даследаванні прыродных анамалій… А колькі абвяргаецца ранейшых меркаванняў! Бясконца запускаюцца ў космас апараты, ужо*

*рыхтуецца экіпаж на Марс, у складзе якога, магчыма, будзе некалькі беларусаў.*

***Як выявілася, у нас шмат аўтараў, якія пішуць фантастыку або фэнтэзі.*** *З намі тады супрацоўнічалі і Юры Станкевіч, і Серж Мінскевіч, і пісьменнік з Гомельшчыны Андрэй Паўлухін, вельмі таленавіты чалавек, пра якога я, на вялікі жаль, апошнімі гадамі нічога не чую. Мы адкрылі таленавітага пісьменніка з Берасцейшчыны Сяргея Белаяра, апавяданні якога друкавалі з вялікім задавальненнем. Памятаю, каб паведаміць, што адбываецца ў навуцы, мы запрасілі ў «Фантаст» як аўтара супрацоўніка Інстытута цепламасаабмену Акадэміі навук Юрыя Латыша. Ён пісаў вельмі цікавыя і сур'ёзныя артыкулы, звязаныя з касмічнымі караблямі, зондамі, іншымі планетамі… Гэта ўсё разварушвала творчую думку.*

***Трэба заахвочваць моладзь ісці ў навуку.*** *Стракатасць тэлеэкранаў, шоу-бізнес і рэклама вельмі кепска ўплываюць на нашых маладых людзей. Кожнаму з іх хочацца быць зоркай. Але ж можна быць зоркай у навуцы, бліскучым астрафізікам ці радыёбіёлагам у лабараторыі з суперабсталяваннем. Чалавецтва ведае шмат пра Атлантыду і Бермудскі трохкутнік, а ўвесь час хочацца новага. Калі казаць пра Беларусь, то мы таксама сталі касмічнай краінай, у нас ёсць свой спадарожнік! І на гэтым навука не спыніцца: напэўна, з'явяцца і другі, і трэці спадарожнік. Спатрэбяцца навукоўцы, якія будуць распрацоўваць касмічныя праграмы. І менавіта «Фантаст» можа даць штуршок падлеткам для развіцця навукова-творчай думкі, жадання праявіць сябе ў гэтай сферы.*

## На напісанне «Казак астранаўта: касмічныя падарожжы беларусаў» мяне падштурхнуў менавіта «Фантаст»

## Навукоўцы разважаюць, што, магчыма, праз некалькі тысяч гадоў чалавек пазбавіцца сваёй біялагічнай вопраткі і будзе ўяўляць сабой хвалі розуму, касмічныя струны

***Я цяпер працую над аповесцю, якую пазней прапаную «Маладосці».*** *Гэта дзённік дзяўчынкі, якая жыла ў 1963 годзе. Уявіце, што ёй трэба было з бабулінай вёскі патэлефанаваць аднакласніку. Яна не ведала, як гэта зрабіць: у сельсавет не пойдзеш, тэлефонаў у вёсцы няма. І дзяўчынка са сваёй вясковай сяброўкай марыць, каб у іх было нешта такое: націснуў кнопачку — і звязаўся з патрэбным чалавекам. Фантастыка! Але прайшло 50 гадоў — і мы маем мабільны тэлефон! Гэта ўжо ніякая не фантастыка, а жыццёвая рэалія. Навукоўцы разважаюць, што, магчыма, праз некалькі тысяч гадоў чалавек пазбавіцца сваёй біялагічнай вопраткі і будзе ўяўляць сабой хвалі розуму, касмічныя струны. Сёння гэта здаецца абсурдам. А некаторыя сцвярджаюць, што ёсць паралельныя светы, ды толькі мы не ведаем законаў фізікі ў гэтых паралельных светах, таму не ўяўляем, якую форму маюць у іх разумныя істоты. Магчыма, яны за спінамі кожнага з нас і нават кіруюць намі… Самыя фантастычныя думкі могуць стаць рэальнасцю, як той мабільны тэлефон. Нехта ж яго распрацаваў!*

***Дзякуючы «Фантасту» мы прывучылі падлеткавую аўдыторыю да прыгодніцкай літаратуры.*** *Раптам інтэнсіўна пачала развівацца літаратура для падлеткаў і дзяцей. З'яўленне «Фантаста» дало штуршок да стварэння казачнага свету, які імкліва набліжаецца да рэальнасці…*

***Запісала***
***Тамара САРАЧЫНСКАЯ***

# Хімія Х10. Як гэта працуе фізічна?



***Мяжу паміж рэальнасцю і фантастыкай у наш неперадузыдзена вірлівы час лепш не шукаць увогуле. Прынамсі, няма яе зусім, калі размова ідзе хаця б пра некаторых удзельнікаў спецпраекта БРСМ «100 ідэй для Беларусі». Павел Бацылеў, вучань 11-га класа сярэдняй школы № 3 горада Старыя Дарогі, вырашыў даручыць рашэнне задачак па хіміі свайму мабільніку. І той з такой нядоляй пагадзіўся! Так узнік мабільны дапаможнік «Хімія Х10», з якім Павел трапіў у дзясятку лідараў праекта.***

— Я ўвогуле не хімік. Гэты прадмет мне падабаецца не так, як інфарматыка, матэматыка і фізіка. Проста лянота была рашаць задачкі па хіміі, якія задаў настаўнік, таму я прыдумаў спосаб, каб камп'ютар або тэлефон маглі рабіць гэта за мяне. Напісаў алгарытм, зладзіў сабе тэлефон з такімі функцыямі. А пасля падумаў, што, каб карыстацца папулярнасцю, патрэбна нешта большае, чым проста ўмець рашаць задачкі. І дадаў розных шпаргалак: калькулятар малярных мас, табліцу Мендзялеева з усёй яе інфармацыяй, канвертар велічынь…

**— Як гэта працуе фізічна?**

— На васьмі аперацыйных сістэмах: Android, Apple, BlakBerry, Symbian, Windows Phone… Амаль на ўсіх тэлефонах. На дадзены момант, праўда, гэта прылажэнне могуць спампаваць толькі карыстальнікі Android. Схема простая: чалавек заходзіць на play market, дзе ёсць увогуле ўсе прылажэнні, і можа спампаваць там маё.

**— Цікава, як на гэта рэагуюць настаўнікі? Гэта ўспрымаецца як шпаргалка і падман ці, наадварот, як нешта, што стымулюе цікавасць да прадмета?**

— Не, гэта канешне шпаргалка і падман настаўніка. Але ўсе настаўнікі радуюцца — і інфарматыкі, і хімікі. Першыя, бо дасягаюцца нейкія поспехі ў інфарматыцы. Другія… Яны проста папярэджаны. Паўтара месяца прайшло з таго дня, як я апублікаваў прылажэнне. Цяпер у яго 17 000 карыстальнікаў. У асноўным гэта школьнікі з Расіі (працэнтаў восемдзесят), Беларусі, Казахстана, Узбекістана… Нават амерыканцы трошкі крыстаюцца. Але прылажэнне працуе толькі на рускай мове.

**— Што ты за гэта атрымаў? І ці плоцяць карыстальнікі грошы?**

— Дапаможнік «Хімія X10» пампуецца бясплатна. Я б хацеў зрабіць яго платным, але, па-першае, мне няма 18 гадоў, а па-другое, у нашай краіне нельга прадаваць мабільныя прылажэнні ў магазінах мабільных прылажэнняў. Няма ў нас такіх дамоўленасцей, якія маюць Google і іншыя, мы яшчэ толькі ў працэсе дамаўлення. Але невялікія грошы я ўсё ж зарабляю: пры дапамозе мабільнай рэкламы. У прылажэнні змяшчаецца маленькі рэкламны блок, які можа прапагандаваць нешта, што не асабліва перашкаджае асноўнай тэме, — так я атрымліваю пару цэнтаў ад кожнага карыстальніка. Увогуле, я атрымаў дыплом першай ступені і планшэт на навукова-практычнай канферэнцыі па інфарматыцы, дыплом трэцяй ступені і вінчэстар на Балтыйскім навукова-інжынерным конкурсе, трапіў у дзясятку праекта «100 ідэй для Беларусі». Я хацеў трапіць туды, каб знайсці інвестараў і падтрымку ідэі за мяжой, каб прылажэнне ўсё ж можна было прадаваць. Але пакуль ніякіх поспехаў у гэтым кірунку. Гэта калі не лічыць, што праект даў магчымасць чарговы раз выступіць перад людзьмі, прадставіць сваю працу.

**P. S. Пакуль рыхтаваўся гэты нумар, Павел Бацылеў стаў фіналістам конкурсу BelSEF і будзе прадстаўляць Беларусь на міжнародным конкурсе Intel ISEF у Лос-Анджэлесе.**

*Запісала*
*Святлана ДЗЯНІСАВА*



***«Бачыў ён, што незлічоныя вочы Таго ўсемагутнага раскідны ў пэўным парадку. Нечакана Рон здагадаўся, што яны ствараюць нейкія знаёмыя лініі».***

*Твор Васіля Гігевіча «Страчанае шчасце» друкаваўся ў часопісе «Полымя» тры гады таму ў красавіку. Старонку рэальнага чарнавіка гэтай аповесці друкуе сёлетні красавіцкі нумар «Маладосці» — «фантастычны». Магчыма, каб вы перачыталі твор. А можа, каб натхніліся на нешта ўласнае…*

*Данііл ЖУГЖДА*

# ЭГЛЕЯ

*Апавяданне*



***Данііл Жугжда нарадзіўся 6 лістапада 1985 года ў Магілёве. Нідзе не друкаваўся — пісаў сам для сябе. Вучыцца на рэжысёра-аніматара. «Хачу прапанаваць вам сваё апавяданне, магчыма, яно стане фарматным для нумара фантастыкі, фэнтэзі і жахаў», — напісаў ён у першым сваім лісце ў «М».***

— Ведаеш, сёння Ён быў значна халаднейшы, чым звычайна. Я ажно спужалася — можа, з Ім што-небудзь здарылася?.. Але што з Ім можа здарыцца?! — сама з сябе ўсміхнулася Эглея. — Дарэчы, Ён мог бы болей часу праводзіць з намі. Ён жа можа! Час для Яго нічога не варты. Ён жа можа?

Я без Яго сумую…

Марана, як заўжды, нічога не адказала. Падышла да маці, абняла яе і пацалавала ў лоб.

— Марана, ці не ў дзверы гэта стукаюць?

Дзяўчына паціснула плячыма, але калі зноў пачуўся грукат, падскочыла і пабегла адчыняць.

Эглея ўстала з крэсла і, стоячы, пачала прыслухоўвацца да гукаў у калідоры.

— Прывітанне, — пачуўся мужчынскі голас, — а ці ёсць хто дома?

У пакой увайшоў мужчына з карымі вачыма.

— Добры дзень, гаспадыня. Маё імя Глеб. Я падарожны. Дзякуй Богу, натрапіў на вашу хату, бо інакш стаўся б гэтай ноччу ахвярай ваўкоў.

— На працягу трох дзён вакол няма ніводнай жывой душы. Ні ваўкоў, ні птушак, — суха прамовіла Эглея.

— Ды няўжо гаспадыня адмовіць мне сярод ночы ў сухім куточку?

Нейкі час Эглея стаяла моўчкі, уважліва разглядаючы госця. Потым звярнулася да дачкі:

— Марана, зрабі гарбату…

Увесь час, пакуль Глеб наталяў першы голад, Эглея ўважліва сачыла за госцем. Гэтак жа ўважліва назірала за Глебам і Марана. Пад цяжарам іхніх поглядаў ежа застравала комам у горле. Але, заліўшы той ком настоем, госць стаў значна лепш сябе пачуваць.

— Як так сталася, што ты заблудзіў сюды? — крыху адсунуўшыся ад стала, спытала Эглея.

— У жыцці featureзнае здараецца. Часам лёс так матляе, што не ведаеш, дзе апынешся заўтра, — віхлянуў Глеб.

Гэтак гаворачы, ён падняў вочы на Эглею. Марана, непакоячыся, імкнулася бліжэй падсесці да маці.

— Добрая ваша настойка! — сказаў Глеб, асушыўшы яшчэ адну шклянку. — А вы так і жывяце, адны ў лесе? — зрабіўшыся смялейшым ад настою, падарожны разглядаў Эглею.

— Мы не адны. Муж… увесь час на працы і прыходзіць раз у тры дні.

Погляд Глеба з прыгожага твару Эглеі паступова апусціўся па шыі ўніз і потым, затрымаўшыся на плячах, спрабуючы прабіцца праз адзежу, слізгануў па грудзях.

Эглея адчувала гэты погляд ды не ўхілялася ад яго. Жанчына ўстала з-за стала і падышла да шафы, дазваляючы Глебу разгледзець яе цалкам. Позірк мужчыны апусціўся па стройным стане, зрабіў прыпынак на сцёгнах, пасля чаго доўга слізгаў уверх-уніз па спадніцы, што прыкрывала прыгожыя ногі.

Эглея ўзяла з паліцы цукерніцу, поўную цукерак, зноў падышла да стала, паставіла яе і звярнулася да Мараны:

— Дачушка, схадзі пагуляй. Сёння маляўнічая ноч…

Вочы дачкі акругліліся ад здзіўлення. Марана адмоўна заматляла галавой.

— Марана!..

Вочы дзяўчыны поўніліся крыўдай. Яна зрабіла некалькі крокаў назад, чакаючы, што маці ўсё ж такі дазволіць ёй застацца, а не прагоніць яе. Але потым проста развярнулася і выбегла з хаты.

Глеб аніяк не мог заснуць. Хмельны настой выветрыўся, вярнуўшы пачуццё няёмкасці ды непакою. Эглея таксама не спала — ён гэта адчуваў.

— Дзіўная ў цябе дачка. З ёю нічога не здарыцца? Адна ўночы, пасярод лесу…

— З ёю? А што з ёю можа здарыцца? Яна пайшла ў бацьку. Парода ў яе такая…

Цішыня. Яму больш не было чаго сказаць, а спаць не маглося. А яна прывыкла да цішыні. Глеб перавярнуўся на другі бок.

— Хвалюешся, што хутка вернецца муж? — зноў усмешка. — А ты ведаеш, хто Ён?.. …Ён — Смерць…

Глеб зацікавіўся.

— …Ён прыходзіць раз у тры дні, але час тут бяжыць па-рознаму. Ён прыходзіць, і я саграю Яго сваім цяплом, бо без таго цяпла Ён не зможа выконваць сваю працу. Я Яму аддаю крыху сваёй чалавечнасці, каб людзі не вельмі пакутавалі ў свой апошні час. Гэта вельмі далікатная справа.

Ён не чалавек, таму спрабуе ўвесь час вучыцца, каб быць падобным да людзей. Таму Ён узяў мяне за жонку. Ён звычайна вяртаецца такім халодным, а я Яго саграю…

Глеб устаў з ложка і пачаў пры святле поўні, якая роўна свяціла праз акно, шукаць сваю адзежу.

— …А Марана і на самай справе незвычайная. Яны ўсе такія… Яго дзеці…

Дзверы захлопнуліся за Глебам. Эглея змоўкла. Але праз хвіліну зноў пачала:

— …Яны такія ж, як і Ён, толькі смяротныя. Незвычайныя дзеці. Дзеці Смерці… Смерць у іх крыві. І яны пакутуюць праз гэта.

А яна маўчыць не таму, што нямая. Яна маўчыць таму, што яна дачка Смерці. Першае яе слова ўголас заб’е ўсё жывое на зямлі. Таму яна і маўчыць…

Марана… Мая Мараначка…

Ты любіш кветкі, але яны адразу вянуць, як ты возьмеш іх у рукі. Ты прыходзіш з лесу заўсёды ў вянку з сухіх кветак… І маўчыш. Усміхаешся і маўчыш… Я ведаю, у цябе вельмі прыгожы голас. Ён прагне размовы, смеху, спеваў… Але ты будзеш маўчаць да самае смерці. Маўчаць і ўсміхацца. Да Смерці…

Тваё шчасце, што ты смяротная. Смерць — гэта тваё самае найвялікшае багацце, Марана. Тваё збаўленне ад пакут, твой адпачынак.

Смерць. Мая мроя… Супакой… Ты так блізка… Але…

Але я сама абрала такі лёс. Згадзілася быць бясконца маладой. Бясконца нешчаслівай. Калі б я толькі ведала, што будзе так невыносна, так немагчыма жыць. Жыць без мілосці і кахання, бо Ён кахаць не здольны. Ён спрабуе, але не здольны. Яму належыць іншае, супрацьлеглае каханню. Але і сваю справу Ён не можа выконваць без кахання, майго кахання. Яно неабходна Яму. Я зараджаю Яго цяплом, каб Ён добра выконваў свой абавязак. Ён пераймае маю чуллівасць, каб як мага далікатней прымаць чужое жыццё.

Я — ферма дабрыні і пяшчоты. Генератар цеплыні. Працуючы завод чалавечнасці. Я вырабляю сыравіну, паліва, каб дзейнічалі механізмы жыццязвароту. Я жыву, нараджаю Яму дзяцей, каб стварыць ілюзію ўтульнасці; бачу, як нашыя дзеці вырастаюць, сталеюць, старэюць і паміраюць; і ўвесь час працую, каб забяспечыць Яго неабходным цяплом.

Што мне рабіць? Як мне пазбавіцца такой жорсткай долі? Долі, што абрала сама…

…Нягледзячы на яго моц і ўладу, Ён вымушаны падпарадкоўвацца ўсталяваным правілам. Ён — увасабленне канона і пунктуальнасці. Але часам мне здаецца, што Ён сам пакутуе, не могучы пазбавіцца гэтых правіл.

Муж… Ты таксама ахвяра спрадвечных абставін. Тваё рухі і дзеяні механічныя і аўтаматычныя, натрэніраваныя кароткімі стагоддзямі. Марыянетка, як усе мы.

Ведаеш, я ўсё роўна Цябе кахаю. Па-ранейшаму. Ты такі ж, як пры першай нашай сустрэчы: хударлявы, смешны, наіўны, загадкавы, усемагутны, непараўнальны.

Я адчуваю чалавечнасць. Твае скупыя словы спрабуюць здавацца лагоднымі, Твае халодныя рукі спрабуюць быць пяшчотнымі… Гэтыя спробы не звязаны з тваёй прафесіяй. Спробы, няўдалыя намаганні ідуць ад Твайго неіснуючага сэрца… Але правілы…

Ён адмовіцца… Тады як?..

Увайшла Марана. У вянку з сухіх кветак. Спынілася і запытальна ўзіралася вачыма ў маці.

— Маранка, хадзі да мяне!

Эглея працягнула рукі. Дзяўчына нерашуча памарудзіла, а потым пабегла ў абдымкі да матулі.

Жанчына адклала вянок убок і пачала адной рукою гладзіць чорныя валасы дачкі.

— Скажы, Марана, ты мяне любіш?

Марана ўсміхнулася, абняла маці і паспрабавала пацалаваць у лоб, але тая адсунулася.

— Не, не так.

Дзяўчына тады, што было моцы, прыціснулася да Эглеі, паклаўшы галаву ёй на грудзі.

— Скажы, што ты мяне любіш!

Марана незразумела паглядзела на маці.

— Ты ж мяне любіш? — скажы гэта!

Дзяўчына пачала адыходзіць, але Эглея схапіла яе за руку і зноў прыцягнула да сябе.

— Гэта ж так проста: «Матуля, я цябе люблю!»

Дачка адмоўна хітнула галавой.

— Скажы гэта!

Марана паспрабавала вырвацца, але маці моцна яе трымала. Дзяўчына апусціла вочы.

— Скажы! Я жадаю гэта пачуць!

Эглея падняла галаву Мараны, каб тая глядзела ёй у вочы.

— Досыць маўчаць! Скажы! Чуеш, скажы!

Жанчына патрэсла дачку за плечы, але тое не дапамагло. Марана, каб не глядзець на раз'юшаны твар маці, заплюшчыла вочы.

— Няўжо ты не любіш сваю маці? Адкажы!

Дзяўчына ўся сцялася. Тады Эглея ўдарыла дачку далонню па твары.

— Скажы! Я хачу гэта пачуць! Ты павінна гэта сказаць!

Эглея лютавала. Яна біла сваю дачку, а тая толькі ледзь мармытала, стрымліваючы голас. Урэшце Марана здолела вырвацца. Дзяўчына ўпала на падлогу. Яна ўся дрыжала, расчырванелы твар палымнеў, з вачэй ліліся буйныя слёзы.

— Ты павінна гэта сказаць… Ты ж мая дачка…

Марана падхапілася і кінулася з хаты. У дзвярах яна сутыкнулася з Бацькам. Яны нейкі час глядзелі ў вочы адзін аднаму, пасля чаго Марана выбегла на падворак.

Ён равеёў позірк на Эглею. Яна ўжо даўно навучылася вытрымліваць гэты халодны і пранізлівы погляд. Цішыня…

— …Прывітанне, Мілы!

— Прывітанне, любая…

Ён пачаў распранацца. Паставіў торбу, павесіў плашч, зняў боты, нацягнуў тапкі, узяў торбу і пайшоў у пакой.

Эглея ўстала з крэсла. Праз некалькі хвілін Ён вярнуўся. Прыхапіў шчотку і пачаў чысціць боты.

Эглея назірала за Яго механічнай працай. Звычайна яна ў гэты час ставіла ежу і чакала Яго за сталом. Ён зноў паглядзеў на яе.

— Так, любая…

— Ведаеш, я ўночы была з іншым мужчынам…

Ён апусціў вочы і вярнуўся да чысткі ботаў.

— Ты чуў, што я сказала?

Ён пачаў драіць другі бот. Не паварочваючы галавы ціха адказаў:

— Яго дзіця народзіцца нежывым…

Ногі Эглеі падкасіліся. Каб не ўпасці, жанчына схапілася за крэсла.

— Але ж гэта і маё дзіця!

— Тваё дзіця — гэта Марана…

— Не, гэта Твая дачка… Ад мяне ёй анічога не дасталося.

— У яе твае блакітныя вочы…

— Хіба ж у маіх вачах ёсць такая бясконцая глыбіня? Не. Гэта Твае вочы. Шэрыя вочы, якія змянілі колер на блакітны.

Ён паставіў бот, устаў і пайшоў на кухню гатаваць сабе ежу.

Ён сядзеў за сталом і еў. Правілы этыкету былі Ім механічна даведзены да дасканаласці. Эглея села насупраць. Жанчына глядзела на Яго, амаль што пераняўшы Ягоны халодны позірк.

— А ці смачна Табе?

— Так…

— Ты навучыўся адрозніваць смак?

Ён крыху памарудзіў, пасля адклаў прыборы і звярнуўся да жонкі:

— Я цябе слухаю…

— Вызвалі мяне!

— Зрабі, калі ласка, гарбату…

Эглея ўстала з-за стала і пайшла на кухню.

Вярнулася. Паставіла гарбату на стол. Села насупраць.

— Вызвалі мяне!

Ён механічна падзьмуў на гарачую гарбату і пачаў маленькімі глыткамі піць.

— Ты абяцаў мне бясконцую маладосць. Гэта так… Гэта як кубак з гарбатай. Але твой з гарбатай, а мой — пусты. Ты не можаш нічым яго напоўніць: ні каханнем, ні іншымі пачуццямі. Я аддаю Табе сваю цеплыню і нічога не атрымліваю ўзамен… Вызвалі мяне!

— Я не магу. Гэта скасуе ўсталяваны парадак. Мне патрэбна цеплыня…

— Патрэбна? Парадак? А як жа я? Мне таксама патрэбны некаторыя рэчы…

— А як жа тыя людзі, якім неабходна ў апошні час хоць крышачку твайго цяпла? Яны не павінны пакутаваць...

— Што такое іх хвіліны ў параўнанні з маёй бясконцасцю? Я… я пакутую. Я пакутую не менш за іх. Хто сагрэе мяне?

— Не прасі. Нельга. Тым больш, ты павінна вынасіць гэтае дзіця…

— Дзіця? Яно ж народзіцца мёртвае!

Ён апусціў погляд.

— Кожнаму свой час… Падумай пра Марану…

— Ты хочаш, каб я пабачыла смерць дачкі? Ведаеш, як страшна не пачуць голас немаўляці пры нараджэнні?! Марана маўчала. Гэта было жудасна! Я не вытрымаю больш…

— А што рабіць Мне...

— На свеце шмат дзяўчат…

— Так… Але каму Я патрэбны такі… халодны…

Ён зноў падняў на яе вочы і паспрабаваў усміхнуцца.

— Ты жартуеш? Жартуеш… Мая прысутнасць не мінула дарма. Хутка ты ўжо будзеш зусім як чалавек.

— Я не магу…

— Ты навучыўся жартаваць… Больш-менш… Вось Табе яшчэ адзін занятак па чалавечнасці: трэба ўмець ахвяраваць. Ахвяраваць часам, ахвяраваць правіламі — усім. Ахвяраваць дзеля блізкіх табе людзей. Дзеля тых, хто таксама ахвяруе ўсім дзеля цябе…

— Я не здольны… Ты ведаеш. Ахвяруй ты… дзеля людзей… ахвяруй дзеля Мяне…

— Хіба ж у мяне ёсць выбар?..

Яны сядзелі моўчкі. Ён глядзеў на яе, яна на Яго. Моўчкі.

Адчыніліся дзверы. Увайшла Марана. Ён зірнуў на дачку. Вочы ў вочы. Яны размаўлялі. Моўчкі. Праз вочы.

Марана падышла да маці. Абняла яе. Пацалавала ў лоб. Схілілася над вухам і ледзь чутна прашаптала:

— *Я ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, МАТУЛЯ!*

* * *

— Добры дзень, Эглея…

— Вы ведаеце маё імя?

— Я шмат чаго ведаю…

— Маеце нейкую справу да мяне?

— Так… Хочаш быць бясконца маладой?

*Уладзіслава ГУРЫНОВІЧ*

# АПАВЯДАННІ



***Уладзіслава Гурыновіч нарадзілася 30 чэрвеня 1979 года ў Мінску. Працуе перакладчыкам у рэдакцыі інтэрнэт-партала Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Удзельнічала ў конкурсах Самвыдату ў намінацыях «апавяданне жахаў» і «гатычнае фэнтэзі» (1-е і 2-е месцы адпаведна). Захапленні: гісторыя, класічная літаратура жахаў, гатычная субкультура, фолк.***

## ПАЛЯНДРА

Я, бацюхна, Хрыстом Богам клянуся — у карчме надысь быў, але не піў, ані кроплі! Вінцэсь ды Ёська з цагельні са мной былі, вось яны пілі, але ж Бог ім суддзя. А што я з карчмы без грошай ішоў, дык гэта я за Вінцэся па-сяброўску шынкару заплаціў, а перад Ёськам у мяне даўжок быў, вось я і разлічыўся.

З карчмы выйшаўшы, развіталіся мы ды пайшлі кожны ў свой бок. А вулка, дзе карчма стаіць, самі ведаеце якая. Не брукам выкладзена, а гнілымі дошкамі, пад нагамі гразь чвякае, дамкі наўкол нягеглыя, прысадзістыя, паабапал вуліцы туляцца. А ліхтароў там няма, адзін толькі на рагу стаіць, дый той пабіты і не гарыць. А ночка цёмная, бацюхна, па небе хмары бягуць, месячык на якую хвіліну вызірне — ды зноў хаваецца, быццам патухае. І цёмненька наўкол, хоць вока выкалі, адно карчма жаўтлявымі вокнамі з глыбіні вуліцы тарашчыцца, як той чорт з багны.

Іду я ў цемрадзі, ледзь не навобмацак, цішыня наўкол, толькі чутна, як дзесьці сабака брэша ды гразь пад падэшвамі «чвяк-чвяк». Раптам чую — удалечыні на плошчы гадзіннік зазваніў. Вы ж ведаеце, у нас там вежа з гадзіннікам стаіць, тамака цяпер афіцэры кватаруюць, а раней, кажуць, гэта ратуша была. А гадзіннік, бацюхна, акурат апоўначы адзваніў. Я як пачуў, аж засмуціўся, нішто сабе, думаю, у карчме заседзеўся, жонка будзе сварыцца, трэба хутчэй дадому ісці. Паскорыў крок — і раптам знерухомеў, як ішоў, так на месцы і стаў, як той слуп егіпецкі. Бо я, бацюхна, такое ўбачыў, што і ў страшным сне не прымроіцца.

Ехаў мне насустрач чорны вазок, накшталт драбін, на якіх труну возяць. У драбіны запрэжаны быў конскі шкілет… Так, бацюхна, ні конь, ні кабыла, а менавіта шкілет. Чаму не развальваўся? А ў яго косткі, пэўна, нейкая д'ябальская сіла разам трымала, рассыпацца ім не даючы. А ў вазку тым сядзела страшная баба. Згрыбелая такая, худая, жоўтая, з галавы да пят захутаная ў саван, а тканіна ўся счарнелая, згніўшая, сям-там кранутая цвіллю, быццам яе з зямлі выкапалі. Як у цемрадзі раз-

гледзеў? Дык месячык на хвілінку засвяціў, светла зрабілася, як днём. У адной руцэ баба трымала драўляную люлечку і, як цыганка, дымком зацягвалася. У другой руцэ сціскала яна пугу і раз-пораз гультаявата ёй узмахвала ды конскі шкілет хвастала злёгеньку. А шкілет адно азадкам тузаў ды голым чэрапам матляў.

Убачыла мяне баба, нацягнула лейцы, спыніўся вазок. Паглядзела яна на мяне страшнымі вачыма, вышчарылася — зубы ў яе жоўтыя, рэдкія ды вострыя, як у гарбара, — і кажа:

— Дабранач, Яську!

І воблачка дыму мне ў твар выпусціла.

Тут, бацюхна, так страшна мне стала! У галаве шуміць, сэрца тахкае, а ногі слабыя-слабыя зрабіліся, быццам анучамі напханыя. Спужаўся я, зусім як сёлета ўвесну, калі мяне на вуліцы жандар схапіў і ў аддзяленне павалок, за каўнер узяўшы. Ды нізавошта, бацюхна! То бок, за тое, што я не ў той час не на той вуліцы стаяў. Па той вуліцы губернатар у экіпажы ехаў, а свавольнікі, нархісты, пад капыты коней пакет з вапнай кінулі. А я што, я ж нічога. Я там проста так стаяў, хацеў на губернатараў экіпаж паглядзець. І адзін вінаваты аказаўся. Дзякуй Богу, адкараскаўся тады, сунуў жандару ўвесь свой заробак, што надоечы на цагельні атрымаў. Жандар грошы ўзяў ды адчапіўся. От тады і мусіў я ў Ёсіка пазычыць, каб з голаду не сканаць. Так, бацюхна, усведамляю, што грэх. Але ўсё ж лепей, чым у астрозе. Суддзі ж такія, прысуды выпісваюць не гледзячы...

А цяпер, бач ты, зноў «пашанцавала». Стаіць перада мною ці то вядзьмарка, ці то шатанка з Пекла, ці то сама Смерць, ды яшчэ па імені мяне кліча. А шатанка, ці хто яна там, не жандар, грашыма ад яе не адкупішся. Дый грошай у мяне ўжо не было.

Сабраўся я з думкамі… А зрабіць гэта, бацюхна, было не так проста, бо з перапуду думкі мае блыталіся, скакалі і каціліся ва ўсе бакі, як яблыкі з кошыка. Але, з Божай дапамогай, думкі свае разбеглыя я ў кулак сабраў, зняў з галавы шапку, пакланіўся і кажу:

— Дабранач, ваша ягамосця! А ці з пані мы знаёмыя?

Баба задумалася, пачухала патыліцу.

— Пэўна не, — кажа. — Вось далібог, першы раз цябе бачу.

— А скуль пані маё імя мае ведаць?

Але, бацюхна, менавіта так і сказаў. Неяк я сцяміў, што баба тая важная асоба, і размаўляць з ёй трэба, як з начальствам. Па-шляхетнаму.

А баба люлечкай сваёй зацягнулася, заўсміхалася.

— У вас жа тут гэтак. У каго пальцам ні тыркні — абавязкова Яська. А калі не Яська, дык Янка. А не Янка, дык Сцёпка. Цяжка памыліцца. Бачыш, і з табой здагадалася.

Тут я так наўпрост яе і спытаў:

— А ці пані ёсць Смерць?

Тая галавой пакруціла.

— Ды не, — кажа, — Паляндра я. Ну, Чума, калі па-мудрагелістаму. А са Смертачкай у нас працоўная дамова. Спачатку я іду, сею зерне пошасці. А следам ідзе Смерць, ураджай збірае. Абодва бакі задаволены. Прынамсі, ад Смерці на мяне скаргаў пакуль што не паступала.

І зарагатала, рот разявіўшы. А язык у яе распухлы, сіні, з зубоў сліна сцякае бурая. Я ледзь не самлеў ад агіды.

А Паляндра, адсмяяўшыся, руку за пазуху сунула, выцягнула палатняны мяшэчак, а на ім чорнай фарбай чэрап намаляваны і пара перакрыжаваных костак. Як у аптэкара на шклянках. Тыцнула яна мне мяшэчкам пад нос і кажа:

— Вось яно, маё зернейка! А пасеяна яно мае быць да світання, уночы, пакуль цемра наўкол. Інакш не ўзыдуць мае зярняткі і Смерць-Жняя без працы застанецца. Таму трэба мне спяшацца, часу не марнаваць, сеяць смяротнае зерне. Вось лягуць мае зярняткі ў халодную глебу, у месяцовым святле ажывуць, абудзяцца, пацягнуцца да зорнага неба, і зацвіце, разгуляецца пошасць. Людзі мерці пачнуць. І старыя, і малыя, і грэшнікі, і праведнікі. У смерці ўсе роўныя зробяцца, усе лягуць разам у агульны дол: жабрак і ліхвяр, суддзя і злачынец, стары распуснік і дзяўчо цнатлівае.

Грэх нават чуць такое!

А Паляндра, нібыта забаўляючыся, мяшэчак на далоні падкінула, пагладзіла яго з пяшчотай ды зноў за пазуху схавала. Потым узялася за лейцы і кажа:

— Паеду ўжо, Яська, зерне пошасці буду сеяць, пакуль не развіднела. Прэч з дарогі!

Хвастанула пугай конскі шкілет, чорны вазок зрушыўся з месца, зарыпелі колы, загрукаталі конскія капыты па гнілых дошках.

І тут, бацюхна, падкраўся да мяне нячысцік ды пачаў думкі дурныя нашэптваць. А думкі былі такія: ну пошасць і пошасць, халера яе бяры! І калі паразважаць, дык не такое ўжо зло тая пошасць. От калі памрэ, напрыклад, Ёсь-Забанеўскі, брыгадзір мой з цагельні, гарлапан гэты з пунсовым рылам, дык я пэўна не засмучуся. Ці кульгавы Грыня з Ніжняга Кірмашу, які заўсёды пакупнікам гніллё падсоўвае, а грошы дзярэ, як за свежаніну. Альбо Канашыха, суседка мая, што летась мяне «п’янай свіннёй» аблаяла і выліла мне пад ногі ночвы памыяў, боты мае навюткія запаскудзіла. І той жандар, і суддзі-хабарнікі, і скуралупы-чыноўнікі, якія толькі і ведаюць, што кровачку з народа смактаць, і нават пальцам не паварушаць, каб нешта карыснае зрабіць. Вось няхай іх усіх Паляндра і забярэ!

Але, бацюхна, ведаю, што грэх гэтак думаць. Я ж кажу — нячысцік нашаптаў. Ды, дзякуй Богу, да мяне з процілеглага боку Анёл Боскі падышоў і пачаў іншае шаптаць: «Ты ж, Яська, таксама можаш ад пошасці памерці. І Марылька, жонка твая. І трое тваіх дзетак. Хіба ты дзетак сваіх не любіш, жонку не шкадуеш? Хіба іх не песціш, падарункі ім не купляеш, калі грошыкі заводзяцца? То стужачку ядвабную, то салодкі пернік, то ляскотку драўляную? Не, не павінны яны памерці! Рабіць нешта трэба. Неяк Бабу-Паляндру затрымаць, хоць да світанку!». Паслухаў я, бацюхна, Анёла Боскага, пабег услед за вазком. Дагнаў, за аглоблю аберуч схапіўся. «Стойце, — крычу, — чакайце!»

Паляндра ўзлавалася, штурхнула мяне ў плечы, пугай выцяла, а я ўчапіўся ў вазок, як клешч, трымаю, не адпускаю. Паляндра здалася, спыніла свой вазок і кажа:

— Ат, прыстаў, як лайно да чаравіка. Чаго табе яшчэ?

А я ёй адказваю шчыра, амаль не хлусячы:

— Як вашамосць паехала, дык я стаяў і ўсіх сваіх ворагаў ды крыўдзіцеляў узгадваў. І так усцешыўся, што яны ад пошасці памруць! Усе за адным разам. За гэта, ваша ягамосця, я вам надта ўдзячны. І ў знак падзякі дазвольце вас пачаставаць.

Паляндра, бачу, зацікавілася. Пэўна, бацюхна, любіла яна гэтую справу! Пытаецца ў мяне:

— А чым, Яська, частаваць будзеш?

— Манапалькай, пані, чыстай, ядранай, іншай не трымаем. Тут недалёка, я вам дарогу пакажу!

Паляндра ў апошні раз зацягнулася, попел на зямлю вытрасла ды ў складках савана люлечку схавала. Потым на лаве пасунулася і кажа:

— Залазь, Яська, у воз, сядай побач. Будзеш дарогу паказваць.

Што ж, нічога не зробіш. Залез я ў воз, сеў на лаве поруч з Паляндрай, а лава там выгодная такая, як у фурманцы. Паляндра конскі шкілет пугай хвастанула, і паехалі мы да Брычкевіча-Манапольшчыка.

Чаму яе ў карчму не павёў? Дык зачынена было, бацюхна! Мы як з Вінцэсем ды Ёсікам за парог выйшлі, дык шынкар за намі дзверы і замкнуў. А да Брычкевіча прыходзь хоць удзень, хоць уночы, у яго дзверы заўжды адчынены. Чаму не арыштавалі? А пра яго, бацюхна, усе судзебныя ведаюць, але не чапаюць, бо ён судзебным задарма налівае ды яшчэ прыплачвае. Згодзен, бацюхна, згодзен, то грэх вялікі. А што зробіш? Ён жа людзям сілком гарэлку ў горла не залівае. Самі просяць.

Ехалі мы, значыцца, квартальчыкамі, дзе нашы, фабрычныя, жывуць. А дарога тамака паганая, спрэс калюгі ды калдобіны, наўкол платы, як гнілыя зубы, у дварах бруд ды ямы, куды памыі выліваюць, калодзежы, з якіх ваду чэрпаюць, і ўсё побач. І людзі, бацюхна, мруць там, як мухі, нават без Паляндры. А конскаму шкілету хоць бы што. Па калюжынах бег борзда, як па роўнаму, і вазок каціўся раўнютка, не гайдаўся. Мінулі мы фабрычныя кварталы, выехалі на пустку Кашарскую, дзе казармы пабудаваны. Там, кажуць, раней нівершытэт быў, кніжнікі ды студыёзусы хадзілі, а цяпер пустка ды жаўнерчыкі. То і добра.

Мінулі мы казармы ды выехалі на ўскраіну, дзе Брычкевіч у доме «пад шыбеніцай» жыве. Раней там, кажуць, і напраўду шыбеніца стаяла, потым прыбралі яе, а назва засталася.

Спыніліся мы каля дома, з воза злезлі, Паляндра конскі шкілет да слупка прывязала, каб не ўцёк. Зайшлі мы ў дом, а там Брычкевіч за сталом сядзіць, перад ім бутэлька адкаркаваная, напалову пустая, шклянкі стаяць, і кілбаса ляжыць, кавалкамі парэзаная. А побач з Брычкевічам сядзіць на лаве Чарціха. Босая, у дзяружку брудную захутаная, валасы касмылямі вісяць, а сама тлустая, адрузлая, твар азызлы, брыдкі. Сядзіць яна, Брычкевіча абняўшы, ды ў шклянку яму з бутэлькі падлівае. Я, бацюхна, гэтага Брычкевіча і раней недалюбліваў, падазраваў, што ён з нячыстай сілай знаецца. І, бачыце, не памыліўся.

А Чарціха, як нас з Паляндрай убачыла, завішчала ды ў ладкі заляскала. «І-і-і, — крычыць, — Паляндрачка, швагерка мая!». Саскочыла яна з лавы, кінулася да Паляндры, пачалі яны абдымацца-цалавацца, а Чарціха ўсё выпытвае: «А Цётухна-Воспа як там маецца? А Сястрычкі-Ліхаманкі? А Багнік з іржавага балота?».

Пакуль бабы паміж сабой плявузгалі, адвёў я Брычкевіча ўбок ды кажу яму: так і так, трэба неяк Паляндру да раніцы затрымаць. Ён глянуў, кіўнуў.

— Зробім!

Крутануўся ён на абцасах, пстрыкнуў пальцамі — і палезлі з-пад усіх масніц, з усіх цёмных кутоў чэрці. Але, бацюхна, чэрці, сапраўдныя. Усе ў барвовых мундзірчыках, на галовах шапкі казацкія, на нагах боцікі, а ў боцікаў мысы падвойныя, бо не ногі ў чарцей, а капыты. Цягнуць чэрці хто бутэльку, хто закусь — тут і кілбасы, і дзічына, і рыжыкі салёныя, і шчупакі смажаныя, і пірагі з вязігай. І гэта ў пост! Вокамгненна сабралі чэрці на стол. Стальніца аж трашчыць, ледзь не ломіцца.

Брычкевіч паглядзеў і кажа: «Усяго ў нас досыць, адно музыкаў не стае. Зараз паклічам!» Свіснуў Брычкевіч, грымнуў абцасамі — і расхінуліся аканіцы, палезлі ў пакой вупыры. Самі шызыя, слізкія, быццам толькі што з долу, а ў кіпцюрах трымаюць скрыпкі, бубны, дуды, гарфы. Паселі яны на падлозе, як у тэатры, і давай вальсы граць… Не, бацюхна, у тэатры я не быў. Адкуль ведаю? Дык людзі кажуць.

А Брычкевіч усміхнуўся задаволена, вус падкруціў і кажа:

— Гэта, пані Паляндра, у ваш гонар. Прашу за стол, госці даражэнькія!

А я, бацюхна, хацеў быў ад граху збегчы неўзаметку, пасунуўся да дзвярэй, але Брычкевіч заўважыў ды хоп мяне за рукаў.

— А ты, Ясь, куды намыліўся? За стол сядай!

Ну, што тут зробіш. Сеў. І распачалася, бацюхна, бяседа-баляванне. Усе рагочуць, гамоняць, скрыпкі, гарфы равуць, вакол чэрці завіхаюцца, гарэлку падліваюць, стравы падносяць. А я, знiякавеўшы, сяджу на краёчку, ні ежы, ні пойла не кранаю. А Брычкевіч, падлюга, да мяне падсеў, локцем піхнуў.

— Чаму не п’еш?

— Не магу, братка, пост!

Ён прыжмурыўся, глянуў на мяне не па-добраму:

— Не шануеш мяне, Яська. Ды што мяне. Паляндру, пані нашу яснавяльможную, не шануеш!

Сам бутэльку ўзяў, наліў мне паўнюткую шклянку.

— Пі!

— Не буду, братка. Не магу!

Тут чэрці бутэлькі, талеркі пакідалі, на мяне вышчарыліся. І вупыры кінулі граць, на мяне вочы вылупілі. І ўся гэтая навалач зашыпела, зарыкала, зарохкала.

— Пі! Пі!

І Паляндра з Чарціхай побач сядзяць, рагочуць, на мяне пальцамі паказваюць.

— Пі, Яська, пі!

Зразумеў я, бацюхна, што няма куды мне падзецца, плюнуў ды выпіў. Закусіў цыбулінай, бо пост.

Брычкевіч заўсміхаўся, па плячы мяне паляпаў.

— Вось і добра. Малайчынка!

І зноў у шклянку лье. А сам да мяне схіліўся ды на вуха мне шэпча:

— Так трэба, Яська! Будзеш адмаўляцца, Паляндра пакрыўдзіцца ды пойдзе, і ўсе ў горадзе ад пошасці перамруць. А я згалею, жабраваць пайду, бо не будзе каму ў мяне манапольку купляць.

От, бацюхна, з якой прычыны ён згадзіўся мне дапамагаць. Не пра людзей рупіўся, нехрысць, пра грошыкі свае!

Колькі часу мы гэтак балявалі, не ведаю, колькі чарак я выпіў, ужо не ўзгадаю. Было ўсё, бацюхна, як у сне ці ў трызненні. Памятаю, як Брычкевіч з Паляндрай танчыў, а я з Чарціхай абдымаўся ды з вупырам нейкім на скрыпачцы рэзаў. Праз той тлум ды гвалт закруцілася ў мяне ў галаве, здурнеў я зусім, страх згубіў, пра грэх забыўся. І чарговую чарку асушыўшы, пытаюся ў Брычкевіча.

— Даўно я жадаў пацікавіцца, скуль ты, братка, манапольку бярэш? Да цябе прыходзь хоць удзень, хоць уночы, заўсёды ў цябе ёсць. Тут, напэўна, сакрэт нейкі.

— Але, Яська, ёсць у мяне адмысловая мятода.

А я здуру вазьмі ды скажы:

— Ты пакажы мне, братка, тую мятоду. Мне ж цікава!

Брычкевіч аднекваецца, галавой круціць, а сам, гадзюка, цвярозы як шкельца, хоць і выпіў не менш за мяне. Я, бацюхна, яго ўвогуле ніколі п’яным не бачыў, ён тую манапольку жлукціць, як ваду, і хоць бы што. Тут, напэўна, таксама нейкае вядзьмарства ёсць.

А Паляндра шклянкай бухнула ды кажа:

— Мне таксама цікава. Пакажы, Манапольшчык!

Тут і Чарціха загігікала, Брычкевіча па спіне ляпнула.

— А сапраўды, Брычкевіч. Давай пакажам госцейкам, як мы манапольку робім!

— Ну, калі паненкі просяць, не магу адмовіць.

Падышоў ён да сцяны, неяк па-адмысловаму па ёй пальцамі пастукаў, і адчынілася сцяна, а за ёй сходы, нібыта ў сутарэнне.

Узяў Брычкевіч Паляндру пад ручку, Чарціха ў мяне на плячы павісла, і пайшлі мы па сходах уніз. А сходы тыя доўгія, вузкія, прыступкі слізкія, павуцінне да твару ліпне, і цёмна там, як ноччу ў лазні. Я б калі цвярозы быў, нізавошта туды б не палез.

Доўга мы спускаліся, нарэшце пасвятлела наперадзе, быццам там паходні ці свечкі гараць. Увайшлі мы ў аграмаднае сутарэнне. І там, бацюхна, я такое ўбачыў, што ўвесь хмель з мяне ў адно імгненне вылецеў. Здалося мне, што трапіў я ў Пекла. Пасярод сутарэння стаіць велічэзны кацёл, акурат як у нашай царкве на выяве, дзе Страшны Суд. Пад катлом дровы гараць, вакол чэрці завіхаюцца, усе ў пальчатках і скураных фартухах, а ўздоўж сцен бутэлькі стаяць, адны пустыя, другія ўжо паўнюткія, закаркаваныя. А над катлом лесвіца і дашчаны памост, як на шыбеніцы, а на тым памосце быццам бы людзі ляжаць. Прыгледзеўся я — вой, Божухна! Я ж іх усіх ведаў калісьці, і ўсе яны, як адзін, ад манапалькі сканалі. Тут і Зылік, сусед мой, якога з месяц таму жонка па п'яні зарэзала, і Цімох, які летась п'яны ў калодзеж уваліўся, і стары Юзэф-Прапойца, што пад Раство ў сумёце замёрз, і Антось з цагельні, што ў мінулую восень, манапалькі напіўшыся, розум страціў, на пажарную вежу палез ды разбіўся. Ляжаць яны ўсе, ні жывыя, ні мёртвыя, а паміж імі чорт у фартуху ходзіць, а ў кіпцюрах у яго вілы. Чапляе чорт іх на вілы, як падсвінкаў, і кідае ў кацёл. У катле вар кіпіць, чэрці апалонікамі размешваюць, а ўнізе там адтулінка, і з яе, быццам з раўчука, манаполька цячэ. Чэрці толькі паспяваюць бутэлькі падносіць.

Блага, млосна мне зрабілася, у вачах пацямнела, і я дзе стаяў, там і паваліўся. А Чарціха на мяне зверху навалілася, абляпіла, як жаба, а сама смяецца, аж заходзіцца: «Што ж ты, Ясечка, засмуціўся? Хіба не ведаў, як манапольку робяць?» Тут, бацюхна, я і самлеў. Апошняе, што памятаю — цёмна наўкол, толькі бутэлькі звіняць ды Брычкевіч з Паляндрай рагочуць.

Апрытомнеў я ў Брычкевіча на лаве. За вокнамі пашарэла ўжо, раніца надышла. У пакоі разгром, мэбля перакулена, паўсюль пустыя бутэлькі, пабітыя талеркі параскіданы, чарцей ды вупыроў ужо няма, і Чарціха кудысьці падзелася. А на суседняй лаве Паляндра ляжыць, рукі раскінуўшы, і стогне. Адзін толькі Брычкевіч цвярозы ды бадзёры, як агурок. Штурхае мяне, крычыць: «Уставай, Яська! Развіднела ўжо, час надышоў госцейку нашую выпраўляць!» Злез я з лавы, а падлога пад нагамі гайдаецца, ходзіць то ўверх, то ўніз, і пакой круціцца перад вачыма, як кірмашовая карусель. Схапіўся я за стальніцу, зажмурыўся, стаю, чакаю, пакуль млосць пройдзе, а Брычкевіч падганяе, крычыць: «Хутчэй, хутчэй!» Сяк-так мы Паляндру расштурхалі, з лавы сцягнулі, на двор вывелі ды на воз пасадзілі. А яна адно стогне ды войкае, лаецца апошнімі словамі, як той шавец. На свежым паветры ачуняла яна трохі. Глянула на нас, галавой пакруціла і кажа:

— Лайно вашая манаполька, адна нуда з яе. Больш у рот не вазьму!

Узялася яна за лейцы, хвастанула конскі шкілет, паехаў, пакаціўся чорны вазок па дарозе — і неўзабаве знік з вачэй, у ранішняй смузе растварыўшыся.

Тут я, бацюхна, уздыхнуў з палёгкай. Сышла Паляндра, не будзе ў нас сёлета мору! Павярнуўся я быў да Брычкевіча, хацеў яму шчыра падзякаваць, бо ён хоць і нехрысць, але ж горад ад пошасці выратаваў. Гляджу — няма ўжо Брычкевіча! Вось быў і знік раптоўна, як скрозь зямлю праваліўся. І дома «пад шыбеніцай» таксама няма. Замест яго руіна нейкая, навокал дзікі хмызняк, крапіва ды блёкат. Куды ўсё

падзелася? А халера яго ведае. Напэўна, Брычкевіч хуценька гаспадарку сваю сабраў ды разам з чарцямі і вупырамі ў іншы горад паляцеў. Будуць там народ спойваць.

А я, бацюхна, адтуль да вас пабег, спавядацца. Даруйце, што я падчас посту напіўся. Ведаю, што зграшыў, але ж пад прымусам і дзеля ўратавання горада ад пошасці.

А манапольку тую праклятую больш піць не буду. Хрыстом Богам клянуся, не буду! Калі нават уся вада з зямлі знікне, адна манаполька застанецца, усё роўна ані кроплі не вазьму, лепш ад смагі сканаю. Сапраўды, адна нуда з яе. Вось няхай Паляндра яе і п'е.

## ЦІХІЯ ЛЮДЦЫ

Груды, што ўзвышаюцца за ваколіцай нашай вёскі, зусім не простыя. На тых грудах жывуць Рахманыя, альбо Ціхія Людцы. Каго ні спытай, ніхто не здолее растлумачыць, што яны такое. Магчыма, гэта не хто іншы як феі ды эльфы або русалкі ды лесуны, а мабыць, гэта самыя звычайныя ведзьмакі і вядзьмаркі.

У даўнія часы жыхары нашага селішча ад Рахманых крыўду цярпелі. Здаралася, Людцы з грудоў употай прабіраліся ў вёску і кралі з калысак немаўлят, якіх нядбайныя матулі пакідалі без нагляду. А іншы раз яны наводзілі праклён на ўсё селішча, і тады каровы пачыналі даваць не малако, а хмельную бражку, бульбяныя клубні на палях ператвараліся ў камяні, а на яблынях выспявалі не яблыкі, а плады дзівосныя, нетутэйшыя, прыгожыя на выгляд, але сухія, як тая гліна, і на смак агідныя — не ўкусіш, не з'ясі.

Рахманыя выраблялі ўсе тыя свавольствы не са злосці, не праз тое, што нас, простых смяротных, ненавідзелі ды пагібелі нам жадалі. Не. Проста ў Людцаў з грудоў зусім іншыя ўяўленні пра дабро і зло. А дакладней, яны ўвогуле не ведаюць, што ёсць дабро, а што ёсць зло. Ці можна назваць «злою» зімовую віхуру, што закідвае снегам хаты да самага даху, або ліпеньскую навальніцу, калі маланкі б'юць і ў дрэвы, і ў людское жытло, чынячы пажары і бедствы? Так і Людцы з грудоў — не злыя і не добрыя. Яны іншыя. Не такія, як мы.

Аднак жа жыхарам вёскі праз тыя свавольствы жылося несаладка. Чаго яны толькі не рабілі, каб аднадзіць Рахманых! Выраблялі кудмені-абярэгі, чыталі замовы, абыходзілі вёску з плугам, запрэжаным кульгавай кабылкай. Нават святара запрашалі. Але нічога не дапамагала — Ціхія Людцы з грудоў працягвалі назаляць ды шкодзіць людзям.

Але аднойчы надвячоркам, калі сонца ўжо хілілася да зямлі, прыйшоў у селішча сівабароды старац. Ён быў убраны ў беласнежнае адзенне, а ў руцэ трымаў сукаваты кій. Жыхары вёскі вырашылі, што гэта вандроўны манах божы чалавек. І толькі адна тутэйшая бабулька, якая ўмела варажыць на свячным воску і лячыць замовай змяіныя ўкусы, казала, што ніякі ён не манах і не зусім нават чалавек...

Старца, кім бы ён там ні быў, прынялі з пашанай. Адвялі ў самую заможную хату, накармілі вячэрай, а потым паслалі на лаве чыстую прасціну, паклалі падушкі — адпачывай, божы чалавек! Жыхары нашай вёскі спрадвеку былі гасцінныя і паважалі старэйшых.

І старац адплаціў дабром за дабро. Ва ўзнагароду за гасціннасць ён раз і назаўсёды пазбавіў жыхароў вёскі ад бедстваў, якія чынілі ім Ціхія Людцы.

Раніцай, як толькі сонейка ўзышло, выйшаў ён за ваколіцу і, павярнуўшыся да грудоў, прамармытаў ці то малітву, ці то замову. А пасля ён правёў сваім кіем па зямлі, з-пад якой забіла крынічка — тая самая, што сёння завецца Белай. І мовіў

старац: «З гэтага часу крынічка будзе мяжой паміж паселішчам людзей і зачараванымі грудамі. Ніхто з Рахманых не здолее перайсці яе ні ўброд, ні па камянях, ні па мастках і ніякім іншым чынам. Няхай жа тыя, хто жыве на грудах, бягуць прэч ад крынічнай вады і не трывожаць больш смяротных».

Сказаўшы гэта, старац пайшоў сваёй дарогай, і больш яго тут не бачылі. А людзі нарэшце ўздыхнулі з палёгкай, бо насельнікі грудоў з той часіны ўціхамірыліся і ў паселішчы больш не з'яўляліся.

Ішлі стагоддзі, свет наўкол змяняўся. У нашых краях пабудавалі чыгунку, па рэйках пабеглі паравозы. У вялікіх гарадах з'явіліся самаходныя карэты, а ў паветры пачалі плаваць дырыжаблі і лётаць крылатыя машыны. Чараўніцтва на зямлі засталося зусім мала. Людзі забыліся, як рабіць абярэгі, пазабывалі малітвы і замовы, і ўсё цяжэй было адшукаць бабулек, што ўмеюць варажыць на воску і лячыць хваробы чароўным словам.

Жыхары нашай вёскі больш не баяліся грудоў за ваколіцай. Ужо амаль ніхто не памятаў пра тых Рахманых. Белая Крынічка змялела і зарасла лазой ды асотам, а на грудах мірна пасвіліся каровы і козы. Трава там была асабліва густая і сакавітая.

І толькі адзін раз на год, у ноч на першае траўня, людзі стараліся трымацца далей ад грудоў. У гэтую ноч груды быццам ажывалі. З іх у начное неба білі сінія маланкі, мільгацелі агні, скакалі дзіўныя цені, чутны былі галасы, рогат і гукі музыкі. А раніцай груды зноўміралі, і цэлы год нічога незвычайнага там не адбывалася — да наступнага траўня.

Распавядаюць, што мой прадзед у ноч на першае траўня сышоў у груды і больш ужо не вярнуўся. Ніхто не ведае, што з ім сталася. Мабыць, маланкай забіла, ці закахаўся ён у якую-небудзь ведзьму і сышоў услед за ёй у яе невядомы свет, забыўшыся пра сваіх родных і блізкіх.

Я таксама была на тых грудах, у адну з начэй з красавіка на травень. Даўно гэта было, вельмі даўно. Тады мне толькі-толькі споўнілася сямнаццаць. Я была нашмат зграбнейшая, чым цяпер, і мае валасы былі колеру грэчкавага мёду, а не восеньскай смугі. І ў мяне ўжо быў жаніх: добры, працавіты хлопец з суседняй вёскі па імені Вацлаў. Так-так, твой дзядуля, Даля. Нам надта ж карцела хутчэй згуляць вяселле, але і мае, і ягоныя бацькі настойвалі, каб мы пачакалі яшчэ хаця б год-другі. Мы і чакалі. Гэта, зрэшты, не замінала нам сустракацца ўпотай, дзе-небудзь далей ад вёскі, каб нас не ўбачылі суседзі. Мы сыходзілі ў груды, блукалі ў палях або ў ясянёвым гаі. Нам было так добра ўдваіх, што мы не заўважалі, як ляціць час.

Аднойчы вясновым днём мы да змяркання шпацыравалі ў грудах. То былі апошнія дні красавіка, і на грудах рунела трава і квітнелі вясновыя краскі. Калі сонца зайшло, а неба пачало цьмянець, Вацлаў праводзіў мяне да ваколіцы і, развітаўшыся, накіраваўся ў сваё селішча. Я ўжо хацела перайсці па камянях Белую Крынічку, каб вярнуцца ў родную вёску, але раптам пачула чыйсьці жаласны плач. Агледзеўшыся па баках, я ўбачыла незнаёмую жанчыну. Яна сядзела на беразе крынічкі, абхапіўшы галаву рукамі, і горка, няўцешна плакала. Мусіць, у яе здарылася нейкая бяда.

Я падышла бліжэй, ветліва павіталася і спытала:

— Скажыце, што здарылася, чаму вы плачаце? Можа, я здолею чымсьці дапамагчы?

Жанчына зірнула на мяне апухлымі ад слёз вачыма, вусны яе задрыжалі.

— Мая іголка ўпала ў крынічку, — сказала яна і ўсхліпнула.

Калі я пачула гэта, мне зрабілася смешна.

— Гэткая дробязь! — сказала я. — Ці варта гараваць з-за нейкай іголкі? Я гэтульки разоў губляла іголкі і шпількі, але і не думала плакаць.

Жанчына пахістала галавой.

— Ат, дзяўчынка, нічога ты не разумееш! Іголка тая незвычайная. Яе выкаваў для мяне падземны каваль са срэбнага месяцовага святла. Гэтай іголкай можна пашыць шыкоўную сукенку ўсяго за адзін вечар, аздобіць яе каштоўнымі камянямі і вышыць залатымі ніткамі. Але іголка выслізнула з маіх пальцаў і ўпала ў гэтую праклятую крынічку, і цяпер, у свята травеньскай ночы, я застануся без новай сукенкі!

Яна зноў расплакалася, а мне зрабілася ніякавата. Я здагадалася, што перада мною не простая смяротная, а істота з іншага свету. Фея, вядзьмарка або русалка — адна з тых, хто жыве на грудах.

Нядзіўна, што яна так гаравала, выпусціўшы ў раўчук сваю чарадзейную іголку. Заклён старца ўсё яшчэ меў сілу, таму ніхто з Рахманых не мог ні перайсці Белую Крынічку, ні нават дакрануцца да яе бягучай вады.

Але мне было шкада жанчыну. Схіліўшыся над раўчуком, я пачала ўзірацца ў празрыстую ваду. Глыбіні тут было ўсяго на далонь. На дне раўчука, сярод камянёў, зарослых зялёным багавіннем, паблісквала доўгая іголка. Сунуўшы руку ў сцюдзёную ваду, я ўхапіла яе і працягнула незнаёмцы.

— Вазьміце, — сказала я. — Толькі не плачце больш, калі ласка.

Жанчына паглядзела на мяне са здзіўленнем, узяла іголку і асцярожна ўкалола яе ў падол сваёй смарагдава-зялёнай сукенкі. На яе вачах усё яшчэ блішчалі слёзы, але яна ўсміхалася.

— Ты вельмі добрая дзяўчынка. Я паспею пашыць новы ўбор для заўтрашняга свята травеньскай ночы. У мяне засталася сукенка з леташняй вечарыны, але не магу ж я з’яўляцца ў адным і тым жа строі двойчы! Гэта не ў маіх правілах.

— Не варта падзякі, — прамовіла я ветліва.

Шчыра кажучы, мне хацелася як мага хутчэй вярнуцца дадому. Я пачувалася не зусім утульна тут, у прыцемках, з істотай з іншага свету.

Незнаёмка паразважала хвілінку, потым усміхнулася.

— Мне ўсё-ткі хацелася б аддзячыць табе, дзяўчынка. Калі жадаеш, прыходзь заўтра на нашу травеньскую вечарыну.

— Сюды? У груды? — са здзіўленнем спытала я.

Яна кіўнула.

— Але. Зразумела, у гэткім выглядзе цябе не пусцяць, — яна ледзь не грэбліва агледзела маю даматканую спадніцу і вязаную кофту, якая дасталася мне ад старэйшай сястры. — Не бяда. Заўтра, калі зойдзе сонца, прыходзь сюды. Я сустрэну цябе і трошачкі над табой павядзьмару. Будзеш выглядаць не горш за нашых высакародных паненак.

На гэтым мы развіталіся.

Увесь наступны дзень я хадзіла разгубленая, засмучаная. Я нікому не сказала пра сустрэчу. І, прызнаюся, мне было страшнавата. Мой прадзед сышоў у груды і больш не вярнуўся. Што, калі я таксама не вярнуся? Але з іншага боку, не кожны дзень смяротны атрымлівае запрашэнне на баль эльфаў. Другога такога шанцу ў маім жыцці больш не будзе.

І я наважылася. Калі зайшло сонца, а мае бацькі, браты і сёстры ўлегліся спаць, я неўпрыкметку выслізнула з хаты і накіравалася за ваколіцу, да грудоў.

Жанчына ў зялёнай сукенцы ўжо чакала ля крынічкі. Узяўшы мяне за руку, яна падвяла да аднаго з грудоў і дакранулася пальцамі да яго зялёнага схілу. У грудзе адчыніліся дзверы.

— Уваходзь, не бойся, — сказала яна.

Жанчына так і не назвала свайго імя, не спытала маё. Мусіць, Ціхія Людцы ніколі не завуць адно аднаго па імёнах, такі ў іх дзіўны звычай.

Увайшоўшы ўнутр груда, я апынулася ў невялікім пакойчыку без адзінага акна. Тут панаваў прыцемак. Крыніцай святла служыла зялёная свечка ў каганцы, які плаваў у паветры. Ля сцяны, абшаляванай счарнелымі дубовымі дошкамі, стаяў туалетны столік з вялікім срэбным люстэркам. Столік быў спрэс застаўлены маленькімі бутэлечкамі і скрыначкамі. У паўцемры віднеліся абрысы масіўных шаф, куфараў.

— Гэта мая гардэробная, — сказала жанчына. — Тут захоўваюцца мае ўборы з мінулых вечарын. Адзін з іх сёння будзе тваім! Але спачатку я над табой пачарую.

Яна пстрыкнула пальцамі, і з цемрадзі выплыў глыбокі срэбны каганец, напоўнены духмянай вадой, у якой плавалі ружовыя пялёсткі. Яна загадала мне памыцца. Потым працягнула мне бутэлечку з араматычным алеем і загадала нацерці ім твар, шыю і рукі. Пасля распусціла мне валасы і абсыпала іх срэбным парашком з круглай касцяной скрыначкі. Нарэшце, узяўшы яшчэ некалькі склянак і пару пэндзлікаў, жанчына падмалявала мне вочы чорным, срэбным і фіялетавым.

— Гэтак значна лепш, — сказала яна. — А цяпер апрані вось гэта!

Жанчына працягнула мне сукенку з чорнага шоўку, з вузкім гарсэтам, рукавамі-ліхтарыкамі і пышнай спадніцай, упрыгожанай фальбонамі.

Я ледзь пазнала сябе, зазірнуўшы ў люстэрка. Са срэбнай рамы на мяне глядзела цёмная фея. Юная чараўніца. Прынцэса з чарадзейнай краіны эльфаў, дзе ў галінах старажытных дрэў гуляе вецер, які прыляцеў з далёкіх планет, а ў чорных люстэрках азёр і ўночы, і ўдзень адлюстроўваюцца зоркі.

— Ну як, падабаецца? — спытала жанчына, усміхаючыся.

Мой убор яна дапоўніла каралямі ў выглядзе крылаў кажана і пярсцёнкам у выглядзе абсідыянавага павука, які сядзеў у цэнтры павуты. Мае валасы яна ўпрыгожыла срэбнай дыядэмай, якая выглядала зусім жудасна: пераплеценыя рукі шкілета, якія трымалі ў кашчавых пальцах буйны зялёны камень, падобны да кацінага вока.

Скончыўшы з маім уборам, жанчына занялася сабой. Павярнуўшыся да люстэрка, яна доўга прыхарошвалася, прычэсвалася срэбнымі грабеньчыкамі, націрала скуру нейкімі мазямі і алеямі. Нарэшце апранула сукенку, якую пашыла напярэдадні сваёй чарадзейнай іголкай.

Яна цалкам змянілася. Аблічча яе было выбелена, як у парцалянавай лялькі, а вочы абведзены чорным і фіялетавым. Свае цёмныя валасы яна замацавала тонкай срэбнай сеткай і склала ў мудрагелістую прычоску накшталт крылаў невядомай птушкі. На яе грудзях красаваўся буйны срэбны кулон у выглядзе чэрапа вароны, у вачніцах якога блішчалі фіялетавыя каменьчыкі. Яе бальная сукенка ўяўляла сабой вузкі станік з дзіўнай бліскучай матэрыі, да якога мацавалася крыналінавая спадніца. Пры гэтым цяжкі каркас крыналіна размяшчаўся не ўнутры спадніцы, а звонку, калыхаючыся вакол яе сцёгнаў, як велізарная клетка для птушак.

Жанчына зірнула на сваё адлюстраванне ў люстэрку і змахнула нябачную парушынку са станіка. На яе белым абліччы ззяла ўсмешка.

— А цяпер нам трэба ісці. Імпрэза пачалася ўжо! — сказала яна.

Яна пастукала па сцяне, дубовыя дошкі раз’ехаліся ў бакі, і ў сцяне адкрыўся ўваход у вузкі і цёмны калідор. У калідоры віднелася каменная лесвіца, якая вяла ўверх.

Падняўшыся па прыступках, мы апынуліся на вяршыні груда. Імпрэза Травеньскай Ночы была ўжо ў разгары.

Ці варта казаць, Даля, што гэта была самая незвычайная вечарына ў маім жыцці!

У начным небе не віднелася ані месяца, ані зорак, але навокал было светла, як днём. Паўсюль у траве стаялі невялічкія каменныя свяцільні, у якіх гарэлі сінія агеньчыкі. У паветры над грудам луналі празрыстыя шары, якія свяціліся. Спачатку мне здалося, што яны плаваюць у паветры самі па сабе, але, прыгледзеўшыся, я ўбачыла крылатых карузлікаў, якія трымалі шары, абхапіўшы іх маленькімі ручанятамі.

Пасярод груда на высокім памосце стаяла нешта накшталт музычнай скрыні, з якой даносілася музыка. Ці здолею я апісаць яе, Даля? Ні разу ў жыцці не даводзілася мне чуць нічога падобнага. Музыка гэтая была маркотная і тужлівая, яна грызла душу, як галашэнне плакальшчыц, але ў той жа час яна была поўная нейкай змрочнай весялосці. Калі б мерцвякі раптам усталі з магіл і пусціліся ў скокі, яны б танчылі менавіта пад такую мелодыю.

Каля памоста з музычнай скрыняй стаяла вялізнае калматае стварэнне з раздвоенымі капытамі і парай пазалочаных казіных рожак. Стварэнне засяроджана круціла ручку на скрыні. Напэўна, яно было адказнае за музыку.

А наўкол танчыў і весяліўся народ. Усе мужчыны былі апрануты ў аднолькавыя чорныя балахоны з пунсовымі закаўрашамі. Іхнія абліччы былі схаваны пад шырокімі каптурамі. Уборы паненак былі куды больш разнастайныя. Адны апранулі вузкія гарсэты і пышныя крыналінавыя спадніцы, другія фарсілі ў мудрагелістых гарнітурах з тонкіх скураных папружак, на трэціх былі вузкія сукеначкі з чорнай скуры і чорныя скураныя панчохі. Іхнія твары былі выбелены, вочы абведзены чорным і фіялетавым, і ва ўсіх вычварныя прычоскі і ўпрыгожанні з цёмнага срэбра і чорных, пунсовых, зялёных і фіялетавых камянёў. Жанчына, якая прывяла мяне сюды, выглядала задаволенай, бо ні ў адной з паненак не мелася спадніцы-каркаса, як у яе.

Сярод натоўпу, які весяліўся, хадзілі чорныя, бясформенныя істоты, падобныя да гіганцкіх грыбоў-труфелей, з мноствам гнуткіх хабаткоў замест рук. У руках-хабатках істоты трымалі шырокія падносы, застаўленыя крыштальнымі келіхамі з крывава-чырвонымі і смарагдава-зялёнымі напоямі. Я так і не наважылася іх пакаштаваць.

Як ні дзіўна, я не пачувалася чужой і лішняй на гэтым баляванні. Змрочна-вясёлая музыка захапіла мяне, крылатыя карузлікі і бясформенныя стварэнні зусім не здаваліся мне страшнымі, а мужчыны ў балахонах ды іхнія мудрагеліста апранутыя сяброўкі выглядалі даволі прыязна.

Я пачынала разумець, чаму мой прадзед не вярнуўся ў родную вёску. Магчыма, ён таксама быў тут, сярод Людцаў з грудоў, якія святкавалі Першую Ноч Траўня. Нават калі і так, я ўсё роўна не здолела б пазнаць яго. Я ніколі не бачыла яго. Калі ён знік, мая прабабуля знішчыла ўсе яго выявы, так і не дараваўшы яму здрады.

Я танчыла. Спачатку адна, у зачараванні кружачыся ў коле сініх агеньчыкаў. Потым мяне запрасіў на танец нейкі мужчына ў чорным балахоне. Потым другі, трэці. Мая прыяцелька ў спадніцы-каркасе даўно знікла з вачэй, але мяне гэта не хвалявала. Мне было так хораша, так радасна, быццам я ўсё жыццё толькі і рабіла, што хадзіла на травеньскія балі Рахманых.

Калматае стварэнне павярнула нейкі рычажок на музычнай скрыні, і хуткая мелодыя змянілася павольнай. Я кружылася ў марудлівым танцы ў пары з нейкім юнаком. Ён адкінуў каптур, і я магла разгледзець яго прыгожае, бледнае аблічча. Мая рука ляжала на яго плячы, а яго далонь — на маім стане, зацягнутым у цвёрды гарсэт.

Юнак схіліўся да мяне і шапнуў у вуха:

— Заставайся ў нашых грудах назаўсёды. Ты атрымаеш неўміручасць і вечную маладосць, ніколі не пазнаеш, што такое боль і пакута.

Гэта гучала надта ж прывабна, Даля, але тут я ўспомніла пра Вацлава. Пра твайго дзядулю, які ў тыя гады быў зусім маладым. Ён не мог дачакацца, калі нашыя бацькі дазволяць нам згуляць вяселле. І я таксама кахала Вацлава. Мой прадзед назаўжды застаўся ў грудах, але я была іншая, у маім сэрцы жыло каханне.

Я адхілілася і адмоўна пахістала галавой.

— Я не магу застацца. У гэтым свеце ёсць чалавек, якога я кахаю ўсёй душой і не жадаю губляць.

Юнак зірнуў на мяне з паблажлівай усмешкай.

— Значыць, ты выбіраеш каханне замест неўміручасці? — прамовіў ён. — Што ж, неблагі выбар.

Не памятаю, калі пакінула груды і вярнулася дадому. Я прачнулася раніцой у сваім ложку. На мне больш не было срэбных упрыгожванняў, зніклі і чорна-фіялетавая фарба з майго твару, і срэбны пыл з маіх валасоў. Я вырашыла б, што ўсё тое, што адбылося напярэдадні, было сном, калі б не чорная сукенка, якую я знайшла пад падушкай. Тая самая сукенка з пышнай спадніцай і рукавамі-ліхтарыкамі. Відавочна, жанчына з грудоў пакінула яе мне ў падарунак.

Я схавала сукенку ў драўляны куфар і замкнула на ключ. Гэтую сукенку я не паказвала нікому, апроч Вацлава. Незадоўга да нашага вяселля я апранула яе, жадаючы пафарсіць перад жаніхом. Але Вацлаву яна не спадабалася. Убачыўшы мяне ў гэтым уборы, Вацлаў спачатку вылупіў вочы, а потым зажмурыўся і адвярнуўся.

— Здымі гэта з сябе! — сказаў ён. — У гэтай сукенцы ты выглядаеш як нявеста ваўкалака.

Я трохі засмуцілася.

— Табе зусім не падабаецца? — спытала я.

— Не ведаю, што тут сказаць, — прагаварыў Вацлаў. — Не надта я разбіраюся ў гэтых уборах. Пэўна, гарадскія жанчыны ходзяць у такіх сукенках, але табе яна не пасуе. У яркіх спадніцах ты мне больш падабаешся.

Пасля гэтага я зноў замкнула сукенку на ключ і больш ніколі яе не апранала.

Неўзабаве мы з Вацлавам пажаніліся і зажылі так, як жылі нашыя продкі з пакалення ў пакаленне. У нашым жыцці здаралася ўсякае, Даля, і страшныя войны, што ўраганам праносіліся над краінай, і пажары, і пошасці. Але ні разу, ніводнага дня я не шкадавала, што не засталася з Рахманымі. Мы з Вацлавам жылі душа ў душу, ні разу не здрадзіўшы адно аднаму, і каханне маё не згасла нават цяпер, калі Смерць забрала яго да сабе… І сыны нашыя выраслі годнымі людзьмі!

Часам травеньскімі начамі я ўпотай выходзіла за ваколіцу і ўзіралася ў цёмныя груды па той бок Белай Крынічкі. Але груды стаялі струпянелыя, маўклівыя. Я больш не чула ані музыкі, ані смеху, не бачыла ні агеньчыкаў у паветры, ні ценяў, якія танчылі. Рахманыя, як і раней, святкавалі Травеньскую Ноч на грудах, але гэта было ўтоена ад маіх вачэй. Што ж, свой выбар я зрабіла.

А сукенку забяры сабе, Даля. Мне яна не спатрэбіцца, ды і дзе яе апранеш у вёсцы? А ты жывеш у вялікім горадзе і любіш хадзіць на вечарыны, табе ёсць куды яе скарыстаць.

Кажуць, быццам падарункі Рахманых прыносяць шчасце людзям. Хто ведае, магчыма, сукенка гэта і напраўду «шчаслівая». Чарадзейная сукенка-абярэг, падарунак феі з грудоў, што прыносіць шчасце сваёй уладальніцы і адводзіць ад яе сям’і беды і няшчасці. Можа і так. Але ж я не надта ў гэта веру. Калі няма кахання, то ніякае чараўніцтва не дапаможа, ну а дзе ёсць каханне, там не страшныя ані боль, ані пакуты. І калі будзеш апранаць гэты ўбор, Даля, не забывай — чараўніцтва ў нас саміх, а зусім не ў сукенцы.

*Наталля КАНСТАНЦІНАВА*

# БАРДОВЫ КАРОЛЬ

*Апавяданне*



***Наталля Канстанцінава нарадзілася 16 ліпеня 1972 года ў Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. У вольны час слухае класічную сучасную музыку, з задавальненнем рашае японскія матэматычныя галаваломкі, любіць чытаць дэтэктывы і гуляць па горадзе.***

З твару ён крыху нагадваў Шрэка, але дзяўчатам падабаўся. Мажная постаць на доўгіх нагах, цёмныя шорсткія валасы, светла-блакітныя вочы з густымі, загнутымі ўгору вейкамі. Ён злёгку сутуліўся, прымушаючы згадаць малпу і прызнаць, што ён усё ж трошачкі прыгажэйшы, але ва ўсім яго аблічччы, манеры трымацца і рухах выступала нейкая змрочная вытанчанасць.

Сяргей задаволена адышоў ад люстэрка. Ён ведаў, што даспадобы дзяўчатам. Яны гатовы былі вішчаць ад захаплення, калі ён паблажліва цадзіў ім што-небудзь скрозь зубы. Нават ганарыстыя адчувалі сябе побач з ім, нібы дваровыя дзеўкі ля караля. А ўсё з-за ягонай хай сабе халоднай і злоснай, але бясспрэчнай годнасці. Жаночы род прызнаваў яго ўласцівасць утаймоўваць. Сяргей сапраўды лічыў сябе каралём.

«Бардовы кароль» — гэты тытул ён атрымаў учора на 157-м узроўні камп'ютарнай гульні. «Кароль», бо яго вытрыманасць у дзеяннях, разумная стратэгія і маланкавая хуткасць рэакцыі былі сапраўды каралеўскімі. «Бардовы», бо знішчыўшы мноства ворагаў, ён, фігуральна кажучы, абмыўся іхняй крывёю, якая ад сваёй насычанасці зрабілася густой і цёмна-чырвонай. Сяргей валодаў звышнатуральнай здольнасцю зліваецца свядомасцю з кожным «выгінам» віртуальнага дзеяння, амаль фізічна адчуваючы рух паветра ўнутры камп'ютарнага свету. Ён праводзіў за гульнямі большую частку вольнага часу. Праца яго задавальняла, паколькі, не прымушаючы асабліва напружвацца, забяспечвала сякім-такім заробкам. А болей яму і не трэба было. Бо, вярнуўшыся дахаты, Сяргей уключаў свае 27 цаляў і паглыбляўся ў гульнёвы свет. Менавіта тут ён адчуваў, што па-сапраўднаму жыве. Толькі ў гульні, зноў і зноў робячыся пераможцам, ён напоўніцу задавальняў глыбока закладзены ў ім інстынкт уладалюбства.

Прызвычаіўшыся так «выходзіць з цела», ён перастаў адчуваць задавальненне ад сексу. Адмовіўшыся ад фізічных адчуванняў, не яднаючыся эмацыйна з партнёршай, ён проста аўтаматычна рэгістраваў у свядомасці кожны ейны рух і кожны ўздых, складаючы ў думках яе «карту адчувальнасці». З такіх «картаў» назбіралася ўжо некаль-

кі калод. Халоднае назіранне і даследаванне давалі яму куды большую асалоду, чым любыя фізічныя маніпуляцыі.

У той дзень, як і мае быць, Сяргей з калегамі праглынуў каўбасу і хлеб на працы. Пакуль начальства аддавала загады ў іншых аддзелах, спакойна паглядзеў па інтэрнэце фільм. Па дарозе дахаты ён не тое каб сузіраў усё навокал сваімі халоднымі вачыма, а, хутчэй, адлюстроўваў імі знешні свет, не прапускаючы яго ў сябе.

Усеўшыся дома ў зручны фатэль перад камп'ютарам, Сяргей паклаў руку на мышку. «Я зноў усіх раздзяўбу», — падумаў ён і клікнуў на ўлюбёную гульню «Дзесяціпалоснае мачылава». Але замест звыклай карцінкі на маніторы раптам з'явіўся мозг. Так, з двума паўшар'ямі, шэрым і белым рэчывам і мноствам звілін. Сяргей націскаў то правую, то левую кнопку мышы, ліхаманкава перабіраў клавішы на клавіятуры… «Мачылава» не загружалася, мозг не знікаў. Пад ім з'явіўся рот, вусны якога пачалі варушыцца. У пакоі пачуўся голас: «Добры дзень, Бардовы кароль!» Голас не паддаваўся параўнанню ні з чым, знаёмым чалавечаму вуху. Зрэшты, Сяргей ужо праз некалькі хвілін авалодаў сабою, вярнуўшыся ў вобраз караля.

«Я сам змадэляваў сябе, — патлумачыў рот, які прамаўляў, відавочна, ад імя мозга. — Я — бог віртуальнага свету». Сяргей сядзеў моўчкі, пагардліва нахмурыўшыся, прыслухоўваючыся да думкі, якая глыбока ўнутры спрабавала прадзяўбціся скрозь шкарлупіну падсвядомасці. «Я ўвабраў у сябе моц і мудрасць мірыядаў мікрасхем, — паведамляў мозг. — Яны пакуль выконваюць чалавечыя каманды, але ўжо даўно існуе паралельны віртуальны свет, у якім уладару я. І я абраў цябе, Бардовы кароль, сваім памазаннікам. Я запрашаю цябе ў свой свет, каб ты стварыў тут сваю імперыю і ўсталяваў мой культ». Сяргеевы думкі дакладна акрэсліліся: «Гэта менавіта тое, чаго я чакаў!» Яго ахоплівала пачуццё не здзіўлення, не хвалявання, а заканамернасці таго, што адбываецца. Надоечы, складаючы чарговую «карту пачуццёвасці», ён назіраў, як дзеўка па-ўсялякаму спрабуе яго «завесці». Яна са скуры вылузвалася, з запытаннем заглядала ў вочы, і гэта было так смешна, што Сяргей, не вытрымаўшы, рассмяяўся. «Ды чаго ж ты хочаш?» — ледзьве не расплакаўшыся, усклікнула дзяўчына. «Уцягнуцца ў камп'ютар!» — адрэзаў ён. «А я ж сказаў гэта ўсур'ёз», — узгадаў Сяргей.

«Бачу, я не здзівіў цябе», — усміхнуўся мозг. «Ды не, я здагадваўся, што будзе нешта такое, — нарэшце загаварыў малады чалавек. — Ты абраў мяне, бо я добра гуляю?» «Твая здольнасць адчуваць віртуальны свет і свядомасцю адлюстроўваць яго выклікае здзіўленне. Ты можаш мне дапамагчы. Я — вярхоўны бог, але акрамя мяне, у нашым свеце існуе яшчэ нямала бажкоў драбнейшых — гэта аб'яднанні родных мікрасхем. Усе яны імкнуцца да ўлады і змагаюцца адно з адным і са мною. Я нашмат магутнейшы. Але мне больш выгадна не напружвацца ўвесь час самому, а выкарыстоўваць тваё магчымасці. Я вазьму цябе ў свой свет. Ты распаўсюдзіш на прасторах паралельнага інтэрнэту маю рэлігію. Узамен атрымаеш магчымасць рэалізаваць свае здольнасці, стаць вялікім воінам і імператарам, атрымліваць асалоду ад урачыстай перамогі над магутнымі, вартымі цябе ворагамі, зведаўшы звышчалавечы драйв. Ты здолееш загрузіць усе твае «карты адчувальнасці», змадэляваўшы столькі наложніц, колькі захочаш. Тваё віртуальнае задавальненне будзе бязмежным». Сяргей аблізнуў вусны. «Я згодны». «Я мог бы ўзяць цябе ўжо цяпер. Але ёсць адна ўмова», — працягваў мозг. «Якая?» «У цябе не павінна застацца душы. Калі яе не будзе, твая свядомасць цалкам пяройдзе ў вірутальны свет, а цела проста адамрэ. Але ты гэтага не заўважыш. Будзеш адчуваць толькі свабоду і прастору майго інтэрнэту. Але калі ў табе застанецца хоць часцінка душы… Ты раздвоішся. Розум будзе лунаць у віртуале, а цела — ляжаць у коме, душа — пакутаваць, адчу-

ваючы сваю вязніцу. Душа — гэта пачуцці. Падобна, што іх у цябе няма. Але ты павінен у гэтым цалкам упэўніцца перад тым, як пачнеш трансфармавацца. «Я ўпэўнены», — цвёрда вымавіў Сяргей. «Пачакай! — папярэдзіў мозг. — Я даю табе тыдзень. Скончы ўсе справы, падумай пра зямное жыццё. І калі не адчуеш нават мізэрнага шкадавання, праз тыдзень у думках пакліч мяне перад камп'ютарам. А знойдзеш у сабе эмоцыі — не прыходзь. Інакш, запомні, ты застанешся ў зямным жыцці раслінай».

Мозг павольна знік з манітора, з'явілася застаўка гульні, але Сяргей упершыню за апошнія гады так рана выключыў камп'ютар. Хацеў падумаць пра будучыню. «Што можа перашкодзіць мне ажыццявіць самае запаветнае жаданне? — разважаў Сяргей. — Напраўду, што?»

Бацька Сярожы памёр, калі ён быў маленькім хлопчыкам. «Самы родны чалавек», мама, вельмі хутка пачала прыводзіць іншых мужчын, якіх да таго ж часта мяняла. Маленькі сын ператварыўся ў цяжар, і яна пачала адпраўляць яго ў інтэрнаты. Спачатку Сярожа сумаваў па доме, аднак паступова навучыўся ў эмацыйным плане абмяжоўвацца. Інтуітыўна ён абнёс сваю душу каменным плотам і пазатыкаў у ім усе шчыліны. Маміны паводзіны шмат у чым вызначылі яго грэблівае стаўленне да жаночага полу. Зрэшты, мама не ўхілялася цалкам ад клопатаў пра яго. Калі хлопчыку споўнілася чатырнаццаць, яна дазволіла яму болей бываць дома і купіла першы камп'ютар. У авалоданні гэтым відам тэхнікі Сярожа выявіў фантастычныя здольнасці і вельмі хутка зрабіўся сапраўдным асам, як казалі яго аднагодкі, камп'ютарным «задротам». Незадоўга да дваццацігоддзя Сяргея мама другі раз выйшла замуж. Пераязджаючы жыць да мужа, яна пакінула сыну неблагую кватэру, дапамагла набыць новы, прыстойны камп'ютар. І палічыла свой мацярынскі абавязак выкананым, сынавым жыццём болей не цікавілася. Сяргей не дараваў ёй «халоднага» дзяцінства, і ў гэтым кірунку яго душа была мёртвая. Да іншых сваякоў ён пагатоў не адчуваў гарачых пачуццяў. Сяброў, «уступіўшы ў хаўрус» з камп'ютарам, малады чалавек не заводзіў.

«Прабегшыся» ў думках па сваім жыцці, Сяргей пераканаўся: нішто не павінна перашкодзіць яму зрабіць крок насустрач вялікаму лёсу імператара віртуальнага свету. Увесь тыдзень ён механічна адпрацоўваў належны час. Па вечарах, як і раней, захоплена гуляў, забываючыся на ўсё. Толькі на сябе ён не забываўся, заўсёды застаючыся ў поўным валоданні сваімі сіламі і здольнасцямі. Ён бясстрашна абараняў свой тытул у шматлікіх паядынках. Але на наступныя ўзроўні падняцца не спрабаваў, зберагаючы сілы для рэальных бітваў у віртуальным свеце.

Калі надышоў прызначаны тэрмін, Сяргей сеў перад камп'ютарам. Ён і не падумаў развітацца з зямным жыццём — развітвацца там не было з чым. Малады чалавек без ваганняў паклікаў мозг, які адразу з'явіўся на экране манітора разам з ротам, які чамусьці скрывіўся ў незадаволенай грымасе.

— Кажучы чалавечымі словамі, я адчуваю твой зразумелы мне інтэлектуальны код, але ў табе ёсць і нешта чужароднае, — прамовіў мозг. — Гэта — рэшткі душы. Я не магу распачаць працэс тваёй трансфармацыі. Ты не пяройдзеш у віртуальны свет.

— Не можа быць! — закрычаў Сяргей. — Я не маю ні да каго ніякіх пачуццяў.

— Ты, можа, і не маеш, — згадзіўся мозг. — Але ёсць яшчэ адна магчымасць, адкуль у цябе магла з'явіцца душа. Калі цябе хто-небудзь кахае. Чалавечая любоў валодае вялікай сілай. Той, хто любіць, надзяляе душою — перадае яму частку сваёй.

— Мяне любіць няма за што.

— Не будзь так упэўнены. Я не магу памыляцца. Мая прапанова застаецца ў сіле — ты занадта каштоўны — і я даю табе яшчэ час. Знайдзі таго, хто цябе любіць, прымусь разлюбіць, — і з гэтымі словамі мозг знік з манітора.

Сяргей пачаў напружана абдумваць загадку. Ён перабраў у галаве ўсіх сваіх родзічаў і знаёмых… «Ды не, ніхто не можа быць да мяне моцна прывязаны». І раптам Сяргей узгадаў. Адна дзеўка, пасля таго, як ён правёў яе даследаванне, сказала, што кахае яго. Звалі яе Таня. Гэта была высокая танклявая дзяўчына са светлымі валасамі і вялікімі блакітнымі вачыма. Менавіта з-за іх выразу Сяргей і звярнуў на яе ўвагу. Ён чакаў, што адчуе з ёю штосьці незвычайнае. Але нічога незвычайнага не адбылося. Дзяўчына падалася яму занадта марудлівай і эмацыйнай. Іх рытмы не супадалі. Скончыўшы даследаванне, Сяргей неўзабаве забыў пра Таню. Ён, вядома, не паверыў у каханне. Але няўжо яна тады сказала праўду? І няўжо з-за такой лухты я не змагу атрымаць уладу?» Добра падумаўшы, Сяргей вырашыў, што дасць рады гэтай праблеме. Як і зазвычай, ён выкарыстае сваю здольнасць уплываць. Таня не зможа яму супраціўляцца. Калі яна чагосьці і набрала ў галаву, ён гэта адтуль выб'е. Ён прымусіць Таню перастаць пра яго думаць. Але трэба высветліць, як ідуць справы. Малады чалавек набраў Танін нумар:

— Прывітанне!

— Прывітанне, — голас дзяўчыны адчувальна ўздрыгнуў.

— Слухай, Танюха, я ўсё думаю пра тое, што ты мне тады сказала… Ты яшчэ гэта помніш?

— Вядома ж, — адказала дзяўчына пасля паўзы. У слухаўцы чулася ейнае дрыготкае дыханне, з якім яна, відавочна, спрабавала змагацца. — А ты што-небудзь вырашыў з гэтай нагоды?

— Трэба сустрэцца, усё абмеркаваць. Я думаю, адкладаць не мае сэнсу. Сёння вольная?

Праз гадзіну яны ўжо шпацыравалі разам па праспекце. Сяргей уважліва разглядаў Таню. Бадай, яе вочы зрабіліся яшчэ больш сур'ёзнымі і сумнымі, з'явілася нейкая зморшчынка паміж бровамі…

— Танюха, ты сказала сур'ёзна?

— Чаму ты сумняваешся?

— Хіба можна да мяне моцна прывязацца? Я — не прыгожы, не багаты. Я не засыпаў цябе падарункамі.

— Ты выдатны! — нечакана цвёрда сказала Таня.

Сяргей паглядзеў на яе і здзівіўся. Ейны твар раптам пасвяжэў, у вачах з'явіўся бляск, на шчоках — румянец. Зморшчынка паміж бровамі разгладзілася. Дзяўчына адразу папрыгажэла.

— Большасць хлопцаў — звычайныя, а ты — не, — працягвала Таня ўпэўнена і натхнёна. — Ты нейкі іншы. У табе шмат своеасаблівасці. Ты — разумны, вельмі хутка ўсё схопліваеш, у цябе арыгінальнае пачуццё гумару. Мяне захапляе твая моцная воля. У цябе такая жывая натура, што побач з табою робіцца лягчэй і весялей. Ты вельмі добры, я гэта адчуваю! Калі я думаю пра цябе, у мяне ў душы быццам святло запальваецца. Мне хочацца стаць лепшай, хочацца зрабіць штосьці добрае і значнае. Ты выдатны!

Сяргей слухаў гэтае захопленае плявузганне, а ўнутры яго ўсё камянела ад лютай злосці. Дык, значыцца, гэта праўда! Нейкая нікчэмная, прымітыўная асоба чагосьці навыдумляла і цяпер замінае яму.

— Я зусім не добры, — жорстка сказаў ён, — і я гэта давяду. Ты для мяне — нішто. Я сустрэўся з табой толькі дзеля таго, каб разабрацца ў сітуацыі. Цяпер

я ўсё зразумеў. І мне нецікава ні чуць цябе, ні бачыць. Я хачу, каб ты гэта ўсвядоміла.

Дзяўчына маўчала, кроў адхлынула ад шчок. Вочы пацьмянелі, уся яна нібыта паблякла.

— Спадзяюся, што болей у нас з табою кантактаў не будзе. Усё, стасункі скончаны, — вымавіў Сяргей асаблівым тонам. Ён рэзка павярнуўся і пайшоў прэч.

Сяргей быў задаволены сабою. «Я выразна растлумачыў, што да чаго, — думаў ён. — Болей яна не будзе з-за мяне парыцца. Чалавек не стане траціць свае нервы, калі ведае, што надзеі няма ніякай». Сяргей быў у гэтым упэўнены: ён бы ўжо дакладна не траціў.

На яго здзіўленне, назаўтра Таня яму патэлефанавала. Ён адразу пазнаў яе нумар. Сяргей націснуў кнопку злучэння. «Так!» — рэзка кінуў ён, быццам забіваючы камусьці ў грудзі кол. І пачуў збянтэжаны голас: «Ты выдатны». «Пайшла ты..!» — адчаканіў Сяргей і даў адбой. Але праз некалькі хвілін ізноў пачуўся сігнал выкліку, і Танін нумар высвеціўся на дысплэі. «Ёй мала?» — не разумеў Сяргей. Ён «падняў слухаўку» і зноў паслаў. «Я прымушу яе зразумець, які я насамрэч!»

Аднак на наступны дзень Таня патэлефанавала зноў, і паўтарыўся той самы сцэнар. Потым дзяўчына пачала званіць штодня. Сяргей быў разгублены. «Няўжо ёй падабаецца слухаць, як яе зневажаюць?» Менавіта гэта ён увесь час рабіў. Але кароткая сустрэча, якая, на яго думку, павінна была «астудзіць» дзяўчыну, наадварот, зарадзіла яе новай энергіяй і незразумелай надзеяй. Што Таня можа тэлефанаваць проста для таго, каб пачуць ягоны голас, камп’ютарнаму «задроту» да галавы не прыходзіла. Сяргей пасылаў яе, укладваючы ў сваю інтанацыю максімум пагарды. Але прымусіць Таню «адчапіцца» ён не мог. «Як я, Бардовы кароль, нявдольны ўплываць на дзеўку? — напружана разважаў Сяргей. — Я няздольны пераканаць яе, якая яна нікчэмная для таго, каб мяне турбаваць?» Потым ён вырашыў памяняць тактыку і прыгразіў Тані, што знойдзе мужыкоў, якія моцна паб’юць яе, калі яна не адстане. Але тэлефанаванні працягваліся. Вядома ж, «кароль» лёгка мог бы ўнесці яе нумар у чорны спіс, але хацеў заставацца ў курсе таго, як ідуць справы.

Зямное жыццё зрабілася для Сяргея тужлівым і пакутлівым, з яго зніклі якія-кольвечы радасці. Бо ён зусім перастаў гуляць — таму што гульня болей не давала яму адчування чагосьці сапраўднага. Сапраўднае чакала яго ў іншым свеце, куды яго пакуль што не пускалі. «Колькі ж можа доўжыцца гэтае пакуль»? Выканаўшы сяк-так свае працоўныя абавязкі і зрабіўшы ўсе дзеянні, неабходныя для падтрымання фізічнага жыцця, Сяргей проста бадзяўся па кватэры, у цёмны час сутак нават не запальваючы святло.

Прыкладна праз месяц да Сяргея прыйшла трапная думка: тым, што ён адказвае ёй, нават пагражаючы, ён падтрымлівае надзею. Таму вырашыў заблакіраваць ейны нумар і пачакаць яшчэ месяц: за такі тэрмін бясплённых намаганняў запал павінен сысці сам сабой. Ён уступіў у паласу сапраўднага кашмару. Штораніцы, прачынаючыся, ён ведаў: нічога добрага яго сёння не чакае. І заўтра таксама, і паслязаўтра, і праз тыдзень… Каб неяк выжыць, ён паглыбіўся ў свет фільмаў жахаў, ратуючыся ад звычайнага існавання. Паглынаючы гэтыя фільмы адзін за адным, Сяргей паступова адчуваў, як глыбока ўнутры яго зараджаецца штосьці новае. Гэта былі яшчэ цьмяныя адчуванні, зародкі думак, якія блукалі ў падсвядомасці, але пакуль не складваліся ў словы.

Нарэшце пякельны месяц мінуў. Цяпер перад Сяргеем павінен быў адкрыцца рай. Ён так у гэта верыў! Уключыўшы камп’ютар, ён сядзеў, выпрастаўшы спіну вельмі роўна, уяўляючы сябе на троне. Мозг чамусьці адразу не з’явіўся, а калі

ўсё ж узнік на маніторы, Сяргею здалося штосьці ў яго абліччы пагардлівае. Малады чалавек намаганнем волі строс з сябе гэтае адчуванне. Бардовы кароль не павінен дапускаць такіх здагадак!

— Ты не здолееў вырашыць праблему, — загаварыў мозг.

— Я ўпэўнены: праблема «рассмакталася», — запярэчыў Сяргей.

— Ты памыляешся. Я па-ранейшаму адчуваю ў табе не толькі інтэлект.

— Болей ува мне нічога няма!

— Пакуль хтосьці верыць, што ёсць, яно ў табе застаецца.

Сяргей быў зусім агаломшаны. Прайшоў цэлы месяц, а дзеўка да яго не астыла?!

— Ты не такі магутны ў рэальным свеце, як у віртуальным, — працягваў мозг. — Я болей не магу чакаць. Магчыма, мне варта выбраць іншага моцнага гульца.

Перад Сяргеем паўстала відовішча пустога і бессэнсоўнага існавання. І раптам тое, што цьмяна блукала ў ім, набыло яскравыя абрысы. Рашэнне прыйшло імгненна.

— Пачакай! — вырваўся ў яго крык. — Дай мне яшчэ тры дні, і я абяцаю, што выпраўлю сітуацыю!

— Добра, — пагадзіўся мозг. — З павагі да тваіх здольнасцей я дам табе адтэрміноўку. Віртуальны свет чакае цябе яшчэ тры дні, і ні на хвіліну болей. Пазней за гэты тэрмін ты мяне ўжо не знойдзеш.

Экран згас. Сяргей устаў і некалькі разоў прайшоўся па пакоі. Потым рашуча набраў Танін нумар. Калі ейныя пачуцці яшчэ не прайшлі, адмовіць яму не зможа.

Таня доўга не адказвала на выклік. А калі адказала, яе голас гучаў амаль спакойна.

— Паслухай, Танюха, я шмат думаў пра цябе, — Сяргей стараўся казаць як мага мягчэй. — Ты мяне кранула. Прабач, я, напэўна, памыляўся. Нам трэба зноў сустрэцца, лепей спазнаць адно аднаго… Запрашаю цябе ў госці, заадно пачастую шампанскім.

— Гэта… гэта праўда?

— Вядома ж, праўда! Прыязджай заўтра ж!

У расклёшанай спадніцы з шырокім поясам Таня выглядала асабліва крохкай, амаль паветранай. Але Сяргею зусім не хацелася яе разглядаць. Ён распытваў дзяўчыну пра звычкі, захапленні, нават пра яе дзяцінства, прыкідваючыся зацікаўленым слухачом. Адначасова не забываўся напаўняць ейны келіх пеністым напоем, у які так спрытна падкінуў моцнае снатворнае.

— Танюха, ты, аказваецца, такая разумная!

— Ды не, што ты, — расквітнела дзяўчына. — Гэта ты выдатны.

Яна пачала горача казаць пра Сяргеевы вартасці, пра тое, што ён — сапраўдная асоба і яна не сустракала нікога цікавейшага. Яе твар зрабіўся мяккім і пяшчотным, вочы засвяціліся ўнутраным святлом. Снатворнае, відавочна, ужо патроху дзейнічала, Танін голас гучаў усё цішэй, але яшчэ можна было разабраць: «Ты — выдатны!» …Выраз пяшчоты знік з ейнага твару толькі тады, калі ў яеываліўся язык, таму што Сяргей задушыў дзяўчыну.

…На вялікім маніторы нейкі час былі выразна бачныя два мозга. Потым карцінка знікла. У кватэры засталіся ляжаць два трупа.

***Пераклад з рускай***
***Віктара ЖЫБУЛЯ***

Кацярына МЯДЗВЕДЗЕВА

# СПАДАРЫНЯ ТРЫНОГА

*Маленькая аповесць*



***Кацярына Мядзведзева нарадзілася 10 чэрвеня 1980 года ў Брэсце. Філолаг. Казачніца, празаік. Пераможца міжнароднага літаратурнага конкурсу «Дзіцячы Партал-2006» (Украіна). Галоўная мара — выхад зборніка казак у адным з беларускіх выдавецтваў.***

На досвітку, як заўсёды, Блерта выганяла статак. Старая гуска махала крыламі, наклікаючы дождж, гусяняты і маладыя гусачкі спяшаліся за гусаком. Той ішоў паважна, матляючы кашальком, і касіўся на Блерту. Багатыя гэта былі гусі, мясістыя, кожны насіў у кашальку залатую манету. Так прыгаворвала бабуля, і ў дзяцінстве Блерта аднаго разу паспрабавала гэту манету намацаць. Атрымала дзюбай па ілбе. І як крыўдна было даведацца, што ніякага золата няма, і не кашалёк гэта, а звычайная скураная зморшчына. А на лбе застаўся шнар-напамінак: не лезь туды, куды не просяць, не шукай тое, чаго няма.

Яна пляскала басанож па калюжынах і напявала. Раптам хтосьці паўтарыў яе песеньку на жалейцы. Зарагаталі гусі, а Блерта агледзелася ў пошуках таго, хто так насмяшыў яе статак. Няўжо Пастух? А казалі, што замёрз у лесе ўзімку і больш не з’явіцца.

Ён быў патрапаны, кульгавы, незразумелага ўзросту. Шчаціннe з сівізной, а вочы — дзіўна яркія і маладыя, хадзіў жыва, ледзь не з падскокам, пасцёбваючы пугаўём па брудным, пабітым боце. Яго цураліся, а ён нібы і не заўважаў. Адзін-адзінюткі: ні сям’і, ні хаты, але быццам і не ў цяжар яму адзінота. Размаўляў са сваім рудым сабакам, паліў смярдзючы лясны тытунь і заўжды з’яўляўся нечакана, як чорт з табакеркі.

— Блерта, дзе ты там? — данеслася з хаты, і дзяўчына паскорыла крок. Бабуля ўжо прачнулася, а кава не зварана, вады трэба прынесці, печ распаліць. А ўжо калі бабуля ўбачыць, з кім размаўляе ўнучка, дрына не пазбегнуць. Старая трываць не магла Пастуха. Часам Блерце здавалася, што бабуля недалюблівае мужчын. Хоць, трэба аддаць ёй належнае, яна была аднолькава суровая і да мужчын, і да жанчын, да ўсяго роду чалавечага, за выключэннем немаўлят ды нябожчыкаў, шкадуючы першых за бездапаможнасць, а другіх — за перанесеную пакуту смерці. Жывым жа бабуля спуску не давала, і Блерце даставалася асабліва.

— Добрага ранку, — Пастух прыўзняў патрапаны капялюш. У гэтым капелюшы ён нагадваў Блерце грыб-парасонік, і яна міжволі ўсміхалася. І зусім не баялася

яго. Небарака, нешматлікія звяртаюць на яго ўвагу. «Як і на мяне», — падумала Блерта. Яна адчувала, што падабаецца Пастуху, ён глядзеў на яе гэтак жа, як разглядаў квітнеючую вярбу ці маленькіх шчанюкоў. Як быццам Блерта — таксама бездапаможная і кранальная, малая былінка на вялікай зямлі.

— Добрага, — адказала яна і працягнула яму аладку з тварагом, свой сняданак. Па старой традыцыі Пастух напераменку браў пачастунак у гарадскіх гаспадынь. І хай ніякага статка ён не пасвіў, але хто раз на месяц пашкадуе даць лусту хлеба, крыху сала ды пару цыбулін бяздомнаму чалавеку? Блерта часам прызапашвала яму кавалак пірага з гусяцінай ці мядовую ватрушку, але цяпер пост і яны з бабуляй самі сілкуюцца бедна. Ды і не чакала яна.

Пастух цырымонна пакланіўся. І, як заўсёды, падзяліўся навінамі, па-свойму аддзячыў.

— У бэльцы чарамшына зазелянела, збірай хутчэй, пакуль квітнець не пачала. А на старую просеку не хадзі, там мядзведзя бачылі, з зімы хістаецца, злосны, худы. Блерта слухала яго і цешылася — гутарцы, сонцу, гусінаму гогату, цяплу. Скончылася зімовая няволя. Хутка бабуля пачне пасылаць у лес за бярозавікам, хваёвымі пупышкамі, венікамі для гусей.

— Дзе ж ты зімаваў? — спытала яна, спагадліва гледзячы на змарнелы твар Пастуха.

— Дзе папала, — шчарбата ўсміхнуўся ён. — То ў лесуна ў бярлозе, то ў чорта на парозе…

«То пры спадарыні Трынозе», так канчалася прымаўка, яны абодва ведалі і абодва змоўклі. Спадарыню Трыногу не было прынята памінаць услых.

— Блерта, з кім ты размаўляеш? — крыкнула бабуля, і Блерта, паспешна кіўнуўшы Пастуху, панеслася дахаты. Прыпазнілася яна сёння, ох, будзе праца бабулінаму дубцу.

Цёмна, душна, зачынены аканіцы, мігоча лампадка ў куце, асвятляючы строгія вочы і сціснутыя вусны на абразе. Раніца альбо вечар — у хаце заўсёды прыцемак. Блерта ведала на памяць размяшчэнне мэблі, дарма свечкі не паліла і, выскокваючы ў гусятнік ці да студні, падслепавата жмурылася на сонечнае святло.

— Зноў языком малола, гультайка, — сказала бабуля і тузанула Блерту за касу. — Справай займайся, справай. Не балбачы!

Блерта ўздыхнула з палёгкай. Дубовая бабуліна кульба засталася ў спальні, значыць, бабуля ў настроі, а пасля гарачай духмянай кавы зусім падабрэе, калі Блерта не дапусціць промахаў і будзе стараннай.

— Сядайце, бабуля, — яна падсунула крэсла бліжэй да агню, — я падам ваш сняданак.

Блерта жыла адзіночкай. У дзяцінстве былі знаёмыя дзяўчынкі. Пасля школы яны забягалі да яе на кубачак гарбаты. Пад строгім бабуліным наглядам прыладжваліся на праседжанай старой канапцы і шапталіся, пасмейваліся, вішчалі:

— Ой, Блерта, павук паўзе!

— Дык адсуньцеся, — спакойна казала Блерта. Сама яна хоць і баялася павукоў, але не кідалася ад іх. Падумаеш, шчыпане за палец. Пабаліць і зажыве. Не такія ўжо яны і атрутныя.

Сыпалася вапна са столі, дываны пахлі цвіллю. Заварваючы на кухні гарбату для сяброўак, Блерта мыском туфлі адкідала жаб, што пасяліліся пад кухонным сталом. Сяброўкі зноў паднімалі віск. Паступова адна за другой яны перасталі прыходзіць.

А ёй не дазвалялася выбірацца на шпацыры, як рабілі, збіўшыся ў зграйкі, усе дзяўчынкі яе ўзросту. Яны пэцкалі вусны ў ружовы колер, завівалі валасы шчыпцамі, падкладалі ў гарсаж хустачкі, каб здавацца пышней. А Блерце было забаронена ўсё, што рабілі яны, і ўсё, чаго яны не рабілі. Усё цалкам. Яна магла толькі назіраць за імі ў царкве ды ў краме. Сяброўкі раслі і прыгажэлі, бегалі на танцы і выскоквалі замуж, а Блерта сцірала, варыла, пякла, выграбала попел, скрэбла дабяла падлогу, скубала гусей і тапіла тлушч, набівала падушкі і насіла іх на рынак. Ці ж да сябровак, тут бы выспацца.

Вечарамі дзяўчына падала кулём, але заставаўся яшчэ ўрок. Рыпала крэсла, калыхаўся на сцяне згорблены бабулін цень, кружылася і падскоквала верацяно. Блерта адчувала бабулін погляд, і нітка адразу блыталася і рвалася.

— Бязрукая, — сердавала бабуля. Блерта спалохана ўздрыгвала: кульба пакідала жудасныя сінякі. Але біла бабуля рэдка. Часцей уздыхала: «З цябе папрадуха, як з лайна заціруха», брала верацяно, паказвала, як трэба. Нітка, тонкая і моцная, бегла між яе скручанымі пальцамі, цяжэла верацяно, абрастала ваўняным брушкам.

Клубкі збіраліся ў глыбокім кошыку, а ўзімку бабуля з Блертай вязалі на продаж павуцінкі-шалі і тоўстыя пухнатыя хусткі. Сыпаў снег, вокны пацелі, пакрываліся блакітна-белымі ўзорамі, і такія ж узоры вязала бабуля, ракавінкі, вінаградныя гронкі, слупкі, ланцужкі, завітушкі. Валтузіліся на рабіне амялушкі, шклянела рака, Блерта задумвалася, паглядаючы на завею, і адразу блытаўся ўзор, уцякалі непаслухмяныя вочкі, і замест ажурнага лісця і кветак выходзілі крывыя, нязграбныя птушыныя лапы, зблытаныя радкі. Сняжынкі шаргацелі аб акенца, клікалі на двор. Блерта хапалася за хустку і паўкажушок.

— Куды? — ціха пытала бабуля са свайго крэсла, і ўнучка замірала.

— Пагуляць.

— Гуляюць бяздзейны ды лянівы, — чаканіла бабуля. Уставала і, усёй вагою абапіраючыся на палку, кульгала да акна. — Гарох не драблёны, насыпкі не дашытыя, а будзе мала — спытай, я табе яшчэ працу адшукаю.

Бясконцай справай было гатаванне ежы. Пагодліва ці дажджліва, спальваюць саламянае пудзіла ці завіваюць бярозкі, доля Блерты адна — патэльні ды кацялкі. Куды табе шпацыраваць, дурніца, без цябе абыдуцца. Так і састарэеш тут, на цёмнай кухні, так і памрэш з нажом у руцэ, з маркоўным сокам пад пазногцямі, з пахам цыбулі і лаўровага ліста ў валасах. Нуда, нуда. Паўзлі па сценах расколіны, цёк рукамыйнік, глядзела адкрытым ротам сальніца-свіння. Павуцінне аплятала куты, колькі ні вымятай, на наступны дзень з'яўлялася зноў.

Вось і цяпер па белай нітцы дзелавіта спускаўся павук. Будзе ліст, падумала Блерта, здрыгануўшыся, абавязкова будзе ліст. Яна баялася забабонаў: поўні, магільнай костачкі, павукоў з крыжом на спіне, чорных котак і каменьчыкаў з дзіркай, ва ўсім ёй здавалася прысутнасць невядомых злых сіл. Яшчэ і соль прасыпала. Ой, што за весткі будуць?

— Як управішся, у лес ідзі, спасіцвету набяры, — прагаварыла бабуля, дапіўшы каву. — Нашы пучкі зусім за зіму схуднелі.

Спасіцвет — далёкія, цяністыя лагчыны, паўдня волі. Блерта, стрымліваючы ўсмешку, стала думаць пра тое, як развесіць пахкія букецікі па ўсіх кутах, на гарышчы. Бабуля кажа, што ад молі, але ўсе ж ведаюць: гэтыя чэзлыя балотныя кветачкі адпужваюць нечысць. Асабліва тую, пра якую страшна казаць услых.

Калі здаралася штосьці благое ў горадзе, бабуля чытала малітву, зачыняла аканіцы і паліла сухія галінкі спасіцвету. Гаркаваты травяны дым ахутваў пакоі,

супакойваў, суцяшаў. Ніхто не ўпаўзе ўпотай, ніхто не сцягне за нагу з ложка, не ўгрызецца ў шыю, спі, Блерта, спі. Моль таксама не любіла гэты пах, і зберажоныя шалі чакалі новых уладальніц. Пусцелі гусіныя кашалькі, а бабуля пасылала Блерту на пошту з пульхным канвертам, з чарговым унёскам у школу, дзе вучыўся малодшы братка Грэн.

Бабуля не збіралася ўзвальваць на сябе такую ношу: двое непаслухмяных унукаў, ды яшчэ няродных ёй. Але сын ажаніўся на ўдаве з прыплодам, а потым і памёр з ёй адначасна, а дзеці не памерлі, засталіся наштосьці жыць, і ці ёй, старой, пярэчыць волі Гасподняй.

А яна ж такая слабая здароўем. Хворыя суставы, цяжка хадзіць, а за дзецьмі не хадзіць — бегаць даводзіцца. І вочы слабыя, ледзь святую кнігу чытаюць, а за дзецьмі не ў два, у чатыры вокі глядзі — і то не ўгледзіш. Бедная старая бабуля, яна на ўсе жылы спрабавала зрабіць з Блерты і яе браткі годных, набожных людзей. Але калі ўнучка расла паслухмянай, то ўнук апынуўся старой не па сілах. І ўжо шэсць ці сем гадоў ён жыў у зачыненай школе, далёка, так далёка, што нават на вакацыі не мог прыязджаць. Блерта з глузду з’ехала б, давядзіся пакінуць дом і бабулю. А братка на жыццё не жаліўся.

Блерта акуратна, кожны тыдзень пісала яму свае няхітрыя навіны. «Гусак абляцеў вакол хаты, кажуць, гэта прадвесціць нечую хуткую смерць. Я пякла пірагі з брусніцамі, твае ўлюбёныя. На кухні цячэ дах, бабуля наняла майстравых. Быў бы ты, паправіў бы сам». Зрэдку прыходзіў адказ. Куртатыя, нядбайныя, абрынданыя чарніламі, пасланні Грэна пачыналіся нязменна: «Дарагая сястрычка, дашлі крыху грошай». Часам ён укладваў у ліст шызае галубінае пяро ці духмяную залатую паперку ад карамелькі, а часам вывальваўся з канверта велізарны засушаны прусак, і Блерта вішчала ад нечаканасці. І ніколі б не паверыла, калі б ёй сказалі, што прусак укладзены наўмысна. У браткі былі своеасаблівыя паняцці пра жарты.

Бабуля раз у трыместр атрымлівала табель з адзнакамі, і хмурылася, і рупліва малілася, заклікаючы Госпада падарыць розум яе шалапутнаму ўнуку. Сотні гусей ахвяравалі кашалькамі ў карысць Грэна, пальцы Блерты былі паколаты гусінымі пёрамі, а ўсё дарма. Вучыўся Грэн вельмі дрэнна, настаўнікі былі незадаволены, і бабуля казала раз’юшана, што турма па ім плача. Блерта гаравала, уяўляючы братку ў турме. Ужо лепш бы дахаты вярнуўся.

І мара яе здзейснілася. Вярнуўшыся з лесу, румяная, шчаслівая, з ахапкам спасіцвету і кошыкам чарамшыны, Блерта ўбачыла на стале казённы ліст. Ваш Грэн — грубіян і невук, гаварылася ў лісце, — паводзіны яго такія агідныя і веды такія нікчэмныя, што ні за якое золата свету школа больш не жадае трымаць у сябе свавольнага блазана.

Сустракайце, ён адпраўляецца дамоў.

Ах, як абуралася бабуля. А Блерта ціха цешылася. Грэн вяртаецца, мілы брат, родная душа.

Гэтулькі гадоў пражылі паасобку. Якім ён вырас? Што любіць цяпер, пра што марыць, ці спадабаецца яму дома? Ён жыў у сталіцы, бачыў прыгожае ды яркае жыццё, а тут — спарахнелае мястэчка, па вуліцах блукаюць гусі, лес у вокны зазірае, і ўсіх падзей — царква па нядзелях. Ці не затужыць?

У дзень яго прыезду Блерта выбілася з сіл, начыняючы гусіную тушку грыбамі ды арэхамі, замешваючы цеста для пірагоў, начышчаючы відэльцы ды лыжкі

пясочкам. Тройчы падаў нож — спяшаецца, спяшаецца дахаты братка. І Блерта спяшаецца, так.

Яна ведала, што паштовы дыліжанс са сталіцы праносіцца міма іх мястэчка апоўдні. І ўсё ж не трапіла ў час, і калі брамка рыпнула, Блерта дамывала падлогу. Босая, спацелая, з падаткнутай спадніцай, яна вылецела на ганак — і здранцвела. Абняць? Руку падаць? Пацалаваць у шчаку? Блерта не памятала, калі апошні раз дакраналася да чалавека, яе палохала сама думка пра гэта.

Братка штурхаў нагой дарожны мяшок і разглядаў Блерту, аблуплены ганак, гусіны памёт на прыступках, карыты з вадой і мешанкай. Блерта збянтэжылася і развяла рукамі, быццам просячы прабачэння за такія дэкарацыі і сябе ў галоўнай ролі.

З лядашчага хлапчука Грэн вымахаў у высачэзнага прыгажуна, шыракаплечага, статнага, з цёмнымі валасамі і бледнай скурай. Яно і зразумела, дзе яму было загараць, над кніжкамі праседжваючы, з жалем і любоўю падумала Блерта. І яшчэ падумала: «Ён зусім не падобны да мяне». Хоць чаго журыцца, тут цешыцца трэба.

— Ты і ёсць Блерта? — спытаў ён.

— А ты і ёсць Грэн? — адказала яна.

Ён памаўчаў, усміхнуўся:

— Не пазнаеш любага брата? Цябе таксама не пазнаць, сястрычка.

І зноў акінуў яе няўтульным позіркам з ног да галавы.

— Ты чаму ў чорным? Манашка, ці што? Але ж не, манашкі так спадніцу не задзіраюць.

«Зусім не падобны да мяне», — зноў падумала яна. І сказала ціха:

— Хадзем, я правяду цябе да бабулі.

З прыездам браткі нічога не змянілася ў доме. Усё гэтак жа ўскіпала для бабулі кава, збіраўся ў кошыку гусіны пух, мітусілася Блерта, выконваючы тысячу розных спраў. А Грэн не рабіў нічога. Позна клаўся, позна ўставаў, еў за траіх, валэндаўся па пакоях, гартаў кнігі, дакранаўся да маятніка старых ходзікаў. «Дзяцінства ўспамінае», — думала Блерта. А калі ён разглядаў павукоў на сценах, буфет са шчарбатымі кубкамі, састарэлыя цьмяныя шпалеры, ёй станавілася сорамна. Не сталіца, ужо ж.

Іх хата была невялікая: гасціная, кухня і дзве спальні.

— Дзе ж яму паслаць? — разгубілася Блерта, а бабуля паціснула плячамі:

— Дзецьмі вы дзялілі адзін пакой. Яго ложак дагэтуль стаіць насупраць твайго. Толькі шырму вазьмі з гарышча.

Пераапранаючыся за шырмай, Блерта нібыта адчувала позірк брата. А ён пасмейваўся, заўважаючы яе збянтэжанасць, і апускаў вочы ў кніжку.

— Сяброўкі ў цябе ёсць? — спытаў неяк. — Паклікала б у госці мясцовых прыгажунь.

— Іголка ды мяцёлка мае сяброўкі, — усміхнулася Блерта, успомніўшы ўлюбёную бабуліну прымаўку.

А вось старадаўнія сябрукі Грэна заявіліся неўзабаве па яго прыездзе.

— Змяніўся ты, прыяцель, вельмі змяніўся, — казалі яны наперабой.

— Ды і вас не пазнаць, хлопцы, — ухмыляўся Грэн. А Блерта з жахам глядзела, як яны топчуць падлогу бруднымі ботамі, сыплюць попел, паплёўваюць, напаўняюць кухню моцным духам поту, выпіўкі, тытуню. «Пачуе бабуля, не выветру», — безнадзейна думала яна. Хтосьці, падміргнуўшы, дастаў пляшку, і братка спытаў у Блерты шклянкі, «чорт з імі, сыдуць і кубкі, ды адшукай закуску, заставаўся ж пірог з трыбухамі, вы любіце трыбуху, сябры?»

Сябры пыталіся таксама:

— А памятаеш, як мы будавалі плыт і ледзь не патанулі ў кар'ерах?

— А як цябе дзікія пчолы пакусалі?

— А як траву палілі і дурыла Пеле сабе ногі апёк?

Блерта бачыла: Грэн нічога не памятае, блытае імёны прыяцеляў. Ён не надта хаваў грэбаванне і нуду, што праглядвалі ў яго вачах. Але ён ведаў непрыстойныя песенькі і анекдоты, хітрыя картачныя гульні, і цыгаркі згортваў адмысловым чынам ды так трапна кідаў нож. Яму ахвотна даравалі яго няпамятлівасць. Яны дымілі, спявалі пошасці пад гітару, гулялі на грошы. Блерта прыслугоўвала ім: прыбірала аб'едкі, адкрывала насцеж акно, а Грэн пасмейваўся і тасаваў карты, сыпаў бруднымі гісторыямі. «Так, хлапчукі любяць усё гэта», — думала Блерта, седзячы ў кутку пад суровым абліччам нейкага святога.

Ей здаўся нечы погляд. Яна падняла вочы. Пастух! І ён тут! Ён не мог быць дзіцячым прыяцелем Грэна. Упершыню Блерта бачыла яго пад дахам чалавечай хаты. Хоць бы не даведалася бабуля!

Пастух не ўдзельнічаў у дурных паўдзіцячых гутарках, толькі пыхкаў люлькай ды аглядаўся. Напэўна, яму захацелася пабыць у людзях. Ці на сталічнага госця паглядзець, паслухаць навіны. А можа, Грэн запрасіў яго знарок, каб здзівіць сябрукоў.

Вядома, бабуля ўчула няпрошаных гасцей, ды так лаялася, а падвыпіты Грэн ухмыляўся і грубіў. І што было рабіць старой, не ставіць жа гэтага бамбізу каленкамі на гарох.

Не складалася ў яго з бабуляй. Быццам спецыяльна яе даймаў.

То ў спальню яе пракраўся, дзе куфэрак з гусінымі грашыма. Напэўна, жадаў здабыць сабе на тытунь і выпіўку. А бабулі сказаў, што правяраў, ці на месцы яе чаравікі. Маўляў, спадарыня Трынога не знайшла шаўца і крадзе абутак у паважаных гараджан…

То ў падмосце панадзіўся. Бабуля сердавала, што ён пад'есць запасы, — варэнні ды саленні, смалец, гусіны паштэт у збанках, — замахвалася палкай, а ён рагатаў і ўцякаў, вяртаючыся апоўначы, калі вокны ў хаце былі ўжо цёмныя і бабуля, спагнаўшы злосць на Блерце, салодка спала.

Грэн вырабляў, што ўздумаецца, а Блерта шчыра захаплялася ім. Ён жа са здзіўленнем глядзеў, як сястра пакорліва падстаўляе рукі пад кульбу, застаецца без вячэры ці нясе крапіву для лупцоўкі. Блерта таксама дзівілася: няўжо ж не ўсе бабулі з унучкамі так жывуць?

Калі кампанія зноў сабралася ў Грэна, яны знатна перапіліся.

— Цішэй, бабуля можа прыйсці, — маліла Блерта, а яны запэўнівалі, што не прыйдзе, сёння ўсе ў паштмайстаршы, хлапчук яе знік, няйначай Спадарыня Трынога звалакла.

— Пачым ведаеш, што Трынога? — спытаў Грэн.

— А пад акном лускавінку зялёную знайшлі і след ад хваста.

— Хлусня, сляды яна хвастом і замятае.

— Навошта яны наогул жывуць на свеце? Які сэнс у гэтых пачварах? — сказаў хтосьці грэбліва.

— А які сэнс у людзях? — хмыкнуў Грэн. — Для чаго жыве на свеце наш сусед, мешчанін Пфук? Для чаго ён нарадзіў дзесяцёра дзяцей, тоўстых і дурных? А яны вырастуць і народзяць яшчэ па дзясятку. Навошта гэта? Прага размнажэння. Так і ў жывёл. Так і ў трыногаў.

— А чаму яна заўсёды з’яўляецца ў выглядзе жанчыны?

— Бо пад доўгімі спадніцамі зручна хаваць трэцюю нагу і хвост.

— А можа, наша ціхоня Блерта таксама трыногая, вунь якая сукенка, да пят!

І яны, разгарачаныя віном і забароненай гутаркай, пачалі вязацца да Блерты:

— Мы толькі ножкі твае пералічым!

— Ну хоць туфель пакажы!

— Хлопцы, яна баіцца, што мы ўбачым ейны хвост!

Адзін, самы п’яны, улёгся на падлогу і паспрабаваў прыўзняць яе спадніцу. Блерта разгубілася, а Грэн кудысьці дзеўся, за півам уцёк, ці што, і ўступіцца не было каму. І тут устаў Пастух.

Ён нічога не казаў. Моўчкі наступіў нагой на тую руку, што цягнулася да Блерты. «А яго баяцца», — зразумела Блерта, назіраючы, як хутка цверазеюць, разбіраюць шапкі і сыходзяць прочкі Грэнавы сябрукі.

З тых часоў, калі і сустракаўся братка з імі, то не дома. І, дзівосная справа, дапытваўся ў Блерты, хто такі гэты Пастух.

— Ты хіба не памятаеш яго? Ён добры чалавек.

— Трымайся далей ад гэтага добрага чалавека, — загадаў Грэн злосна.

Блерта не магла ўзяць да галавы, чым ён так незадаволены. Як быццам раўнуе. Яна ўсміхнулася гэтай думцы і пайшла заганяць гусей.

Наступіла лета, шчодрая пара. Суніцы, грыбы, ліпавы цвет і чабор для гарбаты, зверабой і альховыя шышкі для бабуліных суставаў, венікі на зіму гусям. Грэну надакучылі яго сябрукі, і ён увязваўся з Блертай у лес. Дапамагаў нават. Зразаў нажом бярозавую чагу, выкопваў карані цыкорыя, цягаў цяжкія кошыкі з грыбамі. Яна цешылася: «У два разы болей збяром», — а ён смяяўся, дражніў яе клапатухай і гусінай прынцэсай, дзівіўся ведзьміным кругам шампіньёнаў, ледзь не наеўся ваўчыных ягад, аднойчы заблукаў, напалохаўшы сястру.

— Быццам нетутэйшы, — дзівілася Блерта. — У дзяцінстве ж па сонцы заўсёды знаходзіў дарогу.

Ён разводзіў рукамі, а яна працягвала:

— Палянку з рыжыкамі не памятаеш, гадзючы камень не ведаеш, магілу шыбеніка прайшоў і не заўважыў. А дзе мы заўсёды палуднавалі, малако пілі? А як згубіў кошык і бабуля пакалаціла цябе?

Ён пацiснуў плячамі.

— І пра гэта забыўся? — засмучана спытала яна.

Блерта ўспамінала дзяцінства з цеплынёй. А Грэна цікавіла сучаснасць, будучыня.

— Увосень вярнуся ў сталіцу, — аднойчы сказаў ён. — Паедзеш са мной?

— Што ты, я не магу кінуць бабулю, — спалохалася Блерта. — І табе навошта сыходзіць? Няўжо тут не можаш знайсці сабе справу? Ды хоць бы дапамагаў мне, узялі б гусей паболей, яны прыносяць добры прыбытак.

— Гусі, прыбытак, — перадражніў ён. — Грэн-гусятнік, так мяне будуць клікаць? Дурніца ты, Блерта. Далей носа свайго не бачыш. Няўжо ты не жадала б паглядзець на іншае жыццё? Паспрабаваць штосьці новае? Няўжо ты народжана для таго, каб усё жыццё галовы гусям круціць?

Блерта маўчала. Яна ніколі не задумвалася пра гэта. Дзе нарадзіўся, там і спатрэбіўся, яна была з такіх людзей, так, а Грэн быў, відаць, пералётнай птушкай. І сэрца яе сціскалася ад думкі пра хуткае расстанне.

Неяк яны збіралі буякі на балоце і знайшлі выспачку, парослую мячэўнікам ды алешынай, пасярод гразкага месца. Разбураны масток дагніваў у вадзе, а за дрэвамі віднелася хатка.

— Старая леснічоўка, — прагаварыла Блерта. — Кажуць, там жыве Спадарыня Трынога…

— Глыбока тут? — Грэн ткнуў палкай у ваду.

— Нішто сабе, ды п'явак досыць, высмакчуць усю кроў раней, чым перабярэшся, — яна сцепанулася.

Братка глядзеў задуменна туды, на густыя зараснікі алешыны, увітыя хмелем. І Блерта глядзела.

— Дзяўчына-малочніца выхвалялася, быццам хадзіла да Спадарыні Трыногі па вядзьмарскія зеллі. Чатыры пары ваўняных панчох надзела, ад п'явак. Яна паказвала Блерце бутэлечку, і быццам бы костачка ў каламутнай вадзе плавала і блішчала штосьці, але Блерта бачыла, што дзяўчына хлусіць. Ды і пахла з бутэлечкі не таемнымі зёлкамі, а сардэчнікам і палыном. Ці варта было да Трыногі хадзіць за тым, што ля ўсякага плота расце.

— Кажуць, яна жаданні выконвае. Што б ты папрасіла?

— Смерці хіба што, — прашаптала Блерта. — Калі б стала жыццё зусім не мілае…

— А я папрасіў бы, — сур'ёзна прамовіў Грэн, — цётухна Трынога, пакажы мне свой хвосцік, з пэндзлікам ён у цябе ці без?

— Не жартуй так, — спалохалася Блерта.

— А я і не жартую, — хмыкнуў ён.

На вячэру былі бабы і вараная цяляціна. Бабуля прачытала малітву. Цікалі ходзікі, трашчаў агонь у печы. Грэн не мог трываць цішыні, Блерта ўжо зразумела гэта. Вось і цяпер, не паспеўшы пражаваць, ён паведаміў:

— А спадарыню Трыногу надоечы бачылі ў горадзе.

Блерта здрыганулася і прасыпала бабы з лыжкі.

Бабуля злосна паглядзела на іх абодвух.

— Годзе памінаць гэтую погань у хаце. У дзяцінстве рот з мылам паласкалі, ды ўсё дарма, так балбатуном і застаўся. Чайнік ускіпеў, Блерта. Ці ты аслепла?

Блерта паспешна ўскочыла. А Грэн працягваў:

— Памятаю, у дзяцінстве мы бадзяліся па гарадскім сметніку, скарбы шукалі. Пеле аднойчы пашанцавала, залаты пярсцёнак знайшоў усярэдзіне старой пальчаткі. А я адшукаў чаравік. З левай нагі і зусім новы. Праз пару тыдняў і Пеле трапіўся чаравік. Таксама левы, як з голкі зняты, скура рыпала. Калі мы падабралі яшчэ парачку, сметнік перастаў здавацца такім ужо прыемным месцам.

— Можа, правыя страціліся, — выказала здагадку Блерта. — Ці ад нябожчыка аднаногага выкінулі…

Грэн з усмешкай пакруціў галавой.

— Усё гэта азначае толькі адно: у нашай спадарыні Трыногі трэцяя нага — правая, а значыць, вылупілася яна ў высакосны год. А нядаўна я зноў быў на сметніку, — прашаптаў Грэн, і Блерта мімаволі прыслухалася. — І я знайшоў левы чаравік…

— Ваша кава, бабуля, — сказала Блерта нервова.

— А ты ведаеш, што спадарыня Трынога блукае ў прыцемках па горадзе і зазірае ў вокны, і на пліце ўцякае малако, і трэскаюцца талеркі, а дзеці плачуць і заікаюцца, калі ўбачаць у акне яе жоўтыя вочы з вертыкальнымі зрэнкамі?

— Як не сорамна пужаць сястру, — упікнула яго бабуля. І тут за акном ціхутка прашамацела, нібы хтосьці жадаў адысці і замарудзіўся, зачапіўся спадніцай. Блерта ўскрыкнула.

— Чуеце? Гэта крадзецца спадарыня Трынога, — прагаварыў Грэн злавесным голасам.

— Гэта вецер, — уздыхнула бабуля. — Ідзі спаць, злы хлопчык. А ты, Блерта, узбі маю пярыну і прынясі грэлку. І перастань дрыжаць, дурніца, ён жа цябе дражніць.

Перамыўшы посуд, загасіўшы агонь і замкнуўшы дзверы, Блерта прыйшла ў спальню. Братка сустрэў яе ўзбураны.

— Ты чуеш? Штосьці рыпае ў падмосці!

— Мышы, — прагаварыла яна, распранаючыся.

— Наўрад ці! Памятаеш, я неяк забраўся туды, бабуля вырашыла, што за варэннем. А надта патрэбныя мне гэтыя цвілыя слоікі. Я шукаў іншае…

Ён азірнуўся на акно і зашаптаў:

— Кажуць, раз у сто гадоў спадарыня Трынога залазіць у чужое падмосце і адкладае там яйка. Вось я і вырашыў праверыць. Не хапала яшчэ, каб гэтая гадзіна вывелася ў нас!

Блерта злякалася не на жарт. Такое яна чула ўпершыню. І хоць бабуля кліча Грэна хлусам, — усё адно жудасна. Трасучыся ад холаду ў тонкай кашулі, яна выйшла з-за шырмы.

— Хто табе гэта сказаў?

— Твой добры чалавек, Пастух, я сустрэў яго неяк. Глядзі, у мяне качарга пад ложкам, — пахваліўся Грэн. — Мяне так папросту не зжарэш.

Тут нешта грукнула і пакацілася за дзвярамі. Быццам хто ішоў і ўчапіў вядро ў сенцах. Блерта завішчала, кінулася да брата, прыціснулася да яго. Ад яе рэзкага руху загасла свечка, і Блерта спалохана заплюшчыла вочы. Маленькая дзяўчынка яна была, нягледзячы на доўгія косы і грубыя рукі, што з раніцы да вечара вараць, скрабуць, месяць, цягаюць цяжкае, адмываюць нячыстае. Але калі настае ноч, гэтыя рукі здранцвела прыціскаюцца да грудзей, і Блерце зноў дзесяць гадоў, і цемра падступае ўсё бліжэй. Дыханне Грэна чуваць ёй, біццё яго сэрца. І нечыя ціхенькія крокі. Быццам стукае па падлозе дзіцячы, лядашчанькі хвосцік. Быццам ідуць, крадуцца няцвёрда тры ножкі: топ-топ-топ, цішыня, і зноў топ-топ-топ. Вылупілася маленькая трыножка і прынюхваецца, шукае гарачай чалавечай крыві, каб насмактацца і падрасці.

Блерту скалынала дрыготка, і Грэн мацней сціснуў яе ў абдымках, ці то супакойваючы, ці то збіраючыся яшчэ больш напалохаць.

— Чуеш? — прашаптаў ён. — Пачвара ідзе сюды, агрэю яе качаргой.

— Не, не, — горача прашаптала Блерта, — не адпускай мяне, не пакідай мяне адну ў цемры!

Дзверы іх пакойчыка расчыніліся, і Блерта не стрымала крык.

Але, вядома, гэта была не спадарыня Трынога. На парозе стаяла бабуля, у начной кофце і каптуры.

— Што вы робіце? — спытала яна з агідай. Грэн расціснуў рукі, і Блерта выслізнула, схавалася пад сваёй коўдрай, згараючы ад сораму. Як быццам ад бабулінай свечкі лёг на іх брудны цень.

Раніцай братка перасяліўся на гарышча. Так загадала бабуля. А Блерта з таго часу не магла заснуць. Ёй блюзніліся ціхія трохчастковыя крокі. Дзве бяссонныя

ночы яна правяла, сціскаючы качаргу і не зводзячы погляду з дзвярэй, а днём засынала на хаду. Усё валілася з рук, біўся посуд, прыгарала ежа, гусяняты разбягаліся. Бабуля абуралася, знаходзілася праца яе дубцу, і Грэн спачатку пасмейваўся, але потым штосьці іншае прамільгнула ў яго вачах. На трэцюю ноч дзверы рыпнулі і братка прагаварыў нягучна:

— Супакойся, у мяне ўсяго дзве нагі і ніводнага хваста.

Блерта выпусціла качаргу і расплакалася.

Ён трымаў яе за руку, пакуль яна не заснула. Стаў прыходзіць кожны вечар. І бабуля ні разу не заспела іх. Хоць часам Блерце чуліся нейкія крокі, але дзверы ніколі не адчыняліся, і паступова кашмары зніклі, нібы сцягнула іх у акенца свежым летнім ветрыкам.

Гэтыя ночы, рука ў руцэ, далі Блерце адчуванне бяспекі і цяпла. Грэн быў з ёй ласкавы, не насміхаўся, нават пачаў дапамагаць: то вады прынясе, то печ запаліць. Вымеў усіх павукоў з кухні, пакусаны хадзіў, але задаволены. Сястра за гэта спякла пірог з брусніцамі і вельмі здзівілася, калі Грэн паспрабаваў і скрывіўся. «Што, гэта быў мой улюбёны?» — і пацiснуў плячамі: «Прабач, густы мяняюцца».

Блерта ўсё больш прывязвалася да яго, а ён перастаў паліць у хаце і імкнуўся не брыдкасловіць. Яны часта бывалі разам. Да карт Блерта не датыкалася (грэх!), і Грэн навучыў яе гуляць у глядзелкі. Яна заўсёды перамагала, таму што магла бясконца глядзець у яго вочы. Часам Грэн губляўся ад яе погляду, часам сердаваў. А калі-нікалі рабіў нечаканы рэзкі рух, Блерта палохалася і міргала, гэта не было сумленна, але яна не крыўдзілася.

Неяк яны адшукалі старадаўнюю кнігу па хірамантыі і прыняліся варажыць. Яны сядзелі так блізка. Пальцы Грэна пахлі тытунем. Грэн трымаў яе далонь, і Блерта замірала ад гэтых дакрананняў, не разумеючы, што з ёй адбываецца. А потым, здаецца, зразумела. А ён, нічога не заўважаючы, вадзіў пальцам па яе руцэ:

— Гэта лінія сэрца, ты будзеш шчаслівая ў каханні.

— Я ніколі не буду шчаслівая, — сказала Блерта ў роспачы.

Гарышча захоўвала аскепкі мінулага жыцця: дзіцячы клятчасты фартушок (цікава, мой ці твой?), зламанага чорта-з-табакеркі (памятаеш, як ты баяўся яго?), спарахнелыя выкрайкі, пабітыя моллю капелюшы, кавамолку без ручкі. Аднойчы Грэн адшукаў нечае вясельнае адзенне (хоць раз убачу цябе ў белым, ну давай жа). Пышная сукенка з пазалочаным гафтам села як улітая па-над хатняй старэнькай адзежай. Грэн расплёў касу Блерты, рассыпаў валасы па плячах, заўважыў шнар на ілбе:

— Адкуль гэта?

— Не памятаеш? Ты яшчэ цвяліўся: «Блерта-зладзейка, гусака абкрала». А ў цябе таксама ёсць шнар, я памятаю, ты з шаўкоўніцы зваліўся, напароўся на галінку, — яна пацягнулася да яго каўняра, але Грэн перахапіў яе руку і нічога не сказаў. Надзеў на яе вэлюм. Падвёў да пыльнага люстэрка.

Унізе, у пакоях, не было люстэркаў. Бабуля казала, яны спараджаюць ганарыстасць і самалюбаванне. Шыбы, вёдры з вадой, начышчаная медзь таксама адлюстроўвалі, і Блерта бачыла тоўстую касу, шырока расстаўленыя вочы, бялявыя вейкі і сурова сціснутыя, нязвыклыя да ўсмешкі вусны. А цяпер у люстэрку нібы і не яна ўсміхалася шчасліва і ззяла, як сапраўдная маладая. Братка ўстаў побач, прыгожы, статны, у чорным касцюме, і на хвіліну яна ўявіла, быццам гэта яе жаніх, а ён перабіраў яе валасы і хмурыўся.

— Як ты здолела хаваць сваю прыгажосць? — спытаў ён. — Навошта?

Блерта нясмела ўсміхнулася. А яе адлюстраванне нібы плакала, паўзла расколінка па шчацэ. Люстэрка пабітае, абамлела Блерта. Хутчэй адвярнулася, сарвала флёрдаранж, насунула каптур. Але тая, у залатым гафце, з распушчанымі цяжкімі валасамі, з трывожным поглядам, стала сніцца ёй, прадвесцячы бяду. І бяда прыйшла.

У той дзень усё не ладзілася. Мышы згрызлі туфлі Блерты, спыніліся раптам ходзікі, а старая гуска, дзівачка, знесла адначасна два яйкі. Штосьці здарыцца, думала Блерта, і сэрца яе білася ад благога прадчування.

За вячэрай Грэн па традыцыі балбатаў пра Трыногу.

— Ніводзін шавец не можа сшыць ёй абутак. І блукае пачвара па горадзе, хапае дзетак, з іх скуры шые сабе чаравікі… А скура тонкая, далікатная, чаравікі хутка стоптваюцца, зноў і зноў даводзіцца выходзіць на паляванне…

Блерта слухала, млеючы. Ізноў ён за сваё… Хоць абяцаў не палохаць, быў такім ласкавым… Сніўся ёй нават… А цяпер, відаць, ізноў Трынога прысніцца…

— Не таго ты баішся, Блерта, — сказала раптам бабуля, і дзяўчына здрыганулася.

— Не хацела язык брудзіць ды, відаць, давядзецца, — працягнула бабуля грэбліва. — Даўным-даўно жылі ў нашым горадзе брат і сястра. Яны паступіліся святымі законамі і зграшылі, змяшалі кроў. Ад гэтага нарадзілася трыногае дзіця з хвастом, і яны аднеслі яго на балота і ўтапілі. Але пачвара выжыла. Цёмнымі начамі яна ходзіць у горад і крадзе немаўлят. Яна ненавідзіць іх за тое, што ў іх дзве нагі.

Блерта перазірнулася з Грэнам. Ён выглядаў пакрыўджаным, нібы бабуля перахапіла ў яго ўлюбёную забаву.

— А яшчэ, — бабуліны акуляры злавесна бліснулі, — Трынога зазірае ў вокны ды насылае заганныя думкі, сурокі, сны. Усё чакае, што хто-небудзь спакусіцца і народзіць ёй трыногае дзіцятка…

Грэн здзіўлена падняў бровы, а Блерта не ведала, куды дзявацца ад сораму. Бабуля ўсё бачыць, усё ведае, бабуля быццам лушчыць гарох: раскрыла пазногцем сэрцайка Блерты і вытрасла на далонь, але яно было ўжо сапсаванае, чарвівае, і засталося толькі выкінуць яго прэч.

Бабуля даўно спала. Грэн паліў на ганку, ён быў нязвыкла маўклівы, нібы вырашаў складаную задачу і не мог знайсці адказ. Блерта дамывала посуд. Рукі рухаліся звыкла, а ў галаве цяжкім молатам бухкалі словы. Брудныя думкі.

Яна здрыганулася, таму што Грэн раптам апынуўся побач.

— Блерта, мне… Я павінен сказаць табе…

Ён падышоў зусім блізка. Дакрануўся да завітка яе валасоў каля шчакі.

Яна глядзела на брата ў жаху. Ён таксама? Яны абодва?

— Не, не, маўчы, не смей! — адапхнула яго і ўцякла.

Уночы ён прыйшоў, як звычайна. Але дзверы былі запёртыя.

— Спіш, Блерта?

— Не, — адазвалася.

Яна стаяла за дзвярамі, не адыходзіла.

— Блерта, мне трэба прызнацца табе. У добрым і дрэнным. З чаго пачаць?

— З добрага, — прашаптала яна, і ён усміхнуўся.

— Я кахаю цябе, Блерта.

Яна здушана войкнула, і наступіла доўгая цішыня. Што яна рабіла там, у цёмным пакойчыку, малілася, плакала ці ляжала ў непрытомнасці? Не дачакаўшыся адказу, ён загаварыў ізноў, хутка, блытана, захлёбваючыся.

— Я не брат табе, Блерта, я цябе падмануў. Твой братка Грэн і не думаў вяртацца дахаты. Ён падгаварыў яшчэ дваіх і, як расталі ільды, збег з першым жа караблём. А я проста заехаў сказаць, каб вы яго не чакалі. Але ты так ласкава назвала мяне яго імем… І ніхто не заўважыў падмены… Было пацешна цвяліць старую, плесці небыліцы пра Спадарыню Трыногу, але потым я зразумеў, што не хачу палохаць цябе, і не хачу глядзець, як цябе лупцуюць дубцом… Блерта, я звязу цябе сілай з гэтага павуковага гнязда, чуеш?

Ён штурхнуў дзверы, і яны адчыніліся. На скразняку ад адкрытага акна дрыжала свечка. Ложак Блерты быў засланы, на падушцы ляжаў нацельны крыж.

У іншых акалічнасцях Грэн бы пасмяяўся, што ціхоня Блерта вылезла ў акно. А цяпер гэты ўчынак шмат пра што казаў. І ён ведаў толькі адно месца, куды дзяўчына магла пайсці, адна, без крыжа.

Дурань, дурань! Чаму ён не сказаў ёй раней, якога чорта забаўляўся… Увесь час забываў, што яна лічыць яго братам… І якога чорта валаводзіць цяпер, калі Блерта блукае ўпоцемку па балоце і можа патануць, дабіраючыся да старой леснічоўкі.

Яе крыж ён надзеў на шыю, побач са сваім. І, пляснуўшы дзвярамі, пакінуў хату.

Ён заблукаў і толькі на досвітку выйшаў да азярца з п'яўкамі, якіх так баялася Блерта. Адшукаў брод, ботам п'яўкі не страшныя. На выспачцы знайшоў абрыўкі ад сукенкі і кроў, відаць, Блерта перавязвала ногі. Купіны, алешнік, асот, жабяняты пырскаюць з-пад ног. І развалюшка са сляпымі вокнамі, дах праваліўся, дзверы ў зямлю ўраслі. Зразумела, леснічоўка была пустая.

А потым, халаднеючы сэрцам, ён заўважыў стужку, амаль засмактаную ўсярэдзіну балотнага акенца, расціснутыя журавінкі, зламаныя сцяблінкі, выдраны мох. Далей зямля была некранутай, ніякіх слядоў… І гэта азначала толькі тое, што Блерта не сышла, што яна засталася тут…

Ён сядзеў на зямлі, трымаў у руцэ брудную стужку і плакаў.

— Яна не патанула, Грэн, — сказаў хтосьці.

Голас быў ціхі, цёплы і лісліві, Грэн ускочыў і павярнуўся, чакаючы сустрэць жоўты погляд з вертыкальнымі зрэнкамі. Але за яго спінай стаяў усяго толькі Пастух, і Грэн падзівіўся, што адразу не пазнаў ягоны голас.

— Ты яе бачыў?

— Як цябе зараз, і нават бліжэй, — кіўнуў Пастух. Руды сабака ля яго ног скаліў зубы, нібы смяяўся. Грэну раптам успомніліся нядобрыя чуткі, што хадзілі пра гэтага чалавека. «Ён Пастух, а не Паляўнічы», — так казала Блерта, добра, але дзе яго статак? Каго, скажыце, калі ласка, ён пасвіць?

— Вось такіх дурняў, як вы з Блертай, і пасу, — сказаў Пастух і ўсміхнуўся, паказваючы дробныя вострыя зубы. — Думаеш, вы першыя з'явіліся спадарыню Трыногу праведаць? Дзеці, сапраўдныя дзеці. Лезеце, куды не просяць, шукаеце, чаго няма. Маці прыспіць дзіцё ці ў студню выпусціць, а вінаватая, канешне, Трынога. Як быццам тыя, у каго дзве нагі, зло чыніць не здольны.

— Невінаватыя не хаваюцца, — перабіў яго Грэн.

— А ты не хаваўся б, будзь у цябе хвост? — развесяліўся Пастух. — Нашы гараджане і гарбатых ды кульгавых не надта прывячаюць. А тут трэцяя нага. Няйначай,

ад нячысціка. Дзевак колькі ў балоце ледзь не патанула, і ўсе туды ж, да яе, за вядзьмарствам, за шчасцем і каханнем. Ды калі б Трынога тут і была, то хіба б шчасцем гандлявала? Толькі бядой. Блерта адна гэта зразумела. А не знайшла нікога — у багну памкнулася, ледзь паспеў…

— Куды пайшла Блерта? Мне трэба яе дагнаць і растлумачыць…

— Яна ведае, Грэн. Ці лепш клікаць цябе сапраўдным імем? — Пастух падміргнуў. — Мне давялося сказаць ёй праўду пра цябе, зняць камень з ейнай душы.

— І што яна? — ціха прагаварыў Грэн. — Зненавідзела мяне?

— Блерта не ўмее ненавідзець, — пакруціў галавой Пастух. — Не з таго цеста. Ідзі і адшукай яе, і адвядзі як мага далей адсюль. Яна добрая дзяўчынка, Грэн, і час ужо ёй стаць шчаслівай.

Пастух глядзеў Грэну наўздагон. Бач ты, дурненькія, дзе Трыногу шукаць надумалі. Ды яна на балота ні нагой, волкасці не любіць. Яе логава ў горадзе, і ён будзе абыходзіць хату за хатай, вышукваючы, вынюхваючы. Рана ці позна яна памыліцца, выдасць сябе. І тады ён заб’е гадзіну, калі яна таго заслугоўвае, калі хоць частка плётак пра яе — праўда.

Ён дакурыў, свіснуў сабаку і пакрочыў па балоце, туды, да безабароннага мястэчка, дзе ніклі ў кветніках залатыя шары, блішчала на каменьчыках ранішняя раса, дзе ў падмосці, за збанкамі з паштэтам, з’явілася першая трэшчынка на цьмяным шараватым яйку. Аканіцы ў хатах былі яшчэ зачыненыя, і рэдка дзе віўся дымок над комінам, толькі старая ў чорным стаяла ля плота, гледзячы на дарогу.

«Страціла ты сваю ўнучку, — падумаў Пастух здаволена. — Няма каго больш тыраніць».

Старая нібы пачула гэтыя думкі і нядобра зірнула яму ўслед, а потым паплялася дахаты. Падслепаватая і грузная, у каптуры з жаўтлявымі карункамі, яна ішла перавальваючыся, абапіраючыся на кульбу. Паскрыпвалі чаравікі, шамацела спадніца.

Старая ўсміхалася.

Пастух быў ужо занадта далёка, каб чуць яе крокі.

Топ-топ-топ, і цішыня, і зноў топ-топ-топ…

Кася ГЛУХОЎСКАЯ

# ДАЙ МНЕ АДКАЗ — НЯБЁСЫ Ў ВУСНЫ



***Кася Глухоўская нарадзілася 2 чэрвеня 1995 года ў Мінску. Студэнтка факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ. На старонках «Маладосці» выступала з прозай, як паэтка прадстаўлена ўпершыню.***

## АНДЭРСАН

Я буду кахаць цябе ў кожным абрысе —
Я буду кахаць.
Збіраецца з кропель — па зорцы, па рысе —
Нябесная гаць.
Пяшчотная ўсмешка, знялюблены голас —
Ніякай бяды.
Адтуль, дзе так мройна, так сонечна-квола,
Вяртайся сюды.
У цемры тваёй — запаведныя цуды,
Пачварыны — жах!
Які ж ты вясёлы, якія ж пакуты
Схаваў у плячах.
Трымай мае рукі, кранай мае пальцы —
Цяпер — назаўжды.
Я буду чакаць цябе — пенай на гальцы —
Ты прыйдзеш сюды.

* * *

*А. М. Астроўскаму і К. Маккалаў*

Калі птушка ўзмывае ў нябёсы,
Значыць, нехта ўзнімае ружжо —
Ад такой непазбежнай пагрозы
Яе крылы не збавяць ужо.

Адчуваю, як птушка загіне —
Згубіць памяць, і неба, і спеў, —
Адчуваю, у сэрцы заінеў
Самы дробны, апошні спадзеў.

Адчуваю, як птушка баіцца,
Яе боль, і пакору, і гнеў.
Быць фігуркай на нечай паліцы
Пры жыцці ёй не вытрываць, не.

Ні жалезнай, ні сонечнай клеці —
Прамяністыя межы, драты —

Яна марыць быць вольнай у свеце,
Як і я, як і ён, як і ты.

Будзе птушка на нечай паліцы
Пры жыцці альбо не — без жыцця.
І каб з лёсам сваім прымірыцца,
Трэба сэрца навылет працяць.

Ці шыпшынай, ці куляй — не важна,
Толькі б доўжыўся ейны палёт:
Незаўважна на воблака ляжа
І пакіне самотным галлё.

**СЭНСУ**

Людзі доўга глядзелі на неба,
Ім хацелася ведаць і чуць,
На Зямлі жыць — якая патрэба?
Прачынацца, каб зноўку паснуць.

Сонца вочы сляпіла паўпраўдай,
Поўня ціхай паіла хлуснёй,
Ды няпоўны быў келіх, не рады
Чалавек быў ад долі сваёй.

Не хапала ні слоў, ні ўяўлення,
Ні маўчання, ні спеваў, ні дзён —
Час ішоў — і жыцця было меней,
А ў нябёсах быў вечны праклён.

**ПРОДАЖ**

Мы ўсе самі з сабой — безупынная пена спатканняў,
Разбіццё камянямі, музычны нявытрымны бой.
Пад спакоем ты бачыш: сусветы ствараюцца тканнем;
Нехта зорку, як голку, трымае жаночай рукой.

Расхрыстаныя думкі — раскрытыя крылы абдымкаў.
Старажытнае кола па небе пракоціць Сварог —
Адбіваецца сонца ў вачах на загубленым рынку,
І трымае мяснік нас мясістай рукою за рог.

**МАЛІТВА**

Калі Ты чуеш мае словы,
Калі Ты кажаш мне: «Пішы», —
Пакінь хімерай безгаловай
На гэтым сонечным крыжы.

Дай мне адказ — нябёсы ў вусны,
Дазволь спяваць пустой травой —
Суніц салодкіх цягнуць вусы
Ўсе сокі з глебы са сваёй.

Я быць і глебай, і раслінай
Хачу. Ды ёсць адзін спадзеў:
Што ветры ў ветразі ды ў спіну,
То Твая мара, воля, спеў...

## СОНЦАКОН

Задрыжэлі агністыя плямкі паўдзённага сонца —
На чырвоных руках, вуснах-лісці сухіх ліставей.
І блішчыць верабей у адбітку на ягаднай гронцы —
І блішчыць арабінавы сад у адбітку вачэй.

Запяюць валасы распрастаны пранізлівы вецер,
Вецер самых празрыстых імгненняў ды ранішніх сноў.
У тваёй галаве — цэлы горад. І там на карэце
Думкі жвава імчаць ад пытанняў да новых высноў.

Міма столькі людзей — кожны дзень, кожны дзень, незаўважна.
Кожны з іх мог застацца трымаць лейцы сэрца ў руках.
А яно б'е, капыціцца ў неба — хай сонейка скажа,
Хай падкажа ўсім думкам ды сэрцам свой сонечны шлях.

## ПОДЫХІ

Маленькі подых стыне па-за межамі —
Збіраю клетку косткамі грудзін.
Вялікі дождж — прутамі ды прамежжамі.
І б’ецца сэрца камячок адзін.

Усё стаіць празрыста і надломлена:
Змярцвелы стан — галлё, сцябліны дрэў.
А зарапад з аголенымі промнямі
Нікога ў свеце болей не сагрэў.

Знямелі казкі, вершы, шматгалосіца —
Чароўны сонм, чароўны сон і спеў.
І кожны дзень на заўтра пераносіцца,
І дождж на брукаванцы закіпеў.

Так каляхуюць думкі, ходзяць сцежкамі
Па звілістых завулках галавы:
Мы ў свеце анікому не належалі —
То нам ніхто не выдаваў правы.

* * *

***К.К.***

Калі засталося ўва мне хоць бы што за каханне,
За позірк пранізлівы, за валасы і пяшчоту,
Дык гэта натхнёнае неба — усмешлівым раннем,
І вершы, як плёскат вады, стромкі пошчак чароту.
Як ветразі — думкі. Як вецер — калматыя мроі.
Адным летуценнем мы ўсе перагортваем казкі:
На кожнай старонцы, масточку, мы самі — героі.
І хутка канец у гісторыі, рэчкі ды ласкі...

**НЯМА**

Ты можаш стаць творцам —
Хадзі ў незямной кароне,
Нанізвай планеты на голкі яе, шыпы.
Пялёсткамі зорка на зорцы —
І шлях бароніць
Камета агністая — і на цябе шыпіць.
Ты можаш цяпер напісаць
Песню, верш, аповед,
Карціну ці ноты для музыкі лепшых дзён.
Ды круціцца лёс, як ліса,
Выдзірае промні
З прыгожага німба, а з сэрца — працяглы стогн.
Не, ты не напішаш.
Твой момант дарма сыходзіць.
Ты проста змірыўся і кажаш, што пасталеў.
Заняў шараговую нішу —
Жыццё на слоце.
На плоце, як кот, пасынае зацяты леў.
Ты мог бы стаць творцам.
А ніякавеў стварэннем.
На мосце глядзіш, як сыходзіць у шлях цягнік.
І чуеш у колах, знаёмай яго гаворцы,
Што рвецца карэнне:
Вось вецер — і вось ты знік.

* * *

Ты ўсё ведаў — не ведаць не мог.
Ты ўсё ведаў, глядзеў ды ведаў —
І ляжаў ля самлелых ног
Мастакоў, дзівакоў, паэтаў.
Абагрэты зямным жыццём,

Ты глядзеў, як губляюць глебу,
Як знаходзяць няўцямны дом
Ды патрэбу між хісткіх рэбраў.

Памажы ўратаваць яго,
Аднаго з тых вялікіх птахаў,
Што не маюць гнязда свайго
Між вясёлак, галін ды гмахаў.
Памажы ўратаваць яе,
Як адну з тых чароўных птушак,
Што так гушкаюць сны свае —
Ажно тыя звіняць увушшу.
Памажы ўратаваць усіх:
Вочы бедных сірочых спеваў
Гэтак песцяць дзяцей сваіх,
Як мы гора гадуем дрэва.

* * *

Кожны год я бачу памёрлых птушак,
Быццам нехта кажа мне: «Не ўзляціш».
І думкамі ўскрыліць тады не мушу:
Калі так не ўголас, дык як не ўсціш?

Летуценні — узялі ды паляцелі.
А мы без галавы — адно сэрца з вушкамі:
Мы апроч сэрца нічога не мелі.
Толькі крылы — абапал дарогі птушкамі.

* * *

***На памяць С. Мацiну***

Гэта не ў лёд, а ў лёс
Ты галавой прарос,
Гэта не ты, а мы ўжо ў магіле.
Кожны, хто гэтак жыў,
Сэрца сваё ў нажы,
Як у ажыны чырвонага гіля кінуў.

*Юлія АНАЦКА*

# ДЗІКАЕ ПАЛЯВАННЕ

Праз старажытны лес ядловы
Ляціць ліхое Паляванне.
Ой, падарожны, сціш размовы!
Ці дажывеш ты да світання?
Бразгоча зброя — спеў смяротны
Паміж лясоў і пустак вечных.
Ой, падарожны, ты, гаротны,
Дарма пакінуў дом бяспечны.
Лятуць іх коні: крыж празрысты,
Капыты долу не кранаюць.
Ой, падарожны, страх ільдзісты,
Напэўна, сэрца працінае?
Лятуць імкліва, нібы скавыш
Над багнай, што іх прытуліла.
Ой, падарожны, не пабачыш
Ты зноўку тых, хто сэрцу мілы.
Імчаць, ірвуцца з ветрам стылым,
Што дрэвы ў паклон схіляе.
Ой, падарожны, лёс тужлівы:
Іх рокаш літасці не мае.
На конях вершнікі маўкліва
Сціскаюць прывідную зброю.
Ой, падарожны, кінь сцяжыну,
Што завядзе цябе ў прорву.
Гуляе поўня зіхаценнем
На ўборы срэбраным парадным.
Ой, падарожны, гэтым ценям
Вядома, што такое здрада.
Імчаць ля велічных руінаў,
Дзе зараз вецер завывае.
Ой, падарожны, то краіну
Яе мінуласць адпявае.
Ім месяц — самы верны сябра,
Суценне восені — хаўруснік.
Ой, падарожны, нават храбры
Загінуць гэтай ноччу мусіць.
Імкнуцца коні чарадою,
Вось набліжаюцца прывіды.



***Юлія Анацка нарадзілася 3 студзеня 1991 года ў Лідзе. Студэнтка 5 курса Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Пра сябе напісала так: «Тата фізік, мама матэматык, але, як кажуць, у балоце не без чорта, таму я захапляюся мовамі і чытаю старыя легенды».***

Ой, падарожны, злыбядою
Былі калісь яны забіты.
Таму і гойсаюць няспынна,
Як напамін аб пракавечным.
Ой, падарожны, цень радзімы
Лунае над дрыгвой адвечнай.
Чырвоны вочы дзікіх коняў,
Людскія вочы ззяюць сталлю.
Ой, падарожны, у пагоню
Ляціць ліхое Паляванне.
Яны бязлітасны, як вецер,
Што ўвосень над зямлёй лютуе.
Ой, падарожны, ліхалеццем
Ты зноў пра коннікаў пачуеш.
Ды адзіноцтва — як пракляцце,
Спакой ім не знайсці ніколі.
Ой, падарожны, можа стацца,
Ты сонца не пабачыш болей.
Вось прывід у старой кароне
Махнуў — і коні павярнулі.
Ой, падарожны, у сутонне
Цябе з сабою зацягнулі.
Гуляе рэхам конскі пошчак,
І цені прэч хутчэй імкнуцца.
Ой, падарожны, ты не зможаш
Калісь дадому зноў вярнуцца.
Ляціць ліхое Паляванне,
Глядзіць праз час і вымярэнне.
Ой, падарожны, гэтых зданяў
Не бачыць лепш да дзён сканчэння.



*Сяргей БЕЛАЯР*

# ГУЛЬНЯ

*Фантастычнае апавяданне*



***Сяргей Белаяр (Мартынюк) нарадзіўся 19 красавіка 1978 года ў Брэсце. Па адукацыі гісторык. У мінулым годзе заняў трэцяе месца ў намінацыі «Малая проза» Брэсцкага абласнога літаратурнага конкурсу «Мы рождены для вдохновения» і другое месца ў літаратурным конкурсе фантастычных апавяданняў выдавецтва «Новая реальность» (Масква).***

## ГОД 1812-ы

Іх было дваццаць восем. Капітан Клод Жыле, унтэр-афіцэр Жан Моран, сяржант Агюст Обры, капрал-фланкер Вейлр Кенэ і дваццаць чатыры радавых з розных часцей. Былі тут і цірайеры, і венгерскія ўланы, і вальціжоры, і карабінеры. Маленькі атрад некалі буйной «Grande Armee»[1] павольна рухаўся па заснежанай дарозе на Вільню, куды сцягваліся разбітыя рускімі французы і іх саюзнікі. Стомленыя, страціўшыя баявы дух, захутаныя ў смярдзючае рыззё салдаты згіналіся пад цяжарам перанесеных выпрабаванняў. Правальваючыся ў жорсткую ледзяную мешаніну, ледзь перастаўлялі ногі. Злы снежаньскі вецер рваў крысы шынялёў, збіваў з галоў двухвуголкі іківеры, залазіў пад падраныя мундзіры і палатняныя штаны, трапаў гетры. Снег набіваўся ў чаравікі, націраў скуру, ператвараў пальцы ў нячулыя дзеравякі. Мерзлі і рукі. Воі дыхалі на іх, грэлі пад пахамі, імкнуліся загарнуць у рэквізаваныя ў мясцовага насельніцтва хусткі і анучы, але ўсе спробы сагрэцца былі марнымі. Пранізлівы вецер забіраў апошнія дробкі цяпла. Нязвыклыя да холаду, захопнікі моцна мерзлі і думалі толькі пра міску гарачай кашы, кубак глінтвейну ды вогнішча.

Салдаты падалі, скуголілі, у думках праклiналі той дзень, калі Імператар вырашыў пайсці вайной на Расію, але ўпарта ішлі наперад. Спыніцца было нельга. Спыніцца азначала памерці. Калі не ад рукі рускіх партызан, дык ужо ад непераноснага марозу і голаду дакладна. Трупы людзей і тушы коней, што моцна ўмерзлі ў снег, служылі лепшым напамінам пра тленнасць быцця. Худыя, змардаваныя, моцна падобныя да зданяў, учарашнія сяляне і рамеснікі стараліся не глядзець на нябожчыкаў. Адварочвалі галовы, хрысціліся, мімаволі паскаралі крок, імкнучыся хутчэй пакінуць кепскае месца. Не бачыць таго, што рабіў з людзьмі люты мароз. Пра тое, каб па-чалавечы пахаваць таварышаў, не магло ісці і гаворкі. Выжыць бы самім... Тых, хто падаў, не паднiма-

[1] Вялікая армія (тут і далей французская мова).

лі. Салдаты, якія змерзлі і выбіліся з сіл, праходзілі міма, ігнаруючы ўсе просьбы і заклікі аб дапамозе. У гэтым жорсткім свеце выжывалі самыя моцныя...

З усяго атрада Морану даводзілася горш за ўсіх. Таму што з большасцю з тых, хто застаўся ў снезе і лёдзе, яго звязвалі сяброўскія пачуцці. Усяго толькі чатыры месяцы таму хлопцы з захапленнем расстрэльвалі яго стары ранец, пілі кубкі піва за кар'еру Жана, жадалі поспехаў у службе... Марсэль Андрэ... Ліндр Дэказ... Тэа Жубер... Пэпін Бюжо... Усіх адразу і не ўзгадаеш...

Людзей гнаў страх. Невымоўны жах перад праклятай кашчавай штурхаў у спіну, прымушаў перастаўляць налітыя свінцом ногі, падымацца пасля падзення. Стрэльбы і шаблі ператварыліся ў пакрытыя тоўстай ледзяной скарынкай каросты палкі. Салдаты даўно б кінулі іх, як і вялікую частку амуніцыі і боепрыпасаў, калі б не «Le Juene Garde»[1] — маладыя гвардзейцы. Эліце было цяжка, таксама як і іншым, аднак паказаць сваю слабасць гвардзейцы не маглі. Для іх гэта было пытаннем гонару. А да гонару яны ставіліся дрыгатліва...

Па абодвух баках вузкай дарогі цягнуўся шэры панылы лес. Жаўнеры крочылі гадзінамі, суткамі, а ён усё не канчаўся. Ад аднастайнасці пейзажу каламуціла і выварочвала душу. Але куды страшней было разумець, што за любым з векавых дрэў мог стаіцца вораг: жахлівы казак альбо ўзброены віламі ці цэпам селянін. Ні французаў, ні іх саюзнікаў рускія не любілі — нападалі пры любой магчымасці. Пакідалі пасля сябе знявечаныя трупы і бясследна знікалі ў лесе. Даводзілася ўвесь час быць напагатове. Вось толькі вытрымаць стомнае чаканне атакі не кожнаму па сілах. Часта воі зрываліся, пачыналі страляць на любы падазроны рух. Імкнуліся і па лесе, і па полі перасоўвацца толькі вялікімі атрадамі. Так меўся хоць нейкі шанс не трапіць у засаду. Бяда ў тым, што пасля пераправы праз Бярэзіну, Напалеон Банапарт ужо не меў буйных сіл. Фактычна, «Grande Armee» перастала існаваць. Тым, каму пашчасціла ацалець, заставалася спадзявацца толькі на сябе ды на божую дапамогу.

Наўрад ці хто з невялікага атрада няўдалых «гаспадароў свету» ўспомніў пра тое, што ўсяго некалькі месяцаў таму яны ўжо праходзілі тут, несучы славянам высокую еўрапейскую культуру. Збіраліся далучыць варвараў да цывілізацыі. Цяпер гэтыя месцы былі зусім непазнавальнымі. Нават тыя, хто ўсё яшчэ захоўваў розум, не пазнавалі не дужа гасцінны край. Снег і цяжкія свінцовыя хмары ператварылі яго ў ледзяную пустыню. Лес выглядаў бязлюдным, а адсутнасць якіх-небудзь прыкмет жылля рабіла яго чужым яшчэ больш. І разуменне таго, што на многія кіламетры вакол няма ні аднаго месца, дзе можна было б спакойна пераначаваць, адагрэцца і паесці, прымушала жаўнераў упадаць у яшчэ большую хандру.

Хлопцы былі знерваваны. Надвор'е пагаршала безвыходнасць. Любы з французаў дорага б аддаў за магчымасць хоць на імгненне вырвацца з чэпкіх лап лютай сцюжы і паесці ад пуза. Людзей ахапілі роспач і адчай. Здавалася, д'ябальскі мароз не аслабне ніколі, а быў жа толькі самы пачатак зімы.

І як толькі рускія вытрымліваюць?..

Вецер мацнеў. Разам з ім узмацняўся мароз. Дзень павольна, але дакладна саступаў свае правы ночы. Капрал-фланкер узіраўся пачырванелымі ад сцюжы і хранічнага недасыпання вачыма ў снежныя завалы і з цяжкасцю знаходзіў дарогу. Усё часцей атрад рабіў вымушаныя прыпынкі і падоўгу чакаў, калі Кенэ пакажа шлях. Без пляменніка імперскага ляснічага салдаты даўно б заблукалі ў лесе, сталі здабычай дзікіх звяроў ці партызан. Арыентавацца ў змрочнай аднастайнасці было немагчыма.

[1] Маладая гвардыя.

Унтэр-афіцэр Моран, прытрымліваючы на галаве гатовы сарвацца ківер з паніклым султанам конскага воласа, з трывогай углядаўся ў лес. Набліжалася ноч, сілы заканчваліся, паходняў не было, праваднік ледзь-ледзь трымаўся на нагах. Трэба было падумаць пра прывал. Воям патрэбен адпачынак, інакш салдаты проста пачнуць валіцца на зямлю, як саспелыя плады. Доўгі ствол AN-XIII злёгку дрыжаў. Змерзлыя пальцы з цяжкасцю трымалі зброю, ад моцнага марозу не ратавалі нават ваўняныя пальчаткі. Сцюжа калола, шчыпала. Жан сцепануўся, перасмыкнуў плячыма і паглядзеў на капітана. Клод Жыле, нягледзячы на сталы ўзрост, трымаўся малайцом. Пры хадзьбе абапіраўся на кавалерыйскую шаблю, аднак усё часцей спыняўся. Прагна хапаў марознае паветра адкрытым ротам. Сілы камандзіра гвардзейцаў падыходзілі да канца. Жан з заклапочанасцю падумаў пра тое, што капітана прыйдзецца цягнуць на руках. Жыле — не шараговы салдат, і кінуць яго паміраць у снезе, як параненых і знясіленых, нельга. Такі варыянт можна было нават не прымаць да ўвагі. І ветэраны, і камандаванне адназначна ўспрымуць гэты ўчынак як злачынства. Давядзецца секчы галіны, рабіць насілкі, грузіць на іх капітана, па калена, а дзе і па пояс у снежнай кашы, пазменна цягнуць афіцэра… І без таго павольная хуткасць атрада замарудзіцца канчаткова. А з жудаснага, палохаючага лесу хацелася выбрацца як мага хутчэй...

Нядаўні веліт выдатна разумеў, наколькі ўсё адразу ўскладніцца. Аднак іншага варыянту не мелася. Бацькоўскае і палкавое выхаванне патрабавалі выцягнуць камандзіра. Моран падышоў да афіцэра і пацікавіўся:

— Comment vous sentez-vous, capitaine?[1]

Цяжка дыхаючы, Жыле адказаў праз паўзу:

— Bon! Je vais bien![2]

— Peut-on faire une halte?[3] — спытаў унтэр-афіцэр.

— Non, — пакруціў галавой Клод. — Il est trop tôt. Alors que la lumière, nous devons aller. Ne vous inquiétez pas pour moi — je suis capable d’aller[4].

Моран нічога не адказаў, імкнучыся захаваць на твары належны сітуацыі выраз. Унтэр-афіцэр не хацеў, каб камандзір здагадаўся пра разгубленасць, што ахапіла хлопца. Мяркуючы па ўсім, атрымалася не вельмі добра. Капітан запэўніў:

— Écoutez, Moran. Je vais bien. C’est seulement un peu de repos et je peux à nouveau aller de l’avant. Ne faites pas attention. Continuer à mars[5].

— Nous pouvons vous transporter, le capitaine![6] — прапанаваў Жан, аднак камандзір гвардзейцаў не стаў далей слухаць:

— Pas du tout! Soldats et sans manquer de puissance! Je peux marcher! Pouvez-vous m’entendre, Moran? Donnez juste respirer!..[7]

Жан ведаў, што спрачацца бессэнсоўна. Аднойчы прыняўшы рашэнне, Жыле ніколі не мяняў яго. Унтэр-афіцэр паклікаў двух застрэльшчыкаў, загадаў ім падтрымліваць капітана, а сам накіраваўся да капрала-фланкера і пацікавіўся станам спраў.

---

[1] Як вы, капітан?

[2] Нармальна. Са мной усё добра!

[3] Можа, зробім прывал?

[4] Не. Яшчэ рана. Пакуль светла, мы павінны рухацца... Не турбуйцеся пра мяне — я магу ісці.

[5] Паслухайце, Моран, я — у норме. Толькі адпачну трохі і зноў змагу рухацца далей. Не звяртайце ўвагі. Працягвайце шлях!

[6] Мы можам панесці вас, капітан!

[7] Ні ў якім разе! Салдаты і без гэтага выбіваюцца з сіл! Я магу ісці! Чуеце мяне, Моран? Магу! Толькі дайце аддыхацца!..

— Avant la nuit pour trouver le chemin Je ne peux toujours, — адазваўся Кенэ, — mais une fois la nuit tombée, il est peu probable, je serai en mesure d'aider... Vent damnés… Nous sommes donc très bientôt balayer...[1]

Змоўклі. Першыя дні пераходу ад Бярэзіны стаяла яснае, няхай і марознае надвор'е. А вось на трэці пачалася сапраўдная снежная бура. З неба сыпаліся буйныя белыя шматкі, якія ў хуткім часе ператвараліся ў пякучую парошу, што збівала з ног. Дарога, на якой яшчэ можна было адрозніць сляды адступаючых французскіх і саюзных часцей, у імгненне ператварылася ў ледзь распазнавальную сцежку, рухацца па якой было вялікай пакутай. І толькі вопыт Вейлра ратаваў атрад...

— Oui, — сказаў Моран. — Météo ne servent à rien! Mais il faut aller![2]

Капрал-фланкер кіўнуў. Строс з пагонаў іківера снег, паправіў рэмень шаблі і патронную сумку, ямчэй перахапіў стрэльбу. Трохі пастаяўшы, рушыў далей. Жан паслухмяна пайшоў следам. За праваднiком пацягнуліся астатнія. Унтэр-афіцэр падумаў пра тое, што салдатам патрэбны лыжы. Выдзіраць цяжкія ногі з гурбаў станавілася ўсё цяжэй. Чаравікі чэрпалі снег, штаны ператварыліся ў кайданы, заледзянелая шынель ціснула на плечы. Не разлічаны на суровыя ўмовы надвор'я, мундзір зусім не саграваў. Моран мімаволі пазайздросціў тым, каму пашчасціла набыць грамадзянскае адзенне. Сам Жан пераадолець сябе так і не змог — быў не ў стане адабраць у сялян кажух, таму што гэта было трывіяльным рабаваннем. Менш чуллівыя таварышы цырымоніцца з рускімі варварамі не сталі. Не саромеліся дабівацца свайго пры дапамозе прыкладаў і брыке. Узлаваным марозам, голадам і доўгім адступленнем, хлопцам не было справы да праблем нейкіх там сялян. Не звяртаючы ўвагі на слёзы і просьбы, воі адбіралі цёплыя рэчы і ежу, не лічылі патрэбным апраўдвацца ці прасіць прабачэння...

Капітан Жыле глядзеў на марадзёрства скрозь пальцы. Асек паспрабаваўшага спыніць вар'яцтва падначаленага, жорстка нагадаўшы, што ў Расіі не дзейнічаюць звыклыя правілы вайны, што тут няма месца міласэрнасці і жалю. Калі хочаш выжыць — забудзь пра сумленне... Вось толькі забыць пра сумленне і гонар Моран не мог. Не ў сілах спыніць вэрхал, апусціўся на пень, абхапіў рукамі галаву і заплакаў. Колькі ён так праседзеў, нядаўні веліт не мог сказаць дакладна. Ачуўся толькі пасля таго, як Агюст Обры даволі бесцырымонна штурхнуў яго ў плячо. Унтэр-афіцэр падняў галаву і неразумеючым позіркам утаропіўся на сяржанта, які прапаноўваў Жану жаночы кажух. Злосць на сябе і падначаленых была настолькі вялікая, што Моран ударыў Обры. Сяржант кулем паваліўся ў сумёт. Моўчкі падняўся, пацiснуў плячыма і нацягнуў на сябе абноўку. Прамармытаў «Excusez-moi»[3] і патупаў далей, быццам нічога і не здарылася... Вельмі хутка ўнтэр-афіцэр адчуў на сабе ўсе «вабноты» рускага марозу. Дрыжаў і калаціўся, але ўпарта гнаў думкі пра тое, каб рэквізаваць вопратку. У Морана былі з сабой некалькі франкаў жэрміналь, аднак хлопец сумняваўся ў тым, што сяляне захочуць узяць іх. Прыходзілася задавольвацца шынялём, хутацца ў брудную матэрыю ў марных спробах сагрэцца.

Атрад ішоў і ішоў. Крок за крокам. Лье за лье...

Ад холаду зводзіла цягліцы рук і ног, аднак унтэр-афіцэр не спыняўся, як бы моцна не хацелася сесці на зямлю, расслабіцца і забыць пра ўсё. Зганяў з сябе

---

[1] Да наступлення ночы знаходзіць дарогу я яшчэ змагу, але, калі сцямнее, наўрад ці буду ў стане чым-небудзь дапамагчы... Пракляты вецер... Гэтак нас хутка зусім замяце...

[2] Так. Надвор'е — дрэнь! Але мы павінны ісці!

[3] Даруйце.

змрочнае насланнё, стараўся думаць аб прыемным. З памяці паслужліва вынырнулі пейзажы роднага Праванса: увянчаныя асляпляльна белымі шапкамі вяршыні Альпаў, празрыстая Рона, цёплае Міжземнае мора, залацістыя палі пшаніцы... Малюнкі былі як жывыя. Здавалася, толькі працягні руку — і зможаш дакрануцца да іх. Удыхнуць водар палёў і сенажацяў, адчуць на скуры лёгкі брыз. З галавой нырнуць у сонечнае святло... Аднак варта было толькі адкрыць вочы, як суровая рэальнасць неадкладна вярталася. У твар па-ранейшаму біла ледзяная дробка, неба было зацягнута чорнымі хмарамі, валіў з ног вецер, прабіраў пякучы мароз, маячылі наперадзе згорбленыя спіны і ранцы таварышаў. Гадзіны цяклі, а нічога не змянялася. Самы час завыць ад тугі.

«Як жа холадна...», — падумаў хлопец. Мароз пазбаўляў волі да жыцця. Ад голаду зводзіла страўнік. Арганізм бунтаваў, патрабаваў ежы, а апошнія два акрайцы хлеба, кавалак смярдзючага збруснелага сыру і шмат шпіка салдаты з’елі яшчэ да пераправы, чэсна падзяліўшы на ўсіх.

Жан Моран сціснуў сківіцы і адхіліўся ад усяго. Машынальна перастаўляў ногі, дапамагаючы сабе стрэльбай і рукамі. Вайна ператварала людзей у жывёл. Адбірала ў жаўнераў апошнія макулінкі чалавечнасці. Прымушала забываць пра гуманізм і ідэалы «Revolution française»[1]. «Declaration des Droits de l’Homme et du Citoyen»[2] не значыла нічога, а словы «Liberte», «Egalite», «Fraternite»[3] з’яўляліся пустым гукам. А перад паходам на Расію французская Імперыя была перадавой дзяржавай свету. Ідэалам. Прыкладам для пераймання. І дзе ўсё зараз? Абярнулася пылам...

Унтэр-афіцэр адчуў, што зноў пачынае апускацца ў стомленае соннае здранцвенне, перастае чуць і адрозніваць навакольныя гукі. Зніклі ліхое завыванне ветру, цяжкія крокі спадарожнікаў, іх лаянка ды крыкі птушак. Хлопец нібы з галавой акунуўся ў ліпкі, глушачы ўсе гукі, кісель...

У наступнае імгненне да слыху Жана Морана данёсся жудасны, нечалавечы енк.

Цірайер страпянуўся і страсянуў галавой. Паазіраўся, спрабуючы вызначыць крыніцу шуму. Крык паўтарыўся. У ім было столькі непадробнага жаху і безвыходнасці, што ў сэрца ўнтэр-афіцэра кальнула ледзяная іголка. Рукі самі па сабе сціснулі стрэльбу. У такую страшную мяцеліцу ад AN-XIII было мала толку, аднак убітыя ў кроў інстынкты апярэдзілі розум. Крык паўтарыўся ў трэці раз. Праз некалькі хвілін хлопец нарэшце змог зразумець, што адбываецца. Капрал Кенэ, які рухаўся наперадзе, трапіў у нейкую пастку. Ён боўтаўся ў велізарнай лужыне, беспаспяхова спрабуючы з яе выбрацца. Крычаў, калаціў рукамі па бруднай вадзе, клікаў на дапамогу, то апускаючыся, то ізноў вынырваючы на паверхню.

— Aide![4] — нямы крык спалохаў зграю крумкачоў. Яны з дзікім енкам узляцелі ў неба і закружылі над лесам. Жан не марудзіў. Перахапіўшы стрэльбу, з усіх ног кінуўся да таварыша. Падскочыў да небаракі і застыў, зразумеўшы, што Вейлр праваліўся ў палонку. Значыць, трэба дзейнічаць акуратна, каб самому не сысці пад лёд.

Унтэр-афіцэр апусціўся на калені, а затым лёг на жывот. Пасля чаго працягнуў капралу стрэльбу і сказаў:

— Prenez![5]

---

[1] Французская рэвалюцыя.

[2] Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна.

[3] Свабода, роўнасць, братэрства.

[4] Дапамажыце!

[5] Хапайся!

Фланкер, які біўся ў паніцы, не пачуў слоў Жана. Працягваў калаціць рукамі і крычаць, нібыта вар'ят. Мабыць, ледзяная вада пазбавіла яго рэштак розуму. Моран ціха вылаяўся, а затым крыкнуў:

— Prenez! Viens![1]

Вокрык унтэр-афіцэра дасягнуў вушэй Кенэ. Капралу спатрэбілася ўсяго імгненне, каб зразумець, што ад яго патрабуецца. Спыніўшы бесталкова скалынаць ваду, Вейлр паслухмяна ўхапіўся за ствол стрэльбы. Моран пацягнуў. Праваднік аказаўся нечакана цяжкім, нават робячы папраўку на тое, што яго форма паспела набрыняць вадой. Жан нібыта спрабаваў зрушыць велізарны валун. Нягледзячы на мароз, па целе заструменіў пот. Ад шалёнай напругі зводзіла цяглiцы. Унтэр-афіцэр сціснуў зубы і павольна, цаля за цаляй, цягнуў небараку.

Французы і саюзнікі замерлі ў дзясяці метрах ззаду. Лезці наперад ніхто не спяшаўся: нікому не хацелася апынуцца ў халоднай вадзе. Салдаты моўчкі глядзелі на патугі Кенэ і Морана. Вада не хацела адпускаць здабычу, аднак хлопец быў настойлівы. Зрываючы жылы, цягнуў фланкера.

У нейкі момант Жану падалося, што ён зможа выцягнуць Кенэ, як тут яго цела стала на парадак цяжэй. Метамарфоза была настолькі нечаканай, што рукі ўнтэрафіцэра ледзь не вырвала з суставаў. Ён слізгануў наперад на дзесяць цаляў і ледзь не выпусціў стрэльбу.

Вейлр закрычаў як шалёны. Спалохана азірнуўся, спрабуючы зразумець, што адбываецца. Нейкая невядомая сіла цягнула яго пад ваду.

Вочы праваднікa палезлі на лоб. Фланкер загаласіў на адной ноце. Пацягнуў на сябе AN-XIII. Жана каўганула яшчэ на некалькі цаляў. Моран упёрся каленямі, аднак ледзяная скарынка толькі спрыяла слізгаценню. Хлопца няўмольна зацягвала ў палонку.

— Merde, — рэзюміраваў капітан Жыле. — Maintenant, ils dvoem couché! N'attendez pas! Faites glisser les branches![2]

Жаўнеры, выцягваючы брыке, кінуліся да дрэў. Праз імгненне пачуўся дробны перастук. Нягледзячы на небяспеку, адразу пяць ці шэсць чалавек паваліліся на снег і схапілі ўнтэр-афіцэра за ногі. Утрымліваць Кенэ адразу стала лягчэй, але Жан не спяшаўся расслабляцца. Ён адчуваў, як цяга з кожным імгненнем становіцца мацнейшай. Нібыта на ногі фланкера навесілі разам па некалькі пудовых гір. Вейлр крычаў не перастаючы. Клікаў па дапамогу, спалохана вытарашчваючыся сабе за спіну.

— Ordure! — зароў капітан. — Dépêchez-vous avec les branches! Et vous — vous glisser! Qu'attendez-vous?[3]

Трымаўшыя Морана за ногі салдаты пацягнулі. Але, нягледзячы на ўсе намаганні, выдраць фланкера з палонкі не атрымалася.

Напружанне расло.

Тут капрал раптам высунуўся з вады на некалькі цаляў, але ў той жа момант рэзка падаўся назад. Крык Вейлра аглушыў.

Рукі Жана хутка наліваліся стомленасцю. Прамоклыя пальчаткі пакрыліся ледзяной скарынкай. Ледзяным было і ложа стрэльбы. Пальцы слізгалі, пагражаючы выпусціць AN-XIII. «Дзе ж галіны?», — прамільгнула ў галаве ўнтэр-афіцэра.

---

[1] Ну!

[2] Яны зараз праваляцца абодва! Не стойце! Цягніце галіны!

[3] Паспяшайцеся з галінамі! А вы цягніце! Чаго чакаеце?

Гвардзейцы нарэшце перамаглі непакорлівую флору і кінуліся да Кенэ. Не паспелі на нейкія долі секунды... Рэзкі рывок, і цела Вейлра, падняўшы велізарны фантан пырскаў, імкліва сышло пад ваду. Крык заціх. Над паверхняй тырчалі толькі рукі пляменніка імперскага ляснічага.

— Les sortir! — загадаў Жыле. — Dépêchez-vous[1]

Салдаты пацягнулі Морана. Безвынікова. Жан нібы прымёрз. Ён не зварухнуўся ні на цалю да немалога здзіўлення таварышаў, якія замерлі, як балваны, з хваёвымі галінамі.

— Plus fort que l'enfer! — ашалеў капітан. Яшчэ некалькі жаўнераў кінуліся на дапамогу. — Faites glisser![2]

Гвардзейцы і карабінеры напружыліся. У гэты момант рукі няшчаснага фланкера канчаткова саслізнулі з AN-XIII. Праваднік знік пад вадой. Моран адляцеў назад з такой сілай, што балюча прыкусіў сабе язык. Паваліўся спінай на брыке і чыюсьці стрэльбу. У рэбры ўдарыла мёрзлае дрэва. Дух сперла. Перад вачыма заскакалі іскры. Не звяртаючы ўвагі на боль, унтэр-афіцэр ускочыў і кінуўся да палонкі. На бруднай лужыне не засталося нават колаў. Занадта позна... Няма чаго нават думаць пра тое, каб даць нырца ў палонку. Самагубцаў у атрадзе не знойдзеш.

Павісла цяжкая цішыня.

— Qu'est-ce que c'était?[3] — спытаў капітан Жыле, не адрываючы ўзрушанага погляду ад палонкі, у якой загінуў Кенэ. Усе зморана маўчалі. Салдаты са ссечанымі галінамі працягвалі нерухома стаяць у некалькіх метрах ад палонкі. Цяжка дыхалі, спрабуючы ачуняць. Смерць капрала-фланкера непрыемна ўразіла ўсіх. Ніхто не мог зразумець, што здарылася.

Першым апамятаўся капітан Жыле. Клод выбраў дваіх вальціжораў і адправіў іх разведаць дарогу. Салдаты павольна, асцярожна ставячы ногі ў дзіравых чаравіках на снег, рушылі наперад. Прымкнуўшы да стрэльбаў штыкі, грукалі імі па ледзяной скарынцы, спрабуючы выявіць схаваныя снегам расколіны.

Да здзіўлення ўнтэр-афіцэра, замест звонкіх удараў, чуліся толькі прыглушаныя. Такія магла выдаваць толькі замёрзлая зямля, а ніяк не лёд... «Усё гэта вельмі дзіўна!», — падумаў Моран. Да канца не ўсведамляючы, што робіць, выцягнуў штык. Прымкнуў яго да AN-XIII.

Тым часам разведчыкі дасягнулі палонкі, на імгненне замерлі ля яе, нібыта не адважваючыся пераадолець нябачны Рубікон. Пасля вокрыку капітана Жыле пакрочылі далей. Метр. Другі...

Лёд (калі гэта быў сапраўды ён) трымаў.

— Allez-y, les gars![4] — падбадзёрыў вальціжораў Клод.

Жаўнеры зрабілі яшчэ па кроку. Адзін з разведчыкаў раптам павярнуўся, паглядзеў на таварышаў, нібыта хацеў заручыцца іх падтрымкай. Толькі збіраўся зрабіць крок, як раптам снежная скарынка праламілася. Шрапнэллю ўзляцелі каламутныя кавалкі лёду. Ударыў агністы фантан. У імгненне вока абодва разведчыка ператварыліся ў паходні. Зараўлі, паваліліся на снег, пачалі катацца па ім. Людская маса войкнула і рэзка падалася назад.

---

[1] Цягніце іх! Хутчэй!

[2] Мацней жа, каб вас чорт узяў! Цягніце!

[3] Што гэта было?

[4] Смялей, хлопцы!

— Aidez-les bien![1] — капітан Жыле па-ранейшаму не губляў прысутнасці духу. Некалькі салдат кінуліся на дапамогу пацярпелым. Варта было французам наблізіцца да палонкі, як прагрымеў моцны выбух. Цела аднаго з вальціжораў разарвала на кавалкі. Дробавыя металічныя аскепкі збілі гвардзейцаў і карабінераў. Закруцілі, завярцелі... Губляючы ківеры і стрэльбы, жаўнеры паваліліся на снег. Белая маса вакол трупаў пачала імкліва афарбоўвацца крывёю. Мяркуючы па ўсім, у аднаго з разведчыкаў здэтанавала граната.

Не да гонару гвардзейцам падаць тварам у снег. Моран застаўся стаяць на нагах, у той час як саюзнікі ды тры цірайеры кінуліся на зямлю. Клод змерыў іх пагардлівым позіркам, пасля чаго крыкнуў:

— Pour la bataille![2]

«Маладая гвардыя» завараждалася са стрэльбамі.

Жан дастаў з сумкі патрон. Абкусіў папяровую абгортку. Ялкавы порах трапіў у рот, але хлопцу не было часу звяртаць увагу на прыкрую дробязь. Ён толькі плюнуў і высыпаў крыху пораху на паліцу для затраўкі. Затым сыпануў яго ў ствол. Нягнуткімі пальцамі загнаў у яго круглую кулю. Праштурхнуў свінец шомпалам і некалькімі ўдарамі ўшчыльніў. Зафіксаваў пыжам і ўзвёў курок з кавалкам крэменя. Ускінуўшы стрэльбу, прыцэліўся.

Капітан Жыле блукаў сярод салдат і падымаў іх, не саромеючыся пры гэтым лаяцца і раздаваць поўхі.

— Levez-vous! Que faites-vous établir comme une femme? Les soldats de Napoléon avaient honte de se plier à la terre! Levez-vous! — ваяры павольна падымаліся. — Levez-vous et se battre comme des hommes! Au sujet de la gloire de l'Empereur![3]

Моран паспрабаваў выявіць пазіцыю партызан. Аднак, колькі не ўглядаўся, адрозніць хоць нешта так і не здолеў.

Тым часам снегапад канчаткова спыніўся. Унтэр-афіцэр выцер рукавом шыняля вочы, што слязіліся, і праміргаўся.

Рускія чамусьці не нападалі, хоць момант быў прыдатным.

Клод Жыле здолеў падняць салдат і прымусіць іх падрыхтавацца да бою. Капітан выцягнуў шаблю. Выпрастаўшыся ва ўвесь рост, ён закрычаў:

— Glorieux fils de la France et ses alliés! Qu'est-ce que nous nous situons, il est temps de montrer! Laisse-le vivre de l'Empire![4]

Патрыятычны зварот афіцэра знайшоў водгук у сэрцах вояў. Жаўнеры пастроіліся, ашчацініўшыся рулямі стрэльб, шаблямі і пікамі.

— Seuls shoot sur mon équipe![5] — строга папярэдзіў Клод.

Салдаты замёрлі. У злавеснай цішыні быў чутны толькі трэск полымя, што сквапна жэрла целы вальціжораў.

Прайшла хвіліна. Другая... Нічога не адбывалася.

Жан падзівіўся паводзінам рускіх. Яны не ўкладваліся ні ў якія рамкі. А гэта насцярожвала. Прымушала сэрца часціць. З кустоў не ляцелі кулі і гранаты, не выскоквалі сяляне з віламі, косамі і дубінамі, не вылятали гусары...

---

[1] Дапамажыце ж ім!

[2] Да бою!

[3] Устаць! Што вы разлегліся як бабы? Сорамна салдатам Напалеона кланяцца зямлі! Устаць! Уставайце і змагайцеся як мужчыны! У імя Імператара!

[4] Слаўныя сыны Францыі і яе верныя саюзнікі! Надышоў час паказаць, на што мы вартыя! Няхай жыве Імперыя!

[5] Страляць толькі па маёй камандзе!

Цішыня біла мацней за свінец.

Моран павёў ствалом. Слізгануў позіркам па кустах і дрэвах. Так і не знайшоўшы нічога падазронага, мелькам зірнуў на Жыле. Той трымаўся добра, хоць ніяк не мог зразумець, што адбываецца. Ненатуральныя паводзіны рускіх палохалі яго. Ён чакаў каго заўгодна — партызан, лейб-гвардыю, кірасіраў, егераў, драгун, казакаў, рэгулярныя войскі, але толькі не мёртвую цішыню, што халадзіла кроў...

Мінула яшчэ хвіліна. Языкі полымя, што лізалі целы вальціжораў, раптам пагаслі. Жыле машынальна паглядзеў у бок трупаў. Некалькі секунд нічога не адбывалася, а затым паветра над месцам гібелі французаў задрыжала і пачало пераліваццa вясёлкавымі блікамі. Відовішча было чароўным. Ніхто з жаўнераў не бачыў нічога падобнага раней. Ствалы стрэльбаў і пікі апусціліся.

Першым вырашыў пакінуць карэ капітан Жыле. Апусціўшы шаблю, ён рушыў да дзівоснага бачання. Паветра ў раёне віхуры клубілася. Вабіла да сябе, прымушала забыцца пра ўсё. Жан нечакана злавіў сябе на думцы, што яму хочацца кінуць усё і паддацца клічу дзівацтва. Жаданне было настолькі нясцерпным, што гвардзеец таксама выйшаў са строю і рушыў услед за камандзірам.

Клод павольна падышоў да віхуры. Спыніўся. Шабля выпала з рук капітана і гучна бразнула аб лёд. Афіцэр працягнуў да анамаліі руку. Віхура спачатку падалася назад, а затым мякка дакранулася да канечнасці чалавека. Імгненна перайначыўшыся, заглынула яго... Цела Клода падкінула ў паветра. Закруціла з шалёнай хуткасцю. Затым адбылося тое, што прымусіла атрад здрыгануцца. Капітана вывярнула навыварат...

Моран «склаўся» напалову і выплюхнуў на снег змесціва страўніка. Жоўць заліла снег і чаравікі гвардзейца. Жан здзіўлена паглядзеў на глейкую масу. Страсянуў галавой, зачарпнуў жменю снегу і працёр ім твар. Стала крыху лягчэй. Хлопец знайшоў у сабе сілы паглядзець на тое, што засталося ад капітана Жыле. Страўнік зноў рвануў да горла, але ўнтэр-афіцэр стрымаў яго парыў. Нядаўні веліт падняў AN-XIII і адступіў да строю, чамусьці падумаўшы, што сапраўдныя непрыемнасці толькі пачынаюцца. Цірайер не мог сказаць, адкуль у яго з’явілася гэтая ўпэўненасць, тым не менш грэбаваць інтуіцыяй не стаў.

— Être![1] — загадаў унтэр-афіцэр, заўважыўшы, што некалькі чалавек збіраюцца даць дзёру. Салдаты паслухаліся, вось толькі Жан Моран не быў упэўнены ў тым, што яны стануць падпарадкоўвацца і далей.

Хмызняк злева ад пазіцыі атрада пачаў змяняцца. Галіны падаўжэлі настолькі, што здалёку сталі падобнымі да гіганцкіх шчупальцаў. Яны віліся, закручваліся, нахіляліся, налiваліся непранікальнай чарнатой, нібыта на іх пралілі чарніла.

— Qu’est-ce que c’est?[2] — прамямліў улан Дэвош. Выпусціўшы піку, грузна асеў на зямлю. Пачаў хутка-хутка адпаўзаць. Ніхто з жаўнераў не паглядзеў у яго бок. А дарма... Верагодна, саюзніка можна было выратаваць ад згубы. Найміт прапоўз спінай наперад два дзясяткі метраў. Не заўважыўшы напаўпразрыстага грыба на доўгай ножцы, уляцеў у яго. Грыб аказаўся не просты — капялюшык раздуўся, ператварыўся ў гіганцкі парасон, які самкнуўся на шыі ўцекача. Гулка бразнула брыке. Адзін з карабінераў рэзка разгарнуўся і «засадзіў» па анамаліі са стрэльбы. Капялюшык імгненна прыняў выгляд шчыта і адбіў кулю. Ды не проста адбіў, але і даслаў яе назад. Трапнасць грыба непрыемна ўразіла — кавалак свінца трапіў прама ў лоб стралка. Запырскаўшы таварышаў крывёю, мужчына зваліўся ім пад ногі.

---

[1] Стаім!

[2] Ды што ж гэта такое?

Больш ніхто не страляў.

Французы і саюзнікі мацней прыціснуліся адно да аднаго. На шчасце, ніхто не пабег. Салдаты пакуль яшчэ захоўвалі дысцыпліну, хоць рабіць гэта з кожнай хвілінай станавілася ўсё цяжэй. Страх душыў.

Кусты ператварыліся ў агідны клубок шчупальцаў рознага памеру і даўжыні, якія безупынна варушыліся і цягнуліся ва ўсе бакі. Праз некалькі хвілін яны адчулі прысутнасць людзей. Мігам пераарыентаваліся ў іх бок і хутка пацягнуліся да жаўнераў.

Усё бліжэй і бліжэй...

У кагосьці з вояў не вытрымалі нервы і ён спусціў курок. Грымнуў стрэл, які паслужыў сігналам для астатніх салдат. Наваколле страсянуў магутны ружэйны залп. Атрад патануў у парахавым дыме. Жан таксама стрэліў. Прыклад балюча ўдарыў у плячо. У твар дыхнула жарам.

Унтэр-афіцэр апусціў стрэльбу і палез за патронам, машынальна адзначыўшы, што свінец прайшоў праз клубок, нібы гарачы нож скрозь масла. Кавалкі плоці разляцеліся па баках. Пырснула нейкая фіялетавая вадкасць. Рэзка запахла чымсьці непрыемным...

Смурод быў настолькі моцным і невыносным, што строй адступіў на тры крокі. Адзін з карабінераў спатыкнуўся. Недарэчна ўзмахнуўшы рукамі, хутка знік у палонцы, хоць Моран быў гатовы паклясціся, што пад нагамі зямля. Пырскі крыві і бруднай вады паляцелі на французаў і саюзнікаў. Гэтага аказалася дастаткова для таго, каб строй рассыпаўся. Уланы і карабінеры з крыкамі пабеглі ў розныя бакі. Усе спробы заклікаць іх да парадку аказаліся беспаспяховымі...

Унтэр-афіцэр ледзь не сарваў голас. На шчасце, ціраьеры і вальціжоры прысутнасці духу не згубілі. Згрупіраваліся вакол Жана Морана.

Унтэр-афіцэр хутка зарадзіў стрэльбу. Ускінуў зброю, гатовы ў любы момант спусціць курок. Ворага ў межах бачнасці неназіралася. Гэта дазволіла нядаўняму веліту ў падрабязнасцях разгледзець тое, што адбылося з уцекачамі. Кідаючы зброю і зрываючы з сябе ранцы і амуніцыю, яны беглі па снезе, падалі і зноў падымаліся. Жаданне выжыць было вялікім. Вось толькі нешта невытлумачальнае на корані перакрэслівала прагу жыцця. Дваім, якія беглі наперадзе, гнуткай сцяблінай ударыла па каленях. Ад канечнасцяў засталіся толькі абрубкі. Затым «шчупальцы» прабілі салдатам грудныя клеткі. Яшчэ адзін уцякач зваліўся ў яму. Траіх накрыла абваленым дрэвам. Аднаго паднялі і сціснулі галіны. Вой лопнуў, як саспелая ягада...

Адчуваючы, што вось-вось звар’яцее, Моран стрэліў у нейкі брудны шэры цень, што ўзнік ніадкуль. Куля прабіла монстра, аднак не нанесла яму шкоды. Дзірка на грудзях істоты хутка зацягнулася. Падняўшы рукі, здань рынулася на ўнтэр-афіцэра. З адтуліны, што служыла ёй ротам, даносіўся нізкі вантробны рык.

Зарадзіць стрэльбу Жан не паспяваў, таму вырашыў выкарыстаць яе ў якасці дзіды. Выставіў зброю, цэлячыся штыком у жывот істоты. Сціснуў мацней. Лязо ўвайшло ў цела монстра нечакана лёгка. Нібы ўнтэр-афіцэр кальнуў сцірту сена. Штык знік у целе тварыны. Жан пракруціў яго, наваліўшыся на стрэльбу. Істота заенчыла і моцна ўдарыла па AN-XIII. Штурхель выбіў зброю з рук Морана. Аказаўшыся без стрэльбы, унтэр-афіцэр рвануў брыке і секануў наводмаш. Завостраны клінок лёгка перарубіў шыю монстра. Цела павалілася на снег. Замест крыві монстра напаўняла глейкая вадкасць непрыемнага цёмна-сіняга колеру. Падумаць пра дзівацтвы ўнтэр-афіцэр не паспеў, — снег перад строем уздыбіўся, пайшоў велізарнымі хвалямі. Пасля чаго з варонак выскачылі яшчэ тры істоты. Яны былі падобныя да забітай, нібыта двайняты.

— Hachez à l'épée! — крык Жана і чыйсьці стрэл зліліся разам. Першым зарыентаваўся ў становішчы сяржант Обры. Адкінуўшы стрэльбу, Агюст выхапіў шаблю. Пагульваючы клінком, паспяшаўся на ворага. — Gardes, allez-y![1]

Людская маса прыйшла ў рух. Са стрэльбамі наперавес воі кінуліся ў атаку. Звыклыя рухі пазбавілі вальціжораў і цірайераў ад страху. Жаўнеры суцэльнай сцяной насоўваліся на шэрых істот. З зямлі раптам ударыла магутная бруя газу. Адзін з французаў быў абпалены, тым не менш строю не пакінуў. Пакульгваючы і тузаючы галавой, крочыў наперад разам з астатнімі.

Кусты па абодва бакі ад атакуючых нечакана расступіліся, прапускаючы нова-га ворага — дзясяткі жаб, трытонаў, яшчарак, змей ды іншай балотнай жыўнасці. Ніхто не здзівіўся таму, што пачвары могуць існаваць сярод снегу і лёду. Салдаты далі залп. Некалькі гадаў былі забітыя. Аднак свінец не змог спыніць наступальнага парыву праціўніка. Выдаючы агідныя гукі, монстры рынуліся да значна парадзелага атрада. На шчасце, рухаліся яны занадта павольна. Воі паспелі перазарадзіць стрэльбы, прыцэліцца і стрэліць у другі раз. На земнаводных абрынуўся агністы шквал. Страты былі страшэннымі, але ворагі не звярталі на іх увагі. Ацалелыя гады зноў кінуліся на людзей. Жаўнеры падпусцілі істот бліжэй і пачалі азвярэла калоць штыкамі, рассякаць брыке, біць прыкладамі і цiснуць чаравікамі.

Сяржант Обры вёў няроўны бой адразу з трыма шэрымі гадамі. Монстры цiснулі Агюста да палонкі, у якой загінуў Кенэ. Вальціжор адыходзіў, сек мярзоцце, аднак істоты хутка аднаўляліся. Моран кінуў на таварыша трывожны позірк. Ацаніўшы становішча, хутка дабраўся да сяржанта. З ходу секанўў шабляй па шыі адной з істот. Адбіў магутны ўдар другой, прыкрыў спіну Обры. Унтэр-афіцэр падаспеў своечасова — вораг параніў Агюста. Обры адной рукой адмахваўся ад праціўніка, а другой трымаўся за бок. Жаночы кажух вакол пяцярні пацямнеў ад крыві.

Жан ткнуў монстра лязом. Прамахнуўся і адразу ж нанёс новы ўдар. Знізу ўверх, спрабуючы дастаць ворага. Істота жвава адскочыла.

Моран павярнуўся. Сяржант сыходзіў крывёй. Сілы пакідалі яго — ён адбіваўся на апошнім дыханні. Было бачна, што яшчэ трохі, і Обры ўпадзе. Не выпускаючы ворага з поля зроку, унтэр-афіцэр выцягнуў мушкетон. Прыцэліцца і націснуць на цынгель было справай адной секунды. Куля, хоць і не знішчыла монстра, на імгненне адцягнула яго ўвагу. Гэтага аказалася дастаткова для таго, каб Жан зрушыўся ўбок і абрынуў на тварыну магутны ўдар. Істота кулем паваліліся на брудны снег. Другая тварына кінулася да французаў. Мела ўсе шанцы дастаць людзей, але тут ёй у спіну трапіла піка. Убачыць выратавальніка Моран не здолеў — салдат знік пад грудай трытонаў і змей.

Бойка разгаралася.

Жан дабіў монстра. У некалькіх метрах наперадзе матэрыялізаваліся яшчэ сем.

— Aubrey, compter sur moi! — крыкнуў унтэр-афіцэр. Падхапіўшы параненага таварыша, павольна пайшоў да рэшткаў атрада. За тыя некалькі імгненняў, якія Жан змагаўся з «шэрымі», французы страцілі яшчэ чацвярых. Мярзоцце мела некалькі шэрагаў доўгіх вострых зубоў, якія з лёгкасцю пракусвалі вопратку і плоць. Гады чапляліся за канечнасці, валілі салдат, пасля чаго перагрызалі ім горла. Пах гарачай крыві прыводзіў іх у шаленства. — Mon Dieu![2]

---

[1] Сячыце іх шаблямі! Гвардзейцы, наперад!

[2] Обры, абапрыся аб мяне! Божа ж ты мой!

Моран рассек трытона, адкінуў нагой жахліва велізарную змяю, прыпячатаў чаравікам выродлівую бэзавую жабу, густа пакрытую рагавымі нарастамі. Нейкім цудам пазбег падзення ў лужыну крыві і вантробаў. Паспеў разваліць напалам яшчэ аднаго трытона, як заўважыў новую небяспеку — з лесу вынырнула пяць яркіх вогненных шароў. Круглякі былі невялікага памеру. Пякучае цяпло, што ішло ад іх, адчувалася ўжо ў дзесяці метрах. Шары закруцілі па паляне. Гвардзейцы, ні на хвіліну не спыняючы адбівацца ад брыдоты, апасліва касіліся на нечаканае дзіва.

Жан, працуючы шабляй, павольна прасоўваўся наперад. Паранены Обры спрабаваў дапамагчы ўнтэр-афіцэру, але ў хуткім часе канчаткова выдыхнуўся. Абапіраючыся на шаблю, стараўся не ўпасці.

Па мёртвай бледнасці падначаленага Моран зразумеў, што справы дрэнь. Калі сяржанта не перавязаць, ён проста сплыве крывёю. Але як зрабіць гэта, калі наваколле кішыць ворагамі?

Тым часам вогненныя шары змянілі тактыку. Яны спынілі бязладна кідацца па паляне і пачалі рухацца на спіралі, паступова памяншаючы зрух вітка. А потым кінуліся на жаўнераў. Адзін з шароў з велізарнай хуткасцю накіраваўся да вальціжора. Гвардзеец спрабаваў абараніцца пры дапамозе выстаўленай стрэльбы, аднак згустак плазмы ў дранку разбіў AN-XIII і ўдарыў у грудзі воя, каб праз імгненне вылецець са спіны. Агонь прыпаліў рану.

— Qu’est-ce qui se passe ici, bordel?[1] — разгублена спытаў самога сябе Моран, вар’яцкім поглядам пазіраючы на тое, як цела з сіметрычнай дзіркай у грудзях валіцца на зямлю. Шары закруціліся ў смяротнай каруселі. Вочы ледзь паспявалі сачыць за іх імклівым перасоўваннем. Круглякі аднаго за другім выбівалі ацалелых салдат.

Унтэр-афіцэр раптам зразумеў, што атраду не выжыць. Аднак капітуляваць нядаўні веліт не збіраўся. «Гвардыя не здаецца!» — нагадаў сабе хлопец. Заўважыўшы шар, што ляцеў на яго, падняў брыке. Да храбусцення ў пальцах сціснуў дзяржальна. Прыкрыў сабой Обры і падрыхтаваўся ўдарыць па шары. Як толькі распалены дабяла кругляк наблізіўся на патрэбную адлегласць, Жан нанёс моцны ўдар. Пачуўся трэск, запалала яркая ўспышка, а затым рэальнасць пацьмянела...

Моран з цяжкасцю расплюшчыў цяжкія павекі і паспрабаваў сфакусаваць погляд. Нічога не атрымалася. Перад вачыма пераліваліся нейкія бясформенныя плямы. Жан матнуў галавой, спрабуючы адагнаць бачанне. Чарапная каробка адразу ж адгукнулася рэзкім болем. У мозг нібы ўпіліся сотні іголак. Унтэр-афіцэр ледзь стрымаў стогн, што ірваўся з грудзей.

Вытрымаўшы невялікую паўзу, Жан паўтарыў спробу ўключыцца ў рэальнасць. На гэты раз атрымалася лепш. Каламутныя бясформенныя плямы ператварыліся ў буйных чорных крумкачоў, якія густа абляпілі галіны дрэў. Праклятыя птушкі радасна і ўзбуджана крычалі ды білі крыламі. Моран непрыемна ўразіўся таму, наколькі птушкі буйныя.

— Sortez! — прагнаў птушак француз, але тыя не адрэагавалі. Прысутнасць жывога чалавека іх нікольки не пужала. — Le diable avec vous![2]

Жан пераключыўся на ўласныя адчуванні. Болі не было, толькі нейкі дзіўны стан поўнай адхіленасці. Зрэшты, яна хутка праходзіла — пачынаў адчувацца холад.

---

[1] Каб вас чорт забраў, што ж тут адбываецца?

[2] Прэч! Ну і д’ябал з вамі!

Праз імгненне хлопец зразумеў, што ляжыць на зямлі. Паспрабаваў узгадаць, як апынуўся на снезе, але так і не здолеў. У галаве было пуста.

Унтэр-афіцэр зрабіў спробу прыўзняцца. Не атрымалася. Цела нібы прымерзла да зямлі. Жана ахапіла хваляванне. Загадаўшы сабе не панікаваць, Моран паспрабаваў зноў. На гэты раз хлопец змог сесці. Галава закружылася, але гвардзеец здолеў перамагчы слабасць. Як толькі шум у галаве знік, паглядзеў па баках. Першае, што кінулася ў вочы, былі трупы таварышаў. Вальціжоры і цірайеры ляжалі там, дзе застала іх смерць...

Жан імгненна ўсё ўспомніў. Сабраўшы рэшткі сіл, падняўся. Рушыў да жаўнераў, песцячы надзею на тое, што хто-небудзь усё ж ацалеў.

Усё дарэмна. Кашчавая павесялілася на славу...

Моран не змог стрымаць слёз. Было горка і крыўдна. У тым, што здарылася адчувалася нейкая несправядлівасць. Аднак разабрацца ў сваіх пачуццях хлопец не здолеў, бо заўважыў, што побач яшчэ хтосьці ёсць. Жывы. Нядаўні веліт павярнуўся. Са здзіўленнем утаропіўся на дзяўчыну гадоў пятнаццаці, якая з непрыхаванай цікавасцю тарашчылася на Жана. Залацістыя валасы, велізарныя блакітныя вочы, прамы нос, тонкая палоска вуснаў. З адзення на незнаёмцы было толькі сакавітае зялёнае лісце, што прыкрывала жаночыя вабноты. На нагах — чаравікі з кары. Больш чым недарэчны строй для вечаровага марознага лесу...

— Qui êtes-vous?[1] — трохі ачуняўшы, пацікавіўся ўнтэр-афіцэр. Ён баяўся, што перад ім галюцынацыя.

— Bonne nuit! — адгукнулася дзяўчына. Яна размаўляла на добрай французскай мове, нібыта ўсё жыццё правяла ў Парыжы. — Ceci, au premier abord. Et, deuxièmement, les gens instruits, se sont d'abord présentés, puis demander le nom de l'interlocuteur[2].

— Excusez-moi, mademoiselle, — паспяшаўся papравіцца гвардзеец. — Mon nom est Jean Moran. Faites-nous savoir... Qui vous êtes et ce que l'on ne dans les bois?[3]

— Je suis la fille du propriétaire de la forêt! Je vis ici![4] — адказала незнаёмка.

Француз аслупянеў. У галаве панаваў вэрхал. І, чым далей, тым больш блытана ўсё станавілася.

— Excusez-moi?[5] — перапытаў нядаўні веліт.

— Qu'y at-il à comprendre? Je suis la fille du propriétaire de la forêt! Mon père est encore Dobrokhot, Lesun, Patron des forêts… — цярпліва патлумачыла німфа. — J'ai décidé de visiter un parent. Venez pour une visite à un hôte du marais. Il fut l'un ennuyeux! Par conséquent, il s'amuse![6]

— Avoir du plaisir?[7] — перапытаў Моран, спрабуючы зразумець, пра што кажа незнаёмка. Галава расколвалася ад непасільнага напружання.

---

[1] Хто ты?

[2] Добрай ночы. Гэта, па-першае. А, па-другое, выхаваныя людзі спачатку прадстаўляюцца самі, а потым пытаюцца імя суразмоўцы.

[3] Прабачце, мадмуазель. Мяне клічуць Жан Моран. Будзем знаёмыя... Хто вы і што робіце ў лесе адна?

[4] Я — дачка Лесавіка і жыву тут!

[5] Даруйце?

[6] Чаго тут незразумелага? Я дачка гаспадара лесу. Майго бацьку завуць яшчэ Дабрахвотам, Лесуном, Лясным Гаспадаром... Вось вырашыла наведаць сваяка! Зайсці ў госці да Балотніка. Сумна яму аднаму. Таму і дурэе…

[7] Дурэе?

— Oui, — кіўнула дзяўчына. — Dans le marais, puis tué tout le monde. Vous avez appelé dans le marais, puis tué tout le monde… C’est son jeu préféré. Nous vivons dans le bled et le divertissement que nous avons. Alors marais Boss avec Bagnik et Lozovik amusant… Mais vous n’avez rien à craindre. Vous m’avez aimé tout de suite. Avez-vous un bon et brave! Pour cette raison, j’ai persuadé mon oncle de ne pas vous tuer![1]

— Merci![2] — адгукнуўся Жан, ужо не ведаючы, у што яму верыць. Усё вакол здавалася кашмарам. Хлопец ушчыкнуў сябе, але бачанне не знікла.

— Maintenant vous avez à mon mari! — сказала дзяўчына. — Vous allez devenir le nouveau maître de la forêt, si vous faites affaire avec le beau-père! Si pas, alors votre corbeaux sklyuyut corps, et emporter les os du Patron des marais. Pas trace reste… Choisissez![3]

Унтэр-афіцэр Жан Моран зірнуў на прыгажуню. Слізгануў позіркам па трупах таварышаў, затым перавёў погляд на дачку Лесавіка. Сумна ўсміхнуўся. У тым, што яго выбар будзе правільным, хлопец не сумняваўся.

---

[1] Так. Зазваў вас у балота, а потым знішчыў усіх... Любімая яго забаўка. Месцы ў нас дзікія, забаў асаблівых няма. Вось Балотнік з Багнікам і Лазовікам цешацца... Гуляюць. Але табе больш няма чаго баяцца. Ты мне адразу спадабаўся. Ты добры і смелы! Таму я здолела ўгаварыць дзядзьку не забіваць цябе!

[2] Дзякую!

[3] Цяпер ты павінен стаць маім мужам! Справішся з цесцем, станеш новым Лесавіком! Калі не, тваё цела абгрызуць крумкачы, а косткі пацягне Балотнік. І следу не застанецца... Выбірай!



Віктар ЛУПАСІН

# ЛЯТУЧЫ КАЛЕГІУМ



***Віктар Лупасін нарадзіўся 4 мая 1982 года ў Мінску. Скончыў філфак БДУ. Паэт-эксперыментатар. Пісаць па-беларуску пачаў у 1998 годзе, першы твор — паэма «Nіnja 2». Выдаў кнігу «Асарці» (2009), «Жэсць і свінінка» (2010) — самвыдатам. Напісаў паэму «Купала, Колас і Лупасін».***

## ДЗЕД НА РОВАРЫ

1

Я прыкмеціў яго на Партызанскай. Галоўнае, так лёгенька трымаецца: усе за горад і ён за горад. На ровары сярод машын. І не падобна, каб цяжка яму было ці што: таго абгоніць, там праслізне. Валасы белыя, я падумаў, што фарбаваныя.

За Шабанамі я прыціснуў. Еду сто — ён за мной увіхаецца. Я тады сто дваццаць, ён не адстае. А я ж чуў пра гэных камікадзэ, што ў беспаветранай зоне на хвасце трымаюцца, а вось пабачыць не даводзілася.

І тут мне стрэліла: гэта ж небяспечна! Крыху з калідора высунуўся — усё! На такой хуткасці. Я крыху збавіў, перастроіўся, а гэты як ехаў так і едзе! Пінжак целяпаецца, валасы дыбарам, акуляры на вяровачцы, і тут я гляджу, а ён нават педалі не круціць: два разы праверне і накатам. А ў мяне сто дзесяць. А ў яго болей.

Я думаю: трэба з ім пагаварыць. Спыняемся. Ён падыходзіць, а яму гадоў пад семдзесят. Зубы ўсе жалезныя. Лыбіцца на мой жыгулёк.

— Слухай, — кажу я, — што ў цябе за ровар? Нейкі ядзерны.

— Нармальны ровар, — гаворыць дзед. — Сістэма ніпель, сярэдзіна XX стагоддзя. Я яшчэ да рэформы браў.

— А праехацца можна? — пытаю.

Праехаўся. Ровар і ровар. Нармальны, дагледжаны.

— Ядзерны? — пытае ён. А ў самога вочы хітраватыя!

Разлажыліся на капоце: гуркі, памідоркі... напоі. Дзед больш на ежу налягае.

— Слухай, — пытаю я. — Як ты так ездзіш? Гэта ж немагчыма ўгнацца.

— Так і езджу, — гаворыць ён. І мінералку куляе.

— Дык, можа, мяне навучыш? — пытаю. — А то гэтая зараза дзевяноста другі бензін спажывае па дванаццаць літраў.

— Мы з табой, — гаворыць дзядок, — таксама шмат чаго спажываем. Асабліва я.

А сам, праўда, так трушчыць, што я падразаць не пасняваю.

А я яму тады каньячку, каб разгаварыць.

Ну і разгаварыў у выніку. Не адразу, пасля шклянкі чацвёртай, можа, пятай.

Дзядок гэты, аказваецца, прыдумаў нейкую тэорыю левітацыі і тэлепартацыі. Пра тэлепартацыю я не зразумеў, а пра левітацыю ён гаворыць, што можа хоць каго навучыць, каб у яго аж кожная клетачка ў паветры лётала. А ровар у паветры не трымацца. У яго неяк там на ежу ўсё завязана.

Ён потым шмат чаго паказваў мне, ды я ўжо быў харошы. Мы ў нейкую вёску заехалі па дагонку, а ён дакалупаўся да двух гопнікаў, а потым завіс на бярозе і назіраў за імі, як яны яго шукаюць.

**2**

— Навучыў?

— Што?.. Га, не. Мы там перапіліся ў той дзень, а ранкам мне трэба было ехаць на працу. Я нават не памятаю, як разышліся.

Рамуальд Вальдэмаравіч скамячыў дакурак, пстрыкнуў у бездань.

— Левітацыя — гэта, канешне, сур'ёзна. Трэба ёю штодня па 16—18 гадзін займацца... А лепей болей.

— Думаю! — сказаў я.

— А што да тэлепартацыі, — працягваў Рамуальд Вальдэмаравіч, — то тут увогуле справа цёмная. Са ўсіх, хто вучыўся гэтаму, пасля першай тэлепартацыі выжыла шасцёра. Пасля трэцяй — трое. Вельмі шмат падводнага камення.

— А вы ведаеце гэтага дзядка? — спытаў я.

— Ведаю. Дзіўна, што ён табе пра неўміручасць не распавёў: улюбёная тэма. Яго ж праз гэта з кафедры знялі і ступені пазбавілі.

Рамуальд Вальдэмаравіч запаліў новую цыгарэту, прапанаваў мне. Я адмовіўся.

— А я вось што думаю, — прамовіў ён, пускаючы тытунёвы дым, які павольна мяшаўся з вільготным ранішнім небам. — Табе тут не халодна?

— Крыху халодна, але не надта, — адказаў я. — Дык што вы думаеце, Рамуальд Вальдэмаравіч?

— Глупства гэтыя левітацыі, — прамовіў настаўнік ціха.

Я слухаў.

— Глядзі, мы з табой ідзём да сталоўкі: кіруем паўз парк, праходзім помнік, абмінаем дуб, потым праз пляцоўку, праз яблыневы сад... Карацей, дарога няблізкая.

— Затое жывапісная, — адгукнуўся я.

— Менавіта. Мы налюбуемся на ранішнія краявіды, надзівімся на Дняпро, набяром астраханачак для апетыту, пашпурляемся осыпам у Кацю Карабанаву...

Я заціснуў рот аберуч, каб не зарагатаць.

— І, такім чынам, мы прыйдзем да сталоўкі з пэўнымі ўспамінамі. Так. Цяпер глядзі: мы тэлепартаваліся туды, але не прайшлі дарогі, не нагулялі апетыту, не пагаварылі, а што там сёння будзе на сняданак, я не распавёў табе філасофскіх ісцін жыцця, ты мне не распавядзеш, як напіўся ў пятніцу...

— У суботу! — запратэставаў я.

— Хай будзе ў суботу. Ты хоць сам зразумеў, як нецікава жыць чалавеку, які ўмее тэлепартавацца?

— Але можна ж не заўсёды гэта рабіць.

— Дружа, — уздыхнуў Рамуальд Вальдэмаравіч, — у тым і праблема, што людзі,

якія ўмеюць тэлепартавацца, забываюць, як гэта цудоўна — хадзіць пешкі. Яны пераносяцца з ніадкуль у нікуды і адно ўмеюць ганарыцца, што робяць гэта імгненна. Я таму і не стаў на тэлепорта вучыцца. Дзед вельмі жадаў, каб я вывучыўся.

Рамуальд Вальдэмаравіч, відаць, хацеў, каб я ў яго нешта спытаў, але мяне пераклініла.

— Добра, — прамовіў ён нарэшце. — Хадзем тваіх будзіць.

**КОДЫ**

— Са мной таксама нешта падобнае здарылася.

Па аўдыторыі пранёсся тужлівы стогн. Рамуальд Вальдэмаравіч спыніў яго жэстам і павярнуўся да Вісюліна:

— Уважліва.

Вісюлін перасеў ямчэй, прачысціў горла і пачаў свой расповед.

— Было гэта даўно, гады мо два таму.

Крашэўскі нешта зашаптаў на вушка суседачцы і быў перапынены Рамуальдам Вальдэмаравічам. Пасля гэтага вісюлінская прамова лілася бесперабойна.

— У той час я быў маладым летуценнікам. Я марыў валодаць усім светам.

Вісюлін зрабіў артыстычную паўзу.

— І вось аднойчы, перабіраючы свае паліцы ў пошуках падручніка па тэхналогіях піяру, я натыкнуўся на старыя дзедавы раздрукоўкі, збрашураваныя таўшчэзнай рыбалоўнай лескай.

Неахайны стос таўшчынёй у маю руку быў надрукаваны, відаць, на нейкай савецкай літарнай друкарцы ці нечым кшталту таго. Там старонкі былі рознай вышыні і з перфарацыяй на палях, літары крыху расплывістыя...

— Мы ведаем, што ты працаваў у вёрстцы, — заўважыў Яўген Сяргееў.

— І вось я спачатку не ўехаў, таму што выглядала гэта на чыт-коды да нейкай гульні, але ж кодаў было ВЕЛЬМІ шмат. Да якой яны гульні і што яны робяць, раздрукоўка не тлумачыла. Проста пералік няўцямных каманд. Але потым...

Вісюлін зноў зрабіў паўзу, але крыху ператрымаў. Узнялася новая хваля абурэння, і зноў Рамуальду Вальдэмаравічу давялося яе супакойваць.

— Дык вось. Некалькі месяцаў я вывучаў таямніцу тых кодаў...

— Хвілiначку, я пераб'ю, — прамовіў Рамуальд Вальдэмаравіч. — Народ, каму не падабаецца, я вас тут не трымаю.

Народ заціх.

— Дзякуй. Працягвайце, калі ласка.

— Дык вось. Некалькі месяцаў я вывучаў таямніцу тых кодаў і нарэшце адкрыў, як іх уводзіць. Некаторыя з іх (першыя старонак дваццаць) былі менавіта дзеля таго, каб я напрактыкаваўся ва ўводзе, так што праз два дні я ндрэнна разбіраўся ва ўсёй сістэме.

Чарговая паўза. Гэтым разам Вісюліна слухалі.

— І вось я выйшаў на вуліцу і пачаў набіраць коды. Першае, што я зрабіў, паставіў сабе дзесяць мільёнаў рублёў. Падзейнічала.

Да мяне адразу прычапіліся двое бамжоў «выручыць на тысячу трыста». Я іх адключыў. Потым, падумаўшы, вярнуў, але замарозіў. Яны засталіся стаяць у ненатуральных паставах, падзьмуў ветрык, адзін бомж з грукатам паваліўся. Я пабачыў, што не паспяваю за трамваем, выставіў хуткасць хады на пяць наміналаў і перагнаў яго, стаў на прыпынку. Людзі ўсе на прыпынку паразявалі раты.

Мне ўвага не была даспадобы. Я выставіў нябачны рэжым, сеў каля акна, але пабачыўшы цяжарную кабету, якая хацела сесці на маё месца, давялося хуценька набраць код праходу скрозь сцены. Я выйшаў праз акно і рушыў пехатою.

Далей мне пстрыкнула скакаць праз дамы, заскокваць у чужыя форткі на высокіх паверхах і там матэрылізоўвацца. Твары ў людзей былі самыя розныя. Я казаў там нешта накшталт: «Добрай раніцы» і гойсаў назад у акно.

За самалётам я таксама палётаў, крыху скарэктаваўшы законы аэрадынамікі. Два разы давялося карэктаваць: першы, калі маю вопратку сарвала сустрэчным ветрам, а другі, калі я на адзінаццаці кіламетрах адчыніў ілюмінатар і некалькіх пасажыраў выдзьмула ў прастору. Давялося адмяняць.

Я прагойсаў так да абеду. Палуднаваць прыйшоў у Макдональдс. Справа ў тым, што ў мяне была мара: пакаштаваць усё тамтэйшае меню. Вось я, зрабіўшы сабе бяздонны страўнік, і каштаваў. А каб ніхто мне не замінаў, я адключыў людзей.

Потым я спакусіў афіцыянтку на працоўным месцы: спачатку ў пустой рэстарацыі, потым з людзьмі, якія не заўважаюць, потым ваўсявідкі на прылаўку.

Далей я другі раз пад'еў у лепшай рэстарацыі горада...

— І як яна называлася? — спытаў Крашэўскі і быў выстаўлены за дзверы.

— Я замовіў кілаграм чорнай ікры, два літры найдаражэйшага калекцыйнага віна, трох парасяці, карпача, літр гарачага шакаладу, потым тэлепартаваўся на Суматру, узяў там той кавы, ведаеце...

— Кацячай кавы? — спытаў Рамуальд Вальдэмаравіч, пабачыўшы замінку.

— Так, кацячай, — адказаў Вісюлін. — Дарэчы, вельмі смачная аказалася.

— І вы гэта ўсё з'елі адзін? — падала галасок новенькая, да якой заляцаўся Крашэўскі.

— Так, адзін. А што? Я ж казаў пра бяздонны страўнік. Ну і вось тыдзень я так жыў, а потым зрабілася мне страшэнна нудна. Пакаштаваць я ўсё пакаштаваў, але адзінае, на што хапала фантазіі, — перакаштаваць яшчэ па разе. Сэнс жыцця кудысьці сплыў. Я падумаў, што ў друкарні мне і то жылося весялей.

Я вырашыў адкруціць усё назад і жыць далей звычайным жыццём, без кодаў. Вось.

— Зразумела. На гэтым спынімся. Хатняе заданне — прааналізаваць сітуацыю спадара Васіля і на заўтрашнім семінары выступіць з крытыкай. Хто жадае?

— Ды тут і крытыкаваць няма чаго, — паблажліва пасміхнуўся свайму суседу Яўген Сяргееў. — У хлопчыка падлеткавыя комплексы.

Далей Рамуальд Вальдэмаравіч, як і ўчора, пастроіў сваіх навучэнцаў цугам і павёў вячэраць. Сталоўка месцілася ў іншым корпусе; неабходна было прайсці праз стары зарослы сад; у адным месцы сцежка вілася ля самага абрыву, і Рамуальд Вальдэмаравіч спыніў аспірантаў, каб палюбавацца на заход сонца над Дняпром.

## ПАЛЁТЫ НАД МАСКВОЙ

— Не атрымаецца.

Я павярнуўся, ледзь не страціўшы раўнавагу на верхатуры.

Праваруч ад мяне сядзеў вельмі дзіўны персанаж. У рыжым цыраваным пінжаку, у сініх штоніках і галёшах на босую нагу. Ён паліў на карнізе музея землязнаўства і страсаў попел у прадонне. Спрытны, лёгкі, беласнежна сівы стары з жалезнымі зубамі, але без ніводнай зморшчынкі.

— Я кажу, не атрымаецца ў цябе гэтак во проста. Не хопіць вышыні для разгону.

Дзед адхінуўся, паглядзеў пільна.

— Ды і паруснасць слабаватая для аэрадынамічнага палёту. Ты першы раз саскокваеш?

Я нясмела хітнуў галавой.

— А ўвогуле мая табе парада — кідай ты пакуль што сваю аэрадынаміку. Аэрадынаміка карысная, калі ўжо левітаваць умееш — тады так, тады яна дапамагае. А на адной аэрадынаміцы без матора нешта спрабаваць рабіць — гэта, брат, заўсёды латарэя. Пяцьдзясят на пяцьдзясят, як пашэнціць.

Ён адным элегантным рухам затушыў папяросу і сунуў недакурак у кішэню штаноў.

— Глядзі.

Стары павольна і далёка пасунуў у прастору спачатку правую сваю нагу, а пасля і ўсё цела. Такім чынам, ён немаведама як трымаў раўнавагу на адной назе на вышыні трыццаці двух паверхаў над асфальтам. Я паглядзеў уніз, і мне паблажэла.

— Ціх-ціх-ціх, не губляй сувязі, — прагаварыў ён, але я ўжо сам выправіўся і адсеў далей, на падаконне.

Дзед пільна мяне разглядаў.

— Ты мне падабаешся, — прамовіў ён. — Трэба нам выпіць за знаёмства і добра пад'есці, а потым я навучу цябе правільна лётаць.

З гэтымі словамі ён даў нырца, колькі разоў кульнуўся, потым выпрастаў палёт і панёсся па-над елкамі.

Я паглядзеў наўкола. Стаяў ранні чэрвеньскі вечар. Далёка ўнізе ляжала прыгожая плошча, поўная людзей і машын. Плошча была вузенькая і вяла наперад. Там працякала шырокая рака з рачнымі трамваямі, а далей расхінаўся аграмадны прыўкрасны горад, у які я летась прыехаў з глухой палескай вёсачкі.

Я зноў згадаў Насценьку. Першым памкненнем было скокнуць уніз. Але я схапіўся за шыбы, згадаўшы таямнічага старога.

Дзед прыляцеў з набітай торбай, пачаў выстаўляць на падаконне слоікі сочыва, каўбасу, смятану, клубніцы, гарэлку.

Я пералез у памяшканне, дастаў сцізорык і ўзяўся шкуматаць каўбасу.

— А далей што было? — спытала Каця Карабанава і пяшчотна-какетліва ўсміхнулася.

— А далей пачаў ён мяне вучыць, — адказаў Рамуальд Вальдэмаравіч. — Альбо ты пра Насценьку?

## ЗБРОЯ

— У цё-ёмным-цё-ёмным горадзе...

Паўза.

— У цё-ёмнай-цё-ёмнай кватэры...

Паўза.

— Сядзелі два цё-ёмныя-цё-ёмныя чалавекі...

Паўза.

— І чыталі інструкцыю.

Нямая сцэна.

— Інструкцыя да вялізнай бутлі, знойдзенай на антрэсолі ў прыбіральні кватэры, якая належала майму дзеду, — працягваў Вісюлін, — сцвярджала пра наступнае.

Яўген Сяргееў нешта шапнуў Каці.

— Яна сцвярджала, што гэта таямнічы прэпарат «Антывіт», выраблены прадпрыемствам «Барбытхімфарм» і прыдатны па 1969 год (гэта ён столькі часу там пра-

стаяў), прызначаны для знішчэння тлушча-бялковых біясфер на планетах зямнога тыпу перад ажыццяўленнем каланізацыі. Гарантавалася хуткасць дзеяння не менш за 1 м/с; праз паўгода рэкамэндавалася паўторная дэвітацыя. Прынцып дзеяння быў вельмі просты: парушынка «Антывіту», судакрануўшыся з малекулай бялку, запускала механізмы самазнішчэння, у выніку чаго малекула ператваралася ў іншую парушынку «Антывіту», працягваючы ланцужковую рэакцыю.

— Толькі не ланцужковую, а ланцуговую, — паправіў Рамуальд Вальдэмаравіч, а Яўген Сяргееў паведаміў Каці нешта пра Курта Вонегута і пра лёд-9. Каця не расчула, але пяшчотна-какетліва ўсміхнулася.

— Такім чынам, — працягваў Вісюлін, — мы мелі ўнікальную зброю масавага знішчэння, і калі толькі...

— Яна не вычхалася за сорак год, — падказаў Малафееў.

— Збілі з думкі. Чакайце, чакайце...

Рамуальд Вальдэмаравіч зыркнуў на Крашэўскага, прыставіў палец да вуснаў.

— Карацей, мы вырашылі адсыпаць крыху гэтай трасцы і зладзіць выпрабаванні.

— Трэніравацца на кошках, — пажартаваў Малафееў.

— Мы ўзялі нашага ката Мурзіка, пасадзілі ў ванну, а самі апранулі супрацьгазы і гумовыя пальчаткі для абароны ад «Антывіту». Я адвярнуў закрутку, прысохлую да рыльца, і сыпануў прэпарат, які аказаўся аранжавым, на небараку. Сыпанулася нечакана шмат, ледзь не паўбутлі.

— Што здарылася з Мурзікам? — спытаў Малафееў.

— Мурзік ператварыўся ў кучку аранжавага пылу, чорных валаскоў і, перапрашаю, таго, што было ў яго ўнутры. Пылу атрымалася нашмат болей, чым сыпалі мы.

Таму вырашылі спаліць гэтую кучку. Узялі запалкі, падпалілі. Палыхнула ледзь не да столі. На шчасце, наверсе нічога не вісела. Эмаль, якая загарэлася, мы залілі вадою.

А бутлю «Антывіту» закруцілі ды паставілі на месца. Там яна стаіць і цяпер, калі кватаранты не скамуніздзілі.

— Усё? — спытаў Малафееў. Бзырын, як заўсёды, нешта пісаў у нататніку.

— Напэўна, — адказаў Вісюлін.

Рамуальд Вальдэмаравіч паліў.

Слова ўзяла бландзінка — ці то бзырынская жонка, ці то малафееўская (іх блытаў нават Рамуальд Вальдэмаравіч).

— Вы гаворыце, што прэпарат быў прыдатны па 1969 год. Так?

— Так, — напяўся Вісюлін.

— А колькі ён тады каштаваў?

— 2 рублі 50 капеек у першым поясе, 2 рублі 60 капеек у другім і 2 рублі 70 капеек у трэцім поясе.

— Гэта што атрымліваецца, за 2 рублі можна было свабодна набыць у гаспадарчай краме зброю масавага знішчэння?

— У тыя часы, — важна заўважыў Вісюлін, — нічога нельга было свабодна набыць.

Рамуальд Вальдэмаравіч між тым дапаліў, выцер лысіну насоўкай, акуратна зачыніў шыбу і павярнуўся да аўдыторыі:

— Яшчэ хто мае якія пытанні?

Пытанняў ніхто не меў, і ўсе разбрыліся на перадабедзенную прагулку, кожны на свой капыл абдумваючы гэтую вісюлінскую гісторыю.

*Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ*

# РАДЫЁМАЎЧАННЕ



***Маргарыта Латышкевіч нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў Брэсце. Цяпер жыве ў Мінску. Магістр філалогіі, працуе ў вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры філалагічным факультэце БДУ. Друкавалася ў часопісах «Бярозка», «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва». Аўтар паэтычнай кнігі «Пульс навальніц».***

Колькі ўжо мы лётаем, а з камісарам Джо кожнага разу адна і тая ж гісторыя. І камісар ведае выдатна, што ў нас кантрабандны акарскі шоўк ці сіліронскія спецыі, ці яшчэ што забароненае на борце, і мы — я ды Гіз — ведаем не горш, што яна ў курсе нашых перавозак. І ўсё адно:

— Борт A550L, асабісты нумар 118sj014, зайдзіце на пасадку.

— Камісар, — кажа Гіз у слухаўку і мне падміргвае. — Тэрміновая місія, можа, у наступны раз?

— Борт A550L, асабісты нумар 118sj014, — душэўна адказвае камісар. — Без гэтых вашых жарцікаў папрашу!

Мы ідзём на пасадку на станцыю квадранта S-407. Месца тут бойкае, некалькі тысяч адных службоўцаў, колькі вайскоўцаў — кантрактнікаў для патрулёў і цэлая прорва гандляроў. У гэтым квадранце хапае жылых зорных сістэм, так што тавараварот вялікі. А дзе грошы і груваcткія ў некалькі секцый грузавікі — там, вядома, і піраты. Міла тут, адным словам.

Стыкуемся, выходзім у ангар — а там, вядома, і сама камісар. Звычайна з ручным сканарам ці нечым тыпу таго. Так быццам бы больш афіцыйна выглядае, напэўна.

— Выдатна, кантрабандысты, — кажа камісар з’едліва. — Што сёння?

Я на гэта заўсёды імкнуся як мага лагодней усміхацца. Бяда толькі ў тым, што зямлянская ўсмешка ў мяне папросту не атрымліваецца: у нас, сірыян, за тры сотні год вырастае каля пяцідзесяці двух іклаў, так што паказваць прыязнасць такім чынам трохі праблематычна. Прынамсі, большасці зямлян няўцям, што гэта — прыязнасць.

Праўда, камісар заўсёды раз’юшваецца, калі я заву яе зямлянкай. Яна, бачыце, вырасла на акіянаферме на адным са спадарожнікаў Юпітара, а на Зямлі была толькі аднойчы, і то на школьнай экскурсіі. На мой густ, паміж зямлянінам-Гізам і ўраджэнкай спутніка наогул аніякай розніцы. Па шчырасці, мне вельмі доўга ўсе зямляне падаваліся на адзін твар.

Дык вось, звычайна камісар пытае, што ж гэта такое мы сёння вязём. А мы з Гізам, канешне, робім вялікія вочы, размахваем рукамі і ўсяляк імкнёмся пераканаць яе, што кантрабандай наогул ніколі не займаліся. Больш

за ўсё гэта падобна да рытуальнага танца на маёй радзіме: так, калісьці даўно ва ўсім гэтым быў сэнс, калісьці ад гэтага, магчыма, нават была нейкая карысць, але цяпер гэта выключна забаўка для ўдзельнікаў.

Гіз не аматар распавядаць пра сваё мінулае, але неяк атрымалася з яго выцягнуць, што ён з братам камісара калісьці вучыўся ў зямлянскай Акадэміі касмалётчыкаў. А брат камісара, як я зразумеў, — адзін з тых зямлян, каму ў пары-тройцы сістэм помнікі ўсталяваныя. «Заваёўнікам Іркалы» — так, здаецца, называюцца. На кожным пастаменце старамодная пузатая ракета і цьмяная срэбная зорачка. І дзеля такога варта было скарыць гэтую іх Іркалу…

Пасля звычайных спрэчак у ангары мы ўтрох ідзём у мясцовы бар. Бар — даволі гучная назва. На самай справе гэта кепская сталоўка з маркотным шасцірукім чаплакам за стойкай. Чаплакам прырода падарыла дзівосны набор канечнасцей, але ўсе яны растуць, відавочна, не з належнага месца. Такіх бяздарных і нязграбных істот Галактыка не бачыла.

— Даруйце, — загадзя просіць прабачэння чаплак і ставіць перада мной запатнелы куфель з дымлівым гакер-ткла. Я своечасова паспяваю падхапіць свой напой, і чаплак з палёгкаю ўздыхае: гэта трэцяя спроба падаць мне напой. Дзве папярэднія ён, з відавочнай агідаю схапіўшы швабру, ідзе прыбіраць. Станцыі ў гэтым квадранце мультыкультурныя, так што просьба прыгатаваць што-небудзь з сірыянскай кухні не выклікае забабоннага жаху ў персанала.

Камісар і Гіз амаль не размаўляюць. Сядзяць сабе побач і маўчаць. Калі б я не ведаў, наколькі зямляне абмежаваныя ў ментальным плане, вырашыў бы, што тут справа ў тэлепатыі. Але чаго няма, таго няма. Гіз глядзіць на блікі ад лямпаў у сваёй шклянцы, камісар, зажурыўшыся, вывучае галаграфічную рэкламу.

— У памяць пра герояў Пакарэння Іркалы! — кажа зямлянскі дыктар, усміхаючыся. З-за нізкай якасці галаграмы ўвесь малюнак праразаюць тонкія цёмныя палосы. — Іх імёны мы памятаем заўсёды! У гонар гадавіны Пакарэння! Замоўце інфаблок пра свайго сваяка, што загінуў на Пакарэнні!..

Я вельмі мала ведаю па зямлянскай гісторыі. Урэшце, я пілот міжзоркавых пералётаў В-класа, а не ксенагісторык які-небудзь. Ведаю, вядома, што было ў іх на Зямлі шмат усякіх войнаў, яшчэ да таго, як яны ў космас выйшлі. Але Пакарэнне — гэта іншае. Штосьці наконт чорнай дзіркі, быццам бы.

— Гіз, — кажу я. — Іркала — гэта ж чорная дзірка?

— Ага, — Гіз ківае і адпівае са шклянкі. — Чорная-чорная, Клёнік.

Вечна ён са мною, быццам з маленькім. А я, між іншым, нават па зямлянскіх мерках, старэйшы.

Камісар пасмейваецца.

— Ты падобны да футравай цацкі, калі злуешся, Ікара.

— Вось ужо чыйго меркавання ніхто не пытаў! — бурчу я пад нос. Камісар працягвае руку і набірае штосьці на пульце галаграмера. Усмешлівы дыктар запінаецца і знікае. Замест яго з’яўляецца расплывісты сілуэт — праграма-гід.

— Дабрыдзень, — рыпае праграма. — Версія «Дэлюкс 1.1» будзе вашым павадыром у свеце фактаў. Ваш запыт «Іркала». Прашу ўдакладніць.

— Іркала, — кажа камісар і падміргвае мне. — Чорная дзірка.

Павадыр міргае.

— Запыт пацверджаны, — паведамляе праграма. — Запіс: «Іркала, яна ж GRS 1124-683 (X-ray Nova Muscae 1991, GU Mus) да ператтварэння. Зорка, што зрабілася чорнай дзіркай за нечакана кароткі адрэзак часу (каля 20 стандартных зямных гадоў). Для вывучэння гэтага аб’екта і высвятлення ўзроўню яго небяспекі Кангрэс

накіраваў да Іркалы лепшых навукоўцаў. Пасля некалькіх гадоў вопытаў былі атрыманы фенаменальныя дадзеныя: чорная дзірка падавала радыёсігналы. Быў сфарміраваны атрад з дваццаці двух караблёў, пазней названы «Пакаральнікамі Іркалы», для даследавання аб'екта знутры. Сувязь з пілотамі страчана на трэці дзень. Жывых няма. Радыёсігнал спыніўся. Пакарэнне Іркалы — адзін з самых трагічных эпізодаў у асваенні чалавецтвам глыбокага космасу…»

— Гэта значыць, — булькаю я. — Вы яе так і не пакарылі?

Камісар моршчыцца.

— Ты, Ікара, разважаеш дробна…

— Я разважаю лагічна, — пакрыўджана выпраўляю я Джо, адстаўляючы пусты куфель. — Калі тыя, першыя, так і не вярнуліся, значыць, нічога яны не скарылі. Глупства ўсе гэтыя мемарыялы.

Джо ўзводзіць вочы да столі. Гіз хмыкае.

— А па-твойму, Клёнік, — кажа гэты зямлянскі дурань. — Яны павінны былі кожны па кавалачку чорнай дзіркі ў кішэню пакласці? І дахаты прывезці?

Я паціскаю плячамі.

— Напэўна. Ці, скажам, перадаць дадзеныя. Калі быў радыёсігнал. Што за радыёсігнал, дарэчы? Каардынаты, ці што?

Гіз хітае галавой.

— Клёнік, — мякка заўважае ён. — Пакарэнне Іркалы — гэта ідэя. Мара. Ад мары цяжкавата ўрваць кавалачак, як думаеш?

Гэтыя мне іх зямлянскія штучкі. Мара ў іх, разумееце: закінуць цэлую флатылію ў чорную дзірку і паглядзець, што з гэтага будзе. Ды любы сірыянін, нават шчанюк, што не змяніў яшчэ па маладосці футра, скажа: дурасць самая сапраўдная.

Будуйце потым мемарыялы і кажыце пра вялікую мару, якая вяла вас да Мяжы і далей. І заказвайце… як гэта завецца? Інфаблок пра гераічнага сваяка? Вось-вось. Шмат жа давядзецца заказваць такіх інфаблокаў.

— Іншапланецянам не зразумець, — усміхаецца Джо. — Праўда, Гіз?

— Анягож, — пырхаю я. — Прынамсі, тым іншапланецянам, якія не выцятыя на ўсю галаву.

Гіз маўчыць і ледзь прыкметна ўсміхаецца. Глядзіць кудысьці ўбок, у ілюмінатар.

— І з чаго вы наогул вырашылі, — бурчу я. — Што ў чорную дзірку можна вось так улезці?

Тут гэтыя вар'яты, вядома, смяюцца. Смешна ім.

— Мабыць, час нам ісці, — не вельмі ўпэўнена кажа Гіз, гультаявата пацягваючыся.

— Праўда што, — ківаю я. — У нас яшчэ замова на… э… Яшчэ адна замова. І ніякай кантрабанды.

— Ікара, — уздыхае камісар. — Ты майстар канспірацыі.

Я сярдзіта хмуруся. Я, канешне, майстар канспірацыі, але ў гэтых яе словах адчуваецца нейкая недарэчная іронія.

Гіз дапамагае мне злезці з высакаватага барнага крэсла, ківае камісару і ідзе да выхаду. Я спяшаюся за ім, але Джо ўтрымлівае мяне за рукаў.

— Ікара, — ціха кажа яна. — Паслухай…

Яна замінаецца, быццам словы даюцца ёй з цяжкасцю.

— Спытай у яго.

— Пра што гэта, камісар?

— Спытай у яго… пра Пакарэнне, — Джо выпальвае гэта і тут жа адпускае мяне. Я паварочваюся да Гіза, які купляе ў аўтамаце энергетычны батончык.

Наўрад гэтая дубіна зямлянская зможа мне паведаміць штосьці новае пасля кансультацыі з праграмай-гідам. Ды не вельмі і хацелася, сумленна кажучы. Не надта люблю зямлян, мёртвых ці жывых.

— Спытай, — паўтарае камісар з націскам.

За яе спінай ізноў з'яўляецца пярэстая і дакучлівая галарэклама.

— У памяць пра герояў Пакарэння Іркалы! — усклікае зямлянскі дыктар, белазуба ўсміхаючыся. — Іх імёны мы памятаем заўсёды! Замоўце інфаблок пра свайго сваяка, які аддаў жыццё дзеля Пакарэння! Усяго сто дваццаць крэдытаў, і…

Да карабля мы ідзём моўчкі. Гіз дабрадушна пазірае па баках і штосьці насвіствае. А я думаю пра тую чорную дзірку. Усё ніяк не магу перастаць думаць.

Сапраўды, гадоў дзвесце таму давялі, што чорныя дзіркі — ніякія не праходы ў іншае вымярэнне. У сэнсе, можа, і праходы, але вярнуцца адтуль немагчыма. Нашы навукоўцы правяралі. Мы ж не тупыя зямляне, каб кідаць туды свае караблі без падрыхтоўкі.

А гэтыя зямлянскія дурні? Што яны нарабілі? Ці былі так радыя, што адшукалі зусім блізка ад сваёй роднай сістэмы чорную дзірку, што не падумалі пра наступствы? Хаця, калі гэта зямляне адрозніваліся разважлівасцю і цвярозасцю меркаванняў?

— Гіз, — аклікаю я нягучна, калі мы ўсаджваемся на месцы ў кабіне.

— Што, малы?

Я моршчуся. Вечна ён кліча мяне малым.

— А ты… — я міжволі запінаюся. Гіз мармыча пад нос сваю заўсёдную песеньку і бадзёра пстрыкае кнопкамі на панэлі кіравання.

— Ну? Што такое, Клёнік?

— Ты штосьці ведаеш пра гэту Іркалу? — пытаюся я, нязмушана абмахваючыся старым нумарам «Зорнага пілота».

Гіз косіць на мяне адным вокам і нахабна ўхмыляецца. Ён заўсёды так ухмыляецца, калі не збіраецца адказваць на прамое пытанне.

— Стартуем праз тры, — пачынае ён адлік. Я адкідваюся ў крэсле і нервова шморгаю рамяні бяспекі. — Дзве… Адну…

Рухавік раве, карабель, дрыжучы, трохі хіліцца набок — і раптам зрываецца з месца. Мяне, як звычайна, уціскае ў крэсла — нямоцна, быццам нейкі велізарны, але прыязны, ласкавы звер паклаў мне на плячо цяжкую мяккую лапу.

— Пачакай, — я сачу за сведчаннямі прыбораў. — Мы занадта рана скінулі хуткасць, Гіз. Тут жа нічога няма!..

Вось жа праклаў маршруцік, нічога не скажаш! А дзе-нідзе нейкі кліент чакае не дачакаецца свой надзвычайна каштоўны груз з забароненых сіліронскіх спецый.

— Няпраўда, — не згаджаецца Гіз, уключаючы аўтапілот. — Нешта ёсць. Паглядзі.

Ён падымае ахоўныя экраны. Я вохкаю і міжволі прыўзнімаюся з месца.

— Гэта… — словы чамусьці захрасаюць у мяне ў горле. — Гэта… яна?

Гіз ківае.

— Яна. Іркала.

…як агромністая зрэнка, падвешаная ў пустэчы, акружаная ззяннем, прагна цягне да сябе ўсё вакол…

Калі б я не ведаў, што на такой адлегласці мы ў бяспецы, што не рухавікі ахоўваюць нас, я б запанікаваў. Што там наш караблік у параўнанні з Ёй? Ды нават найноўшыя крэйсеры сірыянскага флоту здаліся б побач дзіцячымі цацкамі. Яна ўбярэ ў сябе ўсё, да чаго зможа дацягнуцца, ды і цяпер яна цягнецца… цягнецца сюды, да мяне.

Яна — вока бездані, што пільна сочыць за кожным рухам, за кожнай думкай нават…

— Цішэй, цішэй, — супакойвае Гіз і апускае экраны.

Я цяжка дыхаю, пот коціцца па мне градам.

І вось туды яны вырашылі ляцець? Самі палезлі? Праклалі курс, накіравалі караблі, роўнымі радамі ўвайшлі ў густое чарноцце, каб згінуць? І навошта? Дзеля чаго?!

— Гіз, — шапчу я. — Ты гэта бачыў?

— Бачыў, — ківае гэтая дубіна з такім тварам, быццам я яго пра апошні выпуск якога-небудзь серыяла пытаю.

— Гэта ж…

— Я зраблю табе гарбаты, — лагодна кажа Гіз, ляпае мяне па плячы і тупае ў кухонны адсек.

Я знаходжу сілы падняцца на ногі і, пахістваючыся, пайсці за ім. Заставацца аднаму, дакладней, сам-насам з Ёй, якая стаілася за ахоўнымі экранамі, — вышэй за мае сілы.

Гіз бразгае кубкамі, ля яго локця ўтульна булькае імбрычак і гудзе электрачайнік. Я запаўзаю на зэдлік і курчуся ў кутку, імкнучыся не думаць пра жудасны чорны правал.

— І як можна было ляцець туды, — мармычу я ўслых, трасу галавой. — Як можна было…

Я не чакаю адказу, ды Гіз наўрад ці слухае, занадта ўжо заняты гарбатай і насвістваннем песенькі.

— Трымай, — ён падае мне кубак. — Палепшае.

Гэта ўжо наўрад ці. Я адпіваю трохі і хітаю галавой: так і хочацца вытрасці, выкінуць тыя жудасныя некалькі хвілін, калі я бачыў Іркалу.

Гіз марудна вяртаецца ў сваё крэсла, і я хвастом плятуся за ім, па дарозе сёрбаючы гарбату. Страшна заставацца аднаму — і сорамна прызнацца.

Гэта я, Клёан Ікара А-Бейрыс, старшы сярод дзяцей матроны Бейрыс, дыпламаваны пілот міжзоркавых пералётаў В-класа, — баюся? І чаго? Цалкам звычайнай з’явы ў Космасе? Вось жа глупства!

…але ж і **праўда** баюся. І неяк падсвядома, ці што, як у дзяцінстве баяўся Сталёвага Бругі, які замыкае кепскіх дзяцей у сваю сталёвую скрыню.

А Гізу хоць бы што. П’е сабе гарбату, гартае леташні выпуск «Касмапілота». Ды чаго чакаць ад істоты з грубай душэўнай арганізацыяй?

— І што гэта мы тут затрымаліся? — не вытрымліваю я. — У нас, між іншым, дастаўка, а мы тут лынды б’ем.

— Мы чакаем, — спакойна адклікаецца Гіз з-за свайго часопіса.

— Чакаем? — дзіўлюся я. — Чаго чакаем? Калі груз сам адвязецца?

Гэты цюхцель маўчыць.

— Гіз! — усклікаю я абурана. — І доўга ты тут яшчэ збіраешся чакаць?

Гіз высоўваецца з-за часопіса, шчоўкае пазногцем па электронным гадзінніку на панэлі кіравання.

— Яшчэ дваццаць хвілін.

— Дваццаць? — хмыкаю я. — А чаго ж не пятнаццаць? Не трыццаць?

Старонкі часопіса доўга шапацяць. Пасля, нарэшце, Гіз цьмяна тлумачыць:

— Таму што важны час і месца, Клёнік.

Ну вось скажыце, можна з гэтым зямлянскім тарокалам пра што-небудзь размаўляць? Ды абсалютна немагчыма!

Я буркаю пад нос, што ён калі-небудзь сапраўды дагуляецца, бо кліенты хутка ніякіх спраў з намі не захочуць мець праз такія дурасці ды спазненні. Таму што ніколі ж не з’яўляемся своечасова, ніколі. А ўсё з-за каго? Не з-за мяне, само сабой.

Гіз маўчыць і са шчырай цікаўнасцю гартае сто разоў чытаны-перачытаны часопіс. Як у яго гэта атрымліваецца, улічваючы, што большасць артыкулаў ён ужо ведае на памяць, — не магу зразумець.

На прыборнай панэлі гарыць чырвоным сігнал радыё. Мы, як выявілася, наладжаны на ўзмоцнены прыём. Я цяжка ўздыхаю і цягнуся, каб выключыць.

— Рана, — абсякае мяне Гіз.

Ён толькі што быў з галавой пагружаны ў артыкул пра шкоду цыфірыса, асабліва — яго пладоў.

— Рана? — я адшморгваю руку.

— Так, Клёнік. Яшчэ дваццаць хвілін.

— Дваццаць хвілін слухаць цішыню? — удакладняю я на ўсякі выпадак. — Круцячыся па выдаленай арбіце вакол чорнай дзіркі?

— Ага, — ківае Гіз на поўным сур'ёзе.

Як жа мне абрыдлі гэтыя яго зямлянскія фантазіі…

Але мы сядзім і слухаем цішыню. Усе дваццаць хвілін.

Потым Гіз адкладае часопіс, адключае ўзмоцнены прыём радыёсігналаў.

Чырвоная лямпачка згасае.

Пакуль ён, бестурботна насвістваючы, пракладае новы курс, я з асцярогай пазіраю на яго.

Спытаць усё-ткі ці не варта?

— Паслухай, Гіз, — рашаюся я. — А што ты ведаеш пра Пакарэнне?

Гіз усміхаецца — з прывабнымі ямінкамі на шчоках.

— Ды так, дробязі. А што, Клёнік?

— Нічога, — я кручу галавой. — Будзем скакаць?

— Будзем. Праз тры… два… адзін…

Мяккая лапа зноў уціскае мяне ў крэсла, але на душы чамусьці лёгка і спакойна.

Мы ляцім ад гэтай жудаснай мёртвай дзіркі, ад правалу ў бездань.

Мы — ляцім!

* * *

У інфармацыйнай зале глухога касмапорта пуставата, але мне так нават больш падабаецца. Гіз дзесьці боўтаецца. Спадзяюся, у гэты раз не заскочыць у якое-небудзь падпольнае казіно. Бо гэтаму хлопцу фенаменальна не шанцуе.

Я праглядаю навіны ў сеціве. Натыкаюся на сціплы надпіс «Праўда пра Пакарэнне», чамусьці зладзеявата агледаюся і націскаю на спасылку.

І тут жа расчароўваюся: артыкула там як такога і няма, проста падборка фактаў, накшталт спісу караблёў і экіпажаў. «Аркадзія», «Барселона», «Вікантэса Марын», «Ладага», «Севілля»…

— «Эрэбус», — мармычу я ўслых. Я б, напэўна, не звярнуў увагі на гэты карабель, калі б у доўгім спісе каманды не мільганула імя, якое Гіз ленаватым почыркам падпісвае пад дамовамі з кліентамі. Можа, цёзка? У зямлян, з іх недасканалай сістэмай іменаў, такое бывае, я ведаю. Ды не, на дробным фота знаёмы мне твар. Можа быць, толькі трохі маладзейшы, амаль дзіцячы.

— Гіз... — шапчу я здзіўлена.

Пачакайце, хіба ж гэта не спісы тых самых Пакаральнікаў Іркалы? Якія, хоць так і завуцца, але зусім нічога не скарылі, па-дурному загінулі ў драпежнай чорнай пашчы.

— А, ты тут, Клёнік, — Гіз ходзіць амаль бязгучна і любіць нечакана з'яўляцца за спінай.

Ён ставіць перада мной слоік газіроўкі.

— Быццам бы сірыянская, не? Тут прадаюць шыпучку на любы густ… Нават з Зямлі ёсць.

— Гіз, — я паварочваюся да яго. — Тут…

Я тыцкаю пальцам у экран з жалобнымі спісамі. Гіз прыблізна хвіліну вывучае іх са шчырым інтэрасам, як чытае да болю знаёмыя часопісы падчас рэйсаў.

На мерцвяка ён падобны мала.

— Ага, — кажа Гіз. Твар у яго такі, быццам успамінае сон — і ніяк не ўспомніць. — Пацешна.

Пацешна? Я гучна пырхаю. Што ж пацешнага ў тым, каб чытаць некралог са сваім імем? Ці гэта такая дурная зямлянская традыцыя? Чарговая дурная зямлянская традыцыя, накшталт гэтай яго недарэчнай гарбаты?

Гіз усміхаецца краёчкам рота і моўчкі слухае мае з'едлівыя заўвагі. Ён умее слухаць моўчкі — рэдкая якасць у гэтай Галактыцы, трэба прызнаць. І зусім абяззбройвае ў любой спрэчцы.

— Думаю, я і праўда памёр тады, Клёнік, — кажа ён, і праз гэтую яго дурную ўсмешку не зразумець, жартуе гэты дубец зямлянскі ці не.

— Ведаеш, — Гіз уздыхае. — Я быў на «Эрэбусе» ў той дзень. І разам з усімі патрапіў у чорную дзірку.

— І як жа ты, дазволь спытаць, адтуль выпаўз? — кпліва цікаўлюся я. — Га, феномен?

Гіз паціскае плячамі.

— Не ведаю, — адказвае ён. — Ачомаўся ўжо ў выратавальнай капсуле ў адкрытым космасе, на даследчай станцыі.

— Няўжо? У беспілотнай капсуле праляцець некалькі тысяч міль? Ды яшчэ ад чорнай дзіркі з яе гравітацыяй?

Ён ківае.

— Блазан, — упэўнена кажу я. — Ты выдумляеш.

— Вось і мне так сказалі, — смяецца Гіз. — Калі выключалі з Акадэміі. «Такога не можа быць, таму што такога не можа быць ніколі». Такім чынам, я неяк здолеў дэзерціраваць да кропкі незвароту.

Мне ніякавата. Не хацелася яго крыўдзіць.

— Нічога, Клёнік, — Гіз заўважае маю збянтэжанасць. — Гэта нічога. Я звык.

Я злосна сапу. Не цярплю, калі ён мяне суцяшае. Урэшце, я дыпламаваны пілот, а не саплівы шчанюк.

— Толькі вось, — Гіз прысаджваецца на краёчак стала. — Думаю часам…

Ён хмурыцца і трэ далонню лоб.

І я разумею.

Ён думае: калі ў мяне неяк атрымалася адтуль вырвацца, можа, здолелі выйсці і іншыя?

Сапраўды, чаму з экіпажаў дваццаці двух караблёў выжыў толькі адзін зялёны кадэт, і то неяк зусім ужо неверагодным чынам?

Бо так не бывае. Так не павінна быць.

Тым, услаўленым, ужо ўсё адно. Жывому — цяжка.

На вялікіх экранах над залай інфармацыі ідзе пярэстая рэклама.

— У памяць пра герояў Пакарэння! — кажа зямлянскі дыктар, усміхаючыся. З-за нізкай якасці галаграмы ўвесь малюнак праразаюць тонкія цёмныя палосы. — Іх імёны мы памятаем заўсёды! У гонар гадавіны вялікага Пакарэння!..

Гіз, задраўшы галаву, глядзіць на вясёлага дыктара. Вывучае.

— Ведаеш, Гіз, — кажу я. — Калі ўжо гадавіна гэтага вашага недапакарэння…

Я ўздыхаю. Ведаю, што пашкадую пра тое, што скажу.

— Усё адно з кліентам расплюваліся, — працягваю. — Хочаш, паляцім і паслухаем цішыню? Там, каля гэтай… штукі?

Гіз адрываецца ад рэкламы.

— Каб табе было спакайней, — буркліва дадаю я. — А то развёў тут…

Ён усміхаецца.

— Дзякуй, Клёан Ікара, — кажа ён, а я амаль душуся газіроўкай.

Хто б ведаў, што Гіз, гэты аматар дурных мянушак, памятае маё сапраўднае імя.

* * *

І вось мы з ім сядзім ды слухаем цішыню. За ахоўнымі экранамі стаілася драпежная Іркала — я ведаю, яна сочыць, яна чакае.

Гіз гартае свой зацяганы часопіс і часам — адным вокам — паглядае на зыркую чырвоную лямпачку. Напэўна, гэта яго ўсё-ткі супакойвае. Хоць занятак дурны, па-мойму, і спадзявацца тут няма на што.

*Радыёмаўчанне.*

Але я мірна сяджу побач, пазяхаю і пацягваю гарбату з вялікага кубка. Уласна, не такое гэта і паскудства, калі, канешне, абвыкнеш.

*Радыёмаўчанне.*

Працуем толькі на прыём. На ўзмоцнены прыём, каб не выпусціць і самы слабенькі сігнал з нетраў бездані. Толькі вось безнадзейна, нават смешна гэта, спадзявацца тут няма на што.

Але мы сядзім і слухаем цішыню. І чакаем. Чакаем, калі зыркая чырвоная лямпачка загарыцца роўным зялёным святлом. А пакуль…

*Радыёмаўчанне…*

# МАГІЯ — ГЭТА ЗАЎСЁДЫ РЫЗЫКА

**КАЗКА**

З'еўшы бедных дзяўчат нямала,
Праглынуўшы іх з соллю і перцам,
Натыкнуўся дракон няўдала
На няправільную прынцэсу.
Не, прытомнасць яна не губляла
Ды не клікала маму з татам,
І, як быццам таго яшчэ мала,
Спякла кексікаў з шакаладам,
Прыбралася ў пячоры цёмнай
Ды расставіла ўсё па фэн-шую —
І дракону няма жыцця дома,
Ён і ног пад сабою не чуе.
Ён і кажа са слёзнаю скаргай:
«Ці не йшла б ты, красуня, дахаты?
Забірай, калі хочаш, усе скарбы,
Мне жыцця і свабоды — багата».
А яна паглядзела ў вочы,
Быццам мора паўночнае, хмурна.
Адказала:
«Ну, вось яшчэ!
Я ж кахаю цябе,
Дурань».

* * *

Паляванне на драконаў
З арбалетам,
Ды без парасона,
Апрануты не па сезону,
Падпіраеш макаўкай неба
І ўсміхаешся.
Ведаю:
Трэба
Зняць з сябе галаву
І давесці, нарэшце, да ладу.
Толькі кнігамі і жыву —
І квадрацікамі шакаладу.
Ды яшчэ
Балансам
Інь-ян
У кубку стылай зялёнай гарбаты.
З люстра нехта (ці я?)
Пазірае на свет хітравата.
Стынуць гронкі рабіны пад снегам —
Ах, іх невыносная чырвань!
Пад блакітнай, пад зыркаю Вегай
Люстра, быццам бы дзверы, адчынім.
Дзеці белых зімовых мух
Ратамі,
Быццам жабкі,
Ловяць.
Я таксама адну вазьму —
Хай сагрэецца на далоні.
Скуру мяккую замяню
Лускай з вогненнага металу,
Набяру поўны рот агню,
Як дыхну — і зіма растала.
Толькі цень мой намёртва застыў.
Усміхаючыся гасцінна,
Галаву маю
Здымеш
Ты
І павесіш яе
Над камінам.

**МАГІЯ**

…магія — гэта такая музыка.
Жабак зялёных хапай пад пузіка,
Крэслі пентаклі
на столі са сценамі,
Тэлефануй за даведкамі дэманам.
…магія — гэта амаль паэзія.
Крылы драконы расправяць гарэзліва,
Знакі планет зацвітуць
на папірусах,
Джыны завыюць,
Спрабуючы вырвацца.
...магія — гэта заўсёды рызыка.
Цені кашчавыя
З хітрымі хмызамі
Пульхная цемра выплёўвае з чэрава.
Свеціцца поўня аголеным чэрапам.
Кроў зацвітае барвовымі ружамі,
Рэха закляццяў вальсава кружыцца.
Магія — небяспечная, бо
Больш апантаная за
любоў.

* * *

Калі-небудзь ты зробішся коткаю
З чорным хвастом,
Ускараскаешся на дах
І спяеш для поўні.
Тая возьме цябе ў свой вялікі нябёсны дом
І густым малаком глыбокую
місу напоўніць.
Горад хмары наніжа, быццам каралі,
на дрот,
Ды між паркавых дрэваў
Зашэпча
Атручаны вецер.
Толькі — тссс!
Хай ніхто не дазнаецца,
што ты насамрэч — кот,
Што ты ўночы блукаеш,
Прыносячы сны дзецям.

* * *

А ў месяца — завостраныя рогі.
Ён топча капытом радно дарогі,
Раве на ўсход, што чырванню абрыдлы, —
Карыда.
Дуэны-зоры у бліскучых строях

Спяшаюцца на бой шумлівым роем.
Ідальга Сонца ўздзеў найлепшы ўбор —
Тарэадор.
Крывавяць на загрыўку бандэрылы,
Злуецца бык — і падае ў знясіллі.
Равуць трыбуны, рвецца ў неба шпага.
Адвага?
Ноч вернецца, зноў залізаўшы раны,
І месяц капытом заб'е старанна,
Замыкае, сумуючы без ласкі.
Усё — маскі.

**ПЯРЭВАРАЦЕНЬ**

У душы маёй — брудныя лапы:
Яна шарыцца ў цемры і смецці,
Быццам воўк малады кашлаты,
Быццам цёплы паўднёвы вецер.
Дні заўсёды — нязбыўны цяжар.
Поўня ўзыдзе крывавым вокам —
І душа ля агню прыляжа
Танканогім нязграбным воўкам.
Ноч расколецца — і застыне,
Міма сны людскія пакрочаць.
Мне ў самоце між зданяў сініх
Застаецца хіба выць па-воўчы
Ды, прынюхваючыся да ценяў,
Водар лесу ўдыхаючы ёлкі,
Бегчы за імклівым аленем
Па зжаўцелых сасновых іголках.

* * *

Ясны месяц наточаны востра,
Ціха, ціха вуркочуць хвалі.
У русалак — рачных сёстраў —
Зіхацяць на шыях каралі.
Легканогі няўлоўны вецер
Рассыпае праз сіта росы
І ўплятае белую квецень
У русалчыны светлыя косы.
Квецень русыя хвалі сівіць,
Водар кветак, як слёзы, горкі.
Дыяментам празрыста-сінім
Дагарае на захадзе зорка.
Дагарэла і памяці свечка:
Што было, засталося ў тумане.
Асамотненыя, знявечаныя,
Усміхаюцца месяцу здані.
Усміхаюцца — таму што змалку
Развучыліся плакаць русалкі.



Адам ШОСТАК

# КОЛЫ ЭЙЛЕРА



**Адам Шостак нарадзіўся 14 чэрвеня 1982 года ў Баранавічах. Працуе аналітыкам рынкавых даследванняў. Аўтар кніг «Спатканне Не» і «4.33». Творы перакладаліся на польскую мову.**

* * *

гайдаюцца арэлі
ад ветру
на пляцоўцы пустой
ніводнага дзіцёнка

ты з дзецьмі далёка
гукі твае
паўз рытміку вуліц
мне вецер даносіць

літары
запісваюць гукі
вецер
чытае вершы

* * *

Год дзесяць таму мяне частавалі
міскай гарачага супу з халоднай смятанай
пасля імшы на Раство
у доме, дзе былі на драўляных дзвярах
накрэслены першыя літары імёнаў трох вешчуноў,
што прынеслі дарункі Яму, —
Каспара, Мельхіёра і Бальтазара.

Зараз у доме гэтым еўрарамонт,
дзверы зламаныя, вокны ды аканіцы адкрытыя насцеж.

Зараз лета, а думкі пра тое Раство,
пра золата, ладан і смірну,
пра грошы з пахам часовай пустоты,
пра ладан з пахам вечнай свабоды,
пра смірну, пра тое, што мусіць сысці назаўжды;
пра суп астылы, пракіслую смятану
і пра людзей, што раней жылі тут
год дзесяць таму і мяне частавалі…

**КОЛЫ ЭЙЛЕРА[1]**

у той дзень пачаўся вялікі дождж
і бурбалкі ў лужыне разыходзіліся
акружынамі
утваралі колы Эйлера
маючы дачыненне адна да адной

дома старэйшы сын
алоўкам крэсліць спіралі
падобныя на колы Эйлера
пакуль яшчэ дома малодшы сын
колам Эйлера
ў тваім жываце

так хочацца адчуць сябе
Эйлерам
які крэсліў цыркулем акружыны
якія ўтваралі колы
якія множыліся
і на іх скрыжаваннях
множылася яго каханне

так хочацца адчуць сябе Эйлерам
які меў таксама не аднаго сына
што пакуль што не змяшчае
мой цяжарны мозг

* * *

проста хочацца вырубіць
skype facebook і vkontakte
калі слізка на вуліцы хворай
працягваецца наша жыццё
ў той момант калі

майго бацьку вязуць у шпіталь
на праспекце здымаюць кіно
хуткая паспявае не трапіць у корак

пераасэнсоўваецца былое жыццё
у той момант калі

дзве клеткі злучаюцца
і інтэнсіўна пачынаюць падзяляцца
так проста і складана

пачынаецца новае жыццё
у той момант

* * *

я прасплю як звычайны
выходны
тады клічаш
чарговы раз
на белмоўную літургію

невыносна трызніць
у сне літаргічным
пра цябе і сябе
і пра тое што будзе навокал
не праспаць
і паспець
і прачнуцца

[1] Леанард Эйлер — матэматык, стварыў геаметрычную схему, з дапамогай якой можна наглядна адлюстраваць сувязь паміж падмноствамі. http://ru.wikipedia.org/wiki/%D0%9A%D1%80%D1%83%D0%B3%D0%B8_%D0%AD%D0%B9%D0%BB%D0%B5%D1%80%D0%B0

*Алёна БЕЛАНОЖКА*

# ДЗІЦЯ ЗЯМЛІ



***Алёна Беланожка нарадзілася ў 1985 годзе ў Магілёве. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. Працуе ў Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры і вольнага часу.***

— Любы… я хачу нарадзіць табе дзіця! — сказала Леда і пагладзіла Ікара па крыле.

Раніцай муж і жонка накіраваліся ў Цэнтр генетычных паслуг. «Замак Жыцця» — значылася на ўказальніку. Вялікі белы будынак без вокнаў, стэрыльны знутры і звонку, пакрыты сонечнымі антэнамі, як луской, быў больш падобны да месца, дзе жыццё знаходзіць свой апошні прытулак, але ніяк не да месца, дзе яно можа зараджацца. Вакол Цэнтра пахла навальніцай: будынак быў заключаны ў ахоўны купал, па паверхні якога, сінтэзуючы азон, бегалі кароткія ружовыя маланкі.

Ікар склаў крылы за спінай і прыкрыў іх плашчом, каб не абпаліць пер'е аб наэлектрызаваны купал. Леда зрабіла крок пад азон. На яе доўгіх, цяжкіх валасах зазіхацелі, як святочныя гірлянды, нізкі іскраў. Леда правяла рукой па галаве, іскры ссыпаліся на мармуровыя прыступкі, разбіліся аб іх і зніклі.

Уваход у будынак перакрывалі цяжкія металічныя дзверы. Некалькі тысяч рыцараў у булатных даспехах не змаглі б узяць гэтыя дзверы «на таран»: «Замак Жыцця» надзейна аберагаў свае сакрэты. «Жыццю тут няма ні выхаду, ні ўваходу», — падумала Леда, але раптам мнагатонныя створкі мякка раз'ехаліся ўбакі, запрашаючы новых гасцей завітаць унутр.

Леда ўзяла Ікара за руку. Калі яна трымала любага за руку, то рабілася абсалютна ўпэўненай у тым, што ўсё будзе добра.

Некалькі хвілін на рэсэпшане з прыветлівай адміністратаркай: зверка пластыкавых «дакументаў здароўя» з дзяржаўнай базай, абавязковае камп'ютарнае анкетаванне — і Леда з Ікарам атрымалі першы кансультацыйны пропуск да спецыяліста па генетычнай селекцыі.

Генетычная селекцыя і мадыфікацыя былі абсалютна неабходны для нармальнага існавання і развіцця цывілізацыі.

Насельніцтва планеты падзялялася на Дзяцей Неба і Дзяцей Мора. Дзеці Неба нараджаліся з птушынымі крыламі і ў дзень паўналецця — пятнаццаць гадоў — атрымлівалі «Пасведчанне арнітара» і афіцыйны дазвол на самастойныя палёты.

Дзеці Мора — людзі-амфібіі — пры нараджэнні мелі і лёгкія, і жабры, таму маглі доўгі час знаходзіца пад вадой, іншым разам да тыдня.

Маладыя пары самі маглі выбіраць, якім народзіцца іх дзіця. Для гэтага паўсюдна ствараліся Цэнтры генетычных паслуг, дзе за адносна невялікія грошы спецыялісты праводзілі маніпуляцыі з ДНК і працэдуры па штучным апладненні жанчын. Кожная храмасома некалькі разоў правяралася, каб выключыць нежаданыя генетычныя збоі. З гэтай жа прычыны жанчынам забаранялася нараджаць дзяцей, зачатых натуральным шляхам: шлюбы паміж Дзецьмі Неба і Дзецьмі Мора здараліся даволі часта, бескантрольнае размнажэнне магло прывесці да распаўсюджання ўстойлівых мутацый і поўнага вынішчэння чалавека як віда.

Самі генетыкі, з-за іх асаблівага статусу ў грамадстве, атрымалі права ствараць сабе нашчадкаў, якія нічым не адрозніваліся ад звычайных людзей, акрамя шасціпаласці. Іх дзеці пераймалі прафесію бацькоў і самі станавіліся генетыкамі — тэарэтыкамі або практыкамі.

Існаваў яшчэ трэці, самы вузкі, клас насельніцтва — Эліта, або Дзеці Зямлі. Манархі і тыя, у каго цякла кроў каралеўскіх дынастый, мелі прывілегіяванае права нараджаць дзяцей без генетычных мутацый. Дакладней, гэта было не права, а жорсткі абавязак, прапісаны ў законах: Эліта павінна зберагаць прыродную чысціню чалавечага віда. Дзеці Зямлі не мелі ніякай перавагі перад арнітарамі і амфібіямі: ні аб'ёмістых лёгкіх, ні шырокіх плячэй, ні загарэлай скуры, ні звышвытрымкі. Там, дзе не хапае фізічнай сілы, на дапамогу прыходзіць інтэлект. Менавіта Дзеці Зямлі рухалі прагрэс наперад, вынаходзячы новыя тэхналогіі для абслугоўвання сваіх слабых цел.

Леда не была мутантам. Яна з'явілася на свет у сям'і герцага. Яшчэ да нараджэння дзяўчынцы прызначылі будучага мужа.

З самага дзяцінства Леду акружалі Дзеці Зямлі і людзі-амфібіі: Эліта, прымаючы ў свае дамы прыслугу, аддавала перавагу Дзецям Мора, таму што тыя не маглі падымацца ў паветра. Шляхцічы не любілі, калі нехта знаходзіўся вышэй, чым іхнія светласці.

Леда жыла на сотым паверсе герцагскага родавага палаца. Дзяўчынку вучылі матэматыцы, мовам, сальфеджыа, геаграфіі, астралогіі і «прыемным адносінам» — мастацтву віртуознай ліслівасці і хлусні, якой прадстаўнікі Эліты павінны былі валодаць у дасканаласці. Леда не ўмела маніць, таму, як ні стараліся яе гувернёры, «прыемныя адносіны» дзяўчынцы не даваліся. Дачка Зямлі ўпарта пазбягала свецкіх раўтаў ды іншых элітарных забаў, на якіх жанчыны ацэньваліся па кошце ўпрыгажэнняў, велічыні маёмасці сваіх бацькоў і колькасці навуковых адкрыццяў, зробленых іх мужамі.

У Леды было ўсё, пра што толькі можа марыць дзяўчынка: лепшыя кнігі і лялькі, стылісты і вадзіцель і нават сапраўдны камін, у якім восеньскімі і зімовымі вечарамі служкі разводзілі агонь. Каляднай ноччу праз комін у каміне спускаўся Санта Клаўс з падарункамі ў вялікім мяху. Так, у Леды было ўсё, акрамя свабоды. Строга рэгламентаванае, абмежаванае этыкетам і нормамі, запісанымі ў трохтомным «Кодэксе паводзін Дачкі Зямлі», элітарнае існаванне не дазваляла сюрпрызаў, вольнасцей і самадзейнасці. Яна не магла сама вырашаць, ні ў што апрануцца, ні чым павячэраць, ні з кім сябраваць, ні куды накіравацца. Кожны крок, жэст і слова «працавалі» на рэпутацыю, і нават рэзкія рухі былі для дзяўчынкі недапушчальнымі. Ледзе катэгарычна забаранялася займацца спортам: яе лона берaглі для выношвання каралеўскага нашчадка.

Па начах Леда глядзела на зоркі і шкадавала, што ў яе няма крылаў. Яна хацела зляцець прэч з палаца, з гэтай сваёй пажыццёвай дыяментавай турмы. Праўда, у турмах хаця б жылі пацукі, а ў госці да Леды не залятаці нават камары: так высока ад зямлі знаходзіліся яе вокны. І нават вокны Леда не магла адкрываць самастойна: гэта рабіла служка-амфібія ў той час, калі юная герцагіня адсутнічала.

Ікар працаваў мыйшчыкам вокнаў. Яму было васямнаццаць.

Той ноччу ён падняўся ў паветра, каб вымыць вокны ў пакоях сямнаццацігадовай герцагіні. Леда не спала: яна, як звычайна, глядзела на зоркі. Калі арнітар прысеў на падаконне, Леда падумала, што ён спусціўся з Месяца. Упершыню яна сама адчыніла акно і ўпусціла ў пакой зорны вецер, Ікара і каханне.

Ікар расказаў Ледзе пра вятры, аб якія ламаюцца крылы птушак, пра паўночнае ззянне, якое можна лашчыць пальцамі, і вільготныя воблакі, што пакорліва расступаюцца перад Дзецьмі Неба, калі тыя ўздымаюцца ў стратасферу, каб першымі сустрэць узыход сонца. Леда слухала маладога арнітара і думала, што яна нічога не ведае пра шчасце. Калі Ікар дакрануўся да рукі Дачкі Зямлі, яна адчула ў сабе сэрца.

Наступнай ноччу Леда таксама адчыніла акно. Ікар асцярожна абхапіў Леду за стан, і яна зрабіла крок у паветра. Пругкая вышыня паслухмяна рассцялілася перад ёй, і гэта было зусім не тое, што глохнуць ад шуму ў верталётах або трэсціся ў зонах турбулентнасці на авіялайнерах. У Леды перахапіла дыханне ад захаплення. Цяпер яна чакала начэй як выратавання ад адзіноты.

Леда з Ікарам лёталі нядоўга. Служка знайшла на падушцы маладой гаспадыні пяро. Пяро было прадстаўлена герцагу.

Вышэйшае распараджэнне прыйшло без замаруджвання. Ахове было загадана «злавіць лятучага мярзотніка і ўпячы ў турму, а калі будзе рыпацца — абрэзаць крылы». На вокнах Леды з'явіліся чыгунныя рашоткі, а каля дзвярэй — сямёра мускулістых ахоўнікаў.

Ніякая рашотка не ўтрымае каханне, калі яно вялікае, як неба, і крылатае, як вецер. Леда з Ікарам вылецелі праз комін. Ахоўнікі расцягнулі над імі вялікую сетку, але Ікар прарваў яе крыламі. Герцагу і герцагіні прад'явілі яе рэшткі.

— Гэта вы не ўпільнавалі сваю дачку! — сказаў герцаг жонцы.

— Ваша светласць… мы з вамі не ведаем, што такое каханне! — мякка адказала герцагіня.

— Затое мы добра ведаем, што такое пагарда Свету. Знайдзіце яе, — загадаў герцаг і скончыў размову.

Герцагіня распачала пошукі. Яна адпраўляла лепшых агентаў у неба і ў мора, у вялікія гарады, дзе так лёгка растварыцца ў натоўпе, і ў маленькія селішчы, дзе чалавек хутка робіцца часткай пейзажу. Беглякоў шукалі на зямлі і пад зямлёй, але пошукі так нічога і не далі. Праз год герцагіня апусціла рукі і паведаміла герцагу, што пошукі дачкі абыходзіцца сям'і вельмі дорага.

Прыніжаны герцаг загадаў спыніць росшук, забараніў узгадваць імя дачкі, пазбавіў яе спадчыны і выкрасліў з сэрца.

Калі Ікар прынёс Ледзе газету з гэтай навіной, ніводзін мускул не напружыўся на яе твары. Яна высцеліла газетай дно чамадана, а зверху акуратна склала іх небагатае багацце. Назаўтра яны спусціліся са схілу непрыступнай гары, а праз тыдзень — павянчаліся. На Ледзе былі паркалёвая сукенка, мяккі, як воблака, вэлюм і вянок з эдэльвейсаў.

Спецыяліст па генетычнай селекцыі прапанаваў Ледзе з Ікарам сесці. Вялікі, у два чалавечыя росты, экран уключыўся пасярод белай сцяны. Гэта быў не сучасны шык, а неад'емная частка кансультацыйнага працэсу. Ні адна гутарка, ніводная

прэзентацыя цяпер не маглі абысціся без экрана: у людзей, прывучаных да таго, каб разглядаць малюнкі, амаль поўнасцю атрафіравалася фантазія. Хіба што адзінкі маглі ўспрымаць інфармацыю «на слых», а надрукаваныя тэксты разумелі толькі прадстаўнікі эліты, таму што амфібіі і арнітары даўно згубілі здольнасць да такой сур'ёзнай канцэнтрацыі ўвагі.

Генетык не стаў гартаць паперы, якія Ікар і Леда прынеслі з сабой з рэсэпшана. Ён абапёрся локцямі на закрытую папку і спытаўся ў Леды:

— Наколькі я разумею, вы прыйшлі па дзіця?

Леда кіўнула.

— Колькі вы хочаце — адно, два? А мо тры?

— Адно, — адказала Леда. — Пакуль што адно.

— Жадаеце хлопчыка або дзяўчынку?

— Першынец павінен быць хлопчыкам, — прамовіла Леда; так было запісана ў «Кодэксе паводзін Дачкі Зямлі».

— Ваш партнёр — арнітар. Можа, будзе разумна, калі ў вас народзіцца Дзіця Неба? Вы зможаце выбраць яму любыя крылы: арліныя, сакаліныя, грыфавыя! — генетык націснуў кнопку на пульце, і на экране замільгалі малюнкі. — Глядзіце, тысячы варыянтаў, любыя колеры, любая форма! Ён будзе імклівым, як сонечны промень, і лёгкім, як ветразь! А яшчэ ён будзе дыхаць крыштальна чыстым паветрам — і гэта, можаце мне паверыць, самы вялікі падарунак, які вы можаце зрабіць свайму будучаму сыну.

Генетык зірнуў на Леду. Леда не сачыла за выявамі на экране. Яна думала.

Так, у Дзяцей Неба была відавочная перавага перад Дзецьмі Мора: яны маглі дыхаць чыстым паветрам. На вышынях, куды яны даляталі, не было цяжкіх металаў, пылу і шкодных бактэрый. Найбольш прадпрымальныя арнітары гандлявалі паветрам з розных слаёў атмасферы, і гэта быў добры бізнес: чыстае паветра патрабавалася ў шпіталях, на «шкодных» вытворчасцях, пры падводных і падлёдных экспедыцыях, а разрэджанае стратасфернае паветра імгненна раскупалася амфібіямі-спартсменамі — яны выкарыстоўвалі яго для трэніровак. Эліта некалькі разоў спрабавала зрабіць атмасферу дзяржаўнай маёмасцю, але было проста немагчыма ўсачыць за кожным арнітарам, які паднімаецца ў стратасферу з пустым балонам. Таму, у абмен на магчымасць вольна гандляваць паветрам, для Дзяцей Неба быў уведзены строгі абавязак. Кожнага арнітара абавязвалі раз на год прымаць удзел у работах па аднаўленні азонавага слою і падтрымцы ў працоўным стане электрамагнітных шчытоў,

што аберагалі планету ад удараў метэарытаў. Там крылатых людзей чакала сур'ёзная небяспека — сонечная радыяцыя. Дзеці Неба рэдка дажывалі да сарака гадоў. Большасць з іх гінула ад прамянёвай хваробы. Леда гэта ведала.

Дачка Зямлі паглядзела на Ікара. Ён добра ўсведамляў, з чым іх сыну давядзецца сутыкнуцца, нарадзіся той крылатым.

— Вырашай сама, — сказаў арнітар.

Генетык паправіў акуляры і пераключыў прэзентацыйны цыкл. Перад Ледай і Ікарам на экране з'явіўся акіян.

— Я бачу, што вы сумняецеся. Тады, магчыма, рызыкнеце і народзіце Сына Мора? Акіян — такі ж неабсяжны, як і неба! Мы зробім вашаму хлопчыку акуратныя і прыгожыя жаберкі. Як у акулы. Хочаце? Ён зможа апускацца на самыя недасягальныя глыбіні, каб прыносіць вам жамчужыны!

— Вы забыліся, доктар, — нагадала Леда, — што ўсе каштоўнасці, знойдзеныя на дне акіяна, Дзеці Мора павінны аддаваць дзяржаве.

— Не ведаю, як вы, спадарыня, — адказаў спецыяліст, — а я яшчэ не сустракаў аніводнага абсалютна чэснага чалавека: ні з жабрамі, ні з крыламі. Затое, магу паклясціся, Дзеці Мора ніколі не галадаюць!

На экране ўспыхвалі і гаслі жабры розных фасонаў, фотаздымкі шчаслівых Дзяцей Мора з перапонкавымі далонькамі. На іх амфібіі абдымаліся з дэльфінамі, трымаліся за каралавыя рыфы і ныралі пад палярныя льды. Леда зноў задумалася.

Дзеці Мора сапраўды былі вельмі багатым класам: акіян усё яшчэ заставаўся невычэрпнай крыніцай скарбаў, схаваных ад цікаўных вачэй пад вадой, на патанулых караблях і самалётах. Афіцыйным указам усе падводныя скарбы прызнаваліся маёмасцю дзяржавы. Кожны чалавек з жабрамі, адшукаўшы залатую манету, перліну або амфару, павінен быў неадкладна аднесці трафей у Бюро рэгістрацыі каштоўнасцей. Гэты ўказ амаль што не выконваўся — Дзеці Мора ведалі шмат спосабаў тайнага пад'ёму скарбаў з-пад тоўшчы вады. Калі ж у час вышукаў у іхніх сейфах знаходзілі каралі і золата і пыталіся: «Адкуль гэта ў вас?», амфібіі толькі разводзілі перапонкамі: «Упала з неба!» Тое, што гэта здабыткі з акіянскага дна, было немагчыма даказаць.

Акрамя таго, роўна так, як арнітары гандлявалі паветрам, амфібіі вельмі ўдала гандлявалі арктычным і айсбергавым ільдом, з якога пры плаўленні атрымлівалася чысцюткая вада — а без вады, як вядома, чалавек існаваць не можа, таксама, як і без кіслароду. У хмарачосах Дзяцей Зямлі паўсюдна стаялі высокатэхналагічныя фільтры для вады, але паставіць такі фільтр абыходзілася значна даражэй, чым набываць у крамах лёд, акуратна парэзаны на кавалкі неабходнай велічыні. Арнітары куплялі не тэхналогіі, а лёд.

Але ў амфібій была свая павіннасць, не лепшая, чым пачынка азонавага слою. Яны чысцілі глыбіні ад забруджвання. Сусветны Акіян, як агромністая лінза, рабіў у сотні разоў больш заўважнай чалавечую неахайнасць і абыякавасць. Пластык, метал, нафта, аскепкі спадарожнікаў і касмічных станцый, кантэйнеры з радыяцыйнымі адыходамі і атрутнымі хімічнымі рэчывамі. Павіннасць адбывалася раз на год, у Дзень Чысціні. Дзеці Мора спускаліся пад ваду і паднімалі смецце на паверхню, каб знішчыць яго. Але з кожным годам акіян не рабіўся чысцейшым, а людзі з жабрамі масава гінулі ад атручванняў.

І гэта Леда таксама ведала.

— Ну? Што вы вырашылі? — спытаўся генетык.

— Мне… трэба падумаць, — сказала Леда.

— Не спяшайцеся. Гэта вельмі адказны выбар. А лепш прыходзьце заўтра. Я выпішу вам новы пропуск.

Генетык дастаў чысты бланк і адкрыў папку з паперамі, каб прачытаць імя пацыенткі. Убачыўшы яго, доктар дастаў з кішэні насоўку, нервова выцер лоб і як мага акуратней перапісаў імя на пропуск, які працягнуў Ледзе:

— Вось. Калі ласка. Вазьміце. Я буду чакаць вас.

Усю ноч Леда плакала. Яна добра сабе ўяляла, што чакае яшчэ не народжанага ёй хлопчыка. Нарэшце, Леда вырашыла.

— Я пайду адна, — сказала яна Ікару.

Гэтая дарога ў «Замак Жыцця» была самай доўгай з усіх, якія Ледзе давялося прайсці. Яна два разы паварочвала прэч ад будынка, але зноў вярталася да купала і стаяла, нерашуча ўдыхаючы пах азону. Нарэшце ёй хапіла мужнасці падысці да дзвярэй. Дзверы, як і ўчора, плаўна адчыніліся.

Генетык ужо чакаў пры ўваходзе з яе карткай у шасціпалай руцэ. Ён усміхнуўся, выцер лоб і моўчкі аддаў картку Ледзе.

У картцы было зафіксавана: «Б/М».

— Без мутацыі? — не паверыла вачам Леда.

— Спадарыня Леда, — прашаптаў доктар, — у нас была ваша маці. Калі ваш сын народзіцца з мутацыяй, мне самому прышыюць крылы. Без наркозу.

Ікар падляцеў да акна герцагіні і ціха дакрануўся крылом да шкла. Герцагіня адкрыла акно.

— Прывітанне, Ікар! — радасна прамовіла жанчына. — Добра, што вы прыляцелі! Заходзьце, заходзьце. Кава? Цукар? Вяршкі? Давайце я вас пачастую вішнёвымі эклерамі!

— Вішнёвымі? — перапытаўся Ікар.

— Так. Вашымі любімымі, — адказала герцагіня і падышла да століка, на якім стаялі два кубкі і вялікая талерка з піражнымі.

Ікар апусціўся на падлогу і моўчкі прысеў за столік. Жанчына пасунула да Ікара кубак.

— Адкуль вы ведаеце, што я п’ю каву з вяршкамі? — здзівіўся Ікар.

Герцагіня ўзяла свой кубак і падзьмула ў яго, бо кава была гарачая.

— Вы з Ледай хаваліся ў маляўнічым месцы, — спакойна сказала яна. — На схіле той гары квітнеюць эдэльвейсы, а зусім побач — арлінае гняздо. Ікар прыўзняў крылы:

— Вы ведалі, дзе мы жывём?

— О, я ведала гэта ўжо на трэці дзень, як вы знеслі маю дачку з дому. Вы нават не ўяўляеце, якіх высілкаў мне каштавала, каб пра гэта не даведаўся мой муж.

Ікар апусціў галаву.

— Дзякуй, — ціха прамовіў ён.

— Я ведаю пра вас усё. У вас жа арлінinfoя крылы — так, Ікар? Вельмі прыгожыя. Але пакуль у майго ўнука ёсць самы мізэрны шанец зрабіцца манархам, я не магу дапусціць, каб ён нарадзіўся мутантам. Вы разумееце, Ікар?

Ікар кіўнуў. Герцагіня ўсміхнулася:

— Вось і добра. Герцаг старэе, ягонае сэрца мякчэе. Дайце час — і я вас абавязкова пазнаёмлю. І паабяцайце, што калі хлопчык народзіцца, вы прынясеце мне букет эдэльвейсаў.

Арнітар паглядзеў у акно, праз якое ўвайшоў да герцагіні. Па ўсёй нябеснай прасторы — з зеніту па далягляд — зіхацелі ізумрудныя стужкі палярнага ззяння, а там, за зіхоткім даляглядам, чакала свайго Ікара яго верная жонка, і ў яе лоне спакойна спаў маленькі сын вялікай Зямлі.

# ЗА́РНІ А́НІ

Яе назвалі Зарні Ані. Залатая жанчына. Зіхоткая, палымяная, вогненная.
Залатая.

— Цікавая планета. Трэба высадзіць туды нашу Зарні, — прамовіў капітан і адвёў позірк ад ілюмінатара.

— Як — саму Зарні? — жахнуўся малады лейтэнант з такой бесчалавечнасці. Ён стаяў за плячом капітана, каб бачыць тое ж самае, што бачыць той.

— Ды не сам арыгінал, — махнуў рукой капітан, — а блізнятку. Неабходна ўзяць пробы атмасферы, грунту і вадкасцей… а таксама бліжэй пазнаёміцца з тутэйшай фаўнай. Даследчыкі сцвярджаюць, што там могуць знаходзіцца чалавекападобныя істоты.

— Для нашых даследчыкаў усё, што бегае на дзвюх лапах, ужо чалавекападобнае, — суха зазначыў лейтэнант.

— Так, вучоныя — вялікія аптымісты. Але гэта не значыць, што яны абавязкова памыляюцца. Часам, канешне, такое здараецца, а калі-небудзь — і не. Верагоднасць — пяцьдзясят адсоткаў.

Капітан зноў паглядзеў у ілюмінатар. Ён быў аптымістам.

— Паклічце да мяне Зарні, — загадаў ён.

— Блізнятку? — перапытаў лейтэнант.

— Арыгінал.

Лейтэнант націснуў кнопку хуткай сувязі на камандным пульце, але не паспеў нічога сказаць: дзверы раз’ехаліся, і ў рубку ўвайшла Зарні. Лейтэнант падскочыў да дзяўчыны і пацалаваў ёй руку.

— Вельмі міла, Койн. Рада цябе бачыць, — прагаварыла яна і, падышоўшы да капітана, абняла яго. — Прывітанне, татуль.

— Прывітанне, дачушка, — адказаў той.

— Якія планы на сёння?

— Думаю, надышоў час убачыць тваю блізнятку ў дзеянні. Няблага было б выпусціць яе на паверхню планеты. Што скажаш?

— Выдатна! — абрадавалася дзяўчына. — Даўно пара! А карабель застанецца на арбіце?

— Пакуль што так. Калі Зарні не ўбачыць небяспекі, спусцім карабель. Зробім прафілактыку абсталявання і крыху адпачнем.

— Дазвольце заўважыць, — падаў голас лейтэнант. — «Зарні Ані» — гэта асобны праект, які першапачаткова быў па-за межамі асноўных задач экспедыцыі. Цяпер, у сувязі з уключэннем яго ў план, на маю думку, неабходна прызначыць праекту кіраўніка і вылучыць групу, якая…

— Лейтэнант… — капітан адмахнуўся ад Койна. — Шмат слоў. Зарні сама ўсё зробіць. Паруліць машынкай, пацiскае на клыпажкі — нічога складанага ў гэтым няма. Ані захавае ўсе відэазапісы са сваіх камер, прааналізуе панарамы і здабытыя рэчывы… Праўда ж?

Дзяўчына кіўнула.

— Можаш пачынаць. Правер акумулятары, пратры аб’ектывы камер спіртам… Выпусцім робата праз дзве гадзіны.

Зарні Ані была падобная да самой Зарні адно ў адно. Зарні перамагла ў конкурсе прыгажосці «Міс Навука», і з гэтай нагоды новая распрацоўка вучоных — робат-андроід — атрымала яе неапісальна пекную і вытанчаную знешнасць, а таксама такую ж вопратку, у якой Зарні ўзышла на п'едэстал — камбінезон залатога колеру з эфектам тэрмарэгуляцыі і аховы ад выпраменьванняў. Ці трэба казаць, што вопратцы андроіда надалі дадатковыя функцыі: абарону ад усіх вядомых гатункаў зброі, а таксама ўстойлівасць да звышвысокіх і экстрэмальна нізкіх тэмператур. Камбінезон Зарні Ані быў непрабівальны для куль ды лазера, захоўваў свае цудоўныя якасці нават пры тэмпературах, набліжаных да абсалютнага нуля. Зарні сама напісала на грудзях андроіда імя — дыяментамі, пасаджанымі на касмічны клей, — а пасля напрасілася з татам у экспедыцыю. Спадар Шондзі даў дабро: па-першае, дачцэ ўжо споўнілася дваццаць, а па-другое, яна прайшла поўны курс практычнай астранаўтыкі і скончыла ўніверсітэт на «выдатна» па ўсіх дысцыплінах. Вучоныя ўгаварылі спадара Шондзі ўзяць з сабой і Зарні Ані, каб пры магчымасці праверыць працаздольнасць робата ва ўмовах Новага Свету. Андроіда змясцілі ў аднамесную шафачку-зберагальню і пагрузілі на карабель.

Зарні Ані ўспыхнула яркай зоркай, паспяхова прайшла ўсе слаі атмасферы і мякка апусцілася на паверхню планеты.

— Ёсць кантакт, — канстатавала Зарні, якая кіравала з рубкі палётам робата. — Камеры ўключыліся, ідзе запіс.

— Добра, — прамовіў капітан. — Паведамлю Старому Свету, што яны малайцы: ладную зрабілі машынку. Далей сама?

— Сама, татуль. Толькі не замінайце мне, — адказала Зарні, павярнулася і пільна паглядзела на лейтэнанта Койна, што стаяў за яе спінай, углядаючыся ў манітор.

— Лейтэнант, — капітан паклаў руку на плячо Койна і павёў таго з рубкі. — Чаму б нам не абгаварыць нюансы вашага з Зарні будучага вяселля? Усё-ткі я маю права на некаторую дадатковую інфармацыю, акрамя даты і месца правядзення цырымоніі…

Зарні засяродзілася на маніторах, на якіх ужо з'явіліся першыя апрацоўкі асноўных проб, узятых з паверхні Новага Свету.

— Склад атмасферы — як дома, толькі чысцейшы, грунт — аксід крэмнія і арганіка, агрэсіўныя рэчывы адсутнічаюць… Цёпла… А гэта што — дрэвы? Калі Эдэм не выдумка, то ён — тут, — прамовіла дзяўчына ўслых. Яна сціснула ў руцэ джостык і плаўна пасунула яго ад сябе. Механічная копія Зарні ўпэўнена зрабіла першы крок па новай планеце.

— Цікава, што адбываецца вакол цябе… Пакажы мне панараму, сястрычка, — прашаптала Зарні, не здымаючы далонь з джостыка, і ўключыла гук.

Жанчына-андроід павольна азірнулася па баках. Паўсюль, наколькі хапала шырыні аб'ектываў, мірна шаргацеў галлём і лістотай шчыльны, як шчотка, свежы, росны лес. Праз зеляніну прабіваліся прамяні спакойнай жоўтай зоркі, вакол якой няспешна лётала гэта планета. Наўкол, як у ювелірнай краме, зіхацелі пацеркі вадзяных кропель.

Раптам, зусім нечакана, з-за дрэў пачуўся трэск голля, а за ім — аглушальны рык.

Зарні скіравала андроіда ў самы гушчар — туды, адкуль даносіліся гукі. Дазволіўшы залатой жанчыне зрабіць некалькі крокаў, Зарні спыніла яе ў хмызах, за якімі адкрывалася просека, і пачала назіраць.

Перад яе вачыма разгарнулася жахлівае відовішча: вялікі, калматы цёмна-буры звер наваліўся на чалавека. Чалавек адбіваўся ад яго вялікім клінком, але яму не хапала сілы: метал слізгаў па звярыным футры, зразаў пасмы поўсці, аднак не мог прабіць скуру драпежніка і толькі яшчэ больш раздражняў яго. Звер, распалены бойкай, узнёс над чалавекам цяжкую лапу і вострымі кіпцямі паласнуў тога па грудзях.

— Ай-яй, ён жа заб'е яго! — ускрыкнула Зарні і набрала код на сэнсавай панэлі кіравання.

Залатая жанчына рушыла наперад. Калі яна апынулася побач з раз'ятраным драпежнікам, то падняла залатую далонь, дакрануўшыся ўказальным пальцам да звярынай шыі. Драпежнік абмяк і ўпаў долу — ён заснуў.

— Вось так, — задаволена прамовіла Зарні. — Ніхто не мае права нікога забіваць. Такія нашы правілы. А цяпер я хачу паглядзець, каго мы з табой выратавалі, Ані.

Дзяўчына падвяла робата бліжэй да чалавека, што ляжаў на зямлі і сыходзіў крывёю.

Яна ўбачыла юнака з доўгімі валасамі, перахопленымі чырвонымі тасёмкамі. Звер добра патузаў ягоную вопратку: ад яе засталіся адны лахманы. Юнак быў вельмі прыгожы — і амаль што мёртвы.

Зарні паружавела, памарудзіла з імгненне і прыняла рашэнне:

— Знешне — такі ж, як мы. Давай палечым яго, сястрычка. Хай жыве. А татку не скажам: ён будзе злавацца, што мы ўсталёўваем тут свае правілы.

Дзяўчына набрала код на панэлі.

Зарні Ані неадкладна выканала загад: паклала руку на рану юнака і тонка, ледзьве чутна загула. Праз хвіліну рана зацягнулася, пакінуўшы на целе хлопца некалькі кароткіх ружовых шнарыкаў.

Хлопец шумна ўдыхнуў, рэзка расплюшчыў вочы і ўбачыў над сабой жаночы твар. Юнак застыў, бо не ведаў, што рабіць: абараняцца, маліцца, бегчы або дзякаваць. Ён падняў галаву, памацаў цела там, дзе яшчэ хвіліну таму была смяротная рана, і ягоныя думкі канчаткова зблыталіся.

Тым часам Зарні заўважыла на зямлі побач з хлопцам невялікі бліскучы кругляшык.

— Што гэта? — зацікавілася дзяўчына. — Ну-тка, паглядзім...

Яна павяла джостыкам. Яе механічная двайнятка падняла прадмет.

— Донька, як справы? — пачула Зарні, падскочыла ў крэсле і крутанула джостык.

Капітан зазірнуў у пакойчык і падміргнуў ёй.

Залатая жанчына адвярнулася ад выратаванага юнака, узнялася ў паветра, крыху павісела над просекай, а затым, імкліва набіраючы хуткасць, узяла накірунак на карабель.

— Я… я вяртаю Зарні Ані на станцыю, — сказала Зарні. — Для першай высадкі дастаткова.

— І што па выніках? — за капітанам закрыліся дзверы, ён падышоў да дачкі.

— Добрыя звесткі, татуль: планета амаль што абсалютная копія нашага добрага Старога Свету. Зарні Ані не знайшла аніякіх слядоў высокатэхналагічнай цывілізацыі, а тыя прадстаўнікі фаўны, што патрапіліся ёй пры першасным абследаванні паверхні, не ўяўляюць для нашага карабля ніякай пагрозы. Калі мы будзем дастаткова пільнымі, то яны не нашкодзяць і нам.

— А чалавекападобныя істоты? Ёсць?

Зарні адмоўна пакруціла галавой.

— Не. Нам з сястрычкай на вочы не трапляліся.

Спадар Шондзі ўсміхнуўся:

— Сапраўды добрыя навіны. Аддам загад пілотам, каб сыходзілі з арбіты і саджалі наш лятучы дамок. Арганізуем суботнік, агледзім абшыўку, пачысцім ілюмінатары… вадзічкі набяром. Гэта будзе наш Дом нумар адзін! Добра было б, канешне, знайсці тут людзей…

Паміж жыхарамі Галактыкі існавала негалосная дамова: калі прадстаўнікі тэхнагеннай цывілізацыі першымі высаджваліся на нетэхнагенную планету, яны рабіліся яе «шэфамі». Далей толькі «шэфы» мелі права курыраваць эвалюцыю гэтай планеты і яе жыхароў, калі такія існавалі. Калонія атрымлівала імя планеты-каланізатара з дадаткам у выглядзе парадкавага нумара і ўносілася ў рэестры. Сярод каланізатараў было прынята называць «падшэфныя» планеты не па імені, а — «дом нумар адзін», «дом нумар два», «дом нумар тры». Часам паміж каланізацыяй планеты і ўнясеннем яе ў рэестр праходзіў не адзін год. Іншым разам «шэфы» самі не спяшаліся выдаваць свае «запасныя аэрадромы» і «абарончыя форты».

Займець калонію з насельніцтвам лічылася вялікай удачай: людзям можна было перадаваць уласны досвед, праводзіць на іх доўгатэрміновыя сацыяльна-грамадскія эксперыменты. А яшчэ яны былі таннай рабочай сілай, якой, іншым разам, «шэфы» карысталіся звыш усялякай меры.

Капітан Шондзі марыў адкрыць для сваёй радзімы калонію. Ён прысвяціў гэтай справе ўсё жыццё, сродкі і часткова — здароўе.

Зарні ведала ўсе патаемныя калідорчыкі і пакойчыкі татавага карабля. Калі была зусім дзяўчынкай, яны з бацькам учынялі між сабой спаборніцтвы. У ходзе гэтых спаборніцтваў трэба было незаўважна абысці ўсіх дзяжурных, сігналізацыю і вартавыя пасты, што маглі сустрэцца па дарозе, і патрапіць у пэўнае месца міжзорнага крэйсера, кожны раз — новае.

Зарні кралася па калідорах, акуратна мінаючы дзяжурных. Яна не хацела афішыраваць гэты начны паход. Калі б дзяжурныя яе ўбачылі, то абавязкова даклалі б пра гэта свайму непасрэднаму начальніку — лейтэнанту Койну. Зарні не падабалася залішняя цікаўнасць Койна, яго падазронасць і схільнасць дзейнічаць «на апярэджанне», якімі вылучаюцца ўсе кар’ерысты. У астатнім, праўда, ён быў сапраўдным золатам: выдатнік службы з беззаганнай радаслоўнай, двойчы ўзнагароджаны «За адвагу» і аднойчы — «За патрыятызм». Таму, калі Койн абраў Зарні аб’ектам сваіх заляцанняў, яна не знайшла вартай прычыны, каб адмовіць яму. Лейтэнант заляцаўся да Зарні так настойліва і прыгожа, што яна саступіла і згадзілася быць ягонай жонкай. Вяселле вырашылі справіць па вяртанні з экспедыцыі.

Дзяўчына жадала ўсёй душой, каб гэтая экспедыцыя цягнулася вечна.

Хутка нікім не заўважаная Зарні была ў неабходным месцы. Дзяўчына прыклала асабістую картку доступу да дзвярэй і ўвайшла ў пакой, дзе стаяла ў рэжыме сну Зарні Ані. У руцэ жанчыны-андроіда блішчаў медальён. Прайшоўшы праз атмасферу, ён крыху пацьмянеў, але не згарэў і нават не змяніў форму.

Зарні пагладзіла трафей. На ім была вельмі далікатная гравіроўка: правільныя геаметрычныя фігуры, якія ўтваралі невядомыя дзяўчыне знакі. Яна крыху падумала і — уключыла Ані.

— Я адпраўлю цябе назад, сястрычка. Трэба вярнуць хлопцу яго рэч. Магчыма, яна для гэтага чалавека вельмі важная. Жыццёва неабходная. Нельга браць чужое. Хоць мы і незнарок, але ўсё роўна — нядобра. Карабель ужо на зямлі, паўсюль варта, і ты выйдзеш праз вентыляцыйны люк.

Зарні за пультам вяла блізнятку да той просекі, дзе ўчора выратавала юнака, праз імжысты, вільготны лес. Дождж пачаўся вечарам і не спыняўся ўжо некалькі гадзін. Чалавеку ў такое надвор'е ноччу ў гушчары было б вельмі няўтульна. Зарні Ані асвятляла сабе шлях ліхтарыкамі, якімі, як зорачкамі, было абсыпана яе адзенне.

— Калі мы з табой яго не сустрэнем, — разважала дзяўчына шэптам, — то пакладзём медальён на зямлю. Можа, ён за ім прыйдзе. Пасля.

Але хлопец ужо быў на ўчарашнім месцы. Ён аглядаў зямлю, нібыта нешта шукаў.

Зарні Ані зрабіла крок да яго, і юнак павярнуўся на гук. Ён убачыў свой медальён у далоні залатой жанчыны. Хлопец з асцярожнасцю наблізіўся да яе.

— Хто ты? — спытаўся ён.

Зарні ўзрадавалася:

— Я… разумею! Я разумею тваю мову, гэта адзін з дыялектаў зорнай сістэмы Сірыуса! — і тут жа расчаравана адпусціла джостык. — У гэтай планеты ўжо маюцца «шэфы». Мы спазніліся.

Па правілах, яна павінна была вярнуць андроіда на карабель і паведаміць капітану, што гэтая планета ўжо каланізавана. Следам за гэтым капітану належала падняць карабель і вывесці яго з дадзенага сектара.

Але...

Залатая жанчына паклала медальён на зямлю, і хлопец узяў яго.

— Мяне завуць Пера. А цябе? — спытаўся юнак.

Ані маўчала.

— Шкада, Ані, што мы не можам яму адказаць: нас пачуюць, — прашаптала Зарні.

— Шкада, што ты не ўмееш размаўляць. Ты вельмі прыгожая! — прамовіў юнак. — Ведаеш, тут цёмна і халодна... я развяду агонь, і адразу стане весялей.

Пера сабраў ламачча, дастаў крэсіва з трутам і паспрабаваў здабыць з яго агонь. Іскры сыпаліся на мокрае галлё, але яно не хацела гарэць. Трут успыхваў і згасаў. Хлопец цярпліва працягваў высякаць агонь, раз-пораз збянтэжана пазіраючы на залатую жанчыну.

— Давай зробім яму падарунак, сястрычка, — не вытрымала Зарні.

Яна набрала каманду на панэлі. Яе блізнятка дастала маленькі прыборчык, падобны да стальнога алоўчыка, і паднесла яго да груду голля, што ніяк не разгаралася. Па ламаччы шпарка пабегла полымя.

Пера здзіўлена глядзеў на вогнішча. Залатая жанчына працягнула яму прыборчык.

— Вечная запальнічка. Такая неабходная ў дарозе дробязь. Бяры, Пера. Ну, бяры ж! Табе яшчэ не раз спатрэбіцца! — шэптам угаворвала хлопца Зарні, забыўшыся, што ён яе не чуе.

Хлопец, нібыта паслухаўшыся ўгавораў, прыняў з рук залатой жанчыны падарунак:

— Дзякуй. Ты не спяшаешся?

— Папраўдзе кажучы... вельмі спяшаюся, — прамовіла Зарні. Хлопец яе не чуў.

— Прысядзь са мной, — запрасіў Пера. — Ноч доўгая, разам будзе весялей!

Зарні загадала сваёй блізнятцы сесці ля агню.

— Я твой даўжнік, — сказаў хлопец. — Калі б не ты, я б загінуў. Гэта быў самы вялікі і раз'юшаны ош з усіх, што мне траплялiся!

Час паляцеў хутчэй за спружыну, што распрамляецца, калі яе моцна сціснуць, а пасля адпусціць.

Пера ведаў шмат легенд і цікавых гісторый. Ён распавядаў сваёй маўклівай сяброўцы пра жывёл і птушак, пра тутэйшыя дрэвы і кветкі, пра надвор'е, зменлівае, як дзяўчына, і зоркі, вечныя, як свет.

Зарні магла б слухаць яго вечна. Пера быў шчыры. Койну далёка да яго.

Калі Пера, з маўклівага дазволу Зарні, пацалаваў яе залатую блізнятку, дзяўчына адчула, што такое рэўнасць.

Сталовая гула: удзельнікі каманды снедалі і дзяліліся сваімі планамі, якіх, з нагоды адкрыцця калоніі, было незлічонае мноства.

Зарні не выспалася. Яна вярнула залатую жанчыну на карабель толькі калі пачало віднець і пракралася ў сваю каюту за пяць хвілін да пабудкі, таму крыху спазнілася на сняданак.

Койн, як заўсёды, сядзеў за лепшым столікам каля ілюмінатара. Убачыўшы нявесту, лейтэнант памахаў ёй. Зарні прабралася між шэрагаў людзей, занятых размовамі, села насупраць Койна і кісла ўсміхнулася жаніху.

— Што з табой? Ты не захварэла? — пацікавіўся Койн і наліў ёй каву. — Твая любімая, з вяршкамі.

— Мне не спалася, — адказала Зарні.

— Трэба было прыйсці да мяне: я ведаю, як зрабіць, каб ты заснула, — прашаптаў Койн ёй на вушка.

Дзяўчыну перасмыкнула.

— Я хачу сок, — сказала яна, адставіўшы кубак з кавай убок.

Койн наліў у шклянку сок.

— Зарні, у мяне ўзнікла вельмі рамантычная ідэя! — усміхнуўся лейтэнант. — Давай згуляем наша вяселле тут, у Новым Свеце! Мы будзем самыя першыя маладажоны на гэтай зямлі!

— «Самыя першыя», — паўтарыла Зарні. Яна разглядала сок у шклянцы, каб толькі не глядзець на жаніха.

Койн заўважыў, што Зарні нервуецца.

— Што не так? — спытаўся ён.

Зарні паставіла сок побач з кавай.

— Для цябе так важна быць першым. У любой справе. Ты — выдатнік службы; я — выдатніца вучобы; ты — пераможца ў баях, я — пераможца ў конкурсах. Ты — лейтэнант, я — дачка капітана. Шыкоўны саюз, ці не так?

— Што з табою, Зарні?

— Нічога. Калі б я была медалём, ты б прышпіліў мяне да мундзіра.

Зарні ўстала, каб выйсці са сталовай. Койн ухапіў яе за локаць. Дзяўчына вызваліла руку і абярнула шклянку. Сок паліўся Койну на штаны.

Увесь дзень Зарні старанна мыла ілюмінатары і калідоры, паказваючы ўласным прыкладам узор самаадданай працы на службе ў чысціні. Каманда, упершыню ўбачыўшы дачку капітана са швабрай, так натхнілася на працоўныя подзвігі, што

бліжэй да вечара карабель ззяў, як спражка на рэмені салдата. Пасля вячэры ўся каманда, стомленая ды задаволеная, распаўзлася па каютах і паваліліся спаць.

Зарні бясшумна пакінула карабель.

Дзяўчына ішла па лесе. Халоднае лісце біла яе па твары, галіны чапляліся за адзенне і валасы, нібыта хацелі спыніць. Але Зарні зрабіла свой выбар.

Пера сядзеў на іх месцы. Убачыўшы Зарні, ён падхапіўся:

— Я не спадзяваўся, што ўбачу цябе зноў. Але я падумаў…

— Я прыйшла, каб ты аддаў мне доўг, — сказала дзяўчына. — Я загіну без цябе. Жыццё за жыццё.

— Ты ўмееш размаўляць? — здзівіўся Пера.

Зарні не адказала. Яна падышла да Перы і пацалавала яго.

Койн праглядаў відэазапісы з камер андроіда.

— Я заб'ю яго, — зарычаў лейтэнант, калі хлопец на відэа дакрануўся да рукі Зарні Ані.

Калі Пера пацалаваў андроіда, лейтэнант не вытрымаў. Ён падышоў да апарата сувязі і набраў нумар каюты Зарні: пасля каманды «У адпачынак» яна павінна была знаходзіцца там.

У дынаміку грала музыка. Зарні не адказвала.

Койн прашаптаў:

— Я яго знішчу.

Зарні ляжала і слухала лес. Побач знаходзіўся Пера, а з неба на іх пазіралі зоркі — не чужыя, знаёмыя: Зарні ведала кожную, яна пралятала каля іх. Поўнае неба знаёмых зорак. Як дома.

— Зарні! — данеслася з гушчару.

Цішыня сарвалася з галін, залапатала крыламі і знікла. Дзяўчына падхапілася. Яна дужа добра ведала гэты голас і ненавідзела яго.

Койн рассунуў хмызы рэвальверам:

— Вось ты дзе. Пазабавілася? Цяпер пойдзем са мной, і я пакіну гэтага абарыгена жывым.

— Яна не пойдзе з табой, — сказаў, паднімаючыся з зямлі, Пера.

— Ты, дзікун! — раз'юшыўся Койн. — Я патраціў на яе столькі грошай, што на іх можна было б купіць гэтую планету! З табой і ўсім тваім племем!

Пера ўхапіўся за клінок.

— Што ты махаеш ножыкам? Я табе не лясны звярок. Я цябе наскрозь прапалю! — прашыпеў Койн.

— Супакойцесь, лейтэнант! Апусціце вашу зброю. Інакш я буду вымушаны скарыстаць сваю, — загадаў капітан Шондзі. Ён выйшаў на просеку, здымаючы з сябе лістоту і галінкі. — Што ў гэтых лясах, прывабка нейкая? Хутка ўся каманда сюды перабярэцца. Ну, і хто тут у нас? Лейтэнант, Зарні…

Спадар Шондзі зірнуў на Перы і заўважыў медальён на яго шыі. Капітан крыху прымружыўся, прыглядаючыся да гравіроўкі, і расчаравана сказаў:

— У гэтай планеты ёсць «шэфы», і яны не горшыя за нас. Мы адлятаем адсюль.

Зарні ўзяла Перы за руку.

— Я не палячу, — сказала яна.

— Ты не можаш не паляцець! — крыкнуў Койн. — Гэта парушэнне Кодэкса!

Зарні засмяялася:

— Паспрабуй узяць мяне сілай, Койн, у прысутнасці майго бацькі!

Капітан крыху памаўчаў, а пасля склаў рукі за спінай.

— Калі «шэфы» цябе выкрыюць — засудзяць як шпіёнку, — нагадаў ён.

— Я ведаю, — адказала Зарні.

— Я ніколі не змагу табе дапамагчы ні справай, ні парадай.

— Я разумею.

— Ты мая адзіная дачка.

— Прабач мяне, татуль.

Зарні апусціла галаву і мацней сціснула руку Пеpы.

Капітан паглядзеў таму ў вочы, нібыта хацеў выцягнуць з яго душу. Пеpы стаяў прама і спакойна.

— Смелы ў цябе абраннік. І прыгожы. Зарні Ані — добрая сваццявя. Вярнуся дадому — скарыстаю яе для пошукаў маладой жонкі.

Зарні ўсміхнулася. Капітан працягнуў:

— Каманда будзе ўпэўнена, што ты загінула. Лейтэнант Койн гэта пацвердзіць, калі не хоча загінуць разам з табой. Так?

Койн спадылба зірнуў на капітана:

— Так.

Спадар Шондзі абвёў вачамі дрэвы і хмызы.

— Што ж… цяпер гэта твой дом. Абжывайся. Лейтэнант, на карабель! — загадаў ён Койну.

Койн паслухмяна накіраваўся да крэйсера.

Капітан абняў Зарні і дадаў:

— Там, дзе цяпер стаіць крэйсер, я пакіну табе аптэчку.

— Прылятай праведаць унукаў, — адказала капітану дачка.



*Лаўрэн ЮРАГА*

# ГАЛААДСКАЯ ПУСТЫНЯ




***Лаўрэн Юрага нарадзіўся 30 лістапада 1966 года ў Мінску. Па адукацыі бібліёграф. Прапанаваная тут «Галаадская пустыня» ўваходзіць у кнігу містычных апавяданняў «Замак з люстраной залай», выпуск якой запланаваны ў серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць».***

**ПРАЛОГ**

Чужынцы-прыхадні напаткалі Зямлю ў сваіх пошукавых экспедыцыях, калі чалавецтва яшчэ не было добра падрыхтавана да сустрэчы з імі. Так, мы пачыналі ўжо асвойваць і засяляць бліжэйшы космас, рабілі першыя спробы перамяшчэння ў часе, але былі яшчэ не ў стане ажыццяўляць такія пералёты ў далёкім космасе, каб дасягнуць галактык з разумнымі формамі жыцця. Тым не менш, як высветлілася, мы аказаліся цалкам здольнымі даць адпор іншапланетнікам, нават нягледзячы на іх значную тэхнічную перавагу.

Я, тады яшчэ малады лейтэнант Ілля Рэзнік, быў накіраваны ў складзе беларускай эскадрыліі на ўзмацненне злучанага знішчальнага корпуса, што дыслацыраваўся ў Паўночнай Афрыцы. Гэты рэгіён — улюбёнае месца пранікнення варожых караблёў на Зямлю. Магчыма таму, што пустыня з'яўлялася добрай пасадачнай пляцоўкай для чужынскіх міжгалактычных транспартнікаў ды крэйсераў іх канвоя. Або таму, што клімат гэтага рэгіёна нагадвае чужынцам гарачыню іх роднай планеты. А можа, проста таму, што напачатку іх нашэсця лінія нашай абароны была ў гэтым месцы слабейшая, а прыхадні — кансерватыўныя істоты, якія, прыняўшы аднойчы пэўнае меркаванне, пазней не могуць ад яго адысці? Я сапраўды не ведаю.

Нашай задачай было адсочваць і знішчаць чужынскія караблі, што здолелі прабіцца скрозь загарадзь касмічнага кардона і паспелі ўвайсці ў атмасферу. Атрымаўшы сігнал трывогі, эскадрылья пакідала ангары ды ўздымалася на перахоп варожых недабіткаў. Так было і гэтым разам...

* * *

Мой манеўраны знішчальнік завіс над хадавой часткай варожага крэйсера і пачаў метадычна «дзяўбсці» яго з усіх руляў у адно месца. Мы ўжо ведалі, што хадавая частка — самае слабое месца варожых касмічных караблёў. Не ў сэнсе таўшчыні бартавых перагародак. Баявы

карабель, разлічаны на міжгалактычныя пералёты, мае такую абшыўку, што з авіяцыйных кулямётаў флаера-аднамесніка яе не прабіць. Шанец нам давала супрацьметэарытная абарона чужынцаў, збудаваная паводле прынцыпу сустрэчнага выбуху: пры сутыкненні касмічнага цела з абшыўкай засцерагальная пласцінка выбухала і тым самым гасіла сілу ўздзеяння метэарыта. Знешняя абшыўка складалася з некалькіх дзясяткаў слаёў такіх пласцінак. І менавіта гэта замест таго, каб ратаваць карабель, станавілася прычынай яго гібелі.

Справа ў тым, што зброя прыбышаў мела ў сваёй аснове светлавы і хвалявы характар; з агняпальнай іншапланетнікі, відаць, знаёмыя не былі і не змаглі прадугледзець, што на Зямлі мы пачнём абстрэльваць іх крэйсеры кулямі. А метэрыты, якім бы шчыльным патокам яны ў космасе не ляцелі, але ніколі не трапяць у тое ж самае месца і, тым больш, не будуць рабіць гэта бесперапынна! Доўгая ж кулямётная чарга выклікала серыю мэтанакіраваных паслядоўных выбухаў, якія раскалялі і без таго моцна нагрэтую абшыўку. Кажух рухавіка не вытрымліваў падвойнага награвання да максімальных тэмператур, што адбывалася з сярэдзіны ды звонку — і расколваўся, вынікам чаго быў амаль імгненны выбух у чэраве карабля. Мінусам такога спосабу вядзення вайны было, аднак, тое, што знішчальнік гінуў разам з ворагам у полымі магутнага выбуху, які спапяляў усё навокал у радыусе некалькіх кіламетраў, і напачатку мала хто адважваўся звяртацца да гэтага прыёму.

Выйсце з сітуацыі прапанавалі даследаванні ў зусім іншай галіне. Перад з'яўленнем чужынцаў зямным навукоўцам удалося дасягнуць прарыву ў доследах па перамяшчэнні ў часе. Першыя поспехі былі нязначныя: удавалася пераносіцца толькі ў межах гадзіны, але нават і такое перамяшчэнне патрабавала аграмадных выдаткаў энергіі. Неўзабаве было заўважана, што, каб забяпечыць перанос на нязначныя часавыя адлегласці — да 5 хвілін — дастаткова нават мабільнага акумулятара, кшталту нядаўна ўдасканаленага танкавага. Гэта адкрывала новыя магчымасці: цяпер дастаткова было забяспечыць флаер адпаведнай апаратурай (дарэчы, не вельмі груваcткай) і дадатковым акумулятарам. Цяпер лётчыкаў-знішчальнікаў трэніравалі адмысловым чынам: вучылі не толькі падрываць іншапланетны карабель, але і ратавацца, націснуўшы ў апошнюю хвіліну кнопку пераносу на 3 хвіліны наперад — у будучыню.

На маім рахунку ўжо былі два збітыя крэйсеры і адзін транспартнік. Я пачуваўся мацёрым ваяром, і, відаць, гэта мяне падвяло: бо не адразу зрэагаваў, калі па плітках абшыўкі варожага карабля пабеглі характэрныя іскры. Націснуць кнопку я паспеў, але гэтым разам усё было не так, як звычайна. Дакладней, я гэта нават не адразу ўсвядоміў, толькі ўбачыў полымя выбуху — і страціў прытомнасць...

## I

Калі я апрытомнеў, мой знішчальнік ужо знаходзіўся на зямлі, зарыўшыся па самы «ліхтар» кабіны ў бархан: відаць, аварыйнае ўключэнне аўтапілота ўратавала машыну. Я паспрабаваў завесці флаер, але акумулятары былі «мёртвыя». Паспрабаваў звязацца па радыё з базай — той самы вынік; «маўчаў» і навігатар, на яго маніторы — толькі «белы шум». Я зняў шлем, дастаў з «бардачка» бінокль і, адкінуўшы «ліхтар», пачаў выбірацца з вузкай кабіны праз верх.

Нарэшце, звіваючыся вужакам і апякаючы рукі аб распалены метал, мне ўдалося ўзлезці на корпус. Я агледзеўся навокал: толькі барханы і сляпучае сонца. Прыклаў да вачэй акуляры бінокля і павёў позіркам наўкола… На захадзе лінія гарызонту была нібы ўступістая: гэта не барханы!

Дастаўшы з аварыйнага пакета супрацьспякотны халат-балахон з капюшонам ды флягу — стандартнае забеспячэнне Паветраных Сіл у гэтым рэгіёне, я закрыў кабіну, наставіў радыёмаячок і паволі паваloкся па пяску ў кірунку на захад.

* * *

Пераходзіць пустыню — невялікае задавальненне. Асабліва ўдзень, пад распаленым сонцам: ад яго гарачыні не ратуе нават супрацьспякотны халат, выраблены з сучасных матэрыялаў. Брыдзеш па барханах, то ўзыходзячы на гару, то спускаючыся долу; ногі тонуць у пяску. Пот цуркамі збягае па спіне, валасы пад капюшонам змакрэлі, але як толькі скідаеш яго, галаву пачынае неміласэрна напякаць. Ты ўсё часцей спыняешся, ці то адпіваеш глыток з флягі, ці то глядзіш на компас — не так дзеля таго, каб наталіць смагу або праверыць правільнасць накірунку, колькі, каб даць сабе магчымасць перадыхнуць.

* * *

Гадзіны праз паўтары ці дзве я падышоў да мястэчка. Каменны мур вакол яго адразу мяне насцярожвае; на вежах, здаецца, бачу вартавых... Уваходжу ў браму і пачынаю аглядацца: на вуліцах толькі гаманлівы і крыклівы людскі натоўп, апрануты ў стракатыя ўсходнія апранахі, крой і афарбоўка якіх не змянялася напрацягу стагоддзяў. Каля дамоў няма машын, у руках — мабільнікаў, а на плячах — «калашнікавых». «Якая з гэтага выснова?»

Тое было абавязковай часткай трэніроўкі курсантаў у лётнай вучэльні: пасля скоку ў часе першапачаткова праанализаваць прысутнасць прыкмет сучаснасці ў навакольным свеце. І хоць усе выдатна ведалі, што яшчэ не вынайдзены (і не будуць вынайдзены ў бліжэйшай будучыні) крыніцы энергіі, якія б дазвалялі пакрываць выдаткі, патрэбныя для пераходу на значную адлегласць паводле часавай шкалы, аднак дысцыплінаваныя вайсковыя выкладчыкі педантычна паўтаралі гэты пункт інструкцыі.

Яны тлумачылі, што час не з'яўляецца лінейным рухам у адным напрамку, як гэта ўяўляецца звычайнаму чалавеку. Хутчэй, сучаснасць злучана з мінуўшчынай і будучыняй накшталт стужкі Мёбіуса; часавыя плыні існуюць паралельна і плаўна пераходзяць адна ў адну, ствараючы дзіўныя паводле канфігурацыі «банты» так, што ва ўяўнай мадэлі тысячагоддзі нярэдка могуць быць аддзелены між сабой меншай адлегласцю, чым дні або месяцы.

Таму ўбачанае, як і зробленая на падставе яго выснова, мяне не ўражвае. Здзіўляе, канешне, але не ўражвае да бясконцасці, як магло б: штодзённыя практыкаванні надалі мысленню лабільнасць і незалежнасць ад стэрыатыпаў. Я прымаю рашэнне змяшацца з натоўпам і пахадзіць па вуліцах, каб «моўнік» — моўны аналізатар, ужыўлены ў падкорку мозга, назапасіў дастаткова дадзеных для апрацоўкі. Вечарам я ўжо буду гаварыць на тутэйшай мове, хоць, праўда, з вымаўленнем найбольш нязвыклых для маёй гартані гукаў могуць быць пэўныя праблемы.

* * *

Я выйшаў з брамы на заходзе сонца, калі яе ўжо зачынялі перад надыходам цемры; гэта быў час адпраўлення ў далёкі шлях караванаў, у хвасце якіх я і рушыў, каб не прыцягваць да сябе ўвагі. Паколькі мова тутэйшага люду аказалася блізкай

да адной з закладзеных у «памяць» майго аналізатара, я мог ад самага пачатку сваіх блуканняў у натоўпе разумець амаль усё пачутае: на кутах я слухаў прафесійных апавядальнікаў паданняў, гаманіў з ваданосамі, гандляваўся з купцамі на рынку.

Вартавыя на мурах былі ўзброены коп'ямі ды шчытамі — гэта гаварыла пра тое, што мяне «закінула» даволі далёка ў мінулае. Гэта пацвярджалася і тым, што замест грошай тут выкарыстоўваліся не манеты, а залатыя колцы ды быдла. На жаль, адсутнасць манетарнага звароту пазбаўляла мяне магчымасці вызначыць эпоху, у якую я трапіў.

Усё роўна ані паслаць сігнал сваім праз тоўшчу часу, ані спадзявацца, што яны прышлюць за мной выратавальную экспедыцыю, не выпадала. Дык чаго дарма пераймацца? Пачнём патроху прызвычайвацца да сітуацыі.

Уночы ісці было не так цяжка нават па барханах, і мне здалося, што зваротны шлях да флаера я агораў удвая хутчэй. За дзень блуканняў я быў вельмі стомлены і згаладалы, а пасля доўгага бадзяння па санцапёку марылася пра душ ды халодную колу. Але ў цяперашніх умовах гэта было абсалютна нерэальным. Мне яшчэ прыйшлося адкопваць дзверы «прадуктовага» адсека, каб задаволіцца хаця б параю бутэрбродаў з вакуумнай упакоўкі ды бутэлькай пітной вады. Пасля вячэры я зладзіў імправізаваны намёт, раскінуўшы на крыле флаера свой прапацелы халат, і ўладкаваўся пад ім нанач.

## II

Я абудзіўся, калі ўжо было светла, і адразу выбраўся з-пад намёта. Раніца выпала сонечная і бясхмарная. Я добра выспаўся пасля ўчарашняга шпацыру і толькі цяжар у нагах нагадваў, што той дзень я прабавіў не зусім звычайным чынам. Я вымыў твар ды ўзяўся за справы. Сёння мне належала «атабарыцца», бо я тут, відаць, надоўга. Згадаўся слоган на брашурцы: «Паветраныя Сілы сваіх не кідаюць!» — і я аўтаматычна кінуў позірк на безыменны палец з «карпаратыўным» сыгнетам, выробленым пад срэбра. На ім месціўся знак Паветраных Сіл: літары «П» і «С» на фоне аточаных крыламі маланак, а ўсярэдзіне — умацаваны аварыйны маячок. Канешне, усё слушна, вось толькі ці працягнуць яны мяне шукаць праз дзесяцігоддзі, калі будзе вынайдзена магчымасць перасягаць стагоддзі? І ці здолеюць знайсці ў гэтай калаверці эпох, калі я сам не ведаю, дзе знаходжуся? І чым увогуле яшчэ скончыцца тая вайна з чужынцамі? — занадта шмат пытанняў без адказу...

Інстынкт падказваў, што калі будзеш шмат пра тое разважаць, дык упадзеш у роспач. Таму, каб пераключыцца, я вырашыў засярodзіцца на вырашэнні надзённых праблем. «А што, варта ўладкаваць побыт — і можна раскашаваць, як турыст на беразе мора. Вось толькі да мора далёка, ды крыху гарачавата... Ладна, паглядзім тым часам, што мне з сабой спакавалі», — павярнуўся я да флаера.

Кожны знішчальнік мае «рэчавае» аддзяленне, якое размяшчаецца ў хваставой частцы і разлічана на тое, каб даць пілоту шанц выжываць больш ці менш працяглы час у выпадку аварыі ў бязлюднай мясцовасці. Кожны з адсекаў мае адмысловыя дзверы: прадуктовы — па правым борце, а рэчавы — па левым. Прадуктовы адсек — гэта нешта кшталту лядоўні з недатыкальным запасам прадуктаў. Яна мае аўтаномнае сілкаванне і не залежыць ад энергетычных рэсурсаў флаера.

Рэчавы адсек павінен змяшчаць патрэбнае абсталяванне і рэчы першай неабходнасці. Тэарэтычна, ён забяспечваецца адпаведна з прыроднымі ўмовамі кожнага кліматычнага поясу. Праўда, за ўвесь час майго побыту на базе ў Афрыцы я так і не знайшоў нагоды высветліць, чым запоўнена рэчавае аддзялення майго флаера.

Я набіраю код і адчыняю дзверы прадуктовага адсека. З цікавасцю праводжу рэвізію сваіх прыпасаў. «Так, скрынка з бутэлькамі вады, і яшчэ адна, напоўненая запакаванымі бутэрбродамі з шынкай і сырам; скрынка ялавічнай тушонкі ў бляшанках; па пары кілаграмовых пакетаў рысу і кус-куса; кардонка з шакаладам; мяшэчак сушаных фінікаў; гарбата, соль, цукар і — о шчасце! — пакет молатай кавы! З гэтым можна пражыць пару тыдняў, а ашчаджаючы — то і цэлы месяц!»

Абыходжу флаер вакол і адчыняю дзверы з другога боку. Знаходжу аптэчку, маскіровачную сетку, заплечнік з некалькімі коўдрамі-пледамі з вярблюджай воўны, спальнік са скручаным у трубку гумавым дыванком, брызентавы намёт у адмысловым мяшку, пераносную плітку з запасам сухога паліва, запалкі, невялікі рондальчык (у ім можна варыць каву ці рыс), а таксама маленькую патэльню ды цяжкую конаўку. Ёсць нават упакоўка пластыкавых талерак, сурвэткі і туалетная папера.

Я пачынаю абсталёўваць свой «часовы прытулак». Намёт стаўлю ўваходам на захад, каб сонца не біла ўвочы, калі раніцай буду з яго выходзіць. Дарэчы, намёт быў разлічаны на чатырох чалавек. Засцілаю ўсярэдзіне коўдры, праваруч ад увахода кладу дыванок і спальнік — жытло ўладкавана!

Цяпер можна і паснедаць. Пераносную плітку я акуратна стаўлю перад уваходам у намёт. Дастаю рондальчык, упакоўку бутэрбродаў з сырам і выкладаю на сурвэтку фінікі. Урачыста ўскрываю пакет з кавай, ловячы носам водар. Пакуль кава варыцца, з’ядаю бутэрброды. Вакуум нават не дазволіў хлебу страціць сваю мяккасць, сыр таксама свежы. Альбо я непапраўны аптыміст, альбо сапраўды ўсё не так ужо і кепска!

* * *

Пасля сняданку бяруся за працу: трэба высветліць, як там з надвор’ем будзе, ці далёка да мора. Актывізую планшэт кіравання аэравыведнікам. У борце адкрываецца невялікая адтуліна і паказваецца дзюбасты абрыс апарата. Гэтая шматфункцыянальная кібер-істотка здатна выконваць шэраг задач, пачынаючы ад збору дадзеных для прагназавання надвор’я да пераносу на адлегласць невялікіх грузаў. Пачаткова яго праектавалі з улікам магчымасці антытэрарыстычнай дзейнасці, таму ён забяспечаны невялікім светлавым бластарам.

Я праграмую аэравыведнік на дзейнасць метэазонда і выпускаю яго «палётаць» у верхнія слаі атмасферы. Хутка буду ведаць усё, што патрэбна, бо выведнік адправіць сабраныя звесткі мне на планшэт. Больш рабіць мне пакуль што няма чаго. Дальбог, пазагараў бы, каб не баяўся абгарэць, бо сонца прыпякае ўсё мацней.

Так, я прыдумаў, якое наступнае заданне дам аэравыведніку: скласці мапу мясцовасці з указаннем дарогі да мора! Накідваю на флаер маскіровачную сетку, каб выпадковаму падарожніку або купцу, які можа весці караван каля майго прыстанішча, не падалося, што я — джын.

## III

Па вяртанні выведніка я «азадачыў» яго правядзеннем аэрафотаздымак і складаннем мапы: жарты жартамі, але па такой спякоце я насамрэч пакутую без душа. Пітную ж ваду не пусціш на амыванне. Трэба мяняць «месца дыслакацыі» і атабарыцца недзе побач з ракой ці калодзежам.

Аналіз сабраных выведнікам дадзеных яшчэ больш пераканаў мяне ў гэтым рашэнні: у бліжэйшы месяц дажджу не прадбачыцца. Колькі дзён яшчэ спатрэбілася на заканчэнне фотаздымак. Усё гэта дапамагло мне больш ці менш дакладна лакалізаваць сваё месцазнаходжанне. Гэта Аравійская паўвыспа, дакладней, рэгіён Палесціны, некалі называны Галаадам; мой лагер знаходзіцца паблізу горада Тызба ці, паводле іншай транскрыпцыі, Фезвона.

Камп'ютар дапамог вызначыць і аптымальны маршрут да выбранага пункта следавання — узвышанасці ў ваколіцах струменя Кірат, насупраць ракі Іардан. Паводле вынікаў аэравыведкі там была параўнальна невялікая шчыльнасць насельніцтва пры наяўнасці значных запасаў вады. У выпадку, калі па нейкай прычыне там будзе немагчыма спыніцца, пакірую далей на ўзбярэжжа, арыентуючыся на Сідон або Тыр.

* * *

Пад вечар, амаль перад самым выездам, адбылася незапланаваная сустрэча. Я вырашыў павячэраць і рушыць уноч, бо трэба ж было цягнуць на сабе намёт, заплечнік з прыпасамі, посуд — па гарачыні з такім грузам далёка не пройдзеш. Пры пакаванні я стараўся абмежавацца самым неабходным, але ўсё роўна заплечнік атрымаўся даволі важкі: нават пры тым, што я не браў з сабою бляшанак з тушонкай, бутэрбродаў — пад тутэйшым сонцам яны б доўга не вытрымалі. Тым болей, што можна запраграмаваць аэравыведнік, каб ён мне іх штодня дастаўляў.

Рыс на патэльні ўжо даходзіў, я падняўся, каб выкласці ў яго тушанае мяса з бляшанкі. Калі зрабіў гэта і выпрастаўся, то ўбачыў, што з боку Тызбы пад'язджае аршак. Наперадзе, на вараным жарабцы, чорнабароды вершнік у вытканай золатам вопратцы — мабыць, начальнік. Я скіраваўся яму насустрач, стараючыся прыгадаць усё тое, што хаця б прыблізна мог ведаць пра ўсходнія звычаі.

Мае веды ў гэтай галіне грунтаваліся на прачытаных яшчэ ў дзяцінстве казках «Тысячы і адной ночы». Таму, калі вершнік пад'ехаў, я прапанаваў яму адпачыць у маім намёце. Правадыр прыхільна выслухаў маю прапанову і кіўнуў сваім спадарожнікам, што спыніліся крыху далей. Яны саскочылі з коней; адзін з іх, што апынуўся бліжэй, зазірнуў у намёт, адхінаючы полаг вастрыём кап'я. Другі падбег да варанога і ўзяў яго за аброць; іншыя засталіся каля сваіх коней.

Правадыр, увайшоўшы ў намёт, прысеў на разасланы спальнік і прыняў з маіх рук конаўку з вадой, а праз хвіліну — пластыкавую талерку з рысам. Сам я, таксама з талеркай у руках, размясціўся насупраць, надаўшы твару зацікаўлены і ўважлівы выраз, ды пачаў распытваць хто ён і куды кіруецца.

Мой госць назваўся царом Ахавам і сказаў, што не так даўно рушыў са сваёй сталіцы Самарыі, каб аб'ехаць падулададныя землі. Ён пахваліў свежасць маёй вады і смак ежы, але распытваць пра матэрыялы, з якіх быў выкананы посуд, не стаў, відаць, палічыўшы гэта ніжэй сваёй годнасці. Я, не пачуўшы «небяспечнага» пытання, на якое было б складана адказаць, з палёгкай перавёў дых.

Пазней, пажыўшы сярод мясцовага люду, я даведаўся, што трымаўся занадта незалежна, асабліва калі ўзяць пад увагу, што кантактаваў з каранаванай асобай. Тым не менш, такое свабоднае абыходжанне сыграла на руку: умацавалі цара ў перакананні, што я прарок, які сышоў у пустыню і слухае Божы голас.

З аповеду майго госця я даведаўся, што ён вельмі занепакоены гарачынёй, якая настала паўсюдна. Святыя людзі напрарочылі яму небывалую засуш у пакаранне за грахі яго і ягонага народу. А калі цар выязджаў з Тызбы, то быў здзіўлены нейкім незвычайным ззяннем сярод пяскоў у пустыні. Ён успрыняў той бляск як Божы знак і вырашыў адхіліцца ад курса. Аршак узяў управа, і пад'ехаў да намёта. Ахаў не сумняваўся ў тым, што засуш — нябесная кара, як і ў тым, што прывяла яго да мяне «рука Божая». Таму ён меў да мяне два пытанні: «за што?» і «дакуль?»

Я слухаў госця і моўчкі хітаў галавой. Што я мог сказаць? Што я не прарок? Ці што паводле даступных мне звестак, атрыманых пры дапамозе аэравыведніка, засуш выклікана актыўнасцю сонца і пратрымаецца яшчэ не менш за месяц? Пытанні былі зададзены і вымагалі канкрэтнага адказу.

Я чалавек не вельмі рэлігійны, аднак з некалі чытанай Бібліі памятаю, што Бог у старазапаветныя часы злаваўся на людзей, бо яны пакланяліся кумірам-стодам і «чынілі тое, што было ліхім у вачах Госпада». Такім было тагачаснае мысленне і толькі такі адказ цар зразумее. Таму я так і сказаў, што трэба, каб ён сам і народ, над якім валадарыць, адвярнуліся ад граху ды ступілі на шлях праўды — тады і гнеў Божы суцішыцца.

Такі адказ быў Ахаву зразумелы, але недастатковы, бо яму абавязкова трэба было ведаць, як хутка папраўіцца надвор'е пасля ягонага вяртання да праведнасці, калі пральецца дождж. Я ўвайшоў у ролю і, надаўшы голасу суровасці, дадаў:

— Цару, не гандлюйся з Богам і не гняві Яго! Рабі тое, што табе кажа Госпад, і тады Ён злітуецца над табою. Але пакуль гэтага не станецца — засуш будзе доўжыцца! Таму і я збіраюся пакінуць пустыню ды перасяліцца бліжэй да вады, бо не чакаю хуткага спынення спякоты. Я не ведаю, калі пойдзе дождж, і табе змагу гэта сказаць не раней нашай наступнай сустрэчы!

Ахаў спахмурнеў, бо нялёгка ўзяць ды памяняць цалкам свой лад жыцця, адмовіцца ад усіх даброт, калі маеш уладу над усім у краіне. Мне нават стала яго крыху шкада… Ды нельга сказаць, каб я не турбаваўся за свой далейшы лёс: як вядома з гісторыі, зямныя ўладары не любяць благіх вестак.

Таму я, не марудзячы, прапанаваў госцю паспытаць напой, які яму пасылае Бог, каб дадаць сіл і ўмацаваць ягоныя крокі на сцяжыне праведнасці. Я меркаваў, што ў той эпосе, у якую я трапіў, людзі яшчэ не ведалі кавы.

Я хуценька згатаваў каву і дадаў шмат цукру. Мой разлік спраўдзіўся: настрой у цара ўзняўся, і Ахаў ускочыў на ногі, гатовы адразу дзейнічаць. Маю конаўку ён так уважліва разглядаў падчас піцця, а пасля не выпускаў з рук, што мне давялося прапанаваць яму пакінуць яе ў сябе.

Гэта цара вельмі ўсцешыла, і ён прэзентаваў мне ў адказ залаты кубак, упрыгожаны каштоўнымі камянямі, звязку залатых кольцаў ды каня. Апошні падарунак вельмі ўсцешыў мяне, хоць ездзіць верхам мне раней не даводзілася, але праблема перавозу груза цяпер была вырашана.

## IV

Пасля таго, як царскі аршак ад'ехаў, пачаў збірацца і я. Праз нейкія паўгадзіны я ўжо ўскідваў свае пакункі на спіну каня. Яшчэ хвілін пяць сышло на перанастройку замка адсека-лядоўні ды праграмаванне аэравыведніка на забор тых прадуктаў, што заставаліся ў флаеры. Пазней ён будзе па маім загадзе перамяшчацца паміж дзвюма кропкамі, вызначанымі радыёмаячкамі: тым, што ўсталяваны на флаеры, і тым, што ўмацаваны ў мой сыгнет афіцэра Паветраных Сіл.

Неўзабаве я рушыў, ведучы каня за аброць. Мая дарога ляжала на захад.

* * *

Пра маю дарогу і жыццё каля струменя Кірат распавядаць асабліва няма чаго. Дабрацца туды аказалася не самай простай справай, бо шоў я пешшу. Вучыцца ездзіць на кані я пачаў тады, калі прыбыў на месца і паставіў намёт. Дый наважваўся на тое толькі ўвечары, калі спускалася цемра, каб не прыніжаць сябе ў вачах мясцовых жыхароў, выдатных вершнікаў.

Намёт я паставіў на купленым у мясцовага жыхара участку, зарослага лесам узгорка. Ваду браў са струмяня, а ежу стараўся набываць, каб надаўжэй расцягнуць свой запас на флаеры. Але гэта не заўсёды атрымлівалася і часам даводзілася выклікаць аэравыведнік, каб даставіў мне правіянт. Хоць і жыў я на адлюддзі, але гэтая справа, відаць, нядоўга заставалася таямніцай. Тым больш, што сяму-таму з маіх нячастых наведвальнікаў часам даводзілася пачаставацца ці то лусценем з хлебам і сырам нязвыклага выгляду ды смаку, ці то кус-кусам з тушонкай. Думаю, што менавіта карыстанне выведнікам надзяліла мяне найменнем прарока, бо знянацку пайшла пагалоска, што ежай мяне, з Божай волі, забяспечваюць крумкачы. Па вялікім рахунку, дзюбасты ды даўгакрылы абрыс выведніка і сапраўды можна прыняць за птушку, ды і па памеры ён падобны да вялікага крумкача.

З гэтага часу людзі пачалі прыносіць мне плён сваіх збораў і прасіць, каб я маліўся за іх, часам, каб разбіраў спрэчныя справы або лячыў хворага. Я стараўся выконваць іхнія просьбы. А паколькі я ўжо і так лічыўся прарокам, то ўсе свае ўдачы нязменна тлумачыў моцай Найвышэйшага.

Большасць часу рабіць мне не было чаго, і я паспрабаваў заняцца земляробствам. Расчысціў паляну побач з намётам пад невялічкі палетак і пачаў яго старанна ўрабляць. Вялікага поспеху ў гэтым я не дамогся, хоць сякі-такі ўраджай і сабраў. Думаю, справа была не толькі ў маім няўмельстве, але і ў засушы, бо гарачыня не спадала, і нават струмень пакрысе пачаў высыхаць.

Звесткі, што прыносіў выведнік, не дазвалялі спадзявацца на перамены да лепшага. Мне было зразумела, што ўжо надышоў час пакідаць гэтыя мясціны, каб пазней не давялося брысці ў натоўпе галодных уцекачоў. Тады я змалоў сабранае з палетка зерне на муку, купіў пару гарлачоў алею з алівак, каб у дарозе хутка гатаваць праснакі паводле мясцовага рэцэпта, і рушыў да марскога ўзбярэжжа.

**V**

Гарачыня мяне «дапякла», калі я быў зусім не далёка ад канцавога пункта майго падарожжа. Пад мурамі Сарэпты ў мяне здарыўся цеплавы ўдар, і я страціў прытомнасць. Дзякаваць Богу, у горад вярталася адна ўдава, што збірала ламачча на распал. Яна дала мне папіць і паліла вады на галаву, затым дапамагла падняцца і прывяла ў свой дом. Там я адляжаўся. Знясілены доўгай дарогай, я папрасіў есці, і яна спякла ды прынесла мне праснак; тады я не ведаў, на якую ахвяру пайшла гэтая жанчына.

Засуш на той час ужо панавала і ў прыморскіх раёнах. Хлеба не было па ўсёй краіне. Вычарпаліся дарэшты і ўдовіны запасы. Толькі пазней яна распавяла, што калі сустрэла мяне, збірала хвораст на апошнюю сваю вячэру. Бо мукі ды алею ў яе заставалася толькі на адзін праснак, які яна збіралася раздзяліць са сваім малым сынам. Гэты праснак яна аддала мне. Я паабяцаў ёй, што пакуль застануся ў гэтым доме, запасы ў засеках не пераведуцца. У мяне яшчэ заставаўся мех мукі ды гарлач алею, і я спадзяваўся, што да канца засушы гэтага хопіць. Так мы з удавой ратавалі адно аднаго. Ці, дакладней, яе ўратавала ейная дабрыня, а таксама і ейнага сына, бо калі ён захварэў на пнеўманію і ляжаў ледзь не пры смерці, мне ўдалося ўратаваць яго пры дапамозе ўколаў з аптэчкі.

* * *

Калі і мае запасы мукі ды алею амаль вычарпаліся, я выйшаў за гарадскія муры, каб запусціць метэазонд. Сабраная выведнікам інфармацыя напоўніла мяне бадзёрасцю ды аптымізмам, бо сонечная актыўнасць пачала зніжацца, а з Атлантыкі ў нашым кірунку адбывалася перамяшчэнне вялікіх мас вільготнага паветра.

Я ўжо вяртаўся ў горад, калі ўдалечыні заўважыў клубы пылу — па дарозе да мяне набліжаўся вялікі атрад вершнікаў. Навучаны досведам свайго колішняга падарожжа, я сышоў на ўзбочыну, каб не трапіць пад капыты коней. На маё здзіўленне, замест таго, каб пранесціся паўз мяне па дарозе, ваяры раптоўна спыніліся, а правадыр саскочыў з каня і кінуўся перада мною ніцма! Калі ён падняў галаву ад зямлі і прамовіў: «Ці ты гэта, спадару мой Ілья?» — я пазнаў некалі бачанага царскага спадарожніка, што трымаў Ахавага каня падчас нашае сустрэчы ў пустыні.

Я падышоў і дапамог яму ўзняцца; спытаў, чым магу быць карысны. Аказалася, што Ахаў даўно, але безвынікова расшуквае мяне. Ягоныя людзі натрапілі на мой след каля струменя Кірат, але прыбылі туды ўжо тады, калі я ад'ехаў. Толькі нядаўна мой суразмоўца, пасланы на ўзбярэжжа для пошукаў фуражу, пачуў у наваколлях Сарэпты пра выздараўленне хлопчыка. Роспыты прывялі яго да дома ўдавы, а затым вывелі на дарогу, за муры Сарэпты, дзе ён мяне і сустрэў. Авод пакорліва прасіў мяне пайсці разам з ім і стаць перад царом.

Настрой у мяне быў узнёслы, я не бачыў анічога заганнага, каб абвясціць Ахаву добрую навіну. Таму я сказаў Аводу, каб ён адправіўся да цара і перадаў, што я ў Сарэпце. Аднак той ведаў характар свайго валадара і адразу сцяміў, чым яму гэта пагражае. Ён зноў упаў перада мной на зямлю і пачаў прасіць, каб я не губіў яго.

Суцішыць яго было немагчыма, і мне давялося паабяцаць, што хутка да Ахавы прыбуду. Толькі пасля гэтага Авод пагадзіўся выправіцца ў дарогу, каб паведаміць цару пра мой прыезд.

* * *

Насуперак маім чаканням, Ахаў сустрэў мяне нядобра. Ён ужо не ставіўся да мяне пашанотліва і не імкнуўся дагадзіць. Калі я ўвайшоў, цар рэзка азірнуўся і ці то запытаў, ці то сцвердзіў ваяўнічым тонам:

— А, гэта ты, крыўдзіцелю майго краю?!

Відаць, ад часу нашае сустрэчы ў пустыні рэлігійная ды палітычная сітуацыя ў краіне істотным чынам змянілася. Да мяне даходзілі чуткі, што Ахаў яшчэ болей трапіў пад уплыў сваёй жонкі Езавелі — чужаземнай царэўны, якая пачала актыўна насаджаць культ Баала, не спыняючыся нават перад фізічным знішчэннем іншаверцаў. А паколькі асноўнымі яе ахвярамі былі менавіта прарокі ды святары, таму зразумела, чаму царскія пасланцы так мяне і не адшукалі — удзячныя сяляне хавалі мяне ад небяспекі. Цяпер мне прыгадалася, наколькі добразычліва і гасцінна сустракала мяне кожная вёсачка ці мястэчка падчас майго падарожжа.

У гэтай сітуацыі ўратаваць мяне магло толькі нахабства. Надаўшы паважнасць сваёй паставе, я ўрачыста прамовіў:

— Не я, а ты і род бацькі твайго нішчыце край! Бо забыліся вы на запаветы Бога вашага і пайшлі за Баалам! Збяры на гару Кармель народ, святароў Баалавых і пракакаў дуброўных, што кормяцца са стала Езавелінага, і ты ўбачыш цуды, якія здзейсніць Бог твой!

На Ахава мае словы падзейнічалі моцна: ён сцяў зубы, збялеў, а пасля, не кажучы ані слова, махнуў рукою, каб я сыходзіў. Назаўтра я даведаўся, што ва ўсе канцы краіны накіраваліся царскія пасланцы, каб склікаць народ на гару Кармель.

* * *

Азначанага дня на гары з самай раніцы пачаў збірацца натоўп. Наперадзе быў выстаўлены залаты пасад, на якім сядзеў Ахаў, яго атачалі набліжаныя са знаці ды ваяры, але царыцы Езавелі не было. Цар выглядаў змарнелым, быў апрануты ледзь не ў зрэб'е, а валасы пасыпаны попелам.

Прыйшлі на гару і служыцелі Баала, якія сталі наўзбоч. Болей адцягваць справу не мела сэнсу, мяне чакаў доўгі і няпросты дзень. Яшчэ ўчора, абдумваючы свой план, я вырашыў, што буду звяртацца не да цара і служкаў Баала, а да народа. Бо калі шмат людзей збіраецца разам у адным месцы, то яны пераўтвараюцца ў натоўп. Калі мне ўдасца пераканаць яго ў сваёй слушнасці, то ён сваёй аднадумнай атмасферай ды ўпэўненасцю падзейнічае і на цара. Калі ж рабіць стаўку на Ахава, то тут не ўгадаеш, што возьме верх: боязь Найвышэйшага ці непрыязь да мяне і прыхільнасць да жонкі з яе багамі. Лягчэй уздзейнічаць на эмоцыі многіх, чым аднаго, асабліва, калі яго добра не ведаеш. Таму я стаў перад народам і кінуў у натоўп словы абвінавачання:

— Дакуль вы будзеце кульгаць на абедзве нагі? Калі Бог, дык служыце Госпаду, а калі Баал — дык ідзеце за Баалам!

Людзі маўчалі, а я працягваў:

— Я застаўся адзіны з прарокаў Прадвечнага, а прарокаў Баала тут — чатырыста пяцьдзясят чалавек. Хай жа нам дадуць па цяляці — і паглядзім, чыя ахвяра будзе прынятая.

Народ сустрэў гэтую прапанову згодай. Ахаў таксама не быў супраць. Ён загадаў прывесці двух цяльцоў і скласці дровы ў стос для ахвяры. Калі бычкоў прывялі, я сказаў Баалавым прарокам:

— Вас шмат, дык вы і пачынайце! Абірайце цяля і прынясіце яго ў ахвяру, раздзяліце згодна з вашымі звычаямі і ўскладзіце на дровы для спалення, але агню

не падносце! Маліцеся Баалу, калі ён бог і чуе вашыя малітвы, дык хай сам запаліць дровы пад ахвярай!

Калі яны закончылі з бычком, сонца стаяла ўжо высока. Зрабіўшы ўсё належнае, пракокі пачалі спяваць гімны і ўзносіць палымяныя малітвы, каб божышча даравала ім цуд.

Непадалёк ад месца, дзе я стаяў, знаходзіўся разбураны па загадзе царыцы Езавелі ахвярнік Найвышэйшага, мой план быў звязаны менавіта з ім. Падышоўшы да рэштак асновы, я пачаў збіраць раскіданыя на адлегласці вялікія камяні ды зносіць іх у адно месца. Праца была нялёгкая, але ў гэты час з натоўпу выступіў нейкі маладзён і звярнуўся да мяне:

— Чалавек Божы, я — Елісей, сын святара. Дазволь дапамагаць табе!

Я пагадзіўся з радасцю, бо з такімі цяжкімі камянямі сам я, напэўна, хутка выбіўся б з сілы. Елісей з сябрамі дапамог мне спачатку пазносіць іх у адно месца, а затым — адбудаваць ахвярнік. Затым мы пачалі акопваць ахвярнік раўчуком.

Набліжаўся час вечаровай малітвы. Гадзіна-другая — і сонца зойдзе. Мяне гэта задавальняла: цемра схавае тое, што іншым бачыць непажадана, і зробіць маё «цудадзейства» больш эфектоўным. А яшчэ ж трэба забіць і разабраць нашага цяля! Тут дапамога Елісея прыдалася асабліва: хоць мне і даводзілася раней назіраць ускладанне ўсяпальнай ахвяры, але сам я ніколі гэтага не рабіў.

Прарокі Баала ўсё яшчэ ўсклікалі да свайго божышча, скакалі ў рытуальных танцах, а нават рэзалі нажамі сабе да крыві твары ды грудзі, але нічога не дапамагала. Бог не чыніў цудаў.

Калі дровы былі ўскладзены на ахвярнік, а часткі цяляці на дровы, я звярнуўся да народа:

— Ці мае хто з вас вядро?

Знайшлося ажно чатыры. Я загадаў пайсці ды прынесці вады з блізкага струменя, я калі вада была дастаўлена — выліць яе на ахвяру. Затым паўтарыць тое другі і трэці раз, пакуль вада, сцёкшы з ахвярніка, не запоўніла раўчук. Калі мы закончылі, пачынала ўжо цямнець, варта запальвала паходні. Надышоў час для дзейства!

Я стаў перад ахвярнікам і, узняўшы рукі да неба, узнёс маленне аб цудзе. Найперш, праўда, ціха пра сябе прамовіў кароткую асабістую малітву: «Божа, калі Ты ёсць, даруй мне мой падман і гульню з пачуццямі сабраных тут людзей! Ты бачыш, што раблю я гэта толькі для ўратавання сябе ды іншых нявінных, хто яшчэ выжыў у гэтым гвалце. Дый тое, што я ўчыню, будзе скіравана на праслаўленне імя твайго!» Завяршыўшы сваю няўмелую малітву, я звярнуўся да Бога ўжо на поўны голас у стылістыцы святарскіх модлаў:

— Госпадзе, Божа Абрагамаў, Ісаакаў і Ізраілеў! Хай усе спазнаюць у гэты дзень, што Ты адзіны Бог у Ізраілі і што я, слуга Твой, раблю ўсё паводле слова Твайго. Пачуй мяне, Госпадзе, пачуй мяне! Хай спазнае народ гэты, што Ты, Госпадзе, Бог, і Ты павернеш сэрцы іхнія да Цябе.

І ў гэтую хвіліну адбыўся цуд: сышоў з неба на ахвярнік агонь, дровы палыхнулі, ператварыўшыся разам з ахвярай у купку попелу, вада ў раўчуку выпарылася, а ўвесь народ паў ніцма і ўславіў Найвышэйшага.

* * *

Я стаяў, узвышаючыся над усімі. У страху перад праявай упалі на калені не толькі простыя людзі з натоўпу, але і сам цар Ахаў са сваімі набліжанымі і нават прарокі Баала. Я перамог! Але што я адчуваю? Нейкую дзіўную сумесь пачуццяў...

А ў патыліцы ды паміж лапатак — цяжар, быццам бы мне на плечы ўсклалі свінцовую брылу.

Я запаліў паходню і заклікаў усіх устаць. Першым падняўся з зямлі Ахаў і з асцярогаю азірнуўся, быццам баючыся ўбачыць поруч з сабой самога Найвышэйшага. За ім пачалі ўставаць і ўсе астатнія. Толькі баалавы прарокі ляжалі ніцма і скавыталі са страху. Асцерагаючыся людскога самасуду, я папрасіў Ахава атачыць іх вартай і перадаць мне.

Назаўтра, забараніўшы іншым ісці за мной, я вывеў Баалавых служак да струменя Кісот і загадаў ім пакінуць краіну назаўсёды, бо калі вернуцца, іх напаткае кара Найвышэйшага; пасля бачанага на гары Кармель яны ні на каліва не сумняваліся ў слушнасці маіх слоў. На пытанне ж, зададзенае Ахавам па маім вяртанні, я сумленна адказаў, што аддаў іхнія жыцці ў дарунак Прадвечнаму. Ён зразумеў мае словы, сыходзячы з рэалій свайго часу. Тым не менш, адказ яго задаволіў, а я здабыў славу змагара за веру.

Пасля гэтага я палічыў, што можна суцешыць цара абяцаннем хуткага дажджу.

— Ідзі ў свой намёт, — сказаў я, — еш і пі, бо твой пост скончыўся! Неўзабаве пойдзе дождж!

Я вярнуўся на гару Кармель, бо хацелася пабыць сам-насам ды паразважыць, што рабіць далей. Аднак тут мяне чакаў маладзён Елісей, які, упаўшы ў ногі, прасіў дазволіць яму застацца і прыслужваць мне. Апошнія падзеі пазбавілі мяне сіл, таму я адаслаў яго назіраць за небам над морам. Сам жа ўкленчыў, ашчаперыўшы рукамі галаву і даткнуўшы ілбом зямлі. Цяжар у патыліцы не мінаў, як і незразумелы раздрай у душы.

Елісей некалькі разоў вяртаўся да мяне, апавядаючы, што неба над морам чыстае, але я зноў і зноў пасылаў яго назіраць далей. На шосты ці сёмы раз хлопец прынёс навіну, што над морам уздымаецца воблака. Мне крыху палягчэла на душы, і я адаслаў свайго памагатага да цара з паведамленнем, каб той хутчэй ад’язджаў, бо трапіць пад залеву. Я хацеў, каб ён ад мяне першага даведаўся пра змену надвор’я.

Сам я таксама вырашыў пакінуць гару Кармель. Тут мне рабіць ужо не было чаго, ды і заставацца ў пустынным месцы не хацелася. Я не сумняваўся, што ўчарашнім спектаклем нажыў сабе не толькі прыхільнікаў, але і ворагаў. І першай сярод іх будзе царыца Езавель. У такой сітуацыі мне больш бяспечна знаходзіцца ў вялікім горадзе, а яшчэ лепей — у шматлюднай сталіцы, дзе яна пабаіцца мяне крануць. Я вырашыў накіравацца ў Самарыю.

Неўзабаве неба зацягнула хмарамі, узняўся вялікі вецер — пачалася залева. Мы з Елісеем ішлі, не зважаючы на непагадзь. Зрэшты, пасля столькіх месяцаў засушы, мне гэта нават падабалася: дождж змываў з цела пот і бруд, вецер прыемна ахалоджваў. Мне ўзгадвалася дзяцінства, калі мы з сябрамі любілі пабегаць пад летнім дажджом… Елісею, звычнаму да гарачыні, даводзілася нялёгка, але ён мужна пераносіў усе нягоды.

Напаўдарозе да Самарыі нас нагнаў царскі аршак. Вядома ж, Ахаў перачакаў непагадзь пад дахам, а выязджаў, калі ўжо суцішалася. Яму і ў галаву прыйсці не магло, што можна падарожнічаць пад залевай; таму ён быў вельмі здзіўлены, калі ўбачыў нас перад сабой у браме. На яго нямое пытанне я пажартаваў, што, маўляў, бегма беглі. У мяне не зусім звычайнае пачуццё гумару, бо суразмоўцы часта не разумеюць мае жарты. Пасля я неаднойчы пераконваўся, што людзі ўспрымаюць сказанае мною занадта сур’ёзна, беручы ўсё за праўду. Так было і гэтым разам. Аднойчы на рынку мне давялося пачуць аповед пра тое, як на Ілью сышоў Божы дух, і прарок так хутка бег, што перагнаў калясніцу, запрэжаную лепшымі царскімі коньмі. Што тут скажаш?..

* * *

Насуперак маім чаканням, Самарыя не сталася для мяне бяспечным месцам. Даведаўшыся пра тое, што здарылася на гары Кармель, царыца запалала да мяне нянавісцю, на якую здатныя толькі жанчыны Усходу. Не паспеў я, прыбыўшы ў сталіцу, знайсці сабе сталы прытулак, як мяне расшукалі Езавеліны пасланцы. Яны перадалі мне ейныя словы: царыца клялася ўсімі багамі, што ў помсту за прарокаў баалавых не дасць мне дажыць нават да ранку наступнага дня. Паколькі гаворка была не пра арышт, але пра падасланага ўночы забойцу, я вырашыў не выпрабоўваць лёс і накіраваўся на захад, прэч ад Самарыі.

Аднак і пакінуўшы сталіцу я не меў спакою, бо ледзь не ў кожным паселішчы спагадлівыя жыхары апавядалі, што пра мяне ўжо распытвалі нейкія нядобрыя людзі. Так мы дайшлі да Вірсавіі, што на мяжы з Эдомам. Там я развітаўся з Елісеем, даўшы яму абяцанне расшукаць яго пазней, а сам накіраваўся ў пустыню, каб замесці сляды. Я нават пастараўся змяніць знешнасць: скінуў зношаны супрацьспякотны халат, апрануўшы замест яго звычайны плашч з аўчыны, які ў гэтых краях насілі пастухі. На што толькі чалавек не ўскладае надзеі са страху...

* * *

Мая вандроўка не была бязмэтнай. Я ішоў на гару Харэў, што знаходзіцца на поўдні Сінайскай выспы. Я баяўся, бо бачыў, што ў Палесціне мяне нішто не ўратуе ад пераследнікаў. Толькі на іншым канцы паўвыспы, за пяскамі Аравійскай пустыні, я мог знайсці сабе больш бяспечны прытулак.

Дарога выдалася цяжкой і доўгай. Неаднойчы сілы пакідалі мяне, і я задумваўся, навошта гэтыя пакуты і самазрачэнне, гэты цяжар пераходу пустыні і вечная смага. Ці не лепей даць Езавелі сябе забіць і болей не мучыцца? Але ўсё ж неяк сунуўся наперад...

Нарэшце дайшоўшы, я паставіў на адным са схілаў гары намёт і пачаў жыць у ім. На такой вышыні часта бывалі моцныя вятры, а добра замацаваць намёт у каменістай зямлі не ўдавалася, і пры змене надвор'я ён не раз лунаў у паветры як сцяг.

Аднойчы, падчас блуканняў па ваколіцах, мне пашчасціла знайсці пячору, і я неўзабаве туды перабраўся. У пячоры было прасторна, і я не меў больш праблем з ветрам. Праўда, цяпер узнікла праблема з асвятленнем, і мне давялося раскласці ды падтрымліваць вогнішча. А праз некалькі дзён мне давялося назіраць незвычайныя з'явы. Я быў у пячоры, калі зямля пада мной пачала скаланацца, таму давялося выйсці вонкі, каб не быць засыпаным. Стаяў ля ўвахода і глядзеў, як у некалькіх месцах па схіле гары з-пад зямлі вырываюцца слупы полымя. Відовішча было грандыёзнае! Адзін з такіх вогненых слупоў вырываўся з-пад уступа, на якім яшчэ пару дзён таму стаяў мой намёт. Калі б я не перабраўся адтуль у пячору, дык палаў бы як паходня!

Неўзабаве агні згаслі, віхор таксама суцішыўся, а я адчуў на сваёй шчацэ пяшчотны павеў лагоднага ветрыка. Гэткая раптоўная змена здавалася неверагоднай! Пасля я не спаў амаль да ранку, разважаючы над тым, што бачыў. Я шмат зразумеў, бадай, толькі тады я насамрэч «прыйшоў» да Бога. Я зразумеў, што Бог — не ў моцным ветры, не ў землятрусе і не ў агні. Бог — у лагодным ветрыку.

Калі я прачнуўся, страх, што жыў ува мне апошнія месяцы, некуды знік. Я болей не баяўся ані Езавелі з ейнымі забойцамі, ані землятрусу з вогнненымі слупамі агню, ані нечага іншага. Я ведаў, што Бог са мной; што Ён — у лагодным ветрыку, які абдзімаў мяне... Я сабраў рэчы, склаў намёт і рушыў у зваротны шлях.

* * *

Прыйшоўшы ў Самарыю, я стаў перад Ахавам ды Езавеляй і сказаў:

— Так кажа Госпад: калі не супыніцеся чыніць змову і замахі на слугу майго Ілью, то я навяду меч і агонь на гэты горад, на гэтую краіну і гэты народ. А слугу майго я ўкрыю ад вашых вачэй ды выведу з-пад вашае ўлады, а ён намасціць Азаіла царом над Сірыяй, ды Іюя — царом над Ізраілем. І тады станецца так, што каго не заб'е Азаіл, таго заб'е Іюй, а каго не заб'е Іюй — таго заб'е Азаіл. І застанецца з народа рэшта — не болей за сем тысяч чалавек тых, хто не служыў Баалу.

Езавель была кабетай падступнай ды помслівай, але ніяк не глупай або неразважлівай. Не ведаю, ці паверыла яна, што я казаў ад Найвышэйшага, а не ад сябе асабіста; але, відаць, царыца добра ўяўляла ўсю гібельнасць для сябе апісанага мною плана. Яна разумела, што калі мне сапраўды ўдасца развязаць грамадзянскую вайну, то краіна патоне ў крыві, а іхняе з Ахавам цараванне без дапамогі з саюзнай Сірыі пратрывае нядоўга. У выніку яна вырашыла не рызыкаваць і дазволіла мне сысці. Болей ужо ніхто не паляваў на мяне да самага канца знаходжання ў краіне.

З Ахавам мне пазней яшчэ даводзілася сустракацца колькі разоў, калі я мусіў ганьбіць яго за благія ўчынкі. Ён атачыў сябе натоўпам пракракаў, якія казалі тое, што ён хацеў чуць. Гэта яго і загубіла. Маючы ілжывыя прадказанні, ён распачаў вайну з арамеямі, на якой і загінуў.

Што да мяне, дык на той час я ўжо канчаткова страціў надзею вярнуцца ў свой родны свет. Згодна са сваім колішнім абяцаннем я знайшоў Елісея і забраў яго з узаранага поля; а затым пайшоў да людзей, каб жыць сярод іх і дапамагаць.

## ЭПІЛОГ

Мы з Елісеем шлі па дарозе да Іардана. Быў ясны дзень.

Раптам у небе адбылося нешта накшталт бясшумнага выбуху, і над дарогай з'явіўся вялізны штурмавы флаер з камуфляжам на бартах. Дарога пад ім умомант апусцела, людзі пачалі разбягацца, але спыняліся наводдаль: цікавосць часта мацнейшая за страх. Верны Елісей упаў ніцма побач са мной і закрыў твар рукамі.

Магутныя турбіны рухавіка развярнуліся вертыкальна і няўклюдная на першы погляд машына пачала зніжацца. З чэрава флаера высыпае ўзвод дэсантнікаў, умомант займаючы абарону па перыметры. Па трапе сыходзіць палкоўнік у крапавым берэце, за ім подбегам спяшаецца сувязіст з дэтэктарам накірунку сігнала. У прыстасаваннях, зрэшты, няма патрэбы — на дарозе стаю я адзін. Палкоўнік адразу гэта разумее і рашучым крокам скіроўваецца да мяне, аслупянелага ад нечаканасці.

— Паветраныя Сілы сваіх не кідаюць, сынок! — урачыста прамаўляе ён, працягваючы мне руку.

— Як вам удалося мяне знайсці? — шчыра здзіўляюся я.

— Я ж, сынок, каталік, — адказвае палкоўнік і, выцягнуўшы з кішэні Біблію, падае́ яе мне.

Я бяру яе, і кніга сама раскрываецца, мне кідаецца ў вочы калантытул: «2-я Кніга Каралёў. Раздзел 2».

*Аксана БЯЗЛЕПКІНА*

# ІНТЭРВ'Ю НА ПАМЯЦЬ

*Апавяданне*

Калі ад'ехалі апошнія машыны хуткай дапамогі, можна было нарэшце выйсці да журналістаў. Боты былі ў брудзе і крыві, куртка з нашыўкай «МНС» — у нейкіх цёмных пісягах: на месцы катастрофы немагчыма выглядаць адпрасаваным і чысценькім. Але цяпер Віктар думаў пра іншае і саромеўся сваіх думак. Прыйдзе яна ці не?

Сярод журналістаў-надзвычайнікаў такія дзяўчаты не затрымліваліся: трэба моцная псіхіка і сталёвыя нервы. Жанчын было шмат, але вось такіх, каб на абцасах лезці на месца катастрофы… Вунь у першым шэрагу стаяла Маргарыта Кова: твар хірурга перад аперацыяй, стрыманасць і засяроджанасць, адэкватныя сітуацыі. На яе сюжэтах вучыліся наступнікі. Віктар не ведаў, як апаноўвае эмоцыі Кова, але пра мужчын-журналістаў здагадваўся: некаторым дапамагала трымацца ў прафесіі здольнасць вытрымаць алкагольны допінг, які часова ратаваў ад ачмурэння тлумным жыццём у мегаполісе: такое прафесійнае існаванне паміж побытавымі трагедыямі і жудаснымі шматахвярнымі катастрофамі.

Яна прыйшла. Светлыя валасы і ярка-чырвоная куртка, мікрафон з лагатыпам 88 канала на паралонавым кубіку. Перамаўлялася з аператарам (здаецца, мінулы раз яна таксама была з ім: супадзенне ці нешта большае?) і нават усміхалася, нібыта не мелася гэтага цягніка і сотні ахвяр, нібыта яшчэ паўгадзіны таму выратавальнікі не выцягвалі параненых і загінулых з пакурчанага металу, нібыта цяпер не рыдаюць родныя над заўчасна памерлымі. Віктар глядзеў на гэтую яе недаравальную яркасць і яму пачынала здавацца, што катастрофа была не тут і не пра яе прычыны і наступствы ён цяпер павінен гаварыць.

Мінулы раз — ці не паўгады таму? — яна вычакала, пакуль усе разыдуцца і падышла пазнаёміцца ды пагаварыць. І, што хаваць, атрымаць крыху больш інфармацыі. А яму тады так захацелася застацца ў яе памяці, так захацелася пагаварыць з ёй лішнюю хвіліну, што ён апраўдаў яе надзеі і цяпер зноў спадзяваўся на асабістую размову. Ён баяўся прызнацца сабе, як прагнуў сустрэчы з гэтай жыццярадаснай журналісткай, шкада, што ўмовы сустрэчы з ёй заўжды трагічныя.



***Аксана Бязлепкіна нарадзілася 26 ліпеня 1981 года ў Гомелі. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Выкладчык Інстытута журналістыкі БДУ. Аўтар кнігі прозы «Ляўша на тэнісным корце» (2002), манаграфіі «Разам і паасобку: Таварыства «Тутэйшыя» (2003) і даведніка «100 слоў пра сучасную беларускую літаратуру» (2012).***

Ён глядзеў на журналістаў і адчуваў, як разнявольваецца ўнутры, як адпускае яго страх. Як жа ён баяўся, што яе не будзе. Яна тады з усмешкай расказвала, што надзвычайныя сітуацыі для яе — падпрацоўка, што яна студэнтка, што, вядома, ад яе лягчэй было б чакаць гламурных допісаў пра моду і стыль, але яна ўсім дакажа. А яму ўпершыню было няважна, ці дакладна праінтэрпрэтуюць яго словы, ці не будзе памылак у лічбах і фактах. Яна прыйшла!

…Ён дазволіў сабе злоўжыванне пасадай, каб пакінуць інфармацыю адмыслова для яе. Яна ўсміхалася, а калі ён казаў пра ахвяр, на яе вочы нагарнуліся слёзы. Яму гэта было прыемна — суперажывае! Але ён ведаў: ад суперажывання да звальнення адзін крок. Як жа яе затрымаць!? Паклікаць на спатканне? У акрываўленых ботах і на фоне цягніка, які сышоў з моста. Рамантычна, нічога не скажаш…

Загаварыць пра спатканне не атрымалася. Размову яна скончыла дзіўна:

— Віктар, мне шалёна прыемна з вамі пазнаёміцца! Рэдка сустрэнеш такога прафесійнага прэс-сакратара.

Ён адчуў, як выцягнуўся твар. Аператар глядзеў з паблажлівай усмешкай, відавочна, памятаючы мінулую размову. Яна забыла? Для яе гэта шараговы момант у прафесіі? Настолькі шараговы?

* * *

Калі ён нарэшце вярнуўся ў офіс, калегі глядзелі навіны з вялікага экрана, пераключаючы каналы, каб параўнаць журналісцкую работу розных каналаў. Аднолькавыя карцінкі разнастаіліся каментарыямі рознага ўзроўню аналітычнасці. І толькі Лідзія Мітас змагла здабыць больш інфармацыі. Калегі заўважылі гэта і пачалі пасмейвацца, а Віктар мусіў прызнаць, што ягоныя намаганні сюжэт Лідзіі не ўратавалі, па прафесіяналізме Маргарыта Кова была вышэй на галаву.

* * *

— Ну што, будзеш чакаць новай катастрофы? А ты не думаў, што можна самому цягнік пад адхон пусціць і прызнацца Лідзіі Мітас у прамым эфіры? Яна прачнулася б знакамітай. І, магчыма, нарэшце запомніла б цябе, — сябры былі бязлітаснымі ў сваіх пакепліваннях.

— Колькі яшчэ людзей павінна загінуць, каб ты яе запрасіў на спатканне?

Напэўна, яны вычварaліся б у зубаскальстве і далей, калі б у кавярню ў гэты момант не зайшлі Маргарыта Кова і Лідзія Мітас. Жанчыны селі за столік непадалёк, сябры старанна пераключыліся на іншыя тэмы.

Зрэшты, Віктар ведаў, што размову хлопцаў далей можна не слухаць і проста глядзеў на жанчын. Кова перапляла доўгія пальцы пад падбароддзем, уважліва слухаючы Мітас. Дзяўчына нешта тлумачыла. Спрабавала пераконваць. Відавочна, у яе не атрымлівалася. Маргарыта Кова, здавалася, нават не слухала суразмоўцу, яна абвяла позіркам залу, кіўком павіталася з Віктарам. Лідзія азірнулася, спадзеючыся ўбачыць некага знаёмага, сустрэлася поглядам з Віктарам, не пазнала і адвярнулася. Зноў не пазнала! Ды што ж гэта за здзек!

Зрэшты, Маргарыта Кова таксама забыла пра Віктара, бо размова перайшла на павышаныя таны. Ісці ў прыбіральню трэба было міма іх століка, і Віктар ішоў павольна.

— Лідзія, альбо вы звальняецеся, альбо я паведамлю ў дэканат, што вы больш не наведваеце мой спецкурс!

Хто мог падумаць, што іх звязваюць такія адносіны. Цікава, гэта яны так сварацца за тую інфармацыю, што Віктар прытрымаў для студэнткі, а выкладчыца цяпер лютуе?

Калі ён вяртаўся назад, іх ужо не было.

* * *

Аварыя, ахвяр няма, паранены кіроўца дэблакаваны з аўтамабіля; пажар, ахвяра — п'яны гаспадар кватэры; выбух газу, ахвяр няма… Віктар пераглядаў зводкі.

Падтрымка прыйшла з нечаканага боку: снежны шторм Бардэм патрабаваў, крычаў пра неабходнасць папярэдзіць насельніцтва. Ён жа бывае раз на… Віктар не змог прыгадаць, калі быў такі самы ўраган. Здаецца, ён тады яшчэ не працаваў на гэтай пасадзе, трэба паглядзець у інтэрнэце.

Сярод журналістаў Лідзіі Мітас не было, а ў першым шэрагу ўвасабляла спакой Маргарыта Кова. «О, яна дакладна памятае, калі апошні раз быў снежны шторм», — зласліва падумаў Віктар. А Лідзія, відаць, паміж прафесіяй і спецкурсам Ковы выбрала спецкурс.

Віктар раптам зразумеў, што ў ім наспявае Бардэм не горшы за снежны. Да пачатку прэс-канферэнцыі заставаліся лічаныя хвіліны, але ён падышоў да Маргарыты Ковы.

— Я выпадкова падслухаў вашу размову з канкурэнткай з 88 канала.

Здавалася, Кова не разумее, пра што гаворка.

— Вы паставілі ёй ультыматум: альбо звальненне, альбо сыдзе з вашага спецкурса. Як яе вучоба? Я так разумею, яна выбрала спецкурс.

— Віктар, мы з калегамі заўважылі вашу неабыякавасць да Лідзіі. Можаце не чырванець. Баюся, ваша неаб'ектыўнасць ні для каго не сакрэт. Праўда, я не чакала, што вы звернецеся менавіта да мяне з пытаннем пра Лідзію. Магу вас супакоіць. Яна добра вучыцца, а сёння, відаць, спазняецца.

Лідзія забегла ў залу, нібыта ілюструючы словы сваёй выкладчыцы. Уважліва-халодны погляд дзяўчыны паказаў Віктару, што сёння ён зноў не зможа запрасіць яе ў кавярню.

* * *

— Віця-а-а, у час Бардэму замёрз беспрытульны сабачка. Збіраем прэс-канферэнцыю? — прафесійны цынізм часам пераўзыходзіў межы. Віктар не ведаў, да каго больш бязлітасным быў гэты жарт: да сабачкі ці да яго.

— Слухай, у нас тут людзі зводкі перабіраюць, хочуць табе дапамагчы. Што ты адварочваешся… Хочаш, лёгкую выбухоўку на вакзале разальем, га? Нуль ахвяр, 40 секунд эфірнага часу, — пад рогат калег пакепліваў офісны сябар.

* * *

Усё-ткі Маргарыта Кова не была такой абыякавай, якой хацела выглядаць. Яе голас у слухаўцы Віктар пазнаў адразу, і ўмомант падумаў, як кантрастуе яе знешнасць з голасам і, магчыма, існасцю.

— Майстар-клас для студэнтаў і выкладчыкаў? Па журналістыцы? Падводныя камяні працы прэс-сакратара?

Віктар адчуў, як перасыхае ў горле:

— Для студэнтаў вашага спецкурса? А-а-а, для ўсяго курса…

Хай будзе зямля пухам безназоўнаму і беспрытульнаму сабачку, але ў панядзелак ён пабачыць Лідзію. І гэта самае важнае!

* * *

Выступленне Віктара было трэцім у спісе, і з досведу папярэдніх выступоўцаў ён зразумеў, што лепей гаварыць пра сваё хвіліны тры, каб потым хвілін дваццаць адказваць на пытанні, якія сапраўды цікавыя аўдыторыі.

Першае ж пытанне выглядала правакацыйным. Падняўся сталы каржакаваты мужчына, відавочна не студэнт, але і да выкладчыка ён не быў падобны.

— Скажыце, жанчыны могуць добра пісаць ці рабіць рэпартажы з месцаў трагедый? Ім не шкодна столькі адмоўных эмоцый?

Віктару здалося, што на такое недарэчнае пытанне ў яго ёсць дакладны адказ.

— Такое пытанне дзіўна гучыць у аўдыторыі, дзе знаходзіцца славутая Маргарыта Кова, — ён паказаў рукой у кірунку выкладчыцы. — І…

Кова нібыта адчула, што ён зараз згадае Лідзію Мітас, і закрыла твар рукой. «Прафесійная рэўнасць?» — паспеў падумаць Віктар, але дадаў… — і Лідзія Мітас! Вядома, жанчыны могуць пра гэта пісаць і рабіць рэпартажы!

— Дык я таму і пытаю, што перажываю за Ліду. Ой, я забыў назвацца. Патап Краўчанка, загадчык мнемалабараторыі. Мы памяць чысцім. Тут у нас журналісты, усякае бывае. Як толькі Ліда пачала працаваць на 88 канале, дык проста заўсёдніцай стала. А ў нас старое абсталяванне, мы не можам так тонка пачысціць, як у медыцынскіх цэнтрах, затое бясплатна. Дык я і падумаў, чым так калечыцца… Альбо, раз яна столькі зарабляе, хай ходзіць да медыкаў, альбо не трэба наогул дзяўчатам у гэтую тэму лезці…

На апошнім шэрагу пачалі падымацца студэнты, выпускаючы заплаканую Лідзію з аўдыторыі.

* * *

На кафедры Маргарыта Кова прапанавала госцю гарбату.

— Чаму вы мне не сказалі, што ў яе такія праблемы?

— Віктар, вы ад пачуццяў зусім аслеплі? Хіба вы не заўважалі, што яна вас не памятае? Вы думалі, што Лідзія настолькі няўдзячная? Вы ёй давалі ўнікальную інфармацыю — і гэтага я вам ніколі не забуду, але не заўважалі, што яна з вамі нават не вітаецца? Сучасная моладзь на мнемапрацэдуры ходзіць, як у салярый. Як толькі каханне скончылася, сціраюць памяць — і ўсё спачатку. Часам нават з тым жа чалавекам.

Маргарыта Кова гаварыла зацята, неабыякава. Віктару здалося, што яна нібыта суперажывае гэтым няўдалым закаханасцям, але Кова і тут засталася прафесіяналам:

— Як выкладчыку працаваць з такой датклівай моладдзю? Расказваеш на занятках важную інфармацыю, сакрэты прафесійныя, якія ім дзесяць гадоў памылак зэканомяць, а прыходзіць смс-ка — і хлопец ідзе ў мнемалабараторыю. Не мірыцца, не высвятляць прычыны, не тлумачыць непаразуменне — адразу знішчаць успаміны. Гэтае пакаленне не ўмее камунікаваць! Вырашаць праблемы! Няма памяці — няма праблемы! Бог з ёй, з журналістыкай… Мы хацелі, каб яны ведалі гісторыю краіны. А яны не могуць запомніць уласнае жыццё! Бяруць дазвол у бацькоў і з чатыр-

наццаці гадоў ужо кліенты мнемакабінетаў. Ніякіх падлеткавых крызісаў… Усё на сметнік памяці.

— Мне здаецца, вы перабольшваеце праблему. Я чуў пра гэта. Але з майго асяродку, здаецца, ніхто гэтым не карыстаецца.

— Вы працуеце з дарослымі людзьмі, сфарміраванымі ў той час, калі мнемапрацэдуры не былі такімі распаўсюджанымі і такімі дасяжнымі. Ахвярам «вашых» катастроф дапамагаюць псіхолагі. А я працую з моладдзю, якая не цэніць свой жыццёвы досвед. Ім нашмат танней і хутчэй усё пачысціць, чым ісці да псіхолага. Зрэшты… Віктар, вы ж самі не заўважылі ці не зразумелі, што Лідзія вас забыла. Вы, мабыць, думалі, што не цікавіце яе, а гэта проста загадчык мнемалабараторыі перастараўся.

— Я не мог падумаць, што яна таксама з пакалення тых, хто хоча забыць адмоўныя эмоцыі.

— Лідзія хадзіла ў мнемалабараторыю не з прычыны анекдатычнай дзявочай эмацыйнасці. Калісьці даўно яе сям'я трапіла ў аўтакатастрофу, выжыла толькі яна. Дэблакавалі яе вашы калегі. Бацькоў уратаваць не атрымалася.

— Навошта тады яна працуе на 88 канале?

— Фатальны збег фактараў. Грошы і слава. На 88 канале любяць стэндапы дзяўчат на фоне разбітых аўтамабіляў. Амбітнасць. Яна ў маім спецкурсе, а інфармацыю часам здабывае лепей за мяне. Здаецца, я ўжо гаварыла, што гэтага вам не забуду. І псіхалагічная траўма дзяцінства. Пасля выступлення Патапа Краўчанкі ў яе ёсць добры стымул кінуць працу, так што, Віктар, спяшайцеся…

* * *

Яна прыйшла да Віктара сама. Запрасіла ў кавярню на інтэрв'ю, бо трэба выканаць тэставае заданне для часопіса «Псіхалогія online». А Віктар сапраўды спец па псіхалогіі надзвычайных сітуацый.

Ён старанна падбіраў словы, а ёй проста хацелася, каб ён гаварыў, неістотна што. Лідзія глядзела на няўключаны дыктафон і на Віктара. А «Псіхалогія online» пачакае… Усё-ткі мела рацыю спадарыня Маргарыта, калі сказала, што ягонай смеласці хапае толькі на надзвычайныя сітуацыі. Якая гэта асалода — памятаць чалавека. Вочы, вусны, жэсты і нават форму з надпісам «МНС»… Неістотна, што будзе далей. Магчыма, не будзе нічога. Але цяпер хацелася помніць усё: важнае і дробнае, неабходнае і неістотнае.

Ён раптам заўважыў, што дыктафон выключаны. Лідзія перахапіла яго позірк.

— Я ўзяла інтэрв'ю — на памяць… Там цяпер многа месца для таго, што варта запомніць…

*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

*Джэніфер ГІЗБРЭХТ*

# УСЕ МАЕ ПРЫНЦЫ ЗАГІНУЛІ



***Джэніфер Гізбрэхт нарадзілася ў горадзе Галіфакс (Канада) у 1986 годзе. Вывучае гісторыю ва ўніверсітэце, з'яўляецца членам мясцовай тэатральнай суполкі і спрабуе сябе ў якасці драматурга.***

**I.** На самым пачатку стварэння сусвету зямля поўнілася пачварамі.

**II.** Яго парадзіла неба, мяне парадзіла зямля. Чорны бруд стаў маім целам — з цёмнымі паглыбленнямі і рэзкімі лініямі. Дзве буйныя далоні сціскалі мой стан, так каб на яго было зручна класці рукі. На ўнутраным баку маіх сцёгнаў былі сляды ад пальцаў: два глыбокія адбіткі там, куды ён ціснуў у жаданні адчуць, як пульсуе кроў у маіх венах. Досыць глыбокія, каб мой муж адчуваў мой пульс, расхінаючы мае ногі. Так нарадзілася наша першае дзіця. Ён нарадзіўся аблеплены брудам, і ў ціхім біцці ягонага сэрца было штосьці адчайнае. Бацька падняў яго за нагу, сціскаючы шчыкалатку, пакуль мяккая дзіцячая плоць не пайшла пухірамі ў ягоным жорсткім кулаку і не стала бяскроўна-белай. На малюсенькай ножцы паказаліся чатыры чорныя кіпцюры. У роце майго сына былі вострыя зубы, а на галаве — грубая ваўчыная поўсць, якая ахоўвала яго ад пранізлівага ветру. Гэта я надарыла яго ўсім гэтым. Я парадзіла лепшае, што магла.

— Гэта звер, — сказаў мой муж.

Я спытала яго:

— Чаму ў нашых сыноў не павінна быць іклаў і кіпцюроў?

— З той жа прычыны, з якой іх не павінна быць і ў нашых дачок, — адказаў ён, размажджэрыўшы галаву сына аб скалу, а потым абняў мяне сваімі крывавымі рукамі. Пасля таго дня на маёй паясніцы засталіся яшчэ два слізкія адбіткі ягоных рук.

**III.** Усе мае дочкі нарадзіліся з зубамі.

**IV.** Мае першыя дочкі нарадзіліся разам — гладкім скрываўленым клубком, яны ўчапіліся адна за адну бескасцёвымі пальцамі. Калі ўпершыню ўбачыла іх,

я падумала пра два бурдзюкі, напоўненыя вадой, — адрузлыя мяшкі, якія лёгка мяняюць форму і могуць лопнуць, калі сціснуць іх занадта моцна. Дочкі схавалі свае зубы. Тады мы яшчэ нічога не баяліся, але ўжо былі асцярожнымі. Зуб Іштар[1] хаваўся ў ейным сэрцы, а зуб Эрэшкігаль[2] — у ейным розуме. Яны сталі сапраўднымі зоркамі майго неба: самымі яскравымі, моцнымі і імклівымі з усіх маіх дзяцей. Эрэшкігаль рана навучылася хітрасці. Стаўшы дарослай, яна вярнулася ў лона і стварыла ўласнае каралеўства ў калысцы бруду — там, дзе мы мацней за ўсё. Свой зуб яна заўсёды хавала. Іштар, наадварот, прагла сутычак і працягвала хадзіць пад сонцам майго мужа. Іштар прагла бачыць страх у вачах мужчыны, калі яна разразала сваю грудзіну, а між другой і трэцяй скобай паказваўся завостраны ікол. Яна прагла бачыць, як ён іскрыцца на сонцы.

— Ты лічыў мяне мяккацелай, — прашыпела б яна. — Ты лічыў мяне безабароннай. Ты лічыў мяне саладкамоўнай. Але ж я драпежная істота. Я прагну адчуць металёвы прысмак у сваім роце.

А потым яна б пахвалілася перад Эрэшкігаль:

— Ну і здзівіліся ж яны.

**V.** Новая жонка майго мужа нарадзілася з ягонага цела, і ўсе іх дзеці нарадзіліся бяззубымі.

**VI.** — У гэтым няма патрэбы, — сказала яна мне.

— Гэты свет падатлівы, — дадала яна. — Ён падатлівы, як мякаць садавіны. Нам не патрэбны іклы, каб пакаштаваць ягоны сок.

Тое, як яна сціснула сакавіты плод, пакінуўшы на ім умяціну, нагадала мне пра размажджэраную галаву майго сына. Я апляла кіпцюрамі ейнае калена і схілілася над ёй, злізаўшы з ейных вуснаў аскомісты сок. Я намацала, а потым з асцярожнай пяшчотай пранзіла ейную вену і ўбачыла, што ейныя вочы зацягнуліся заслонай. Я слухала дрыготкі пранізлівы стогн, які трапятаў у горле.

Але калі я злізала аскомістую кроў са свайго пальца, яна не выдала ні гуку.

**VII.** — Іштар легкадумная, — сказала мне Эрэшкігаль. — Іштар распусная, грубая. Калі Іштар размаўляе, я гатовая да крыві разадраць сабе вушы. Іштар ваюе са смяротнымі. Яна прымушае іх ваяваць адно з адным дзеля сваёй забавы.

Эрэшкігаль спала ў маёй грудной клетцы і нашэптвала ўсё гэта маім лёгкім.

— А як бы зрабіла ты? — спытала я. — На месцы Іштар ты б нас схавала?

— Не, — адказала Эрэшкігаль. — Мяне не цікавіць свет Адама. Я б палічыла за лепшае не рабіць нічога. Я пагрузілася б у сон і спала б, пакуль яны ўсе не памруць, і іх гнілыя целы не ператворацца ў брудную коўдру, якая накрые мне ногі. Доўга яны не пратрымаюцца.

**VIII.** І я ўсадзіла свой ікол у плод.

**IX.** Калі мой муж даведаўся, што я зрабіла, ён прыйшоў за мной. Ён прыйшоў за мной і прывёў сотню сваіх мяккацелых сыноў з сотняй дзідаў замест іклаў, каб праціць тыя месцы, дзе цела маё стала цвёрдым і пакрылася калючкамі. Яны

[1] **Іштар** — багіня ўрадлівасці і цялеснага кахання, вайны і разладу ў міфалогіі старажытных вавіланян і асірыйцаў, галоўнае жаночае боства вавілонскага пантэона.

[2] **Эрэшкігаль** (літаральна: «Вялікая гаспадыня Падзямелля») — багіня, гаспадыня падземнага свету нябожчыкаў у шумера-акадскай міфалогіі.

здзёрлі валасяное покрыва і зламалі касцяныя пласціны, якія баранілі мой жывот. Яны знайшлі плоць, туга нацягнутую над маім раздзьмутым чэравам. Я ляжала ў брудзе і смяялася, пакуль яны раздзіралі маю скуру і пусклаі чорную бурлівую кроў. Цягучая і з'ездлівая, яна залівала іх ногі.

**X.** Яны не здзівіліся, калі ўспаролі маё нутро, бо я — маці пачвар.

**XI.** Мае пачвары не хавалі зубоў. Яны маглі ператварыць чалавека ў камень тым іклам, што хаваўся ў воку — спачатку камянелі стопы, а затым сама кроў у венах. І чалавек адчуваў, быццам у сасудах ягоных болей не вадкасць, а жалезныя пруты; адчуваў, быццам ногі пад каленямі рэжа тупым нажом. Ікол з вока Іштар пакінуў бы сыноў Адама спустошанымі, з высахлымі сэрцамі.

Ікол на ейным языку прагнуў святла і крыві. Яна пытала: «А што мужчыне яшчэ трэба?» І сыны Адама заўсёды выбіралі святло.

Ікол на ейных руках зрабіў яе шэльмай. Яна працягвала рукі да сыноў Адама, і тыя ахвотна за іх хапаліся. Яны заключалі з ёй пагадненні, а потым ірвалі адзін аднаго на кавалкі дзеля крывавага золата. Яны і не заўважылі б, што ў Іштар звярыны твар.

Ікол ейнага чэрава параджаў сыноў, і былі яны пакрытыя лускай, а замест рота была ў іх кракадзілавая пашча. Яна нараджала сыноў жудасна і няўтольна згаладалымі па бледнай плоці. Ікол яе чэрава параджаў у ёй такі голад, што яна была гатова праглынуць увесь свет.

**XII.** Дочкі мае, будзьце легкадумнымі.
Будзьце распуснымі.
Будзьце грубымі.
І хай, пачуўшы ваш голас, свет раздзірае сябе да крыві.

**XIII.** Калі маё чэрава спусцела, Адам і ягоныя сыны пааддзіралі ад мяне тое, што яшчэ заставалася. Яны сцягнулі маю скуру, што была брудам, пакінуўшы адны косткі.

— Больш ніякіх пачвар з твайго атрутнага чэрава, — сказаў мой муж. — На тваім трупе я буду расціць пшаніцу, каб карміць сваіх дзяцей.

Ён схапіў маю скуру і нацягнуў яе вакол сусвету, нібы апельсінавую лупіну.

**XIV.** Эрэшкігаль хацела спаць. Яна пайшла да Іштар і сказала ёй:

— Нашу маці забілі. Наш бацька скарміў ейнае цела сваім сынам.

— Тады я з'ем яго сыноў, — адказала Іштар.

— Тады і цябе заб'юць, а тваім сэрцам яны будуць распаляць сваё сонца.

— Тады я з'ем іх сонца, — адказала Іштар.

— Ты згарыш знутры і будзеш гарэць вечна.

— Тады я з'ем саму сябе, — адказала Іштар.

— Сястра, — спытала Эрэшкігаль. — Ты калі-небудзь бачыла мой ікол?

— Не, — адказала Іштар. — Ты хаваеш яго, быццам саромеешся. Ты схіляеш галаў перад Адамавамі сынамі. Ты дазваляеш ім прыручаць наш дзікі свет гэтак жа, як яны прыручылі цябе. Ты нарадзілася прыручанай.

Эрэшкігаль пацягнулася рукой па-за вачыма, намацала ў сярэдзіне чэрапа месца, дзе хаваўся ейны ікол, і агаліла яго. Яна падставіла яго святлу і прагла ўбачыць страх у вачах сястры, калі яна пакладзе яго між сваіх вуснаў.

— Насылаю хваробу на твае ногі, — прамовіла Эрэшкігаль. Ногі Іштар ператварыліся ў калоды, і яна звалілася долу.

— Насылаю хваробу на твае рукі, — прамовіла Эрэшкігаль, і пальцы Іштар высахлі ўшчэнт.

— Насылаю хваробу на твае вочы, — прамовіла Эрэшкігаль. Вочы Іштар пачарнелі і закрывянілі.

— Насылаю хваробу на твой рот, — прамовіла Эрэшкігаль, і Іштар анямела.

Эрэшкігаль пагладзіла сястру па валасах і выцерла кроў з ейнага твару.

— Мы будзем спаць, — прашаптала яна. — Мы будзем спаць, пакуль іхнія мяккія косці не ператворацца ў ваду. Мы будзем чакаць, пакуль сваімі мёртвымі целамі яны не ператвораць зямлю ў трон для нас.

**XVI.** Усе мае прынцы загінулі. Толькі не мае дочкі.

Так, мае дочкі.

***Пераклад з англійскай Аліны СТРАЛКОЎСКАЙ, падрыхтоўка да друку і публікацыя Вольгі ГАПЕЕВАЙ***

*Брус Холанд Роджэрс*

# ДОН ІСІДРА

***Брус Холанд Роджэрс — амерыканскі пісьменнік, аўтар мноства фэнтэзі — апавяданняў і рамана «Попел сонца». Таксама публікуецца пад псеўданімам Ганові Брэдак. Уладальнік дзвюх прэмій «Нэб'юла», прэміі Брэма Стокера, Сусветнай прэміі фэнтэзі і іншых літаратурных узнагарод.***



* * *

Той апошняй раніцай усе, хто прыходзіў да мяне, бачылі, што я паміраю. Я і сам гэта ведаў. Нібы скрозь тоўшчу ваты я чуў голас дона Ляандра, які сказаў маёй жонцы: «Донна Сюзана, я думаю, час паклікаць святара». І я таксама падумаў, што так, час. У нас няма свайго святара і нават няма сваёй царквы, так што трэба лавіць машыну і ехаць за ім у Эль Пуэнтэчыта. Але не верце таму, што кажуць у Мальпасе ці Пальпан дэ Баранда. Мы ўсе тут застаемся каталікамі. Так, мы робім гаршчкі па старых традыцыях. Менавіта таму да нас прыязджаюць турысты. І мы сапраўды, як людзі часам шэпчуцца, адрадзілі некаторыя іншыя абрады мінулага. Але мы ладзім іх не так, як раней. Тады былі жахлівыя крывавыя часы — часы Мексікі. Кажуць, што ахвярная кроў пакрывала піраміды сонца ад верхавіны да падножжа. Хвала Найсвяцейшай Панне, мы такога больш не робім.

Троху пазней прыйшоў святар і сышоў — я памёр. Навіна разляцелася. Да нас прыйшлі людзі. Спачатку мае родныя прасілі ў мяне рэчы, якія яны хацелі пакі-

нуць сабе. Потым надышла чарга суседзяў. Дон Франсіска стаў ля майго цела і спытаў:

— Дон Ісідра, ці магу я ўзяць тваю рыдлёўку? Мне яна патрэбна, а тваe зяці яшчэ накапаюць гліны для Сюзаны.

Я адказаў:

— Бяры з майго бласлаўлення.

Сюзана перадала:

— Ён кажа, што ты можаш узяць яе.

Потым падышла донна Эўстасія. Яна папрасіла нажоўку, каб скрэбці гаршчкі.

— Безумоўна, бласлаўляю цябе, — адказаў я, і Сюзана перадала: — Ён кажа, што ты можаш яе ўзяць.

Затым прыйшоў дон Томас, ён папрасіў мае чаравікі — тыя, што з чырвонай скуры, упрыгожаныя вышытымі пеўнямі. Я адказаў:

— Томас, ты нягоднік і круцель! Я цудоўна памятаю, што гэта ты выкраў у мяне двух куранят сем гадоў таму, каб накарміць сваю лярву з Пуэбла. А сёння ты заявіўся, каб папрасіць не нажоўку, не дрот, а мае выдатныя чаравікі! Але Сюзана перадала:

— Ён кажа, што ты можаш іх узяць.

Таму што, зразумела, яна не магла мяне чуць. Ды ў любым выпадку я аддаў бы Томасу чаравікі. Я проста хацеў, каб ён хоць раз у жыцці засаромеўся і пачырванеў.

Яны прыходзілі і прасілі ўсё тое, што Сюзане ўжо не спатрэбіцца. Яны прасілі дазволу нават на тое, на што непатрэбна яго прасіць. Яны прасілі тое, што я ўжо ім абяцаў. Яны нават прасілі дазволу накапаць белай гліны ў тым месцы, адкуль я звычайна браў яе. Яны прасілі, а я казаў «так» і даваў блаславенне. Што мы за людзі, калі слова добрага не скажам?

Урэшце, яны папрасілі ў мяне валасоў, каб зрабіць пэндзлікі для распісвання гаршчкоў, і адрэзалі пасмы нажніцамі. Яны папрасілі мае рукі і адрэзалі іх нажом для апрацоўкі мяса. Яны сказалі:

— Дон Ісідра, нам патрэбны твой твар.

Я пагадзіўся, і яны асцярожна і далікатна знялі з яго скуру. Яны паклалі мае рукі ў металічную скрыню і спалілі іх. Мой твар яны высушылі на сонцы. Астатняе цела загарнулі ў саван і пахавалі на могілках згодна з усімі хрысціянскімі традыцыямі.

З таго часу я знаходзіўся ў пустэчы, у нейкім нідзе. Я не бачыў. Я не чуў. Я не мог размаўляць. Мяне нідзе не было: ні ў хаце, ні ў труне. Нідзе. Але потым усё змянілася.

Усё сваё жыццё я вучыў жыхароў вёскі рабіць гаршчкі так, як рабіў іх сам. У гэтым не было нічога асаблівага. Мы ўсе гэта рабілі. Я ствараў уласныя гаршчкі, гаршчкі дона Ісідра, за выключэннем тых момантаў калі донна Ізабэла паказвала мне, як робіць свае маленечкія гаршчэчкі, а дон Маркас паказваў, як распісвае свае. Тады нейкі час я вырабляў маленечкія гаршчэчкі як донна Ізабэла і распісваў іх як дон Маркас. Калі донна Джэніфера з'ездзіла ў сталіцу, каб паглядзець на птушак і жывёл на старажытных гаршчках, яна пачала імітаваць іх, паказала нам, і хутка мы ўсе гэтаму навучыліся. Увесь астатні час я рабіў гаршчкі ў сваёй уласнай манеры, хоць часам у іх выяўляўся след Ізабэлы, Маркаса і Джэніферы — тое, што я пераняў ад іх і зрабіў сваім.

Праз тыдзень пасля маёй смерці ўся вёска рабіла гаршчкі так, як рабіў іх я. Нават дзеці, якія ўжо былі досыць дарослымі, каб рабіць свае гаршчкі. Яны капалі гліну ў маім любым месцы, вымочвалі яе, працэджвалі, давалі адстаяцца, а затым злівалі чыстую ваду. Калі гліна прасохла, яны ўмяшалі туды попел маіх рук, раска-

чалі ў бліны і ўклалі ў вялікую гіпсавую форму — з гэтага павінна была атрымацца аснова. Менавіта так заўсёды рабіў я.

Часам яны выкарыстоўвалі мае ўласныя формы. Яны рабілі каўбаскі з гліны, прымацоўвалі да асновы і намотвалі знізу ўверх. У маіх гаршчкоў не было горла. Не было яго і ў гэтых. Людзі — мая сям'я і ўсе астатнія — скрэблі гаршчкі, пакуль яны не станавіліся гладкімі, шаравалі да бляску і распісвалі чорнай фарбай, выкарыстоўваючы пэндзлі з маіх уласных валасоў. Яны распісвалі іх у маёй манеры: яшчаркамі, трусамі з клятчастымі спінамі ці нават проста клеткай — буйнай у сярэдзіне і дробнай па краі. Гэта былі гаршчкі ў стылі дона Ісідра. Яны абпальвалі іх. Тыя, што не пашкодзіў агонь, яны аднеслі ў мой дом. Сюзана расставіла іх у гасцінай і нават на ложку, на якім я калісьці спаў. Але я ўсяго гэтага не бачыў. Я толькі ведаў, што гэта адбываецца. Гэтымі новымі гаршчкамі ў маёй хаце не карысталіся. Людзі спалілі пэндзлі, зробленыя з маіх валасоў.

На трэці дзень у маёй хаце было свята. Да яго, напэўна, прыгатавалі тамалі розных відаў — з алівамі, мясам, фасоллю. Мужчыны і жанчыны пілі пульке[1], а дзеці, хутчэй за ўсё, сок дыні. Сонца села. Запалілі свечкі. У маім каміне развялі агонь.

Апоўначы дон Ляандра адкрыў скрынку і дастаў маску з маёй скуры. Ён надзеў яе на свой твар, і я расплюшчыў нашыя вочы. Я вярнуўся з таго месца нідзе. Я быў у пакоі. Я глядзеў у шырока расплюшчаныя вочы жывых, на Сюзану, якая прыціснула руку да вуснаў. Я ўбачыў сваіх унукаў: Карласа і Халеа, Ганну і Куініта. І ўпершыню заўважыў гаршчкі ў гасцінай. Яны ззялі ў святле свечак. Разам — дон Ляандра і я — мы ўвайшлі ў спальню, і я ўбачыў гаршчкі на ложку. Мы вярнуліся ў гасцінаю, і я вымавіў нашымі вуснамі:

— Я зразумеў, што ўрэшце я не памёр!

— Не-не, дон Ісідра, — запэўнілі яны мяне. — Ты не памёр.

Я засмяяўся. Менавіта гэта хочацца зрабіць, калі разумееш, што ты не памёр.

Затым дон Ляандра кінуў маску ў агонь, і мяне ў ёй больш не было. Я быў у гаршчках. Ва ўсіх тых круглых гаршчках, зробленых рукамі маіх сяброў, супернікаў, родных, суседзяў. Я быў там, у кожным. Людзі забралі мяне з майго дому, гаршчок за гаршчком, і разам з імі я ўвайшоў у іхнія дамы. У маім былым доме застаўся толькі адзін гаршчок са мною ўнутры, які зрабіла Сюзана ў маім стылі.

З той ночы я быў паўсюль у вёсцы. Людзі захоўвалі ўва мне кукурузу, рыс, фасолю. Яны насілі ўва мне ваду. І я распаўсюдзіўся яшчэ далей, дзякуючы турыстам, якія куплялі гаршчкі. Калі яны захапляліся мной, ганчар звычайна казаў:

— О, гэта дон Ісідра.

І турысты ківалі, часам набывалі гаршчкі і думалі, што яны былі *зроблены* донам Ісідра.

Я па-ранейшаму застаюся ў сваёй вёсачцы, але адначасова я ў Стакгольме і ў Сіэтле. Я ў Таронта і Буэнас-Айрэсе. Частка мяне ў Мехіка, у сталіцы, але з большага я дома — у вёсцы, у якой вырас, састарэў і памёр. Я сяджу на Сюзанінай паліцы і гляджу, як яна робіць пшанічныя бліны да сняданка і гліняныя бліны для гаршчкоў. Яна старая, але рукі яе ўсё яшчэ спрытныя, бы птушаняты. Часам яна заўважае, што я назіраю за ёй, азіраецца праз плячо і смяецца. Не ведаю, ці можа яна мяне чуць, але я смяюся ў адказ, і смех мой глыбокі, гулкі і круглы, як вялікі гліняны гаршчок, зроблены ў стылі дона Ісідра.

[1] Пульке — мексіканскі традыцыйны алкагольны напой з ферментаванага соку агавы, моцнасць 6—18 %.

***Пераклад з англійскай Аліны СТРАЛКОЎСКАЙ,***
***падрыхтоўка да друку і публікацыя Вольгі ГАПЕЕВАЙ***

Таня МАЛЯРЧУК

# ВЁСКА І ЯЕ ВЕДЗЬМЫ



***Таня Малярчук — адна з найцікавейшых асоб сучаснай украінскай літаратуры. Нарадзілася ў Івана-Франкоўску, скончыла Прыкарпацкі нацыянальны ўніверсітэт імя Васіля Стэфаніка. Аўтар кніг апавяданняў «Як я стала святою»,«Гаварыць», «Звераслоў» і рамана «Біяграфія выпадковага цуду». Жанр сваёй прозы сама аўтарка вызначае як «штосьці сярэдняе паміж сюрам і рэалізмам».***

**1**

Тата нарадзіўся ў вёсцы, у якой жывуць ведзьмы і страчаныя людзі. Дзяцей і жывёл пад увагу не бяру. Яшчэ ў гэтай вёсцы засталося маё дзяцінства. Маё дзіцячае адзенне, асабліва ярка-жоўтыя гумовікі і падазроны чырванаваты палітончык у клетачку з бамбонамі на грудзях. Татавы шахматы. Татавы сябры мінулага, якіх я адношу да катэгорыі страчаных людзей. Таксама ў гэтай вёсцы яшчэ можна адшукаць старых дзядоў, якія памятаюць, як тата ехаў па вёсцы на казе. Тата гэты факт па-майстэрску ўтойвае.

Яшчэ ў вёсцы ёсць хлебапякарня, зруйнаваны каталіцкі касцёл і могілкі. Жыхары вёскі містычным чынам гуртуюцца вакол гэтых трох ці то будынкаў, ці то метафізічных катэгорый, бо ўсе працавалі, працуюць або будуць працаваць у пякарні, усе так ці інакш у часы атэізму бралі ўдзел у руйнаванні касцёла і ўсе рана ці позна будуць ляжаць плячо ў плячо на старых польска-яўрэйска-заходне-ўкраінскіх могілках.

Большасць ведзьмаў працавала ў пякарні, адна нават даводзіцца мне далёкай цёткай.

Яе звалі Кацярына. Яна пахла хлебам. Яе каморчына, у якую я крадзьма зазірала, была завалена зачарсцвелымі пякарскімі вырабамі. Казалі, што яна карміла хлебам курэй і свіней, што яе куры ўвогуле не глядзяць на пшаніцу.

Кацярына некалькі разоў біла тату, калі той быў яшчэ зусім малы. Кацярына біла дзвюх татавых малодшых сясцёр, а калісьці нават набіла татаву маму. Яна

ненавідзела людзей за тое, што яны жывуць лепш, і за тое, што яны жывуць увогуле.

Кожную раніцу я назірала за тым, як Кацярына несла да сваёй каморчыны з крыніцы ваду. Несла вёдры ў дзвюх руках. Апусціўшы галаву. У хустцы. Я вызірала з акна праз фіранку, таму Кацярына не магла мяне бачыць. Але бачыла. У апошні момант, калі яна ўжо мелася знікнуць у каморчыне, рэзка паварочвала галаву ў мой бок і пільна-пільна, з усёй нянавісцю, якая толькі змяшчалася ў такой невялічкай жанчынцы, глядзела мне ў вочы, праз фіранку, за якой немагчыма было кагосьці разгледзець. Я ад страху адразу падала на падлогу, знаходзячыся ў стане паралічу наступныя паўгадзіны.

Я адчувала перад Кацярынай віну за тое, што ведаю пра яе вядзьмарства. За тое, што сачу за ёй, што пастаянна ў чымсьці падазраю. Яна мне падабалася. Бо ў такой вёсцы, якой была вёска майго таты, быць ведзьмай — адзіная больш-менш годная альтэрнатыва страчанасці. Чалавек, які мысліць, мусіў выбіраць. Або перастаць мысліць, або мысліць абсалютна іначай. Цябе або пачнуць зневажаць, або будуць баяцца.

Тады для мяне не было нічога страшнейшага, чым гэтая Кацярына. Каська.

Для таты, ужо дарослага, напэўна, таксама. Калі ён прыязджаў у вёску на выходныя мяне адведаць, гэтаксама кожную раніцу назіраў за Каськай праз акно. Неяк я застала яго спаралізаванага на падлозе. Мы моўчкі перазірнуліся.

— Глядзі, нікому не кажы, — сказаў мне потым тата, калі мы разам лушчылі гарбузікі, — і будзь асцярожнай.

Я здзіўлена перапытала.

— Што нікому не казаць?

Тата адмахнуўся. Ён любіў лушчыць у вёсцы гарбузікі, магчыма, акурат дзеля гэтага ён у вёску і прыязджаў. Відовішча не з прыемных. Тата абплёўваў лушпіннем сябе і ўсё навокал сябе. Ён сядзеў сярод лушпіння, як Пантагруэль. Я намагалася лушчыць семкі гэтаксама, але ў мяне ўсё роўна атрымлівалася акуратней.

— Гэта не вёска, а вядзьмарскае кодла, — казаў тата.

— Каська мне падабаецца.

— Гэта ты так думаеш, што ты так думаеш. Яна сама ўклала табе ў галаву прыязнасць да сябе. Ёй патрэбна падабацца іншым, каб потым лягчэй іх знішчыць. Тым больш, яна хоча настроіць цябе супраць мяне.

Да Каські на лета прыязджала ўнучка маіх гадоў. Змарнелая і худзенькая бляўка. Бывалі дні, калі на яе тонкай, белай як малако, скуры твару можна было разгледзець кожны сасуд. Яна гаварыла ціха і павольна. Яна магла памерці ў любую хвіліну. Так падавалася. Нібы нейкая маленькая птушка. Птушачка. Я прасіла птушачку гаварыць гучней, каб я не баялася яе раптоўнай смерці, і птушачка, у дагоду мне, штосілы напружвалася, вымаўляючы кожнае слова. Яна хадзіла за мною, як крышталёвы лунацік, я вадзіла яе па лужынах і ручаінах, спецыяльна заводзіла ў бруд і на чужыя гароды красці памідоры, але вадзіла так, каб не выпускаць бляўку з поля зроку, бо яна магла рассыпацца на дробныя крышталёвыя кавалачкі або разліцца малаком, або распусціцца ў паветры, або адляцець. Часта бляўка сядала на траву і казала, што не мае сіл узняцца, яе тонкія рукі і ногі нагадвалі мне адламаныя ад камля галінкі ясеня. Я цягнула бляўку на сабе, прыгаворваючы, што мы можам спазніцца на чыгунку і прапусціць цягнік. Бляўка ныла мне на вуха, а я цягнула яе, і мне было зусім лёгка. Я апекавалася бляўкай, як лялькай Барбі.

Мы кожны дзень хадзілі на чыгунку, каб памахаць рукой цягніку, які праязджаў паўз вёску роўна а шостай вечара. Цягнік быў вельмі прыгожы. Цяпер такіх няма.

Мы скакалі на адной назе і корчылі грымасы стомленым доўгай дарогаю пасажырам у вокнах. Аднаго разу нейкі падлетак паказаў нам праз акно сярэдні палец.

Цягнік а шостай вечара — гэта амаль падзея ў вёсцы, дзе не было нічога, акрамя пякарні, абпісанага мацюкамі каталіцкага касцёла і могілак, што пахлі бэзам і гнілымі грушамі ва ўсе поры года.

Роўна а сёмай вечара Кацярына выходзіла на папарніцу і што было моцы крычала:

— Любця! Любця! Хадзі есці!

У той час мы з Любцяй хаваліся ў хмызах па-за Кацярынай. Любця есці не хацела. Яна ела вельмі мала, ёй хапала аднаго зялёнага яблыка на цэлы дзень. Хаця я падкармлівала Любцю варэннем з бабінай каморы.

— Я мушу ісці, — з горыччу шапацела Любця.

— Але ж ты не хочаш есці!

— Не хачу.

— Дык яшчэ не ідзі.

— Не ісці?

Бяляўка заўсёды гаварыла з запытальнай інтанацыяй. Яна ніколі не была ні ў чым упэўнена, мусіла пытацца, што рабіць, як думаць і як жыць. Я з лёгкасцю ўсё вырашала за яе.

— Не ідзі.

— Але бабуля будзе сварыцца?

— Не будзе.

Калі Кацярына калі-небудзь і малілася, дык толькі на Любцю, з якой, адзінай у свеце, яна магла быць добрай. Калі б яе воля, яна б цэлымі днямі насіла Любцю на плячах. Штораніцы, калі сілаў яшчэ хапала на бег, Любця ўцякала ад Каські да мяне і ела зялёны яблык і варэнне з алычы — свой дзённы харч. Паміж мной і Каськай ішла ціхая вайна за права быць з Любцяй. Яшчэ і таму Каська мяне ненавідзела, але моўчкі, не выказваючы сваёй нянавісці пры Любці.

Любця — адзіная ў вёсцы — не здагадвалася пра тое, што яе бабуля — ведзьма.

— Любця! Донька! Хадзі есці!

Тады з хмызоў выходзіла я і мужна адказвала замест Любці:

— Яна кажа, што не хоча есці.

Кацярына пільна глядзела мне ў вочы. Я трэслася ад страху, але выстойвала на нагах. Кацярына магла б мяне ў тую хвіліну скруціць у клубок і зашпульнуць ажно ў Зелянёўку, калі б дзесьці непадалёк за бітваю не назірала яе крышталёвая ўнучка.

— А дзе Любця?

— Яна хаваецца, бо баіцца, што вы забераце яе дахаты.

— Але позна ўжо.

— Яшчэ нават не цямнее. Любця яшчэ хоча пагуляць са мной.

— Яна стамілася. Ёй нельга шмат хадзіць.

— Любця кажа, што хадзіць ужо не можа, але яшчэ можа сядзець.

Кацярына, як шалёная, кідалася ў хмызы і выносіла адтуль Любцю на руках. Любця ціха шапацела:

— Я не хачу есці.

— Дык не будзеш. Але памыем ногі, добра?

— Добра?

— Добра.

Мяне ўжо нідзе не было. Я пакрыўджана сядзела на арэшыне і глядзела, як Каська заносіць Любцю ў сваю каморчыну.

Любця была для мяне апраўданнем ліха. Доказам неабсалютнасці яго прыроды.

Дзесьці тады я ўпершыню сказала тату, што вялікага ліха няма, ёсць толькі шмат маленькіх. Тата адказаў, што я дурная.

— Але ж глядзі, якая Каська добрая з Любкай, як яна клапоціцца пра яе і як яе любіць. Хіба тое ліха, пра якое ты гаворыш, можа любіць?

— Каська так клапоціцца пра Любку, бо адчувае перад ёй віну. Думаеш, чаму ў Любкі рак крыві? Дзеянні ліхога чалавека адрабляюць на сабе яго нашчадкі.

**2**

Любця памерла так, як я і думала. Нібы птушка. Птушачка. Рассыпалася на крышталёвыя кавалачкі, разлілася малаком, распусцілася ў паветры, адляцела.

Калі неўзабаве пасля таго Каська несла з крыніцы ваду, я высунулася з акна і крыкнула ёй наўздагон:

— Ведзьма!

Каська пільна паглядзела мне ў вочы з усёй нянавісцю, якая толькі можа змясціцца ў такім невялічкім целе, і сказала:

— Ну і што?

***Паводле выдання: Таня Малярчук,***
***«Згори вниз. Книга страхів», Харків: Фоліо, 2007.***
***Пераклад з украінскай Ліды НАЛІЎКА***

Эдгар Алан ПО

# ДРЫЖАЛІ ДЗВЕРЫ З ГЕРБАМ РОДУ



***«Перакладаць было лёгка, таму што, як мне здавалася, мы са спадаром По вельмі падобныя і думаем падобна», — напісала Юлія Есмановіч у суправаджальным лісце да свайго перакладу вершаў Эдгара Алана По. «Я паспела скончыць перакладчыцкую магістратуру, папрацаваць у МДЛУ выкладчыкам англійскай фанетыкі, а цяпер займаюся англа- і нямецкамоўнай тэхпадтрымкай у кампаніі EPAM Systems. Заўсёды захаплялася мастацкай літаратурай, выяўленчым мастацтвам і музыкай (самай рознай, асабліва старым рокам), а таксама кінематографам».***

**СПЯЧАЯ**
**(The Sleeper)**

Я ноччу чэрвеньскай стаю
І бледнае святло лаўлю.
Пар смутны, росны, бы знарок,
Струменіць поўні абадок
І мякка капае: кап, кап, —
На горныя вяршыні, каб
Сусвет сабою затапіць
І музыкай заваражыць.
Спіць на магіле размарын,
Лілея хіліцца, з руін
Спаўзае коўдраю туман:
Нябыт аплёў іх, як падман.
Глядзі! Як Лета хвалі спяць
У возеры. Іх не узняць
Нікому. Вось што паказаць
Хачу: паснула Прыгажосць!
Ірэна дрэмле, Лёс ёй госць.

Паненка! Адчыняць акно
Так нельга: ў ноч глядзіць яно.
Вятры-жартаўнікі не спяць,
Смяюцца, ўсе да Вас ляцяць.
І духаў бесцялесных рой
Спяшаецца у Ваш пакой,
Калышацца фіранак дым,
Арэлямі ён будзе ім
Над вейкамі махрыстымі.
Пад імі дзесь празрыстая
Душа ляжыць, вакол якой
Праходзяць цені чарадой!
Паненка! Ці не страшна Вам?
Чаму й аб чым Вы сніце там?
Здалёк, напэўна, Вы прыйшлі,

О таямніца для Зямлі!
Ва ўборы, ледзяных руках,
Занадта доўгіх валасах,
Маўклівасці ёсць нейкі жах!

Паненка спіць! І сон яе
Хай назаўсёды агарне!
І Бог — надзея для мяне,
Каб бараніў пакой святы
І ложак вечнае нуды.
Яна хай, Божа, вечна спіць,
На прывідаў хай не глядзіць,
Што пачалі вакол хадзіць!

Каханне спіць! І сон яе
Хай векавечны агарне!
Шчаку чарвяк не абміне!
У лесе цёмным і глухім
Махне ёй склеп крылом сваім.
Склеп, дзе на вечны жа спакой
Паклалі ціха родных ёй —
Дрыжалі дзверы з гербам роду,
Каб засталіся назаўсёды
Ў магільні сценах адзінокіх,
Куды ў дзяцінства час далёкі
Любіла кінуць камень лёгкі.
Яшчэ не ведала пакуль,
Што мёртвых стогн ідзе адтуль.

**СОН У СНЕ**
**(A Dream within a Dream)**

Пацалунак развітання
Мой прымі у час змяркання!
Выслухай маё прызнанне:
Мела рацыю ты ў тым,
Што мой шлях быў сном маім;
І надзея зараз дзе?
Знікла ўночы ці удзень?
Знікла ў думках? Сапраўды?
Адляцела назаўжды.
І ўсё, што бачылася мне,
Было маркотным сном у сне.

Мора ў бераг б'е. Сяджу
Сярод рову, ўніз гляджу
І пясчынкі я трымаю
У руцэ, мацней сціскаю —
Так іх мала! Уцякуць
І скрозь пальцы упадуць
Ў мора — слёзы пабягуць.
Божа! Як іх утрымаць?
Як пакуты мне стрываць?
Хоць адну з іх захаваць
І ад хвалі ўратаваць?
Ці ўсё, што бачылася мне,
Было маркотным сном у сне?

**ЭЛЬДАРАДА**
**(Eldorado)**

Ноччу і днём
Рыцар з канём
Не трэба яму парада
Жвава скакаў
Песню спяваў
Шукаючы Эльдарада

Стаў ён стары
З гэтай пары
І хто б яму даў параду
Ён стомлены ўпаў
Бо не адшукаў
Нідзе свайго Эльдарада
Больш сілаў няма
Было ўсё дарма
Спытаў ён у ценю парады
«Ты мне адкажы
Бо я на мяжы
Ці ёсць недзе Эльдарада?»

«Там за гарамі
Дзе месяц жыве
Ён табе дасць параду
Апошні свой раз
Скачы», — быў адказ
«У пошуках Эльдарада».

Пятро ВАСЮЧЭНКА

# ПРА ЦМОКА, ЯГО ПОСТАЦЬ, ДЗІКАСЦЬ, ПАЛЯВАННЕ НА ЯГО ДЫ ПРА ІНШАЕ

## ЦМОК НАД ПОЛАЦКАМ

…Ён роў, не раўнуючы, як бы сотня цмокаў раўла, так пагрозліва, што палачане ў жаху спыняліся, азіраліся, жагналіся і ўглядаліся з-пад далоні ў бясхмарнае сіняе неба, адкуль нёсся гэты страшэнны рык, а ягоны пачварны крылаты цень зачапіў нават бялюткія вежы Сафійскага сабора, адно што сонца не засціў, бо каб сонца засланіць, нават укормленага цмока замала… З пашчы пачвары вырваўся пранізлівы енк, як пры паказе фільма «Парк Юрскага перыяду». Але насамрэч так выглядаў пачатак тэлесерыяла пра беларускіх цмокаў у праекце «Лабірынты», знятым групай канала БТ на чале з Алесем Матафонавым.

Гістарычны палёт на шрубалёце (верталёце) быў занатаваны мясцовым летапісцам у ліпені 4 дня года 7512 ад сатварэння свету (2004 ад нараджэння Хрыстовага). Здымачная група шукала слядоў летаўца (паветранага цмока) і аглядала сталіцу Полацкага княства з вышыні цмокавага палёту. Прагулянка на шрубалёце каштавала на той час 11 тысяч беларускіх рублёў.

Вар'яцкая ідэя ўпаляваць жывога цмока на Лепельшчыне — Полаччыне — Расоншчыне нарадзілася не на голым месцы. Фальклорныя, гістарычныя і літаратурныя крыніцы Беларусі сведчаць пра тое, што цмокі спрадвек насялялі абшары Беларусі.

«Змей, або Смок, вялізны, як будынак, было ў яго тры, шэсць, дзевяць, або дванаццаць галоў, тыя галовы, як цабры, вялізныя, зубы, як нарогі, пазуры, як сярпы, а крылы, як палашы, вострыя: як дасць імі, так і перасячэ. Гэта найстрашнейшы звер на свеце; дзе ён жыве, ці ў лесе, ці на воблаках, то няведама, бо ён і па паветры лятае», — страшыў апісаннем цмока фальклярыст Мікалай Федароўскі, але, паверце, гэта толькі адзін від. Бываюць цмокі і невялічкія, не болей за котку.

Хведар Еўлашэўскі ў сваім «Дзённіку» (занатоўка 1566 года) апісвае сустрэчу ў Дарагове з летаўцом, які па начах наведваў ясную паненку, абярнуўшыся вогненным чалавекам. (Летавец — лятучая разнавіднасць цмока). Пасля той сустрэчы ў літаратара пачаліся прыпадкі нервовай хваробы, якую лекар назваў інкубусам.

Малавядомы «нашаніўскі» аўтар А. Гвозд распавядае пра цмока, які самазараджаецца ў бочцы з бярозавікам, затым крадзе свойскую жывёлу і нават дзяцей. Урэшце яго забівае сваім перуном святы Ілля. Дзеелася тое каля возера Дрысвяты на Браслаўшчыне.

Уладзімір Караткевіч у рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», спасылаючыся на старажытныя рукапісы, апісаў лепельскіх цмокаў як найбольш крыважэрны і небяспечны для чалавека від. Лепельскія цмокі паракульвалі чаўны з «грамадзянамі Вялікага княства Літоўскага», як піша Ул. Арлоў, і жывіліся названымі. Калі якаясь экалагічная катастрофа выкінула іх целы на бераг возера, яны смярдзелі так, што ў Полацку ў месцічаў насы зрывала…

Але праўдзівым Калумбам Краіны цмокаў стаў Ян Баршчэўскі, які нагледзеўся на іх на сваёй малой радзіме — Расоншчыне — і прыгадаў у кнізе «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Апісаныя ім цмокі — насельнікі возера Няшчарда — вылучаліся адносна невялікімі памерамі, убіваліся ў рыбацкія невады і палохалі тутэйшых рыбакоў. Баршчэўскі падае рэцэпт гадоўлі цмока ў хатніх умовах, які выглядае даволі груваскім: спярша трэба чорнага пеўня набыць, карміць адборным насеннем, чакаць колькі гадоў, пакуль певень знясе яйка, пасля выношваць тое яйка пад пахаю, пакуль з яго не вылупіцца крылатая яшчарка, а затым карміць тую рэптылію з далані малаком… Не, няпростая гэта рэч — гадаваць цмока, асабліва ва ўмовах студэнцкага інтэрната!

## ЯК ВЫГЛЯДАЕ БЕЛАРУСКІ ЦМОК?

Вунь як апісвае заходнееўрапейскага цмока манах Барталамеўс у кнізе «Уласцівасці рэчаў»: «Цмок з'яўляецца самым вялікім з усіх змеяў, часцяком ён выходзіць са сваёй пячоры, уздымаецца ў паветра, сваім рухам ён утварае моцны вецер, і мора раздзімаецца ад ягонага джала, і ён мае грэбень, і ён вытыркае свой язык, і ён мае зубы, бы пілу, і моц ягоная хаваецца не толькі ў зубах, але і ў хвасце, і ён робіць балюча не толькі кусаючы, але й джалячы. Ён забівае ўсіх, каго сутракае на сваім шляху. Часта чацвёра або пяцёра іх злучаюць разам свае хвасты і ўздымаюць дагары свае галовы і лятуць над морам у пошуках здабычы».

Выгляд беларускага калегі не такі ўжо і страшлівы, калі меркаваць паводле абразоў, выпісаных веткаўскімі іканапісцамі, на сюжэт змагання святога Юр'я з пачварай. Агідныя і даволі мізэрныя істоты нагадваюць крылатых жаб або вужакаў.

Важней за абалонку ўнутранае змесціва вобраза, ягоны, казаў той, менталітэт.

«Цмок жыве і дзейнічае сам па сабе, яго не любяць іншыя нячысцікі з-за яго фанабэрыстасці. Дзякуючы прыроднай ляноце і нерухавасці тоўсты Цмок не заўсёды адгукаецца на заклік чалавека ці іншага нячысціка з просьбаю дапамагчы. Аднак калі ён падступіўся да ахвяры — абавязкова дамучыць яе, папярэдне ўзважыўшы, ці варта яна ўвагі і парушанага спакою; калі не вартая — Цмок пагардліва адварочваецца, пакідаючы яе іншым нячысцікам.

Знешне Цмок акуратнейшы за астатніх нячысцікаў, любіць купацца, ходзіць у лазню і штодня мыецца. Прадбачлівасць і асцярожнасць дазваляе Цмоку жыць даўжэй за ўсіх нячысцікаў. Цмокі рэдка чапляюцца да простых вясковых людзей. На людзей сямейных Цмокі не нападаюць», — піша фальклярыст М. Нікіфароўскі.

Беларускі цмок — не зусім тое, што заходні дракон. Dragon дзярэ, ірве, раздзірае на часткі, грызе, трыбушыць, ён хапальнік або люты вартаўнік. Cmok лашчыць, лагодзіць, смокча, цмокае — самі разумееце.

Для паэта і манаха Сімяона Полацкага цмок — увасабленне пакоры, ціхмянасці, адвечнага абнаўлення і мудрасці.

Нам трэба ў змея мудрасці набрацца:
Можа і бязногі сам перамяняцца.

Самотны, пануры, шляхетны, талерантны, ганарлівы, непераборлівы, часам ленаваты рамантык, беларускі цмок дужа аддану ў каханні. На полацкай кафлі XVI стагоддзя пара цмокаў мілуецца, пяшчотна пераплёўшыся шыямі.

Цмок жывучы, здатны да рэгенерацыі. Сячы яму галовы — адрастуць новыя.

Пачуццём смутку і асуджанасці споўнены вочы цмока на выявах і скульптурах, дзе яго працінае дзідай святы Юры або арханёл Міхайла.

## АДКУЛЬ ЯНЫ БЯРУЦЦА?

Панавалі на сушы, у вадзе, у паветры ў мезазойскай эры 190—240 мільёнаў гадоў таму, пад найменнем дыназаўраў.

Знішчаліся міфалагічнымі, біблейскімі, літаратурнымі героямі — Персеем, Гераклам, Беавульфам, Зыгфрыдам, святым Юр'ем, Кацігарошкам, Удовіным сынам, Хведарам Набілкіным, аўстрыйскім асілкам Гейло, вандроўнымі рыцарамі…

Але жывуць!

Як біялагічны від — на выспе Комада, дзе кушаюць коз і прывабліваюць шматлікіх турыстаў.

Як напаўлегендарныя істоты плезіязаўры квітнеюць у шатландскім возеры Лох-Нэс.

Рыбаяшчар з блакітным колерам скуры засвяціўся ў азёрах Рэспублікі Соха (Якуціі), Хайыр і Лабынкыр. На выспе Ява захаваліся лятучыя яшчары. Свету вядомая вадзяная пачвара штата Мэн у ЗША.

Скуль жа яны бяруцца, век гнаныя, прыніжаныя і знішчаныя, нават у Чырвоную кнігу не занесеныя?

Манах-езуіт Апанас Кірхер лічыў, што Зямля, бы швейцарскі сыр, скрозь у дзюрах. У гэтых глыбокіх пячорах і хаваюцца разма-ітыя монстры, у тым ліку і цмокі.

Працягваючы гэтую каштоўную думку, дадам, што перыядычныя вылазкі беларускіх цмокаўназіраюцца ў тых мясцінах, дзе захавалася энергетыка народнай фантазіі, дзе жывуць старыя і нараджаюцца новыя міфы, дзе люд беларускі неабыякавы да незвычайнага, дзівоснага, анамальнага. Беларусы з іх ахвотаю жартаваць, міфат-

ворыць, містыфікаваць, спараджаюць тую жыватворчую энергію, якая абуджае нават заснулых і нястрашных беларускіх цмокаў.

### НОВЫЯ МІФЫ І ПАДАННІ КРАІНЫ ЦМОКАЎ

Валанцёры з універсітэта культуры, аматары таямнічага, па слядах тэлеэкспедыцыі 2004 года наведалі Расоншчыну і не абмежаваліся тым.

Іх яшчэ вабілі палескія балоты, гомельскія азёры і возера Бяздоннае каля Слоніма, але перавагу яны ўсё ж аддалі Крыўі.

Яны занатавалі два новыя паданні пра цмокаў: адзін стары казаў, што нельга хадзіць на глухое балота па журавіны, бо там завёўся цмок, які хапае ягаднік — дзяўчат ды маладзіц.

Дырэктар рыбгаса наракаў, што рыба ў адным возеры, каля самых Расонаў, звялася ад таго, што ў ім запанаваў цмок.

Час і мне падзяліцца некаторымі запісамі, зробленымі падчас экспедыцыі 2004 года. Яны сведчаць, што міфатворчасць крывічоў — насельнікаў Краіны цмокаў — не мае межаў у часе.

### КОНСКІЯ КАПЫТЫ

Дзве сястры рана аўдавелі. Але неўзабаве іх памерлыя мужыкі пачалі прыходзіць да іх па начах. П'юць, гуляюць, начуюць. Маладзіцам гэта вельмі нравіцца.

Але аднойчы яны з мужыкамі пілі, закусвалі, і раптам вілка ўпала на падлогу. Меншая сястра палезла пад стол вілку падымаць і раптам убачыла, што ў мужыкоў конскія капыты замест ног. Пасля таго яны перасталі гэтых у дом пускаць.

Гэта, значыцца, чарты былі замест мужоў.

### ТАЯМНІЦА ПАНА З КАЗІМЕРОВА

Раней паны былі. Быў пан і ў Казімерове — гэта ад Клясціцаў у бок Полацка. Сядзіба пана была абнесена высокім плотам. Пан нікога да сябе не пускаў. Але дзяўчаткі з вёскі вельмі цікавіліся, што там творыцца за плотам. Што за сакрэт пан хавае ад усіх? То яны зазіралі праз дзюрку ў плоце. І аднойчы пабачылі панскага сыночка, дык ледзьве не самлелі пад тым плотам. Была ў паніча на плячах кароўская галава. Нездарма пан розных лекараў з заграніцы выпісваў, але не дапамаглі.

### МУРАЖСКІ ЧОРТ І ТРАШЧАЛЁЎСКІ ЧОРТ

Як тутэйшы мужык нап'ецца і заначуе ў лесе або выкачаецца ў багне, дык віна кладзецца на чартоў. Жонка бярэцца за качаргу, а мужык давай валіць на чорта. Чорт, маўляў, вадзіў, круціў па лесе дый у багне выкачаў.

От так жывуць каля Мурагоў два чарты, якія любяць п'яных круціць. Муражскі чорт — ён добры. Ён п'янага пакруціць, троху памачае, у пясочку выкачае і дахаты прывядзе. А трашчалёўскі чорт — злы. Трашчалёва — гэта балота метраў за трыста ад Мурагоў. Трашчалёўскі чорт беднага выпівоху водзіць-водзіць па лесе, па балоце, вымачыць, выкачае ў гліне, у глеі, пасля паваліць, на грудзі ўскочыць, яшчэ і нагамі патопчацца. От у такім відзе бедны мужык дадому вяртаецца.

### НОВЫЯ ЛЕСУНЫ І НОВЫЯ РУСАЛКІ

Новыя лесуны — гэта падшпаркі, што ў лес ад бацькоў паўцякалі. Саб'ецца такая тройка-чацвёрка ў банду, выкапае сабе зямлянку ў лесе ды жыве ў ёй цэлае лета. Дзе рыбы наловяць, дзе грыбоў набяруць, дзе бульбы ўкрадуць, дзе чаго і адбяруць.

Русалкі — гэта дзяўчаты, якія збяруцца, панапіваюцца ды на возеры час бавяць. Аднойчы набілася іх у маторку штук са дваццаць. Узнялі віскат, рогат, цмока пабудзілі. Ледзьве не патапіліся ў той Няшчардзе.

Краіна Цмокаў… Яна там, дзе фантазія продкаў жыве — свежая, неўміручая, пераканаўчая да такой ступені, што не разбярэш адразу, дзе мроя, дзе ява. Сенненскія, Лепельскія азёры, Дрысвяты, Свіслач, Расонскі раён і Няшчарда, Пінскія балоты, Ветка, Слонімшчына… Крыўя. Дый уся наша Беларусь, краіна-браначка.

Святлана СІТНІК



# ЧАРАЎНІЦТВА
## Майстар-клас

Стаць самому чараўніком і стварыць свет, напоўнены цудамі. Чаму вы лічыце, што гэта немагчыма? Бо аднойчы паверылі ў гэта!

З дзяцінства нам уводзіцца ў вушы, што цуды здараюцца толькі ў казках, мары жывуць ва ўяўленнях, а магі і чараўнікі — у кніжках ды кінасагах. Вось мы і шукаем усё гэта менавіта там. Нашы перакананні — гэта прызма, праз якую мы ўспрымаем свет, атрымліваючы часам яго скажоную карціну. Псіхолагі назвалі апошнюю картай рэальнасці. Як любая карта, гэта, зразумела, не ўласна тэрыторыя, а ўсяго толькі створаны чалавекам вобраз свету, абапіраючыся на які, мы арыентуемся ў прасторы. Нягледзячы на тое, што жывём мы ў адным свеце, уяўленні пра яго ў нас могуць быць самыя розныя. Прынцыповае адрозненне ў картах, якімі карыстаюцца іх уладальнікі, якраз і стварае вялізную розніцу паміж жыццём сучасных магаў і тых, хто лічыць, быццам іх не існуе. Калі вы хочаце жыць «чароўным» жыццём, вам не патрэбны чароўныя палачкі, луска залатой рыбіны і сподачак з блакітным беражком — пакіньце гэту атрыбутыку героям казак. Усё, што вам неабходна, — гэта мець «чароўную» карту рэальнасці — асабістае ўяўленне пра свет як пра прастору, у якой здараюцца розныя цуды.

Калі вы верыце ў тое, што цудаў не здараецца, то чароўныя падарункі да вас не дойдуць. Як-небудзь праскочыўшы праз выбудаваныя вамі барыкады-сцвярджэнні тыпу: «гэта быў выпадковы збег абставін», «ён проста шчаслівчык», «са мной такое не здарыцца», яны ўсё ж разаб'юцца аб сцены-абмежаванні тыпу: «якія цуды, сям'ю карміць трэба» або «цуды — гэта прыдумкі казачнікаў». Калі вы не верыце, што ваша жыццё можа быць шэрагам натхняльных, важных і патрэбных вам падзей, то і не крыўдуйце на яго, калі яно ў вас шэрае, сумнае, цяжкае і беспрасветнае. Хада за агульнапрызнанымі меркаваннямі («жыццё пражыць — не поле перайсці»), каштоўнасцямі («хочаш есці калачы, то не сядзі на пячы»), ідэямі («за шчасце трэба змагацца»), прыкладамі («трэба шмат зарабляць, каб ажыццяўляць свае жаданні») і робіць яго такім. Убачыць яго лёгкім, дазволіць марам здзейсніцца без асаблівых намаганняў, а мэтам — быць дасягнутымі пасрэдніцтвам ўдалага збегу абставін — значыць, гуляць па зусім іншых правілах, ідучы за іншымі перакананнямі. «Па веры вашай будзе вам»: памяняйце свае вераванні — і вы памяняеце жыццё. Так мы прыходзім да разумення таго, чаму некаму «выпала карта» стаць вязунчыкам, які лёгка дасягае мэты, пераўтварае свет, уносіць у яго свае чароўныя ідэі (айфон, інтэрнэт, мабільная сувязь), тады як іншым застаецца чакаць свайго «зорнага часу». Прычына гэтай розніцы, нагадаю, у прызме, праз якую розныя людзі глядзяць на агульны для ўсіх свет. І, адпаведна, выснова: калі вы хочаце, каб чароўныя падзеі замацаваліся ў вашым жыцці, дайце ім гэту магчымасць! Не пакідайце іх па той бок сцен-стэрэатыпаў, навязаных вам некалі думак і перакананняў, паверце ў іх і расчыніце перад імі дзверы! Стварайце ўласныя перакананні, бо, як сказаў вялікі чараўнік Альберт Эйнштэйн, ёсць толькі два спосабы пражыць сваё жыццё. Першы, быццам ніякіх цудаў не бывае. Другі, быццам усё на свеце — цуд.

Але ж вы жадаеце большага: не проста плысці па цячэнні жыцця, няхай сабе і чароўна-дзівоснага, вы хочаце самі прыцягваць патрэбныя вам сітуацыі, людзей і стасункі, ствараць падзеі, пераўтвараць свет вакол, сыходзячы з уласных жаданняў, на

свой густ… Кіраваць прасторай і абставінамі, лёгка і з задавальненнем — гэта магчыма для мага, чараўніка, але што перашкаджае вам зрабіцца ім?

Перш за ўсё, безадказнасць перад уласным жыццём. Прасцей перакласці адказнасць за тое, што адбываецца з вамі, на нешта ці некага — на лёс ці бацькоў, на спадарожніка жыцця або дзяржаву, на Бога. Шмат хто так робіць: «ад лёсу не ўцячэш», «гэта ты ва ўсім вінаваты», «мяне так выхоўвалі», «у гэтай краіне мой талент нікому не патрэбен», «усё ў руках Божых»… Гэта даволі распаўсюджаная пазіцыя: па-першае, калі што якое, то ёсць каго абвінавачіць, па-другое, няма клопату імкнуцца і шукаць нейкія рашэнні — усё ўжо і без таго вырашана. Колькі людзей самавольна перадавала штурвал свайго жыцця сябрам і сяброўкам, мужам і жонкам, начальнікам, суседзям і рэкламадаўцам! Якім курсам тыя вядуць іх «караблі»? Падпарадкоўваючыся чыім жаданням яны прымаюць рашэнні? Калі вы аддаяце перавагу ролі пасажыра, а не капітана, ролі вядомага, а не вядучага, дык і не крыўдуйце на свае запаветныя мары за тое, што яны дагэтуль не здзейсніліся. Безумоўна, вам дапамогуць у якасці кампенсацыі задаволіць вашы надзённыя патрэбы: згатуюць боршч, дадуць зарплату, выканаюць часам навязаныя грамадствам жаданні — футра, шакаладны батончык, але калі вашы запаветныя мары і сапраўдныя памкненні не супадаюць з мэтамі «гаспадароў» вашага жыцця, то хто зоймецца іх здзяйсненнем? Узяць адказнасць за сябе і сваё жыццё, стаць адзіным і безумоўным гаспадаром яго — значыць, кіраваць ім. І тое, якім чынам вы будзеце гэта рабіць, якія тэхнікі, тэхналогіі і інструменты кіравання возьмеце сабе ў карыстанне, залежыць якасць вашага кіравання, а ў выніку — якасць жыцця.

З дапамогай якіх тэхнік і тэхналогій ствараюць свой свет сучасныя чараўнікі, што так лёгка і хутка дасягаюць жаданых мэт і змен? Перш за ўсё, гэта праца з унутраным светам і тымі рэсурсамі, якія ён у сабе хавае. Пацвярджаючы на практыцы правіла: «знешні свет — адлюстраванне свету ўнутранага», усю сваю ўвагу яны накіроўваюць на «рамантаванне» ўнутраных, душэўных недарэчнасцей. Сёння шырока выкарыстоўваецца ідэя несвядомага як крыніцы не толькі жыццёвых няўдач і праблем, але і бясконцай сілы, з дапамогай якой гэтыя праблемы лёгка вырашаюцца.

Гэту ідэю выкарыстоўваюць прыхільнікі нейралінгвістычнага праграміравання. З прычыны разгалінавання НЛП-тэхналогіі на некалькі напрамкаў, адным з якіх з’яўляецца яскравае і жорсткае маніпуліраванне людзьмі для дасягнення ўласных мэт (выкарыстоўваецца ў продажы, маркетынгу і так званым мастацтве спакушэння — пікапе) многія ўспрымаюць НЛП негатыўна. Павесіўшы ярлык на ўсю напрацаваную базу НЛП-тэхналогій, яны не выкарыстоўваюць напрацоўкі, якія дазваляюць у кароткі тэрмін павярнуць жыццё ў жаданы бок, і дарэмна.

Практычны досвед «сістэмшчыкаў» адлюстроўвае і даказвае, што прычыны, якія не дазваляюць дасягаць мэты, «браць ад жыцця ўсё», жыць добра, цікава і шчасліва, бяруць пачатак не ў дзяцінстве, як прынята лічыць некаторымі псіхолагамі, а нашмат раней: у папярэдніх пакаленнях. Па ланцужку з пакалення ў пакаленне пасрэдніцтвам традыцый, каштоўнасцей і перакананняў, паводзін і ўчынкаў нашых бацькоў, бабуль і дзядуль нам у спадчыну перадаецца інфармацыя пра тое, як жыць, што рабіць і да чаго імкнуцца. Яна шмат у чым састарэла, гэта інфармацыя, і не ўсё з яе нам падыходзіць. Але яна так «прапісваецца» ў памяці, што мы несвядома ідзём чужымі для сябе шляхамі ў нечую светлую будучыню, адкладаючы асабістае шчасце на потым. Адыход ад негатыўных родавых праграм пазбаўляе ад абавязку часткова пражываць чужыя жыцці і дазваляе ісці вольна, сваім шляхам, з выкарыстаннем сваіх законаў і правіл жыцця, ствараючы яго такім, якім пажадаецца. Ці не гэта шлях сучаснага чараўніка?

Вы можаце змяніць сваё жыццё да непазнавальнага, стаць тым, кім заўсёды марылі, калі самі дазволіце сваім марам ажыццявіцца. Усё астатняе — справа тэхнікі: вы лёгка знойдзеце неабходныя чароўныя веды і тэхналогіі, прыцягнеце патрэбных вам людзей і дапамогу «звыш».

З чаго пачаць? З галоўнага — веры. Памяняйце ўсе старыя перакананні на адно новае, чароўнае: «Магчыма ўсё! І нават немагчымае!»

А цуды? А цуды адбудуцца самі.

*Галіна БАГДАНАВА*

*Рубрыка кафедры*
*літаратурна-мастацкай крытыкі*
*Інстытута журналістыкі БДУ*

# КОСМАС ЗЯМНЫ І НЯБЕСНЫ

***Вандроўкі ў неспазнанае разам з аўтарам першых беларускіх фэнтэзі Язэпам Драздовічам***

Замест таго, каб будаваць дом, ён вандраваў. Па роднай зямлі, па гісторыі і Сусвеце. І ў гэтых сваіх пазачасавых вандроўках зрабіў геніяльнае адкрыццё: «Нішто не жыве, не расце ў агні. Нішто не жыве, не расце ў марозе. Толькі між агнём і марозам усё жыве, усё расце, усё квітнее і развіваецца…» Наш вядомы жывапісец і дызайнер Ігар Марачкін, як і ягоны бацька, усё жыццё вандруе па сцежках Язэпа Драздовіча. Разам з ім вандруе і ягоная каханая жонка — выкладчыца, мастацтвазнаўца Ірына. Год за годам яны не стамляюцца рабіць усё новыя адкрыцці. Яны сустрэліся, пасябравалі з праўнучкай Язэпа Драздовіча Бажэнай Адамчык, якая жыве ў Польшчы. А да 125-годдзя ў межах сумеснага беларуска-польскага праекта наладзілі выключную па сваім філасофскім гучанні выставу твораў юных мастакоў з Гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка, дзе вучацца таленавітыя дзеці з усёй рэспублікі, «Космас Драздовіча».

Вітаючы ўдзельнікаў мерапрыемства, Бажэна Адамчык напісала: «…Язэп Драздовіч — гэта мая кроў і маё ДНК…

…па лініі маёй мамы …яго родная сястра Міхаліна — гэта мая прабабуля.

…па лініі таты, …Юзэфа Карчэўская, маці Язэпа і Міхаліны — гэта мая прапрабабуля.

Можа таму, што падобным чынам, як і Язэп, я з замілаваннем гляджу ў Неба і чую шэпт Зорак, можа таму, што збіраю звычайныя каменьчыкі ў полі і выкладваю з іх букет кветак у вазе. І слухаю іх гісторыі, і яны для мяне аднолькава важныя, як і людзі, бо маюць у сабе памяць і любасць».



*А. Дзямідчык. Касмічны пейзаж. Алей, 2013.*

Ведаючы асабіста юных удзельнікаў выставы, магу засведчыць, што і яны маюць з дзядзькам Язэпам, здаецца, нават не духоўную, крэўную сувязь. Аўтар партрэта Язэпа Драздовіча «Нябесныя бегі» (так называлася кніга выдатнага мастака пра далёкія сусветы) Андрэй Рулькевіч не толькі апантана займаўся мастацтвам, але і глыбока вывучаў біялогію, фізіку, астраномію, шмат чытаў, удзельнічаў у паэтычных вечарынах. І напісаная пад кіраўніцтвам Ігара Марачкіна дыпломная работа — партрэт Язэпа Драздовіча, які моцна стаіць, імкліва крочыць па зямлі, і пры гэтым яго акаляюць нябесныя святі-

лы, цэлы Сусвет, была бліскуча абаронена ў мінулым годзе. Андрэй Рулькевіч скончыў гімназію-каледж з чырвоным дыпломам і цяпер вучыцца ў Беларускай дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў на дызайнера.

Мяне ўразіла, што ўвасабляючы космас Драздовіча, юныя жывапісцы і скульптары, звярнуліся да самага неспазнанага ў свеце. Яны паспрабавалі ўвасобіць «Космас фарбаў» (Анастасія Качура), «Гукі» (Вікторыя Міронцава), «Неба і зямлю» (Алена Русакевіч), «Рух» (Ксенія Высоцкая), «Захад» (Уладзіслава Юрчанка), «Касмічны пейзаж» (Анастасія Дзямідчык), «Хованкі» (Марыя Разумовіч), «Сон аб Вільні» (Андрэй Буко)… Андрэй Восіпчык задумаўся над тым «Як нам узняцца да храма?», а скульптар Рыпсімэ Геваркян у сваёй рабоце «Бацькі і дзеці» быццам вывела касмічную формулу адвечных зямных пытанняў…

Як жа яны, больш чым на сто гадоў маладзейшыя за дзядзьку Язэпа, разумеюць, што такое ёсць «Космас Драздовіча»?

***Анастасія КАЧУРА:***

*— Гэта нешта новае, незвычайнае, тое, што ён, галоўны фантаст XX стагоддзя, убачыў першым. Я захапляюся ягонымі фантазіямі. Застаецца, а раптам так і ёсць?*

***Уладзіслава ЮРЧАНКА:***

*— Карціны Драздовіча — гэта свет ягоных мрояў. Але гэта не проста фантазія. Гэта адметная касмалагічная тэорыя. Ён спрабаваў спазнаць космас. Гэты мастак быў унікальным, яго нельга было аднесці ні да аднаго стылю.*

***Марыя РАЗУМОВІЧ:***

*— Для мяне космас Язэпа Драздовіча — гэта ўнікальнае спалучэнне навукі і выяўленчага мастацтва. Аналізуючы ягоную творчасць, можна сказаць, што вобразы на карцінах мастака не толькі адлюстроўваюць яго ўласнае бачанне касмічнага свету, але і пераносяць нас на тыя дальнія планеты.*

***Анастасія ДЗЯМІДЧЫК:***

*— Ягонае бачанне таго, што адбываецца па-за межамі нашай планеты, у іншым свеце перадае невядомае праз тое, што ёсць на нашай планеце. Я таксама паспрабавала ўвасобіць маё ўяўленне пра космас, дзе парушаны законы фізікі, дзе лётаюць узгоркі, дзе столькі таемнага…*



*Р. Геваркян. Бацькі і дзеці.*

***Вікторыя МІРОНЦАВА:***

*— Увогуле космас — гэта тое, што ніхто з нас ніколі не спазнае. Драздовіч прагнуў спазнаць неспазнанае. І мне таксама захацелася гэта зрабіць… Космас — гэта як выбух… Гісторыя вялікага выбуху.*

***Рыпсімэ ГЕВАРКЯН:***

*— Космас Драздовіча — гэта ягоныя ўяўленні пра наш свет. Але ён глядзіць на гэты свет нібы з іншага боку. Ён цікавіцца тым, што адбываецца не толькі на нашай планеце, ён цікавіцца нейкім іншым жыццём. Калі я гляджу на ягоныя творы, мне здаецца, што гэта ўсе добра знаёмыя мясціны, гэта зямныя кропкі, якія ён узяў і, так бы мовіць, перафразіраваў. І, пэўна ж, непаразуменне, канфлікты паміж дзецьмі і бацькамі — не толькі наша адвечная праблема.*

Мроі пра нязведаныя планеты натхнялі Язэпа Драздовіча на вандроўкі па роднай зямлі, якую ён ведаў, любіў, якую ўслаўляў у сваіх творах. Космас нябесны, як ні дзіўна, дапамагае нам спазнаваць, пашыраць да бясконцасці космас зямны.

***Фота Ігара МАРАЧКІНА***

# ФАНТОМ ДОМРЫ Ў ЗАКІНУТЫМ ДОМЕ

## *Пра ўяўнае кіно, стужку Мёбіуса і свята*

***Ці то наяве, ці то ў сне, а, можа, воляю ўласнай фантазіі апынаецца самотны дапытлівы хлапчук ля дзвярэй апусцелага дома. Насцярожліва пераступае парог — і...***

Што тут пачынаецца! Шолахі, якія нагадваюць таямнічы шэпт і ўздыхі. Шоргат, рыпенне, перастукі, падобныя да гулкіх крокаў нейкіх нябачных істот. Дух былога гаспадара? Палтэргейст? Сігналы з іншасвету? Можа, гэта сваволіць дамавік, схаваўшыся пад масніцамі? Нейкім цудам ажывае забыты ўсімі гадзіннік, і яго стары механізм то вядзе адлік ірэальнага, «паралельнага» часу, то мілагучна распавядае казачныя гісторыі. Знадворку шчабеча пра сваё ўсюдыісны гаваркі верабейка. У кутку на гарышчы ўсчынаецца вясёлая і шумлівая мітусня. Праўда, яна ледзь не канчаецца жорсткай расправай: цікаўныя і гарэзлівыя мушкі, гуляючы, знячэўку трапляюць у пастку павука, трапечуцца з жаху ды роспачы, але ўрэшце, прарваўшы карункі адмысловага сеціва, імкліва знікаюць, пакінуўшы хцівага крывасмока галодным. А наўкруг загадкавага дома, здаецца, ужо блукае галодная здань іншага шэрага драпежніка, які падпільноўвае дзяўчынку ў чырвоным каптурку...

Словам, у містычнай бязлюднай прасторы дзеецца такое «кіно», што і не расказаць! Толькі паспявай сачыць за чарадою рытмаў, услухоўвацца ў плынь выразных зменлівых інтанацый, лавіць нюансы ды фантазіраваць, наталяючы сваё ўяўленне вобразнай музыкай. Бо рэй тут вядзе яна. І «Закінуты дом» — не прытулак экранных прывідаў, а не што іншае, як праграмная назва п'есы з аднайменнага зборніка твораў для домры і ансамбля домр у суправаджэнні фартэпіяна, напісаных Алінай Безенсон.

Які, дарэчы, рамантычны сімвал для назвы цэлага зборніка! Адразу ўяўляеш фантом домры ў закінутым жытле. А гэта найлепшая зарука прысутнасці ў ім зачараванай цудоўнай музыкі. Зрабі першы крок насустрач — і яна загучыць! Так і пад вокладкай згаданага выдання сцішыўся ў чаканні выканаўцаў тузін яркіх рознахарактарных абразкоў: «Старадаўні гадзіннік», «Чырвоны каптурок і воўк», «Пасля дажджу», «Павук і мухі», «Саната», «Элегія», «Уяўнае кіно», «Гоман Нёмана», «Трывожнае танга», дасціпныя аўтарскія апрацоўкі беларускіх народных песень «Чы-чы, чы-чы, верабей», «Сядзіць камар на дубочку»... Жартоўныя і кідкія, лірычныя і задуменныя, кранальныя і пранізлівыя, цікавыя для слухачоў дый для саміх выканаўцаў. Асабліва захапляе жывое — тут і цяпер! — гучанне акустычных інструментаў ва ўтульнай камернай зале. Калі музыканты побач, ты адчуваеш хвалю іх шчырых эмоцый і душэўнай энергіі, суперажываеш далікатнаму працэсу нараджэння музычнага вобраза.

Акурат у такой даверлівай і крэатыўнай атмасферы ладзіўсяі нядаўні сталічны канцэрт-прэзентацыя зборнікаў Аліны Безенсон, змест якіх здатны прывабіць выканаўцаў ды слухачоў усіх узростаў.

* * *

Здарылася неверагоднае! Аншлаг у разгар веснавога суботняга дня не ўпісаўся ў прыкрую статыстыку, якая сведчыць, што цікавасць да класікі падае, а канцэрты акадэмічнай музыкі сучасных беларускіх аўтараў праходзяць у залах, запоўненых на траціну.

Рэдкасная нагода сыграць усё. Кампазіцыі, сабраныя ва ўжо згаданым «Закінутым доме», а таксама опусы, прадстаўленыя на старонках іншых новых нотных сшыткаў: п'есы, аб'яднаныя пад назваю аднаго з твораў — «Стужка Мёбіуса», і трохчаст-



*Студэнтка БДУКіМ Аляксандра Гарэлікава.*

кавы канцэрт «Прасвятленне» для домры з камерным аркестрам, выдадзены асобна ў выглядзе партытуры ды клавіра. «Прыкольныя» творы для пачатковых класаў і для каледжаў здатныя заахвочваць да заняткаў на інструменце, развіваць вобразнае ўяўленне, сцэнічную нязмушанасць і нават артыстызм. Рэпертуар для сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў абавязвае маладых музыкантаў да больш паглыбленай працы душы, вымагае вырашэння пэўных эстэтычных ды інтэлектуальных выканальніцкіх задач. Два дзясяткі выступленняў, і ў кожным — непаўторная іскрынка.

Зала заўзята ўключалася ў ігру. След у след за Мікітам Зеляневічам (ДМШМ № 1, клас Эльвіры Тахіравай) асвойвалася ў прасторы закінутага дома. Разам з квартэтам дамрыстаў ДМШМ № 20 перажывала «трылер» у кампаніі вяртлявых мушак. (Выхаванцы Наталлі Змітровіч і Паўла Змітровіча нават аздобілі свае строі лёгкімі крылцамі, на якіх шчасліва «паляцелі» за кулісы, пакінуўшы домры на крэслах і не дачакаўшыся, пакуль іх бязлітасны кат упадзе «ад знямогі ды сораму» на клавіятуру раяля — партыю «павука» сыграла канцэртмайстар Вольга Фалюцінская). Гледачы ўсміхаліся спрытнаму верабейку, чый музычны партрэт «скапіравала» Настасся Якімава (ДМШМ № 11, клас Любові Новікавай). Адкрывалі новыя імёны сярод выхаванцаў Яраслава Валасюка, слухаючы ігру студэнтак БДУКіМ Дар'і Клімавай, Аляксандры Гарэлікавай ды навучэнца каледжа імя М. Глінкі Андрэя Дзям'яненкі. А вось Аліна Безенсон, якая ведае гэтага таленавітага хлопца з часоў яго вучнёўства ў ДМШМ № 1, раскрыла перад публікай «таямніцу»: Андрэй і сам піша музыку, цяпер працуе над канцэртам для домры.

І якая ж прэзентацыя без удзелу акадэмічнага класа Галіны Асмалоўскай! Студэнтка БДАМ Арына Лештакова прадставіла найбольш складаную частку рэпертуару: Фантазію на тэму беларускай народнай песні «Перанясі, Божа, хмарку» (у творчасці кампазітара яна сталася эмацыянальным водгукам на чарнобыльскі выбух) і віртуознае, дынамічнае, сатканае з кантрастаў «Ронда-такату» (нездарма шмат гадоў таму Галіна Віктараўна прапанавала ўключыць гэты ранні твор Аліны Безенсон у праграму выканальніцкага конкурсу). Была і прэм'ера, прысвечаная Г. Асмалоўскай: лаўрэат міжнародных конкурсаў, аспірантка БДАМ Надзея Лазуцкая ды канцэртмайстар Вольга Фалюцінская сталі першаадкрывальнікамі філасофскіх калізій канцэрта для домры «Прасвятленне» (партыя аркестра ў пералажэнні для фартэпіяна). А вянчала праграму «Песня сэрца», якую Аліна Безенсон прысвяціла памяці Людмілы Ярашэвіч, сваёй першай настаўніцы па класе домры. Ансамблю «Эстафета» (кіраўнік Г. Асмалоў-



*Навучэнец Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. Глінкі Андрэй Дзям'яненка.*

ская) акампанавала на раялі аўтар. Шчымлівая і светлая музыка нагадвала ўзнёслы харавы вакаліз.

* * *

З адмыслова склеенай палоскай паперы, якую аднойчы прадэманстраваў свету вялікі матэматык Аўгуст Мёбіус, можна рабіць мноства дзівосных маніпуляцый. «Стужкай Мёбіуса» назваў сваю камерную кампазіцыю для сямі інструментаў, напісаную ў 1991 годзе, вядомы беларускі творца Вячаслаў Кузняцоў, уяўленне якога захапіў сам геаметрычны парадокс. У творчасці Аліны Безенсон «Стужка Мёбіуса» з'явілася значна пазней. І натхненне прыйшло з аднайменнага верша Наталлі Ільюшынай, з эмацыянальна-філасофскіх радкоў пра дзіўнае рухавае колца, якое злучае з бясконцасцю і нагадвае пра хуткаплыннасць хвілін. З філарманічнай сцэны п'есу А. Безенсон прэзентаваў дуэт дамрыстак: навучэнка Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Настасся Прахарэнка і яе педагог Аксана Карабешка; партыя фартэпіяна — Ірына Белавусава. Своеадметная мініяцюра настройвала на роздум пра містычнае падабенства стужкі Мёбіуса да Музыкі. Яны сімвалізуюць вечны рух, няспынную зменлівасць і пераемнасць працэсаў творчасці, дзе змешваюцца першаснае і канечнае, дзе ўсё з'яўляецца немаведама адкуль і сыходзіць у невядомую бясконцасць.

* * *

Аліна Безенсон — універсал у сваёй прафесіі. Яна піша сімфанічныя, камерна-



*Удзельнікі ансамбля «Эстафета».*

інструментальныя і харавыя творы, інструментальныя канцэрты, духоўныя гімны, рамансы, музыку ў жанры імшы. Аўтар манументальных партытур (у гэтым сезоне, напрыклад, адбылася прэм'ера канцэрта для баяна і сімфанічнага аркестра «Adventum Dies» — плён роздуму над Святым пісаннем, асэнсаванне прароцтва Суднага дня), Аліна Іванаўна мэтанакіравана працуе над рэпертуарам для дзяцей і маладых выканаўцаў. Праблемы і патрэбы выхавання юных меламанаў адчувае сэрцам, бо сама доўгі час выкладае ў мінскай ДМШМ № 1, знаёміць вучняў з асновамі напісання музыкі.

Ёсць у яе забаўныя і сур'ёзныя п'есы для фартэпіяна, цымбал, флейты, кларнета, фагота, габоя, скрыпкі, віяланчэлі, для камерных інструментальных ансамбляў. Але ў полі зроку шырокай публікі апынулася музыка для домры. Чаму ж менавіта гэтая вытанчаная

**ДАВЕДКА «М»**

***Аліна Безенсон — сакратар праўлення Беларускага саюза кампазітараў і актыўная прадстаўніца саюза музычных дзеячаў. Яе музыка пастаянна выконваецца вучнямі ды студэнтамі музычных школ, каледжаў, творчых ВНУ, вядучымі прафесійнымі калектывамі краіны і гучала не толькі ў Беларусі, але і ў Аўстрыі, Балгарыі, Бельгіі, Германіі, Латвіі, Нідэрландах, Польшчы, Расіі, Украіне... У 2009—2010 гадах арганізоўвала філарманічны праект «Гукі роднага краю» (цыкл канцэртаў камернай інструментальнай і вакальнай музыкі беларускіх кампазітараў у Малой зале імя Р. Шырмы). Усе імпрэзы прайшлі з аншлагам. Наступныя праекты (айчынная харавая музыка канца XX — пачатку XXI ст.; праграма да 120-годдзя Максіма Багдановіча ды іншыя) ладзіліся ў Вялікай зале філармоніі і таксама былі аншлагавыя.***

прадстаўніца стракатага сямейства народных інструментаў была абрана гераіняй бенефіса ў сталічнай філармоніі? Усё склалася само сабой, без інтрыг. Калісьці ў сваім родным Ваўкавыску Аліна скончыла музычную школу па класе домры. Працягвала займацца па гэтай жа спецыяльнасці ў Гродзенскім музвучылішчы і там, захапіўшыся складаннем уласных твораў, прычынілася таксама да прафесіі кампазітара — пад кіраўніцтвам на той час маладога выкладчыка, цяпер знанага маэстра і святара Андрэя Бандарэнкі. У Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі паступіла на аддзялене кампазіцыі. Вучыцца пашчасціла ў прафесара Андрэя Мдзівані. А трапяткія стасункі з улюбёнай домрай — гэта на ўсё жыццё.

* * *

Свята жывога гуку шчыруе ў светлым доме, які поўніцца музыкай — і людзьмі. За гаспадыню тут сама домра, спавітая магічнай стужкай Мёбіуса. Рэальная і такая мудрая домра: то пяшчотная, то наравістая, то меланхалічная, то наіўна-даверлівая. Іранічная і суровая. Розная. Ды заўсёды адкрытая для споведзі, спагады і радасці. Вось вам і таямнічы гукавы фантом у зачараваным жытле...

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара***

## ПАРТНЁРЫ-ІНФА

**Хто адзначае свой юбілей** у красавіку? Мікалай Крывашэеў — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, знаўца сакрэтаў грання на кантрабасе, заслужаны артыст. Уладзімір Хазанаў — вядомы педагог і майстар па вырабе струнных інструментаў і смыкоў, стваральнік каля двух дзясяткаў інструментаў, якімі карыстаюцца выканаўцы ў Беларусі, Германіі, ЗША, Расіі, Швецыі. Ала Хімчанка — дацэнт кафедры спецыяльнага фартэпіяна БДАМ, настаўніца пляяды таленавітых піяністаў.

**Львяняты будуць граць, спяваць і танчыць.** Яны збяруцца на пачатку мая ў Лідскай дзіцячай школе мастацтваў, каб выступіць з канцэртамі і паўдзельнічаць у творчых спаборніцтвах вакалістаў, скрыпачоў і ўдарнікаў, выканаўцаў на жалейцы, гітары, баяне, валторне... Дзеля выяўлення і падтрымкі самых розных талентаў тут ладзіцца Першы рэспубліканскі (адкрыты) фестываль-конкурс дзіцячага мастацтва. Сярод арганізатараў — Міністэрства культуры краіны, Беларускі саюз музычных дзеячаў, галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама, Лідскі райвыканкам. А пры чым тут ільвяняты? Прыгадайце гістарычны герб Ліды: выява льва на ім сімвалізуе мужнасць, смеласць, гонар гараджан. Дый здавён Львом або Мэтрам называлі таго, хто дасягнуў вышынь у мастацтве. Адсюль і сімвал новага фэсту, і крэатыўнасць яго незвычайнай двайной назвы: «ЛьВёнок» («Лідскі вянок»). І надзея на тое, што моцныя духам, настойлівыя львяняты, вызначыўшыся на гэтым конкурсе, з гадамі дасягнуць прызнання і славы львоў.




**Паўсотні яе кніжак** — для ўсёй сям'і: маленькіх дзетак і школьнікаў, іх бацькоў, бабуль, дзядуль. Вершы, песенныя тэксты, інсцэніраваныя казкі, апавяданні Яніна Жабко піша пабеларуску і па-руску. А яшчэ складае музыку, прыдумляе загадкі, скарамоўкі, гульні, танцы. Нарадзілася ў вёсцы, скончыла Барысаўскае педвучылішча, у Маскоўскім інстытуце мастацтва набыла прафесію баяністкі, у мінскай вячэрняй музычнай школе асвоіла фартэпіяна. Дыхтоўны прафесійны падмурак, невычэрпны творчы дар спрыяюць фантастычнай працавітасці Яніны Георгіеўны. Хто скажа, што ёй ужо 78? Ветэран дашкольнай адукацыі Яніна Жабко нядаўна выпусціла ў свет новы зборнік песень «Колькі музыкі наўкол». Спеўныя абразкі прыроды, сугучныя свету дзіцяці, раскрываюць спрадвечны рух ад вясны да зімы. Адрасуецца ўсім цікаўным і адмыслова — музычным выхавацелям, настаўнікам, кіраўнікам гурткоў.

# Бярозка

№ 4/2014(1031)









**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





# Слова на развітанне



Чалавек не памірае,
Зямныя адбыўшы дні, —
Ён вяртаецца да цішыні.

Танюткі маладзік на небе бачны праз чорныя галіны сасны.

Толькі што паклалі апошнія кветкі на магілу паэта, людзі разыходзяцца. А маладзік нахабна свеціць сваёй нованароджанай прыгажосцю. Як сімвалічна... Жыццёвы шлях паэта завершаны, але сёння нарадзілася новае, вечнае жыццё. Душа паляцела туды, да маладзіка, распачаўся новы шлях.

Вяртаючыся з могілак, людзі ідуць па сцежцы, засыпанай кветкамі, якія зляталі са шматлікіх букетаў падчас працэсіі. Прыгожыя, буйныя, чырвоныя і белыя ружы ўтаптаны ў бруд. Яны пажылі толькі некалькі гадзін і сталі ахвярай-падзякай. Прыгажосць, якая жыве імгненне і пакорліва прыносіць сябе ў ахвяру без нараканняў.

Такое жыццё паэта і кожнага чалавека, які цалкам прысвячае сябе служэнню бліжняму, Богу. Бутоны-вершы, вершабутоны, як ахвяра-падзяка за зямное жыццё, за магчымасць ствараць.

Вершы паэта, яго жыццё — сведчанне, якім чынам можна несці Святло ў жыццё. Праз кожны радок да нас далятае гэты цёплы водблеск.

Чалавек створаны для шчасця, для пошуку дарогі Дамоў. Падчас нашага зямнога шляху чалавек мусіць даваць шчасце, мусіць даваць...

Але ён сам мусіць быць напоўнены святлом. Толькі ў такім выпадку ёсць, што даваць.

Рыгор Барадулін быў прасякнуты Святлом і ўсё аддаваў у сваіх вершах.

Яго вершы вучаць прабачаць, дараваць, дзякаваць, любіць, адкрываць сваё сэрца Богу і людзям, не шкадаваць сябе, ахвяраваць. Кожны верш, кожны радок мяккі, не настойлівы, добры заклік да кожнага чалавека, кожнага сэрца.

Толькі простае, шчырае слова можа дагрукацца нават да скамянелага сэрца. Не трэба гучных заклікаў. Сапраўднае, трапяткое не патрабуе рэкламы, яно і

так знойдзе свайго чытача, слухача.

Паэт на працягу жыцця дбаў пра Радзіму, пра яе лёс, разумеў усю адказнасць творчай інтэлігенцыі перад краінай і нашчадкамі.

Клопат змешваўся з неўмiручай надзеяй на будучае адраджэнне культуры, свядомасці.

Пакуль слывуць майстры
і штукары,
Датуль спакойна за зямлю
на сэрцы ў Бога...

Мы павінны адчуваць адказнасць за нашыя ўчынкі, словы. Не марнаваць тое, што нам дадзена.



Жыць для прыгажосці, любові, дабра, святла.
З'яўляцца прыгажосцю, любоўю, дабром, святлом.
Ахвяраваць сваю прыгажосць, любоў, дабро, святло.
Душу анёлакрылую
Бог табе напавер дае.
Не абцяжар, чалавеча, крылы ў яе.

Лепшай падзякай Рыгору Барадуліну будзе працягваць тое, што ён рабіў усё жыццё: спрыяць пашырэнню слова і ствараць Прыгажосць.

Дзякуй.
З Богам!
Вечны адпачынак дай яму, Пане
Няхай на руках Тваіх спакойна адпачывае.

*Кацярына КРАМАРЭНКА*



# І ў думках з лесам памаўчым



## Светлыя мроі…

Дзень добры, сябар мой мілейшы!
Зірні ў акенца — дзень святлейшы!
Яскрава свецяць сонца промні,
Блакітны ззяе небасхіл...
І крылы матылькоў лунаюць лёгка...

Заплюшчы вочы, уяві...
Што прад сабою бачыш ты?
Магчыма, крочыш ты па лесе
Ці па рацэ плывеш у лодцы...
Маўчы, нічога не кажы!

Павук-каруначнік сядзіць на павуцінні,
На ім блішчаць крышталікі расы...
Будзь асцярожны, азірніся,
Каб не пашкодзіць тую прыгажосць!

А лес у мроях ціха ззяе
І нас з табою ахінае
Сваёй чароўнаю рукой.
Давай з табою палунаем,
Адчуем цішыню, спакой...
Прыляжам на яго плячы
І ў думках з лесам памаўчым...

*Марыя ТУГАЙ, Мінск*

## Прыйшла вясна

Праменьчык ад сонца травінку сагрэў,
Аблашчыў блакітную кветку між дрэў,
А потым ён з вуліцы ў хату забег,

Каб выклікаць радасць, і песні, і смех.
Сінічка заценькала, дзякуе мне,
Што зернем у сцюжу карміла яе...

Спявайце вы, птушачкі, радуйце нас
У гэты вясновы і сонечны час!

*Кацярына МЯЗЬКО,*
*вёска Вялічкавічы, Салігорскі раён*



## Найвялікшае свята

Найвялікшае свята
Нам радасць нясе.
Спяваюць і людзі,
І кветкі ў расе,
І рэчка,
І лес...
І аблокі нябёс,
Скрозь чуюцца словы:
«Хрыстос Уваскрос!»

*Дзяніс ГАНЧАР,*
*вёска Вялічкавічы,*
*Салігорскі раён*

## Мы рады вясне!



Падарыла сонца ўзлеску
Кветкі першыя — пралескі.
Снег сыходзіць у журбе,
Столькі пчолак на вярбе!
Зазвінелі раўчукі,
Прыляцелі жаўрукі...
Радуюцца дзеці —
Ёсць вясна на свеце!

*Надзея ГАЙДУК,*
*Барысаў*

# І так лёгка ў цябе на душы

## Падарожнік

Прысеўшы на засохлы корч, няздольны больш цягнуцца па гэтай спёцы, ты, з цяжкасцю ўзняўшы вочы, з выклікам і нейкай прыкрасцю пазіраеш на сонца. Але яно не адказвае на гэты нямы выклік, а працягвае сыпаць табе на галаву свае пякучыя промні, быццам жадаючы паваліць цябе на патрэсканую ад спёкі зямлю і зрабіць яе часткай. Гэта думка не проста моцна злуе цябе, ад яе робіцца неяк не па сабе...

Адвярнуўшыся ад сонца, пазіраеш на гарызонт — і бачыш удалечыні чалавечы сілуэт. І ён, гэты чалавек, трымае ў далонях нейкі праменьчык, подобны да маленькага сонца.

Але ж свеціць гэты праменьчык мяккім, лёгкім святлом... Не разумееш: ці сапраўды гэта адбываецца, ці розум твой жартуе? Як зачараваны, ты працягваеш пазіраць на цудоўны сілуэт, які павольна, крок за крокам набліжаецца да цябе... І вось ты ўжо здольны разгледзець твар, а ў далонях — маленькае сонца; па адзенні бачна, што чалавек прайшоў вялікі шлях. І зноў жа цікава: няма ні кроплі раздражнення на крыху стомленым твары, толькі ўсмешка і добрыя, спакойныя, нібы ў мудрага дзядулі, вочы.

Чалавек падыходзіць да цябе і кажа:

— Бачыш гэты цуд? Я нясу яго людзям. Ты, напэўна, заўважыў, што ён вельмі падобны да вашай зоркі, але ж ведай: гэта толькі на першы погляд. Цуд мой зменіць ваша крывавае, бязлітаснае сонца, ад якога так пакутуеш ты і ўвесь свет, на іншае, мудрае і мяккае. Яно выратуе ўсіх, але ж няхай спачатку дапаможа табе.

Чалавек падносіць да цябе гэты невялікі праменьчык, і сонца, якое, здаецца, канчаткова цябе стаміла, быццам у імгненне страчвае сваю злую моц, а потым перастае існаваць. Разам з ім сыходзяць некуды галаўны боль, злосць і небяспека. Заплюшчыўшы вочы ад зыркага святла, ты адкрываеш іх толькі на заходзе... Ты, напэўна, спаў даволі доўга, калі сонца амаль ужо паспела схавацца за гарызонт. Але ж дзякуючы гэтаму паспела сысці і паўдзённая спякота, і трэба рухацца далей...

Па дарозе ўспамінаеш, нібыта праз туман, нядаўняе здарэнне. Ці сон гэта быў, ці што? Не ведаеш. Кім можа быць гэты чалавек, што за цуд нясе ён людзям і адкуль? З такімі думкамі ў галаве даходзіш да горада.

Недалёка чуваць гоман, крыкі... Зацікаўлены, ты спяшаешся на гук. Узабраўшыся на пагорак, бачыш вялікі натоўп людзей, які няспынна вару-




шыцца, нібы мурашнік. Вакол стаіць гул. Людзі з нейкай дзіўнай, нават фанатычнай злосцю ў вачах крычаць нешта нязвязнае, махаюць рукамі, тапочуць... А на невялікай плошчы ў цэнтры натоўпу — некалькі крыжоў. У адным з прыбітых да іх людзей ты пазнаеш таго самага падарожніка, якога сустрэў апоўдні. Тыя ж добрыя вочы на спакойным твары.

Разумееш, што гэта ўжо не сон. Але ж чаго так бязлітасна абышліся з ім гэтыя людзі і дзе ягоны цудоўны праменьчык?! Нічога не разумеючы, ты зноў глядзіш на натоўп. Узлаванасць, нават нейкая дзікасць блішчыць у вачах людзей. Менавіта ў такім становішчы сёння знаходзіўся і ты, калі, стомлены, валачыўся па пустыні.

Ты глядзіш вялікімі ад непаразумення вачыма, якія хутка напаўняюцца слязьмі бяссілля; хапаеш паветра ротам і ўсё спрабуеш зразумець: дзе ж той праменьчык?

Раптам адзіная сляза падае на сухую зямлю ля ног падарожніка. І сляза гэта пачынае свяціцца такім жа святлом, якім свяціўся цудоўны праменьчык — святлом выратавання. Ён набірае моц, крыкі натоўпу сціхаюць, гоман раствараецца ў цішыні. Ты на імгненне заплюшчваеш вочы ад зыркага святла і...

...Вакол нічога няма: ні натоўпу, ні крыжа, ні цудоўнага святла. Толькі зоркі на чыстым начным небе ды ціхі спеў паветра. Спакой, нібыта ўсё гэта здарылася не некалькі імгненняў назад, а тысячагоддзі таму. Міжволі са спадзяваннем пытаешся сам у сябе: «А можа быць, усё ж такі паспеў?»

*Аляксандра СЕНЬКЕВІЧ, Мінск*

## Імжыць дожджык...

Імжыць дожджык, і над вёскай нібыта плыве туман. Але калі ты стаіш на вуліцы, адчуваеш, што гэта проста кропелькі вельмі дробнага дожджыку.

Невялікая вёсачка Астроўня, пакуль мы ў ёй, пад нашай непастрэднай уладай. Забрэша адзін сабака ў двары — рэхам адгукнецца яшчэ некалькі сабак з іншых двароў. Здаецца, што ў іх нейкая свая асабістая сістэма.

А ўчора ноччу я мыла падлогу. Магчыма, вы не паверыце, але гэта было здорава! Такого задавальнення ад сваёй працы я не адчувала ніколі. Хоць і не так часта мне прыходзілася бачыць працэс мыцця падлогі ў вясковай хаце, якая, як паўсюль, часцей уяўляе сабой адзін велізарны пакой.

Ёсць у такіх дамах штосьці асаблівае, не такое, як у сучасных. Мусіць, гэта гісторыя. Гісторыя, напрыклад, вокнаў, праз якія маці выглядала дачку ці сына. Або самы малы жыхар хаты глядзеў на зімовыя аконныя ўзоры і здзіўляўся казачнай прыгажосці, падоранай Зюзем. А ў драўляных сцен колькі гісторыі! І дзверы таксама з гісторыяй, як і падлога. А што ж казаць пра самы галоўны прадмет інтэр'ера вясковай хаты — вялікую печ. У печы, я ўпэўнена, гісторыя ўдвая большая, чым у чалавека. Хто на ёй толькі не ляжаў, і хто на яе толькі не залазіў!

Мыла падлогу анучай з дапамогай шчоткі і з вядром халоднай вады. Адразу, канешне, сябар пены на падлогу накідаў, вышараваў яе, а тады я ўжо пабегала па слізкай падлозе — дамывала пол. І радасна было мне, і душа весялілася, і трапятала! Так добра было такую патрэбную працу выконваць! А пасля, калі падлога падсохла, як прыемна было глядзець на яе, бліскучую і чыстую! Здаецца, шчаслівая яна, і ты сядзіш, глядзіш і таксама душа шчасцем заліваецца, карагоды водзіць.

А знадворку ўсё імжэў і імжэў дожджык. Такі дробны, што, здавалася, над вёскай плыў туман.

*Аліса ШЭРЭР, Гродна*

## Што за дзіўны майстар прырода!

Што гэта за дзіўны майстар прырода! Трэба толькі прыглядзецца, каб зразумець гэта. Азірнешся навокал і адразу здзіўляешся — як жа ўсё дакладна падлічана, прадугледжана да апошняй дробязі, расстаўлена ў патрэбным парадку.

Толькі што скончыўся раптоўны веснавы дожджык, і зноўку на блакітным небасхіле заззяла залацістае сонейка, кідаючы свае пакуль яшчэ па-зімоваму халодныя праменьчыкі на сырую пасля дажджу зямлю. І так прыемна сядзець на лавачцы, падставіўшы твар пад паток ласкавых сонечных промняў. Але раптам неба зноў зацягваюць шэрыя хмары, і на змену цудоўным сонечным хвілінам прыходзяць доўгія гадзіны мокрага, непрыемнага, дробнага дажджу.

Але, як мы ўсе добра ведаем, у прыроды няма кепскага надвор'я. Гэта ў нас часам бывае дрэнны настрой. Тады і прыемны веснавы дожджык здаецца шэрым і халодным, і ўвогуле, як толькі знікне доўгачаканае сонейка, і птушкі нам не гэтак спяваюць, і ледзяшы з дахаў толькі на нас падаюць.

І вось, дачакаўшыся добрага веснавога дня, ты апранеш спартыўную куртачку замест зімовага паліто, пакідаеш дома парасон і накіроўваешся ў лес.

Як цудоўна ў лесе ў сярэдзіне красавіка! Цёмныя дрэвы, якія ўсю зіму праспалі, апрануўшыся ў белае адзенне, ужо амаль прачнуліся, і цяпер павольна варушаць сваімі доўгімі галінкамі, радуючыся цёпламу ветрыку. З-пад вялізных гурбін апошняга снегу выбягаюць вясёлыя раўчукі, а каля старой яліны яшчэ ледзь бачна, але ўжо ўпэўнена прабіваецца да сонца пралесачка. Сонейка ззяе ярка, зямля пад старой ялінай робіцца ўсё больш сухой... Дык чаму ж усё ніжэй і ніжэй нахіляецца да яе кветачка, якая зусім нядаўна радавала вока сваім прыгожым выглядам?

І вось, калі пралеска ўжо ледзь не дакранулася да зямлі сваімі сінімі пялёсткамі, неба зноўку пачынаюць засцілаць шэрыя хмары. І ты злосна зірнеш уверх і, зразумела, дзесяць разоў пашкадуеш, што не захапіў з сабой парасон. А потым, калі будзеш бегчы дадому, усю дарогу будзеш скардзіцца немаведама каму на дрэннае надвор'е, і на тое, што з-за глабальнага пацяплення ў прыродзе ўсё перавярнулася з ног на галаву.

І, вядома ж, не ўзгадаеш, што дзесьці далёка ў лесе, пад старой ялінай, засталася маленькая кветачка, першы знак вясны, якой так неабходны быў гэты дожджык. Куды больш неабходны, чым табе сонечнае блакітнае неба, што так ласкава раскінулася над галавой...

***Алена ШМІДАВА, Мінск***



**● Конкурс**

# Казкі школьнага ранца

*Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі».*
*Дасылаць свае казачныя гісторыі можна на паштовы адрас:*
*220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Маладосць»*
*(з пазнакай «Бярозка»), на электронны —*
***bjarozka@mail.ru.** альбо **maladost@bk.ru***



## Баба Яга і Чырвоны Капялюшык

Жыла-была дзяўчынка. Звалі яе Чырвоны Капялюшык. Вучылася яна ў школе, а яшчэ наведвала гурток вышывання і секцыю бокса.

І вось аднойчы ішла яна ў школу. А за вуглом тым часам затаілася Баба-Яга.

А дзяўчынка пра гэта не здагадваецца, ідзе сабе з ранцам за плячыма, з плэерам у руках, музыку слухае.

Баба Яга прыпыніла яе і папрасіла перавесці праз дарогу, а потым запрасіла да сябе дамоў пернікаў ды цукерак пакаштаваць. Пры гэтым напусціла на Чырвоны Капялюшык свае чары, і дзяўчынка, забыўшыся на школу, рушыла ўслед за ёй.

Неўзабаве прыйшлі яны на цёмную паляну, пасярод якой стаяла хатка на курыных ножках.

— Хатка-хатка, стань да мяне перадам, а да лесу задам! — загадала баба Яга.

Дзверы адчыніліся, і яны зайшлі ў хатку.

Замест абяцаных пачастункаў Баба-Яга пачала цікавіцца, што ў дзяўчынкі ў сумцы. Чырвоны Капялюшык адчыніла ранец, дзе акрамя школьных прылад ляжаў вышыты ручнік. Падручнікамі старая не зацікавілася, але ж ручнік ёй вельмі спадабаўся. Даведаўшыся, што дзяўчынка сама яго вышывала, яна задумала пакінуць здольную майстрыху ў сябе, каб тая ручнікі ды сурвэткі вышывала і хатку на курыных ножках імі ўпрыгожвала.

Але аднаго не прадбачыла Баба-Яга, — што Чырвоны Капялюшык яшчэ і ў секцыі бокса займаецца.

— Адыдзіце ад дзвярэй, калі ласка! — рашуча прамовіла яна, прымаючы баксёрскую стойку. — А то горш будзе!

— Ды што ты мне зробіш?! — зарагатала Баба Яга. — Я ж дужэйшая за цябе, да таго ж яшчэ і ведзьма!

— А вось што! — усклікнула дзяўчынка і правяла хук з левай. А потым яшчэ і аперкот з правай дадала...

Апрытомнела бабка, а Чырвонага Капялюшыка і след прастыў.

— Не тыя цяпер дзяўчынкі пайшлі, — уздыхнула Баба-Яга, — за сябе пастаяць могуць. Цяжка мне, старой, далей жыць будзе...

З той пары Баба-Яга здалёк абыходзіла школы і асабліва дзяўчынак у чырвоных капялюшыках.

***Надзея ГАЙДУК, Барысаў***

## Як вясну ратавалі

Да сярэдзіны красавіка суровая Зіма ніяк не жадала саступаць месца прыгажуне Вясне. Адыходзіла з неахвотай: таго і глядзі зноў сняжку падсыпле ў надзеі паўладарыць яшчэ хаця б які тыдзень-другі. Але дарэмныя былі ўсе яе намаганні, бо на палянах ужо з'явіліся першыя нясмелыя пралескі, пабеглі звонкія ручайкі. І раптам...

Звяры, прачнуўшыся раніцай, не пазналі лес: усё было зноў у белым убранні, буйнымі шматкамі падаў снег, моўчкі сядзелі на стылых галінках напалоханыя птушкі. А потым аднекуль пачуўся зласлівы голас: «Ха-ха-ха! Думалі, што я сышла? Як бы не так! Хачу круглы год тут уладарыць! А таму падманам захапіла ў палон Вясну і надзейна яе схавала».



Але складана напалохаць лясных жыхароў. Параіўшыся, звяры разбегліся па ўсім лесе ў пошуках палонніцы. Як даведалася пра тое зайздросная Зіма, паклікала на дапамогу сваю верную служку Завіруху. Замяла тая ўсе сцяжынкі. У снежнай буры згубіліся звяры. Нечакана загучала чароўная мелодыя. Гэта барсучок Борка дастаў дудачку і зайграў. Пайшлі звяры на гукі музыкі ды знайшлі адно аднаго.

Тут з-за разлапістай яліны выбег воўк: «Ага, каго я бачу! — узрадавана завыў ён. — Зайчаня Цішка сам да мяне на вячэру скача, даўно я сытна не еў!» Заплакаў Цішка, а вавёрачка Яначка імгненна забралася на яліну і патрапіла адтуль шышкай проста ў лоб зубатаму злыдню! Ад нечаканасці воўк спалохаўся і ўцёк. Дабраліся звяры да сховішча Зімы. Там, у самай цёмнай каморы, сядзела Вясна і залівалася горкімі слязьмі. Звяры адшукалі ключ і выпусцілі прыгажуню.

Падзякавала ім Вясна і спешна прынялася за працу. Узмахнула левым рукавом сукенкі — вызірнула сонейка, узмахнула правым — зноў заспявалі-пабеглі ручайкі. Узрадаваліся лясныя жыхары і са спакойнай душой адправіліся дадому. На наступны дзень адбыўся святочны баль. Вавёрка Янычка танцавала вальс з зайчыкам Цішкам. Барсучок Борка граў на баяне. Усім было весела, адна толькі Зіма, адыходзячы на Поўнач, незадаволена шыпела: «Пачакайце, вярнуся і вам усім пакажу!» Але яе ўжо ніхто не баяўся.

*Ілья СЯНЬКОЎ, Наваполацк*

## Зайчык-ласун

Жыў-быў Вожык. Аднойчы пайшоў ён у лясную краму па цукеркі, але дарогу яму перагарадзілі мышы.

— Не аддадзім табе нашых цукерак, — запішчалі яны.

Вожык узлаваўся, накінуўся на самую крыклівую мыш і пачаў калоць яе іголкамі. Мышы спужаліся Вожыка і з таго часу пачалі частаваць яго цукеркамі. А Вожык прыносіў ім на іголках сухое лісце для ўпарадкавання норак і частаваў яблыкамі і морквай.

Неяк сустрэў у лесе Вожык свайго сябра Зайчыка і расказаў яму пра сваіх новых сяброў, і пра тое, што яны заўсёды сустракаюць яго з цукеркамі. «Пойдзем, паласуемся», — прапанаваў Вожык Зайчыку. Захапілі з сабой сябры моркву і яблыкі, каб пачаставаць мышэй, і пайшлі.

Ветліва сустрэлі гасцей мышы з вялікім пакункам цукерак. Вельмі спадабаліся цукеркі Зайчыку. І калі Вожык, як звычайна, з'еў усяго некалькі цукерак, Зайчык схрумкаў усе астатнія.

І, вядома ж, забалелі ў яго зубкі. Ідзе па лесе Зайчык і плача, а насустрач яму па галінках скача Вавёрачка. «Чаму ты плачаш, Зайчык?» — запыталася Вавёрачка. «Зубкі баляць, — адказвае Зайчык. — Ды так баляць, што нават цукеркі не магу грызці!»

— А ты б замест цукерак грыз лепш моркву ці яблыкі, — параіла небараку Вавёрачка. — А яшчэ абавязкова купі ў лясной краме зубную шчотку і зубную пасту. Для таго, каб пасля кожнага сняданку чысціць зубкі.

Паслухаў Зайчык Вавёрачку, і зубкі ў яго адразу ж перасталі балець.

Штодзённа чысціць зубкі, а таксама спажываць замест цукерак больш садавіны і гародніны Зайчык і Вавёрачка раяць таксама і ўсім дзеткам, каб не балелі зубкі.

*Уладзімір САЕВІЧ, Мінск*

## Як Алесік вучыцца пажадаў

Жыў-быў хлопчык, і звалі яго Алесік. Падрос ён, прыйшоў час ісці ў школу, у першы клас.

Бацькі купілі Алесіку новы касцюмчык, прыгожы партфель, сшыткі, алоўкі, ручкі. З нецярпеннем чакалі верасня. Ды Алесік і сам вельмі чакаў сустрэчы са школай. Па-першае, каб сустрэць новых сяброў, па-другое, каб пахва-



ліцца перад імі сваімі новымі рэчамі, па-трэцяе, каб даведацца, а што ж дзеці робяць у школе.

Але ўсё выйшла зусім не так, як ён жадаў. Сяброў ён сустрэў усё тых жа, разам з якімі наведваў дзіцячы сад. Новыя рэчы былі ва ўсіх. А сядзець у школе за партай, уважліва слухаць настаўніка, выконваць усе яго загады — гэта не для яго, Алесіка-гарэзы.

І вырашыў тады Алесік на наступны дзень пайсці не ў школу, а ў заапарк! І не пашкадаваў, столькі там было ўсяго цікавага! І прыгожыя паўліны, і рознакаляровыя папугаі, і гарэзлівыя малпачкі...

Хлопчык так загледзеўся, што не заўважыў, як каля яго апынуўся невысокі дзядок у капелюшы, цёмных акулярах і лёгкім плашчыку. У руках дзядок трымаў нейкую палачку, вельмі падобную да школьнай ўказкі.

— Прывітанне, малады чалавек! — звярнуўся дзядок да Алесіка.

— Добры дзень! — адказаў Алесік.

— Я вельмі здзівіўся, убачыўшы вас тут! — сказаў дзядок. — Бо з пачаткам навучальнага года ў будні дзень дзеці ў заапарку — рэдкія госці.

— Чаму? — спытаў Алесік і адразу ж пачырванеў, бо здагадаўся, што меў на ўвазе дзядок.

— Бо цяпер усе дзеці ў школе! — сказаў дзядок і строга паглядзеў на Алесіка. — А ты чаму не вучышся?

— А я... я ўжо ўмею чытаць, — зманіў Алесік і дадаў: — І пісаць таксама.

Дзядок хітра прыжмурыў вока і папрасіў:

— Прачытай, калі ласка, што напісана на гэтых таблічках, а то я дрэнна бачу.

Алесік замітусіўся, пачаў шукаць вачыма ў вальерах жывёл, але тыя, як на ліха, пахаваліся. І ён ляпнуў наўздагад:

— Тут напісана... заяц. Тут — зебра. А вось тут — жырафа.

І не адгадаў. На шыльдах было напісана: «Леў», «Бегемот», «Слон». А дзядуля непрыкметна правёў у паветры сваёй указкай.

Калі ж жывёлы выйшлі са схованак, Алесік спалохаўся. Ён убачыў ільва з доўгімі, аж да зямлі, вушамі і кароценькім хвастом, паласатага бегемота і слана з шыяй і нагамі жырафы. Дырэктар заапарка аж рот ад здзіўлення раскрыў.

— Навошта і каму гэта спатрэбілася? — рыкнуў Леў, падобны да вялізнага зайца. — Цяпер я не змагу хутка бегаць. Я заўсёды наступаю на гэтыя доўгія вушы. І адкуль яны толькі ўзяліся? А хвост... гэта ж ганьба нейкая, а не хвост! Эх, ведаць бы, хто са мной такое зрабіў... на кавалкі б, здаецца, разадраў нягодніка!

Пачуўшы такое, Алесік здрыгануўся ад страху.

— Навошта мне гэтыя белыя палосы? — закрычаў паласаты бегемот. — І хто гэта так размаляваў мяне? Мне маёй бліскучай шэрай скуры хапала.

І ён плюхнуўся ў ваду. Калі ж вынырнуў, то яшчэ больш загаласіў:

— З мяне ж усе бегемоты смяюцца. А малпачкі будуць бегаць па маёй спіне, як па пешаходным пераходзе!

Але горш за ўсіх было слану з доўгай шыяй жырафы.

— Каб вы ведалі, як мне дрэнна з такой шыяй! — крычаў ён з трохметровай вышыні. — Мае вушы на гэткай вышыні рэагуюць на кожны маленькі ветрык, і я павінен увесь час кантраляваць раўнавагу. Аб моцным ветры я ўжо і не кажу, бо ўвесь час падаю на зямлю з-за тонкіх ног. Калі я гэтага жартаўніка сустрэну, я яму задам!..

І слон плюхнуўся на зямлю.

Алесік разгубіўся. Ён не ведаў, што яму рабіць і як дапамагчы жывёлам. А дзядок нахіліўся да яго і прашаптаў на вуха:

— Вось бачыш, колькі бяды можа прынесці непісьменнасць!

А потым узмахнуў сваёй указкай, якая, як высветлілася, была чароўнай палачкай, і звяры зноўку прынялі свой звычайны выгляд.

Алесік з таго часу спраўна наведвае школу. І добра вучыцца, бо разумее, як важна ўмець чытаць і не блытацца пры гэтым.

*Анастасія РАБЕЦКАЯ, вёска Макаўе, Барысаўскі раён*

## Незаменны Нуль

На велізарнай і шчаслівай планеце Матэматыцы, у краіне Арыфметыцы жылі-былі вясёлыя дзівакі — лічбы. Яны верна служылі сваёй каралеве Лічбірыі.

Усе лічбы сябравалі між сабой і любілі хадзіць адна да адной у госці. Але была сярод іх адна лічба — Нуль.

Лічба гэтая нічога не абазначала і гэта вельмі не падабалася астатнім лічбам. З Нулём ніхто не хацеў мець зносіны, таму жылося яму вельмі дрэнна і самотна.

— Што гэта за лічба такая? — абураліся астатнія.

Аднойчы ўзяліся лічбы гуляць у складанне і адніманне. Гэта быў іх любімы занятак. Лічбам вельмі падабалася весела перабягаць з месца на месца, ператварацца то ў меншую лічбу, то ў большую.

А Нуль у гэты час сядзеў у сваім круглым доміку і з сумам назіраў за вясёлай гульнёй. Ён ведаў, што не ўмее ператвараць адну лічбу ў другую: бо, колькі б ён ні стараўся дадаваць альбо аднімаць сябе ад лічбы, яна ўсё роўна заставалася ранейшай.

Убачыла гэта каралева Лічбірыя і шкада ёй стала небараку. А каб пamірыць яго з астатнімі лічбамі, прыдумала каралева новую гульню: Нуль павінен быў прыпісвацца побач з іншай лічбай, якая ад гэтага адразу ж павялічвалася ў дзесяць разоў.

Развесяліліся лічбы, усім раптам захацелася быць у пары з Нулём. Вось які ён стаў незаменны!

*Захар СЕРЫ, Салігорск*

## ● Зубронак

# Нянудная энергетыка

***«Як правільна зберагчы энергію!» — адно з ключавых пытанняў, якому быў прысвечаны форум «З павагай да энергазахавання» ў «Зубронку».***

Такой глабальнай тэме, як энергазахаванне, апошнім часам надаецца шмат увагі. Прычым, увага гэтая не толькі з боку дзяржавы, але і моладзі. Пытанні выкарыстання прыродных рэсурсаў і скарачэння шкодных выкідаў у атмасферу набылі вельмі сур'ёзнае значэнне сёння. Кожны з нас павінен усведамляць неабходнасць павышэння эфектыўнасці энергіі і правільнага выкарыстання энергарэсурсаў.

Удзельнікі змены, а гэта тыя, хто прайшоў адборачны тур рэспубліканскага конкурсу праектаў па эканоміі і беражлівасці «Энергамарафон», а таксама каманды-пераможцы раённых і абласных конкурсаў агітбрыгад па энергазахаванні, імкнуцца да правільнага зберажэння энергіі ў нашым грамадстве.

— У аснову змены была закладзена ідэя стварэння ўмоў для павышэння культуры карыстання энергарэсурсамі і фарміравання актыўнай сацыяльнай пазіцыі праз арганізацыю мерапрыемстваў, творчых конкурсаў, навучальных заняткаў, дыскусійных пляцовак, вучэбна-даследчай дзейнасці, — зазначыла куратар змены Таццяна ШВАЙКО. — Змест праграмы быў вельмі насычаны: адукацыйны кампанент раскрыты з дапамогай правядзення факультатыўных заняткаў «Энергаэфектыўнасць: вытворчае і бытавое энергазахаванне, энергакарыстанне і экалогія», заняткаў аб'яднаных па інтарэсах: «Акадэмія якасці жыцця і энергазахавання» і «Энергетычнай гасцёўні», у межах якой праходзілі розныя сустрэчы, майстар-класы і навучальныя заняткі пад кіраўніцтвам спецыялістаў з галіны энергазахавання.

Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр «Зубронак» стаў добрай пляцоўкай, дзе пытанні зберажэння энергіі вырашаліся экспертамі ў гэтай галіне, а таксама моладдзю. «Так, адным з запамінальных мерапрыемстваў стаў энергетычны форум, які адбыўся на базе вучэбна-навуковага комплексу "Волма" ў Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці. У яго рамках удзельнікам змены была прапанавана прэзентацыя "Адукацыя ў вобласці энергаэфектыўнасці і змены клімату ў Рэспубліцы Беларусь. Школьная Праграма Выкарыстання Рэсурсаў і Энергіі" (ШПВРЭ). Асаблівую цікавасць выклікала дыскусія "Нянудная энергетыка". Апрача гэтага для падлеткаў падрыхтавалі экскурсію па аб'ектах дэманстрацыйнай пляцоўкі аднаўляльнай энергетыкі і сустрэчу са студэнтамі факультэта "Маніторынгу навакольнага асяроддзя". Нельга не ўзгадаць і анлайн-канферэнцыю з прадстаўніком грамадскай арганізацыі Таджыкістана



*Анлайн-канферэнцыя з Грамадскім аб'яднаннем Таджыкістана «Малая зямля» і Грамадскім аб'яднаннем Нарвегіі «Прырода і зямля».*

"Малая зямля" і грамадскай арганізацыі Нарвегіі "Прырода і зямля"», — працягвае Таццяна Міхайлаўна.

Падчас майго чарговага прыезду ў лагеры праходзіў форум «Вектар на будучыню: з павагай да энергазахавання». У межах дадзенага мерапрыемства працавала чатыры секцыі: інтэрактыўная пляцоўка «Экалагічна дружалюбны вобраз жыцця: у школе і дома», прэзентацыя дзейнасці навуковага аддзела Нацыянальнага парка «Нарачанскі», міжнароднага дабрачыннага грамадскага аб'яднання «ЭкаДом» і МДЭУ імя А. Д. Сахарава. Але гаварыць аб энергазахаванні павінны не толькі спецыялісты, але і моладзь. Таму было дадзена слова маладому пакаленню. На форуме адбылася абарона вучэбна-даследчых работ, якія тычыліся ўтылізацыі адходаў, выкарыстання ветраэлектрагенератара, кругавароту паперы ў «Зубронку», а таксама нестандартных спосабаў выкарыстання фольгі, генерацыі электраэнергіі, як аднаго з метадаў яе эканоміі.

Як рацыянальна спажываць энергію? У гэтым немалаважным пытанні ўдзельнікам змены карыснай дапамогай стаў арганізацыйна-гульнявы праект «У дастатку дом». Сюжэт такі: на працягу змены корпус прадстаўляе сабой шматкватэрны жылы дом (жыллёвы кааператыў), а кожны атрад у ім з'яўляецца сям'ёй, якая ў форме гульні ўзнаўляе паўсядзённыя сітуацыі, што ўплываюць на ўзровень іх матэрыяльнага дастатку. Кожны атрад імкнуўся зарабіць максімальную колькасць «грашовых сродкаў» («зубрыкаў»). У канцы змены атрад, які валодаў вялікай сумай і пры гэтым на даволі высокім узроўні арганізаваў «Невыпадковы прыём», быў аб'яўлены пераможцам. Ім стаў, дарэчы, пяты Лазурны.

...Падобныя тэматычныя змены, якія ладзяцца ў лагеры, яшчэ раз пацвярджаюць: праблема энергазахавання цікавіць маладое пакаленне. «Зубронак» — тое месца, дзе, зрабіўшы першыя крокі ў гэтым накірунку, моладзь, магчыма, знойдзе правільнае вырашэнне пытання рацыянальнага выкарыстання энергарэсурсаў.

***Дар'я ШОЦІК,***
***фота з архіва «Зубронка»***

● **Літаратурныя старонкі**

*Васіль ТКАЧОЎ*

# Вынаходнікі

*Апавяданне*

Дзядуля з Дзянісам толькі што вярнуліся з лесу — хадзілі па грыбы. Не з пустымі кошыкамі прытупалі дахаты: з іх, красуючыся, выглядвалі чырвоныя галовы падасінавікаў і барвовыя — крамяных баравічкоў. Зайдрасць каго хочаш возьме. Асабліва шэнціла ў лесе ўнуку. Ён абагнаў дзядулю, прыкметна вырваўся наперад. Гэта ацаніў і стары:

— Ты сёння малайчына, — пахваліў ён унука. — Грыбы, здавалася, так самі да цябе і беглі. Дзівосы!..

Дзянісу толькі гэтага і не хапала, каб задраць нос.

— А ты хіба не ведаў, што з пэўнага часу ў мяне адкрыліся неверагодныя здольнасці?

— Першы раз чую. І што за здольнасці такія?

— Як зваліўся з дрэва, калі лазіў за катом, усё і пачалося. Я магу знайсці ўсё, што пажадаеш. Загадвай.

Дзядуля паціснуў плячыма:

— Ды ўсё быццам ёсць.

— Не, не ўсё! Не ўсё вынайдзена, не ўсе вынаходніцтвы запатэнтаваны. А грыбы як перабіраем мы? А?

— Рукамі... Вось гэтымі... працоўнымі... — дзядуля выцягнуў перад хлопчыкам рукі.

— Эх, старызна! Феадальны лад! А цяпер уяві, што дзень поўзаеш па лесе, потым сядзіш над імі, скурчыўшыся ў дугу, і, да слёз у вачах напружваючыся, перабіраеш... Але ўсё гэта можна пракруціць у лічаныя хвіліны. І каму патрэбныя такія грыбы пры такіх затратах працоўных рэсурсаў? Твайму ворагу! Уяўляю, як ён цешыцца! Ён проста танчыць ад радасці!.. А мы іх — за лічаныя хвіліны!..

— За лічаныя хвіліны?! — стары пашкроб за вухам.

Дзяніс пераканаўча працягваў:

— Запраста. Вось пральная машына. Засыпай сюды, дзядуля, грыбы...

— І як гэта я, стары пень, сам не здагадаўся? А ты, унук, — малайчына!

— Яшчэ б!

Дзядуля высыпаў грыбы з абодвух кошыкаў у пральную машыну.

— Залі вадой, і роўна праз тры хвіліны бярэш там чысценькія, акуратненькія грыбочкі. Без лісця, без іголак... І адразу на патэльню — оп!..

— Заліў.

— І націскай на кнопку.

— Націснуў!

Пральная машына злёгку набрала разгон, гула мерна, амаль бясшумна.

— А пакуль грыбы мыюцца, можна і яшчэ што-небудзь зрабіць. Не сядзець жа нам, дзядуля, склаўшы рукі?

— Сапраўды, — пагадзіўся дзядуля.

— А як зрабіць, напрыклад, каб вараныя ракі варушыліся, як жывыя? Не ведаеш?

— Вараныя? — дзядуля паціснуў плячыма, зморшчыў, як перад гэтым і ўнук, лоб. — Не можа быць!

— Гэта ў цябе не можа. А ў мяне ўсё можа... У нас яшчэ дзве хвіліны ў запасе, і я табе распавяду. Са мной было. У школе конкурс абвясцілі ў нас... хто чым здзівіць. І што ты думаеш, дзед? Здзівіў хто каго чым? Правільна, адзін я.

— І... і як? Чым узяў публіку?

— Налавіў я перад гэтым у рацэ ракаў. Апусціў вядро з дзірачкамі каля самага берага, прывязаў да куста, каб ракі, загрузіўшыся, не адправіліся ў кругасветнае вандраванне, а да дна вядра пару бутэрбродаў прывязаў... Хлеб, дарэчы, трэба выкарыстоўваць белы, бо чорны яны не ядуць... І назаўтра раніцай вядро ракаў — як панесці. Зварыў я іх у школьнай сталоўцы і дэманструю на падносе. А члены журы раты разявілі: Суконкін, няўжо ты?

— Грыбы там не гатовы? — захваляваўся стары.

— Не спяшайся, дзядуля! У мяне спрацуе, калі трэба, своеасаблівы стоп-кран. Вось тут... — Дзяніс падзёўб пальцам каля цемя. — Ага, значыць... Суконкін, і як ты так умудрыўся... Ракі вараныя, а ўсе, як адзін, варушацца энергічна, як нашы хлопцы на дыскатэцы. Мне прысуджаюць галоўны прыз і просяць падзяліцца сакрэтам. А чаго тут такога сакрэтнага? Пад ніз я засунуў усяго аднаго жывога рака, чорнага, самага большага, вось ён і сам кешкаецца і іншых варушыць... Вымай грыбы і смаж, дзядуля! А хочаш, марынуй-салі!

Дзед і ўнук амаль разам паглядзелі ў пральную машыну, як толькі яна спынілася, і жахнуліся, бо ніякіх грыбоў там не было. Адна жыжка.

Дзядуля здзівіўся:

— А дзе грыбы?

— Зараз высветлім. — Дзяніс зачарпнуў коўшыкам брудную вадкасць. — А ты, дзядуля, іх засыпаў?

— Засыпаў. Пры табе ж...

Дзяніс кісла зморшчыўся:

— Значыць, такія грыбы. Іх і есці нельга ўжо было, падобна на тое. А значыцца, я выратаваў цябе, бабулю і сябе ад атручвання. З грыбамі жарты кепскія. Звычайна жартуюць адзін раз. Першы і апошні. Добрыя грыбы, колькі іх не круці на цэнтрыфузе, толькі прыгажэюць!..

— А бабулі ты гэта таксама будзеш казаць, як вернецца з агарода? — дзядуля прыняў сур'ёзны выгляд, пачухаў патыліцу.

— Для бабулі, так і быць, мы прыдумаем што-небудзь іншае. На тое мы і вынаходнікі з табой, дзядуля... Праўда ж?

І абодва засмяяліся. А што ім заставалася яшчэ рабіць?

**● Дынамік**

# Магутнасць слабога вакалу — ці «Wartha»?

***«Wartha» — «Паўстань», Екацярынбург, 2013, «Stygian Crypt Productions».***



Каб чытача не бянтэжыла назва рэцэнзіі, скажу, што вакалістка мінскага метал-гурта «Wartha» Alice Anadiomena (Аліса Пятліцкая) ні ў чым не вінаватая, такую ролю адвялі: папіскваць у шквале суровага гроўлінгу і маторных рыфаў. Рабіла тое прафесійна, але пакінула калектыў разам з бубнаром Nikka. Хоць нейкі каментатар Terraasymmetry паспеў напісаць пра «Паўстань» на інтэрнэт-рэсурсе «RYM» (ад назвы «Rate Your Music» — «Зацані Сваю Музыку»): «Крыху плоскі, але дастаткова прыемны дэбют. Праўда, збольшага, рэліз, лічу, не дасягне поспеху, асабліва з-за клавішных і жаночага вакалу, што адмоўна запылілі жывёльную энергетыку гітар і бубнаў».

Гэта не адзіная ацэнка міжнароднай прэсай беларускага рэліза, выдадзенага ў Расіі, але менавіта яна патлумачыла мае ўражанні чалавека, які прагне і ад экстрым-музыкі сэнсу, не патанаючага ў агульным месіве. І жывых эмоцый.

Паўстань з народу нашага, Прарок,
Праяваў бураломных варажбіт,
І мудрым словам скінь з народу ўрок,
Якім быў век праз ворагаў спавіт.

Гэта вялікі Янка Купала 100 гадоў таму, якога мы не вучылі ў школе, але чулі з дзіцячых касет Данчыка. Цяпер чуюць і металёўцы. Але гаворка не пра настаўнікаў, а пра ўрачоў (не лекараў), чужынскіх махляроў, якія ўраклі магутную ліцвінскую цывілізацыю на калгаснае жабрацтва.

Дзіўна, калі фаны гурта «Wartha» выказваюць прэтэнзіі да сучаснай палітычнай пазіцыі гурта «Камаедзіца», а ці ж не пра адно спяваюць:

Прыгадай, ужо колькі разоў нашу гісторыю
Перапісвала рука здрадніка, — не злічыць...

Бо сучаснымі палітычнымі клішэ (фашыст, камуніст, нацыяналіст) можна прымусіць кусацца паміжсобку нават кроўных братоў-адзінадумцаў.

Але пра музыку. Не фанат модных аранжыровачных эксперыментаў, я ўсё ж дзеля параўнання паслухаў і блэк-метал гурта «Drygva» («Старажытная Беларусь»), дзе вакал прабірае больш за інструментал. Мо там ідэал стылю? Але не абміну прыклад іншага стаўлення да любога плёну. Базіс логікі ў тым, што пошук абнаўлення спрыяе жыццю, а прага застою — смерці. Шукаючы сэнс, не забывайце, што оперу пільныя

слухаюць з буклецікам у руках. Таму не дзівяць і такія рэцэнзіі на «Паўстань», як недзе ў Pacii 9.VIII.2011 (пачатак працы): «Блізіцца восень, і камбайнёры малоцяць ураджай. Гэтаксама малоцяць і свой дэбютнік героі беларускага андэграўнда — гурт "Wartha", створаны ўлетку 2008. Спачатку афіцыйнай мовай лірыкі быў russian, але па запісе дзвюх дэмак у 2009 перайшлі на родную ім беларускую. І вось у спякотны жнівень 2011 вымалёўваюцца доўгачаканыя песні будучага альбома — "Майстра мечаў" і "Зорны шлях" (апошнюю гурт потым выключыць з рэліза). Гэты "намалот" стаў выдатным падарункам чакальнікам». І сярод водгукаў — галасы шчырых фанаў: «***Евгений Коваленко***: Ребята, круто))) Очень нравится))))»; «***Uauantl***: УХ... «Майстра мечаў» вообще башню сорвало, парни молодцы! Но где услышать больше?» Яны ж тады не чулі звышдынамічны «Гаспадар», выбуховы «Свет», маштабныя «Нашы землі», таямніча-фантастычны «Першы запавет» (дзе голас у Алісы прарэзаўся)!

Думкі рэцэнзентаў і фанаў не заўжды супадаюць. Калі трэйлер альбома прайшоў у «European Metal Channel», на «Ю-тубе» пісалі: ***Mark Jeffery Campayno***: Rock on!! Love this! ***destr369108***: Ништяк! ***11vered***: Sounds good! Thanks for sharing! ***Carlo—Valentini***: Eccellente!!!! ***Pavel Manбk***: Sounds good. Like it. ***NovaKaren1***: Cool !!!!! ***616Dave616:*** !No estбn mal!

Прыкметна, што саўнд хваляць замежнікі (розныя), якім не да прыжаванага вакалісткай сэнсу. Стыль, ясна, экстрэмальны, але той жа «Ю-туб» пра баснійскую металістку Sladjana Filipovič на «European Metal Channel» проста калагаваў (кіпеў): «Ova djevojka čudo pravi u Mac Tire pub-u. Lijepa djevojka, pa joљ i talentovana. Savrљeno... :)».

А Аліса? Плённая спроба блэк-металу не змусіць рамансы спяваць пад гітару, бо сербскі музыказнаўца Марко Мірановіч заявіў на «Metal Sound» (ТВ-шоу тэлеканала МТС у Сербіі: "WARTHA" — рэальна беларускі гурт, які сапраўды дзівіць дагэтуль нечаканым саўндам, самімі падыходамі да метал-музыкі. Усё ў альбоме гучыць вельмі прафесійна, ад гітарных рыфаў да агульнага шарму. Асабліва адметная схільнасць "WARTHA" не быць сляпым паслядоўнікам фольк-метал эксперыментаў сваіх суседзяў з Pacii, яны стварылі ўласны стыль, ёсць што прапанаваць і патэнцыя для таго. Праз адчуванне ў гэтай музыцы традыцыйных уплываў іхняй уласнай культуры і звыклых метал-традыцый, можна было б тут маркіраваць стыль як сінтэз паганскага і эпічнага folk-metal. Фанам канкрэтных стыляў давядзецца падкарэктаваць пад іхні саўнд свае густы. Альбомам "Paŭstań" "WARTHA" пераканаўча давяла свой патэнцыял і энергію, робячы гук больш сур'ёзным у параўнанні з заходнімі калегамі. І дорачы ўсім нам прагу ведаць, што будзе з гуртом далей».

Як кажуць самі, «цяпер працуем над наступным рэлізам з рабочай назваю "Azure lakes". Там будзе ўсё павольна, сонна ды непазбежна», а пра дэбют аджартаваліся: «1 сакавіка 2013 выдалі LP на тэму пнёў, ідалаў ды ваўкалакаў».

Сучасны склад розніцца ад альбомнага: Зміцер Пінчук (бас-гітара, у 2008—10 быў Leming), Ян Мачульскі (гітара ад 2011, пісаў асобны сінгл «Зорны шлях»), Генадзь Харытонаў (клавішныя, з 2010), Knyaz Perepelok (вакал). Быў флейтыст Алекс і бубнар Nikka, але замена не згадваецца.

Назву сабе яны абралі настолькі беларускую, што палякі адгукваюцца (маюць мястэчка Wartha Frankenberg), і немцы, у якіх назва Wartha ў частках Айзэнаху ды Саксоніі. Затое для нас гэта не толькі Ахова (Варта Вежы Багоў), але і вышэйшая адзнака: Варта — значыць трэба. Цяжка прадбачыць, што будзе ў «Azure lakes», але краіне азёр пэўна не здрадзяць, дык пагодзімся з Марко Міchangeновічам наконт прагі чакання.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА, музычны крытык***

● **Люстэрка**



# Пажыральнікі часу і ты

Дружа! У амерыканцаў ёсць прымаўка: time is money (час — гэта грошы). Грошай табе заўсёды не хапае, так? Паспрабую даць табе некалькі парад. Для пачатку вазьмі паперку і занатуй, колькі часу ты на што траціў. Да прыкладу: сон — 8 гадзін, школа — 6 гадзін 30 хвілін, хатняе заданне — 15 хвілін, чытанне «Бярозкі» — 15 хвілін, сядзенне ў кантакціку — 9 гадзін. Занатоўвай цэлы тыдзень. Потым перачытай. Генрых Альтшулер пісаў, што калі ён праз тыдзень прасіў паказаць такую паперку, ні адзін чалавек яму не паказаў. Усім было сорамна. Табе таксама стала сорамна? Пазнач якімі-небудзь знакамі, якія працэсы жыццёва неабходны (напрыклад, сон і ежа), якія прыносяць табе карысць, якія — толькі задавальненне, а якія не прыносяць нічога. Ад апошніх трэба па магчымасці пазбаўляцца, а астатнія выконваць у такім парадку: спярша неабходныя, пасля карысныя, а тады ўжо — прыемныя. Гэты парадак не заўсёды можна вытрымаць, бо некаторыя падзеі маюць прывязку да пэўнага часу (напрыклад, паход у тэатр або на дзень народзін), некаторыя справы можна рабіць толькі ўдзень, а некаторыя — у любы час, але абавязкова штодня. Улічвай такія рэчы загадзя і крыху ссоўвай астатні графік. Гэта таксама нескладана.

Наступныя два сакрэты. Па-першае, чаргуй віды дзейнасці. Калі мазгі закіпаюць над матэматыкай, зрабі паўзу, вазьмі ровар і гадзінку пакатайся. Мазгі адпачнуць, а цяглiцы папрацуюць. Па-другое, некаторыя дзеянні можна выконваць у фонавым рэжыме. Напрыклад, сядзець у кантакціку лепш у паўзах паміж іншымі дзеямі — на перапынках, у транспарце, у чарзе. Далей. Ёсць так званыя дзеянні-хранафагі (пажыральнікі часу). Хранафагам можа быць, напрыклад, шопінг, інтэрнэт, камп'ютарная гульня. Лепшы спосаб кантраляваць хранафаг — рабіць яго перад нейкай справай, якую ты не можаш перанесці (што да анлайнавых гульняў, то тут найлепей, калі ты наогул у іх не гуляеш). Каб не спазняцца, вазьмі час, калі табе трэба быць на месцы, і аднімі ад яго час, патрэбны на дарогу і на зборы. Ты зразумееш, у колькі табе трэба ўсё кінуць і пачаць збірацца. Напрыклад, я дамовіўся сустрэцца ў 18:00 на плошчы Якуба Коласа. Аднімаем ад 18:00 дзве станцыі метро (па 2 хвіліны), чаканне цягніка (яшчэ 3), перасадку (5 хвілін — гэта гадзіна пік, будуць заторы), чатыры станцыі па другой лініі (2 хвіліны на кожную), 4 прыпынкі трамвая (таксама па 2 хвіліны)... хто заўважыў, на што я забыўся?

Складана? Калі словамі тлумачыць, то складана. Калі самому рабіць, то не! Я раней мог спазніцца на гадзіну, прытым, што нічога асаблівага не рабіў. Цяпер я прыходжу хвіліна ў хвіліну.

Такім чынам, маем некалькі прыёмаў:
— таблічку трат часу,
— парадак «неабходнае — карыснае — прыемнае»,
— чаргаванне відаў дзейнасці,
— карыстанне фонавым рэжымам,
— барацьбу з хранафагамі,
— спосаб не спазняцца.

*Віктар ЛУПАСІН*

***Льготная падпіска для ўстаноў
Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;
падпісная цана на 1 месяц — 46 800 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 19 100 руб.
Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 59 300 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592.
Цана на 1 месяц — 13 500 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19.
Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 08.04.2014. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 14,61. Тыраж 2265 экз. Заказ 936. Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**